# Маладосць

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(693) ЖНІВЕНЬ, 2011**

**Выдаецца з 1953 года**

# 8



**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва», г. Мінск**

## У НУМАРЫ:



***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 13 244 руб.***
***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 9470 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 16 694 руб.***
***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 6710 руб.***

Дызайн вокладкі *Веранікі ШНІП,* фота на вокладцы *Кастуся Дробава*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Наталля ПАХОМЧЫК*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры перадруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 08.08.2011. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 15,64. Тыраж 2553 экз. Заказ 2044. Кошт нумара ў розніцу 11 000 руб.
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**



**Нароўні з часам:**

# *Госць часопіса «Маладосць» — старшыня Брэсцкага аблвыканкама Канстанцін Андрэевіч СУМАР*



***— У адным з папярэдніх інтэрв'ю Вы зазначылі, што «пісьменнік павінен адчуць тое, што хвалюе тых ці іншых людзей». Што хвалюе сёння берасцейцаў і якім чынам гэта адбіваецца на творчасці прадстаўнікоў Вашага рэгіёну?***

*— Кіраўніцтва вобласці шчыра зацікаўлена ў з'яўленні новых значных імёнаў у літаратуры, як і ў любой іншай галіне мастацтва, і, як вынік, у з'яўленні выбітных твораў, па якіх нашчадкі маглі б вывучаць наш час, фарміраваць уласнае светаадчуванне.*

*Мы падтрымліваем усе творчыя саюзы, у тым ліку і Саюз пісьменнікаў Беларусі, які ўшчыльную заняўся выяўленнем літаратурных талентаў, арганізоўвае літаратурныя конкурсы, літаратурную вучобу на пасяджэннях абласнога літаб'яднання «Зараніца» і раённых аналагічных творчых сябрын. Гэта і шматлікія сустрэчы з прафесійнымі пісьменнікамі ў навучальных установах, і правядзенне майстар-класаў, і наладжванне стасункаў з беларускімі творцамі замежжа...*

*Я паўтараў і буду паўтараць, што ўсё новае, калі яно нясе ў сабе пэўны пазітыўны зарад, падтрымаюць найперш людзі, чытачы, а гэта значыць — і ўлада. Вы ж ведаеце: калі людзі бачаць, што робіцца нешта добрае, — абавязкова ўхваляць. Тым больш улада, яна ў гэтым найперш зацікаўлена. Мы ўважліва адсочваем, як памнажаюцца літаратурныя набыткі Берасцейшчыны, ушаноўваюцца нашы славутыя папярэднікі, тыя, хто жыў і тварыў на гэтай зямлі многія дзесяцігоддзі і стагоддзі таму, як пісьменніцкая арганізацыя і адпаведныя ўстановы працуюць з творчай моладдзю, як выяўляюцца таленты са школьнага ды студэнцкага ўзросту... Бачым: робіцца рэальная справа, мы падцягваемся па ўсіх напрамках, таму ахвотна аказваем дапамогу і падтрымку пісьменніцкай суполцы ў выдавецкай дзейнасці, распаўсюджанні і папулярызацыі кніг, заснаванні новых выданняў і ў рашэнні матэрыяльных праблем.*

*Магчыма, пісьменнікі і не павінны адлюстроўваць абсалютна ўсё, «што сёння хвалюе берасцейцаў» (гэта перш-наперш задача журналістаў), а вось абагульняць у мастацкім вобразе пэўныя з'явы — тут, на мой погляд, зроблена нямала: ад грунтоўнага мастацкага даследавання гісторыі, жыцця продкаў — да асэнсавання таго, што ўяўляе сабой сучасная моладзь краю, а таксама твораў для дзяцей і пра дзяцей. Колькасць твораў сапраўды ўражвае, а*

*аўтары выклікаюць сімпатыю сваімі інтэлектуальнымі здольнасцямі і працавітасцю. Мы іх адзначаем штогод літаратурнымі прэміямі імя Уладзіміра Калесніка.*

***— Наколькі актыўна творчая моладзь Берасцейшчыны ўключана сёння ў грамадскае жыццё краіны?***

*— Калі па шчырасці, то ў апошнія дзесяцігоддзі на юныя галовы абрынулася шмат негатыва. Выстаяць, захаваць у сэрцах светлыя памкненні: пачуццё патрыятызму і глыбокай павагі да сваёй краіны і каранёў, імкненне быць карысным свайму народу, — сталася няпростым выпрабаваннем для гэтак званага «постперабудовачнага» пакалення. Але ж выстаялі, і цяпер моладзь, прынамсі, лепшая яе частка, лепшыя прадстаўнікі, прысвячае сябе мацаванню краіны. І гэта не гучныя словы. Гэта — жыццё. Маладыя людзі будуюць шчаслівыя сем'і, сумленна выконваюць прафесійныя абавязкі, актыўна ўдзельнічаюць у грамадскім жыцці...*

*Сёння ў вобласці ствараюцца самыя спрыяльныя ўмовы для ўсебаковага развіцця падрастаючага пакалення, раскрыцця яго творчага патэнцыялу. У межах дзяржаўнай праграмы «Маладыя таленты Беларусі» за 2006—2010 гады атрымалі значную матэрыяльную, не кажучы ўжо пра маральную, падтрымку дзясяткі адораных прадстаўнікоў юнага пакалення Брэстчыны.*

*Юнакі і дзяўчаты з Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі удзельнічаюць у патрыятычных акцыях, аказваюць дапамогу ветэранам ва ўборцы кватэр, навядзенні парадку на прысядзібных участках, у рамонце жылых памяшканняў і дваровых тэрыторый, выконваюць цэлы шэраг паслуг сацыяльна-побытавага характару.*

*Моладзь аказвае шэфскую дапамогу музеям Вялікай Айчыннай вайны, падтрымлівае ў належным стане амаль 900 мемарыяльных аб'ектаў, удзельнічае ў Вахтах Памяці, актыўна прапагандуе здаровы лад жыцця праз арганізацыю спартыўных спаборніцтваў, турыстычных злётаў, у тым ліку міжнародных — такіх, як «Бе-Ла-Русь», «Дружба Славянкі» і іншых, шматлікіх спартакіяд па месцы жыхарства, семінараў і да т. п.*

*Падключана моладзь і да праваахоўнага руху. З мэтай прафілактыкі негатыўных з'яў у маладзёжным асяроддзі дзейнічаюць аператыўныя атрады дружыннікаў. Юныя грамадзяне краіны выбіраюць дэпутатаў і самі прадстаўляюць свае рэгіёны і сваё пакаленне ў прадстаўнічых органах улады.*

*Моладзь Брэстчыны — гэта працоўны, інтэлектуальны, творчы рэсурс рэгіёну. Зрэшты, моладзь ужо сёння з'яўляецца актыўным удзельнікам многіх грамадскіх працэсаў, скіраваных на стварэнне і далейшае развіццё берасцейскага краю.*

*Што ж да развіцця творчага патэнцыялу дзяцей, падлеткаў і моладзі, дык гэтаму накірунку на Брэстчыне надаецца асаблівая ўвага.*

***— Як маладыя жыхары Вашага рэгіёну заахвочваюцца ў жаданні жыць і працаваць у сваіх родных мясцінах?***

*— Улічваючы тую акалічнасць, што сёння сельская мясцовасць адчувае вострую патрэбу ў высокакваліфікаваных кадрах, на ўсіх узроўнях — ад мясцовага, базавага, да найвышэйшага — прымаюцца ўсебаковыя захады дзеля таго, каб стварыць маладому спецыялісту сапраўды спрыяльныя, сучасныя ўмовы жыцця. Гэта цэлы комплекс заахвочальных мер. Ужо адно тое, што маладым сем'ям адразу ж выдзяляецца жыллё, а яно цяпер па камфорце часам пераўзыходзіць гарадское, пра многае сведчыць. Зарплаты ў спецыялістаў сельскагаспадарчых прадпрыемстваў таксама досыць высокія. А дадаць да гэтага крэдытныя льготы, падтрымку, у тым ліку матэрыяльную, з боку самога прадпрыемства... Гэта ўсё спрыяе таму, што моладзь застаецца ў аграгарадках і невялічкіх райцэнтрах. Акрамя таго, дзяржавай і надалей будуць прымацца меры па амаладжэнні сельскай мясцовасці, так што будучыня вёскі мне бачыцца аптымістычнай. І гэта я звязваю з моладдзю, хоць асновай застаюцца людзі сталага веку.*

***— Якім чынам сёння можна зацікавіць маладога чалавека літаратурай і што Вас асабіста найбольш цікавіць у беларускай літаратуры?***

*— Якім чынам? Дык літаратурай і зацікавіць! Няхай яе стварае не толькі старэйшае пакаленне, але і сама моладзь. А старэйшыя, тыя, хто авалодаў усімі сакрэтамі прыгожага пісьменства, няхай не цураюцца і ў маладзейшых павучыцца альбо хоць бы прыслухаюцца да іх, знойдуць ключык да іх розуму і душы. Гэты ключык адамкне таямніцы будучыні для ўсяго грамадства, бо слова пісьменніка — яно ж разлічана на шырокае кола чытачоў.*

*Што ж да маіх літаратурных сімпатый, то я, як, напэўна, большасць прадстаўнікоў майго пакалення, аддаю перавагу класіцы. І лічу сімвалічным, што сёлета менавіта ў нас на Ганцаўшчыне, дзе ў свой час працаваў вядомы беларускі творца Якуб Колас, адбудзецца свята пісьменства. Гэта, на мой погляд, яшчэ адзін крок да ўшанавання і развіцця нашай роднай мовы, а таксама захавання творчай спадчыны Берасцейшчыны і ўсёй Беларусі.*



*Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ*

# НАСУСТРАЧ ВЕЧНАСЦІ



*Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ нарадзілася ў 1989 годзе ў Брэсце. Скончыла гімназію № 1 г. Брэста. Выпускніца філалагічнага факультэта БДУ. Друкавалася ў часопісах «Бярозка», «Маладосць», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».*

**Маргарыта Латышкевіч — зіхатлівая зорка, што ўсё ярчэй і ярчэй разгараецца на небасхіле нашай чароўнай Паэзіі. І, магчыма, мне, як нікому іншаму, вельмі прыемна гэта ўсведамляць і назіраць за такой таемнасцю, як нараджэнне Паэта, чараўніцы, што працуе з мастацкім словам. З аднаго боку, прыемна таму, што менавіта «Маладосць» адкрывала гэтае ўжо даволі прыкметнае імя ў айчынным прыўкрасным пісьменстве, а з другога — Маргарыта Латышкевіч родам з Берасцейшчыны, той зямлі, дзе завязваліся і дужэлі непаўторныя і магутныя таленты Жэні Янішчыц, Ніны Мацяш, дзе так плённа і сёння працуе ў літаратуры Зінаіда Дудзюк... Жанчыне не проста жыць штодня ў творчасці, але ўсё кампенсуе Талент, ён — той агеньчык, агонь, які сілкуе не толькі пачуцці душы, але і таямнічай аўрай асвятляе, пасылае праменне святла ў прастору, здаецца, што і ў вечнасць.**

**Я гэтак тлумачу назву гэтай нізкі новых вершаў Маргарыты Латышкевіч. Яе радкі, у якіх адчуваецца няспынны пошук, імкнуцца насустрач Вечнасці, а сама паэтка насустрач усім сваім адкрыццям і поспехам ідзе «мясцовую сцежкаю». І я ёй жадаю на гэтым шляху самай вялікай творчай удачы!**

***Раіса БАРАВІКОВА***

* * *

Чытай паміж радкоў. Бо тайнапіс нябачны  
Хаваецца за шырмай  
Дробных з’яў нязначных.  
Скажы маўчаннем — усё.  
Бязгучнасці — размовы.  
Я з пэўнае пары не давяраю словам.  
Адэптам цішыні, прарокам таямніцаў  
Зрабіся.  
Загадай заслонам адчыніцца.  
Будзь пілігрымам.  
Руш праз спёку і завеі  
Да п’едэсталу дум,  
Да мары,  
Да Ідэі.

* * *

Я чакаю цябе, квецень вішняў,  
Пацалунак вясны нявінны.  
Сонца — гэты садоўнік увішны —  
Гне над голлем старую спіну.  
У цёплых промнях сэрца растане:  
«Вырай — тым, хто будзе як дзеці».  
Я ўсміхаюся. Я чакаю,  
Пацалунак вясны — квецень.

* * *

Пырскі салонай вады — зоры.  
Праблiскамі напоўнена мора.  
Ступіш на хвалю ціхаю ноччу —  
І месяцоваю сцежкаю крочыш.

Пырскі салонай вады — чайкі.  
Кружаць над морам,  
стогнуць адчайна.  
Белыя ветразі — белыя крылы:  
Воблака ў небе ў здзіўленні застыла.

Пырскі салонай вады — слёзы?  
Плачуць крывёй вінаградныя лозы.

Плачуць — але вяртаюцца ў дом
Не салонай вадой, а салодкім віном.

## СПЁКА

Парыць.
Сонна і душна.
Марыць
Можна хіба што аб д*у*шы,
А не аб душ*ы*.
Жыць —
Пад налітым чырванню шарам.
Парыць…

* * *

Парашутысты
У небе чыстым —
Як быццам семкі на сінім фоне.
А верталёт —
Як прарок на Афоне —
Раскінуў лопасці і ўздыхае:
Колькі ні скідваў,
Яны не ўзлятаюць...

## ПЕРАВАГА МАЯКОЎСКАГА

Аднойчы,
Адпачываючы цёмнай ноччу
На тэлевізійнай антэне навершы,
Сонца з маноклем
Чытала вершы.
Чытала —
І раз’юрылася:
«Гэта
Проста паклёпнікі,
Не паэты!
Мяне
не ўзводзяць у ранг героя,
а раздзіраюць метафар роем!
На твар жаночы,
Ліхтар уночы,
Ці проста водбліск
У лазовай гронцы.
Кажуць:
Маленькае, бач ты, сонца!
Ну не, не хачу я
Ніколі больш знацца
З аўтарамі
Такіх прафанацый!»
Сказала — зрабіла
(у сонцы — сіла).
І з той пары
сярод аўтараў вершаў
для сонца
спадар Маякоўскі —
першы.

* * *

Сспляценням траў —
Няспраўджаныя сны,
Забытых слоў
Ды сцёртых мар прыбоі.
Рукою цвёрдай
Час няўмольны кроіць
Жаданых сненняў
залатыя льны.
Спляценням траў —
Няспраўджаныя сны;
Яны жывуць
У сініх кветках тоі
І крочаць —
Разам з цемраю густою
На небасхіл закураны начны.
Пад іх хадой
Не здрыгануцца веі —
Спяць пад замком
Ці пад закляццем спяць?
А здані сноў
Анёламі ляцяць
Насустрач Вечнасці
Праз зорныя завеі.

* * *

Пад’ёмныя краны
Падымаюцца рана —
Да сціплай зіхоткай зары —
Каб шматпавярхоўкі,
Крамы
І храмы
Зыркаю барвай заліць.

Каб з-за далягляду,
Няясны і цьмяны,
Вылузваючыся з сіл,
Выцягнуць Дыск —
Ён бы лямпай ільснянай
Да канца гэтай змены
Свяціў.

*Фёдар ПАЛЯКОЎ*

# АПАВЯДАННІ

*Фёдар Палякоў нарадзіўся ў 1986 годзе ў Мінску. Скончыў філалагічны факультэт БДУ і магістратуру пры ім. Цяпер — аспірант Інстытута мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы НАН.*



**Як ва ўсіх пачаткоўцаў, у Фёдара Палякова ёсць адна надзвычай перспектыўная і сімпатычная рыса — яго маладосць. Гэта так здорава, калі многае яшчэ наперадзе, усё ў праектах: новыя апавяданні, аповесці, раманы… У тым, што яны з'явяцца, я асабіста не сумняваюся. Нельга не адзначыць эрудыцыю маладога аспіранта і тое, якой шчодрай рукою ён свае веды рассыпае. Напрыклад, у невялікім апавяданні «Белая страла» геаграфія дзеянняў — ад Японіі да Беларусі, а пералік імёнаў — ад Макаранкі да Сімяона Полацкага…**

**Застаецца толькі павіншаваць дэбютанта і пажадаць яму плёну на нялёгкай, але такой захапляльнай творчай дарозе.**

*Андрэй* **ФЕДАРЭНКА.**

## БЕЛАЯ СТРАЛА

Набраўшыся мужнасці, я адчыніў дзверы.

— Добры дзень!

— Заходзьце, калі ласка. Сядайце вось тут.

Я зашамацеў пакетам, дастаючы дакументы.

— Вы Фёдар Сяргеевіч? — спытала ў мяне жанчына. — Бачу ваш дыплом. Мне пазванілі з раённага камітэта.

Я сеў на крэсла. Пачакаем, калі яна выгаварыцца.

— Значыць, вы адмовіліся ад працы, якую вам прапанаваў раён, і думаеце, што тут вам прапануюць лепшае. Што вам давалі там?

— Пасады педагога-арганізатара, сацыяльнага педагога, выхавацеля дзіцячага садка.

— А паводле дыплома вы... дайце адгадаю... філолаг, выкладчык беларускай мовы і літаратуры. Так?

— І рускай таксама.

— Тым больш. І вы думаеце, што мы тут вам... Чаму вы лічыце сябе лепшым? Набярыцеся вопыту, тады і прэтэндуйце на штосьці. Не крыўдуйце, але ў вас я не бачу другога Макаранку.

Тут я здолеў «паднырнуць у струмень».

— Прабачце... Мне хочацца... ну... загадаць вам загадку, — і, не чакаючы, пакуль яна мяне пераб'е, таропка загаварыў: — Уявіце, што вы — тэатральны рэжысёр і набіраеце трупу. Масква, 1942 год. З фронту да вас прыйшоў кульгавы юнак з мыліцай, і ён марыць стаць акцёрам. Вы пагоніце яго?

— Канечне! І што з таго?

— А тое, што ў некалькіх пакаленняў гледачоў вы аднялі б Анатоля Папанава!

Жанчына засмяялася шчыра і весела.

— Смелы вы, аднак. Так параўноўваць... А ведаеце, вы мне спадабаліся. Толькі я ўсё роўна не магу даць вам працы па спецыяльнасці. Няма вакансій ва ўсім Мінску, калі без досведу працы. Але магу вам прапанаваць... Вы хочаце працаваць не зусім па спецыяльнасці, але зарабляць у разы болей?

— Ну, як вам...

— Значыць, хочаце. Чыгуначны вакзал побач, ведаеце. Ідзіце да правага крыла кас і звярніцеся ў даведку. Скажыце, што вы з гарадскога ўпраўлення адукацыі. Вас адвядуць.

— А што там будзе?

— Пабачыце. Ды не бойцеся, ха-ха-ха! Калі дамовіцеся, вяртайцеся сюды — мы вам дакументы падрыхтуем.

На вакзале мяне адвялі ў кабінет, падобны да лядоўні, — белы і бліскучы. Нават гаспадыня кабінета аказалася бландзінкай у белай блузцы.

— Добры дзень. Сядайце, калі ласка. Мяне завуць Ганна Уладзіміраўна. А вас?

— Фёдар Сяргеевіч. Я з упраўлення адукацыі...

— Я так і падумала. Новыя супрацоўнікі нам вельмі патрэбны. Зараз мы адкрываем новую паслугу для пасажыраў, і... Ведаеце, я хачу праверыць вас на кемлівасць. Скажыце, як вы ўяўляеце сабе вашу працу. Чаму ваша спецыяльнасць нам патрэбна?

— Ну, не ведаю. Можа, вам патрэбны рэдактар вашых аб'яў. Бо з вашымі «ў выпадку ўзнікнення страхавых выпадкаў»...

— Не. Мы не надаём вялікага значэння маўленню.

— Тады вы, можа, да аднаго цягніка разам з вагонам-рэстаранам прычапілі вагон-бібліятэку? Каб не было сумна.

— Бліжэй. Але адкіньце ўбок мову і літаратуру, яны вам тут не спатрэбяцца. Карацей, вы сапраўды будзеце працаваць у самым лепшым, фірмовым цягніку. Бізнесмены, артысты. Эліта! Але некаторыя едуць са сваімі сем'ямі. Уявіце: дома ад дзяцей ратуюць садкі і школы. На месцы адпачынку — асобны дзіцячы пансіянат. А ў дарозе куды іх падзець? Нашы элітныя купэ разлічаны на двух чалавек. Адарваўшыся ад спраў, бацькі часта хочуць застацца сам-насам... Мы і прыдумалі зрабіць спецыяльны дзіцячы вагон, нават не адзін. У адным дзеці будуць гуляць, у другім — спаць.

— Значыць, вы мне прапаноўваеце працу выхавацеля дзіцячага садка?

— Дашкольнікаў будзе выхоўваць ваша калега ў суседнім вагоне. Вам мы дамо дзяцей школьнага ўзросту.

— І якая ў мяне будзе зарплата?

— Наш месячны заробак вы ў школе толькі за пяць месяцаў атрымаеце.

— Ну, ад такой прапановы цяжка адмовіцца.

— Добра. Свае дакументы вы пакінулі ў камітэце? Заўтра пойдзеце ў першы, выпрабавальны рэйс. Здолееце — пасля вяртання адразу афармім паперы на размеркаванне. А пакуль набірайцеся моцы, заўтра а шостай гадзіне прыйдзеце сюды.

Дома я пра ўсё распавёў сваім сямейнікам. Мой выбар яны не ўхвалілі.

— Не хавай жыўцом свой талент, сынок, — сказала мама. — Няма працы ў школе — і не трэба. Шукай месца рэдактара, карэктара ці каго яшчэ. Не забывай мову і літаратуру.

Божа, якія там таленты! Ну, скончыў паспяхова філфак, і што? У нас там кожны другі з васьмёркамі і дзявяткамі, але не можа адрозніць Янку Купалу ад Якуба Коласа, Марсэля Пруста ад Баляслава Пруса, Коба Абэ ад Кэндзабура Оэ, думае, што Сапфо — гэта мужчына, а Італа Кальвіна — японец.

І бацька дадаў:

— Дзеці багатых бацькоў будуць на цябе глядзець, як на быдла. Трэба працаваць на карысць народа, а не багацеяў.

Ні пра што мне слухаць не хацелася. Я толькі што скончыў універсітэт. Маім сябрам, якім пашчасціла нарадзіцца ў іншым горадзе Беларусі, лёс наканаваў у васямнаццаць год пакінуць бацькоўскую хату. Я ж пяць гадоў адпакутваў у няволі і цяпер пачынаю змагацца за сваю долю. Магчымасці не бываць дома па тры-чатыры дні мне пакуль дастаткова.

Вагоны былі белыя, з блакітнай паласой над вокнамі. «Колеру зайздрасці», — пажартавала праваднiца. За сорак хвілін да пачатку я спецыяльна прыйшоў на запасны пуць. Унутры вагона я ўбачыў прыбіральню, купэ праваднікá, яшчэ адно купэ — для мяне. Далей калідор скончыўся і пачаўся салон. Памяшканне школьны кабінет ці канферэнц-зала. Эліптычны стол, крэслы, тэлевізар з DVD-плэерам, паліца з дыскамі, з кнігамі. У куточку — столік з камп’ютарам. Час яшчэ ёсць, можна прысесці і падумаць.

Зараз мы станем на першы пуць. А восьмай гадзіне цягнік стартуе на Маскву. Да паловы на дзясятую мне трэба забаўляць дзяцей, а потым перавесці ў суседні вагон, спальны. З другога боку туды ж прывядзе дашкольнікаў мая калега. Мы кладзем іх спаць і па чарзе сочым за парадкам да раніцы. А восьмай гадзіне раніцы трэба ўсіх пабудзіць. Дарэчы, так званы «спальны» дзіцячы вагон не спальны, а плацкартны, хаця і з мяккімі паліцамі. Так зручней сачыць за парадкам.

Прыбыццё ў Маскву — а дзявятай гадзіне. Наш цягнік элітны і называецца хуткім, але насамрэч ён запаволены. Барысаў, Орша, Смаленск, Ярцава, Сафонава, Вязьма, Мажайск, Увараўка, Адзінцова — цэлых дзевяць прыпынкаў. Орша, Смаленск і Вязьма — стаянкі па сорак хвілін, Барысаў і Сафонава — па дзесяць, астатнія па пяць. Вядома, багатыя людзі не любяць зарана прачынацца.

Вагоны страсянуліся на прыпынку. Вось і першы пуць. Падрыхтуемся, пакуль праваднiца прыме кліентуру. Я зняў з вешалкі пінжак з меднымі гузікамі і таропка начапіў. Гульні і дыскі дастанем потым, яшчэ пагладзім, якога ўзросту дзеці.

Адразу праваднiца прывяла трох дзяўчынак і аднаго хлопчыка гадоў васьмі-дзевяці. І пачалося!

— О, камп’ютар!

— А worm’s ёсць?

— Гэты камп’ютар не для гульні. Ён мой, рабочы. Ёсць тэлевізар, можаце глядзець мульцікі з дыскаў.

Супакоіліся не адразу.

— Ёсць «Том і Джэры», «Смяшарыкі», «Карпарацыя монстраў», «Мадагаскар», — абвясціў хлопчык, які хутка асвоіўся ў вагоне. — Пастаўце нам «Карпарацыю монстраў»!

— Не, пастаўце «Мадагаскар», — запярэчыла адна дзяўчынка.

— Пачакайце. Зараз паедзем, тады!..

— Ну, пастаўце!

— Яшчэ, можа, не ўсе селі. Што ж, астатнім з сярэдзіны глядзець?

— Добры дзень!

Я азірнуўся і ўбачыў новую пасажырку. На выгляд — вучаніца дзясятага ці адзінаццатага класа. Амаль дарослая і па-даросламу прыгожая. І чаго бацькі яе сюды спіхнулі?

— Добры дзень, сядай. Хм, чым бы табе заняцца?

— Дзякую, не турбуйцеся.

Яна села за стол далей ад усіх і паглыбілася ў кнігу. Яшчэ раз супакоіўшы малых, я зноў павярнуўся да тамбура і ўбачыў хлопчыка-падлетка гадоў трынаццаці.

— Што ты стаіш? Сядай, Сільва! — пачулася ззаду. І зноў я азірнуўся.

— Вы брат і сястра?

— Так! — хорам адказалі мае старэйшыя выхаванцы.

У тамбуры праваднiца ляпнула двярыма. Паехалi!..

Спачатку я супакоiў малых, уключыўшы iм «Смяшарыкаў». Дзяўчына адсунулася да самага краю столiка i адгарадзiлася ад мяне кнiгай. Хлопец пагардлiва паглядзеў на тэлевiзар i стаў ля вакна. Пераканаўшыся, што ўсё цiха, я падышоў да яго.

— Цябе Сiльва завуць? — спытаў я хлопца.

— Ага! Поўнасцю — Сiльвестр, — прастагнаў той.

— А прозвiшча, можа, Мядзведзеў?

— Не, а што?

— А быў такi паэт Сiльвестр Мядзведзеў. Вучнем Сiмяона Полацкага быў.

— Файна! А ў мяне пры знаёмстве кожны адно i тое ж пытае. Сiльвестра Сталонэ я ненавiджу!.. А хто такi Сiмяон Полацкi?

Лекцыю па гiсторыi лiтаратуры Сiльва слухаў тры хвiлiны. Пакуль не павярнуўся да акна зноў i не крыкнуў:

— Што-о?!

За вакном цягнулася белая цагляная сцяна. За ёй мы ўбачылi аўтастанцыю дыягностыкi з комплексам гаражоў. Спераду — стужку зялёнай травы.

— Ды нiчога… — збянтэжыўся хлопец ад майго пытальнага позiрку. — Проста… Раней мы тут лазiлi… Кудысьцi знiклi ўсе графiцi. Тут летась не было чыстага месца.

Ну, не прызнавацца ж дзiцёнку, што ягоны паважаны выхавацель восем гадоў таму сам тут бегаў. Бачыў i графiцi, i ўсё на свеце. Праўда, мы нiчога не малявалi.

— Чымсьцi змылi. Цяпер паўсюль наводзiцца парадак.

За мяжой горада будынкi станцый таксама папрыгажэлi. Хаты ў прыдарожных вёсках пафарбавалi, адрамантавалi. Памятаю, колькi я ў студэнцкiя гады павандраваў па Вiцебску, Смаленску, Маскве… Толькi цi не скончыцца гэтая прыгажосць у Барысаве? Цi ў Шухаўцах, апошнiм беларускiм прыпынку цягнiка?

Я сеў за стол. Мульцiкi будуць iсцi яшчэ дваццаць хвiлiн. Тады пачнецца самае цяжкае, а пакуль можна запусцiць камп’ютар i скласцi справаздачу.

Да мяне зноў падышоў Сiльва. Яму канкрэтна не было чаго рабiць. Стаўшы за маёй спiнай, ён пачаў пялiцца у манiтор.

— Стойце! — зноў пачуў я. — Не стаўце флэшку!

— Што такое? Не трэба так крычаць!

— Тут вiрус. Бачыце, кот!

— Ну, кот! Гэта проста застаўка.

— Якая застаўка? Гэта вiрус, я ведаю. Адкрыйце папку…

Iнструкцыю па выдаленнi вiруса я выканаў праз пяць хвiлiн. Гэта ж як цяжка заслужыць давер сучаснага дзiцяцi! Мне бацькi не маглi купiць камп’ютар, i толькi на трэцiм курсе я купiў за адну стыпендыю з рук свой першы сiстэмны блок. Уяўляеце, якi пазалеташнi? Але ж надрукаваў на iм я свае рэфераты, курсавыя працы, дыплом. Хаця i зараз мала што ўмею, апрача набору тэксту…

— Малайчына. А зараз займiся чым-небудзь сам. Пачытай цi пагуляй.

Сiльва падышоў да шафы i дастаў кнiжку. На вокладцы быў намаляваны пушысты белы кот.

— Ну што тут... «Хто ў вёсцы жыве». Дзiцячы сад! Алiса, колькi часу?

— Дваццаць сорак сем, — адказала сястра.

Я выключыў тэлевiзар.

— Хопiць. Пагуляйце ў настольныя гульнi. Праз паўгадзiны пераходзiм у спальны вагон.

— А мы? — спытаў Сiльва.

— I вы таксама.

— Ну, мы ж не маленькія! Што за парадак!..

Сільва надзьмуўся і стаў каля акна ў кутку спінай да мяне. Аліса зноў паглыбілася ў кнігу. Малыя селі за кубікі і фішкі. Яны згулялі ў тры гульні запар і, калі я абвясціў адбой, не дужа пярэчылі. Нават старэйшыя ні слова не сказалі. А палове дзясятай на паліцах ляжалі ўсе. І мае, і меншыя — выхаванцы каляжанкі Каці.

Каця першая села каля дзяцей на варце. Справаздача пакуль не пісалася. Зараз мы спынімся ў Барысаве, можна выйсці падыхаць свежым паветрам, а пасля паспаць да Оршы.

...Платформа была брудная, на лаўку і сядаць не хацелася. Таму я проста стаў каля праваднiцы.

— Ну што, студэнт, цяжка з багаценькімі дзецьмі?

Я толькі рукой махнуў.

— Бедненькія яны. І няшчасненькія.

— Ды ну? Гэта мы з табой...

— Абое рабое! Элітны цягнік называецца! Калгас, а не цягнік! Леташні камп’ютар з пазалеташнімі вірусамі, прымітыўныя мульцікі, кніжкі... І спальныя месцы.

— Ну, ты не бачыў мяккія купэйныя вагоны, рэстаран-відэабар... Асцярожна, не наступі на «сабачую міну»!

— Ой! А з вокнаў было так хораша!

— А-а... Ты нічога не ведаеш?

— А што я павінен ведаць?

— Табе не сказалі, што ў гэтым цягніку новае, адметнае?

— Не.

— Паглядзі ў акно.

Я паглядзеў. Але замест шафы і камп’ютара ўбачыў толькі свой твар.

— Люстра?! З таго ж боку было відаць наскрозь! Няўжо гэта плацінавае люстра? І ў кожным акне?!

— Не зусім. Гэта новыя нанатэлевізары з Японіі. Спачатку тут праехалі апаратары і знялі ўвесь краявід ад Мінска да Масквы і перадалі дызайнерам. Тыя падфарбавалі дамы, прыбралі смецце, пусцілі кароў на траву. Каб усё было як на малюнку. Дарэчы, калі ранкам будзеш падымаць дзяцей, начны краявід за вакном аўтаматычна пераключыцца ў дзённы рэжым. Ну, дзякуй Богу, тут нам нікога не падкінулі...

У свой вагон я вяртацца не стаў. Зайшоў у спальны і сеў каля Кацярыны.

## КАРТЫ

Дзявяты дзень мы не мелі права нікуды выходзіць з чацвёртай палаты гарадской дзіцячай інфекцыйнай бальніцы. Да хваробы нас давялі несумленныя кухары. Мы з Мішам атруціліся ў школьнай сталоўцы. Калі нашы аднакласнікі на вялікім перапынку пілі ў сталоўцы гарбату з кавалкам сыру, я атрымліваў сацыяльны комплексны абед. У Мішы бацькі заможныя, але свае грошы атрымліваюць у канвертах і вельмі прагнуць усяго бясплатнага. Сашу і Ягора «хуткая дапамога» прывезла з элітнага санаторыя з-пад Радашковіч. З тым жа самым дыягназам. Тады мы з Мішам перапынілі навучанне ў дзявятым класе, Ягор — у сёмым, Саша — у шостым.

У Сашы быў «тэтрыс», у Ягора — карты. Яшчэ ў абодвух былі пісталеты на пластыкавых шарыках.

Мы дурэлі ад суму. Забыўшыся на ўзроставую важнасць, мы ўсе па чарзе гулялі ў «тэтрыс». Калі Саша раней умеў гуляць толькі ў дурня, п’яніцу і прыбіральню, то цяпер мы ўсе разам гулялі ў кітайскага, італьянскага і чэшскага дурня, у мятлу, брыдж, прэферанс, кінга, тысячу і апландаўн. Аднойчы мы цэлы дзень гулялі ў п’яніцу і я нават прайграў.

Сёння, адкінуўшы збрыдлыя карты, Саша дастаў пісталет. Міша пачаў падкідваць аркуш паперы, а Саша — страляць. Потым стаў страляць Ягор.

Я дастаў кніжку. Гістарычны раман з любоўнымі і палітычнымі прыгодамі. Ёсць над чым падумаць.

Сябрам бацькі перадавалі яблыкі, бананы, вінаград. Я хаваў галодны позірк, але хлопцы заўсёды частавалі мяне, як і кожнага суседа. Я еў і ў душы плакаў, бо нічым не мог аддзячыць. Мне бацькі прыносілі толькі кампот з сушаных яблыкаў.

— З твайго боку да яе... Каханне! З яе боку да цябе... Крыўда! І паміж вамі... Дарога!

Ягор скончыў варажыць, склаў карты і спытаў Сашу:

— А хто яна? Я ведаю яе?

— Не павінен...

Нашы малыя лавеласы варажылі адзін аднаму пяць разоў на дзень.

— Ягор! — папрасіў я. — А паваражы мне!

— Ты ж казаў, што не паважаеш гэта...

— Паваражы.

— Ну добра. Што скажаш? Яе імя ці толькі...

— Пяць літар.

Я пільна глядзеў, як Ягор паклаў пяць карт па замоўленых мной літарах. Г-р-о-ш-ы.

Расклаўшы ўсе карты па пяці стосах, ён узяў той, на які легла апошняя карта, і расклаў па чатырох астатніх стосах. Зноў расклаў той, на які прыйшлася апошняя карта, і зноў. Засталіся два стосы.

Ягор пачаў адкрываць карты парамі. Першая ж пара супала — два тузы.

— Ого! — здзівіўся ён. — Зараз мы глядзім, ці ёсць у яе штосьці да іншых людзей. І адразу тузы — каханне. Яна кахае кагось іншага.

Далей пара не атрымалася — шасцёрка і сямёрка. Потым былі два каралі — знак пацалунку. Наогул, калі наш варажбіт адкрыў усе пары, супала надзіва шмат.

— Першы раз такое бачу. Не ведаю, хто яна такая і чаго ты з ёй павёўся, але... Столькі людзей яе кахаюць, цалуюць, думаюць пра яе, размаўляюць з ёй, і яна кожнаму адказвае ўзаемнасцю! Ну, яшчэ не ўсё страчана. Паглядзім, што ў яе да цябе.

Ягор пачаў раскладваць перамешаныя карты у два стосы адкрытымі. Супалі тры пары з васямнаццаці: дзявяткі — крыўда, ніжнікі — думкі, тузы — каханне. Варажбіт пачаў выцягваць карты з сярэдзіны калоды.

— Паміж вамі каханне, таму што... Думаеце адно пра аднаго. Паміж вамі думкі, таму што... Кахаеце. І паміж вамі крыўда, таму што... Крыўдуеце!

Саша з Мішам засмяяліся. Не вытрымаў і Ягор, але хутка супакоіўся. Зноў сабраў і змяшаў карты.

— Цяпер эпілог. Вашы адносіны скончацца тым, што... З твайго боку да яе...

— Шасцёрка!

— ...дарога. З яе боку да цябе...

— Дзесятка!

— ...сімпатыя. І паміж вамі...

— Сямёрка!

— ...сустрэча.

Я выйшаў у санвузел, адкрыў ваду і змачыў скроні. Увайшоў Міша.

— А-л-е-н-а... Прызнайся, ты на Лену варажыў?

— Не... — збянтэжыўся я.

— Ды бачу ж. У класе такая прыгажуня з табой сябруе, а ты яе пазбягаеш. Няма грошай, ты і камплексуеш. Махні рукой на грошы і нічога не бойся. Сябруй!

*Вольга ГРОНСКАЯ*

# ГУЛЯЮЧЫ Ў НЕВЕРАГОДНАСЦЬ

*Вольга ГРОНСКАЯ нарадзілася ў 1978 годзе на Мядзельшчыне. Скончыла рамана-германскае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ і аспірантуру пры ім. Выкладае сусветную літаратуру ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў. Піша вершы і прозу, перакладае з нямецкай мовы.*



**«Шукаць» і «знайсці» — такія роднасныя па сэнсе словы прысутнічаюць у многіх вершах Вольгі Гронскай. І гэтая прысутнасць сведчыць пра знаходжанне аўтаркі ў стане няспынных пошукаў сябе, свайго стылю, голасу і, безумоўна, свайго чытача.**

**Як доктар, паэтка намацвае пульс сучаснага жыцця з яго трывогамі, радасцямі і засмучэннямі. «Яна па начох шукае цябе ў анлайне, ёй вусцішна і не спіцца амаль да пятай». Бяссонне непазбежна выліваецца ў вершы — светлыя і шчырыя, як памкненні самой Вольгі. І тады з'яўляецца адчуванне, што «мая душа — вянок жаночых душ, акрэсленых у памяці алоўкам. Я, раўнавагу страціўшы, іду пад столлю. Па канаце. Без страхоўкі».**

**Сапраўды, стварэнне вершаў, ад якіх займае дух, як хадзьба па хісткім канаце. Таму паэтаў можна параўнаць з канатаходцамі. Вольга Гронская абрала сабе гэты шлях. Яна ідзе да вас. Сустракайце!..**

*Уладзімір МАЗГО*

* * *

Штодня — уверсе. Там, дзе небасхіл  
намаляваны промнем лазурыта  
і белай штучнай парай. Я — Рахіль,  
Ліліт, Касандра, Ева, Маргарыта,  
я — Федра, закаханая ў таго,  
хто быць маім не зможа апрыёры,  
спяваю Ларэлеяй з берагоў,  
вандроўнікаў сірэнай клічу ў мора...  
Мая душа — вянок жаночых душ,  
акрэсленых у памяці алоўкам.  
Я, раўнавагу страціўшы, іду  
пад столлю. Па канаце. Без страхоўкі.  
А ты стаіш унізе, як маяк:  
руды парык і вопратка паяца.  
І ўсмешка блазнаватая твая  
мне ў бездань не дае ізноў сарвацца.

* * *

У той казцы не будзе кахання.  
Будзе ранне,  
промні сонечных жоўтых фіранак,  
будзе слізкі заснежаны ганак  
і рука, што абдыме за плечы.  
Будзе п'яны пяшчотаю вечар,  
дождж радкоў — недарэчны і рэдкі.  
Дакрануцца пялёсткамі кветкі  
да шчакі. Замест вуснаў нясмелых.  
Будзе дзень, мітуслівы і белы,  
і вакол — выпадковыя людзі...

А каханне?  
Кахання не будзе...

* * *

А ведаеш, бываюць вечары,  
калі ты караблём — рэмбоўскім, п'яным —  
імчыш скрозь час да берагоў старых.

І не ўратуюць ні Рамэн Гары,
ні Кундэры няспешныя раманы —
не спіцца, не чытаецца. Няма
магчымасці схавацца ў міжрадкоўі
чужых высноў. А гэтая зіма
нагадвае пра тое, што дарма
шукаць адказу ў словах выпадковых.

Мой мітуслівы свет, як рыф, застыў
у моры думак — марных і пустых.

* * *

Яна вечарамі крыжыкам вышывае,
ратуючыся ад студзеньскай халадэчы.
І тое, што яшчэ дыхаецца, — жывая ж —
не значыць, што гэта будзе цягнуцца вечна.

Яна па начох шукае цябе ў анлайне,
ёй вусцішна і не спіцца амаль да пятай.
І месяц на небе — быццам скрылёчак лайма,
а зоркі — нібыта зрэнкі багоў распятых.

Яна новы дзень падвойным пачне эспрэса:
усё як звычайна, ведаеш, без экстрыму.
Усё як звычайна: сціснуць душу пад прэсам,
пачуцці схаваць пад слоем таўшчэзным грыму
ды — «асталавіста» — гэта яе аўтобус,
там людзі з пустымі сэрцамі і вачыма...

Яна на імгненне спыніць блакітны глобус
і выйдзе. І ператворыцца ў снег, магчыма.

* * *

Добрай раніцы Вам, Васпане! Вялікі Ра
ўжо прачнуўся і варыць каву сярод аблокаў.
Ці Вы чулі? Дзясяты месяц календара
з намі хоча сыграць навыперадкі ў судоку:
вымалёўвае колькасць ростаняў і сустрэч
каляровым алоўкам у тонкім вучнёўскім сшытку.
Вы не верыце мне? Дарэмна. Бо насамрэч
гэта так, і мы зноў губляемся між адбіткаў,
мільгаценняў, хаценняў, ценяў, адценняў, ад
шапацення сухога лісця губляем розум...
Гэты месяц, гаркава-крохкі, як шакалад,

абуджае ад летаргіі нас, ад наркозу,
расфарбоўвае манахромныя клеткі дзён
(Вы не ў чорным ужо, а я — не ў цнатліва-белым).
І мы з Вамі сам-насам, ды толькі не побач — ён,
гэты дзіўны кастрычнік, між намі стаіць прабелам.
І мы можам імкнуцца ўверх, у агні згараць,
у далоні лавіць спатканняў нячастых кроплі...
Ды з аблокаў за намі сочыць Вялікі Ра,
расстаўляючы ўсюды паўзы і шматкроп'і.

* * *

Мне падалося — гэта восень:
маркотны вадаспад залевы,
у хмарах блытаюцца зоры,
і мы не бачыліся тыдзень.

У камянях няісных замкаў
згубілася твая прысутнасць,
а таямніцы даўніх вуліц
твой голас за руку трымаюць.

П'янкая цемра б'ецца ў вокны,
здаюцца крокам кіламетры...
Гуляючы ў неверагоднасць,
запальваю тваё сузор'е.

* * *

Ты зноў ідзеш скрозь сны і міражы
самотным пілігрымам. На палетках
стаяць сляпыя чорныя крыжы,
як крыжыкі ў разлінаваных клетках.
І выйграеш не ты. Твае нулі —
бы вочы ўсіх няздзейсненых чаканняў.
Цяпер табе па правілах гульні
няма вяртання і выратавання.
Адно — ісці на поўнач ці на ўсход,
чытаць сляды як літары і знакі.
І верыць, што праз нейкіх дваццаць год
здалееш адшукаць сваю Ітаку.

* * *

І снег у твар,
і неба ў футры хмар,
і так халодна, што балюча дыхаць.

Але — ты побач. Сэрца б’ецца ціха.
У слухаўках ледзь чутна грае Жар,
і пальцы коле не мароз — пажар
ад рук тваіх. А месяца ліхтар
нам асвятляе сцежку.
Я — Ікар,
ты — сонца.
Толькі лёс, з усмешкай мніха
на нас зірнуўшы, адкрывае бар
і выпівае пляшкі дзве запар
чагосьці вельмі моцнага.
Як крыга,
хіснецца горад.
Страціць каляндар
апошні ліст.
І гэты снег у твар…

Нясцерпна белы свет.
Сабакі брэх.
І нават час — памёр, спыніў свой бег:
няма ні «цік», ні «так».
І толькі ў такт
чыімсьці крокам падаюць са стрэх
аскепкі студзеня ды напаўняюць мех
сівога Санты.
Ён нясе, дзівак,
не падарункі: з дзірак і прарэх
глядзіць наканаванне.
Як на грэх,
нічога ўжо не зменіш. Гэта факт.
Няма.
Не мой.
Заўсёды будзе так.
І завірухі смех.
І твар у снег.

* * *

Цёплым подыхам ветру ці мары,
лёгкім рухам маўклівае думкі,
ціхім крыкам абветраных вуснаў
дакранаюся да небасхілу.

У траву зарываюся тварам.
Закалыхваюць вечара рукі.
Водар неба. Лячу да аблокаў.
Толькі подыхам, рухам і крыкам…

* * *

Мы гуляем у хованкі. Сёння шукаць табе.
Палічы ўслых да сотні і можаш ісці наперад.
Ты з заплечнікам гэтым вялікі, як карабель,
замест стрэлкі ад компаса — пасмачка на ілбе.
Здагадайся, знайдзі — і рыбкай я траплю ў нерат.

Я магу быць далёка, блізка, і там, і тут,
сыпаць кроп і чабор у страву з прыгожай назвай,
шыць пунсовыя ветразі, марыць пра Галівуд,
ратаваць ад тугі, выносіць камусь прысуд,
усміхацца спляценнем літар, радкоў і сказаў.

Я магу ваяваць. Або вальсаваць. Дальбог,
часам розніцы мала. Бо так ці інакш, палонны,
калі скончыцца ўсё, ты моўчкі ўпадзеш ля ног —
быцам нейкі міфічна-велічны аднарог
перад поўнай пяшчоты постаццю Абелоны.

Ты знайдзі мяне. Па сівым ланцужку слядоў,
па працягласці ценяў, па рэху забытых песняў,
што гучыць увушшу ледзь чутным бясконцым «до».
Я схавалася і чакаю цябе, Гадо.
І я веру — ты прыйдзеш. Сёння. Ці напрадвесні.



*Анатоль БЕНЗЯРУК*

# Я ЦЯБЕ БАЧУ

***Аповесць у трох апавяданнях***

***XX стагоддзе — два крыжы.***
***І ў ім усё як ёсць пакрыжавана.***

## НАВОШТА ЗАЙЦУ ТАРМАЗЫ?

***Апавяданне першае***

**Я ведаю адзін сакрэт:**
**выхад з лабірынта там, дзе і ўваход.**

*Джэром К. Джэром «Трое ў лодцы».*

Я з тых «недаабследаваных», што жах як баяцца хадзіць па ўрачах.

Першым у спісе стаіць доктар-«зубнік». Яго спецыяльна называюць стаматолагам, каб дзяцей ў першы раз падмануць. А другі раз ужо не правядзеш...

Я ўжо не маленькая, таму сяджу-дрыжу. Плачý і плáчу...

Мяне скарацілі.

...А як усё добра пачыналася: «Марыначка Сяргееўна, сю-сю, Марыначка Сяргееўна, пу-сю. Вы ўліваецеся ў наш маленькі, але надзвычай дружны калектыў. Вы тут уся — як свая. Мы спадзяёмся... Ці здаровы Сяргей Раманавіч?.. Ах, Сяргей Раманавіч з Міністэрства вам толькі цёзка?.. Ну, нічога з ТАКІМ і цёзкаю быць прыемна... І нам прыемна... І мы любім».

Любоў скончылася, калі грымнуў Сусветны Крызіс.

Я толькі адно не разумею. Я такая маленькая, кволая былiначка, мяне ледзь бачна з-пад веніка, а ён, такі Вялікі, Сусветны, Эканамічны, і мяне, мураша, мышку шэрую, пабачыў... Пакуль ён не прыпёрся, нікому я не была патрэбна, а тут раптам прыйшоў, і ўсе мяне заўважылі... Супер! Відаць, ён сапраўды Глабальны,



*Анатоль Бензярук нарадзіўся ў 1969 годзе ў вёсцы Бастынь Лунінецкага раёна. Скончыў гістарычны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, Інстытут журналістыкі БДУ. Аўтар кніг «Касцюшкі-Сяхновіцкія (гісторыя старадаўняга роду)», «Свята для сэрца» і інш.*

**Пошук новых ці амаль новых форм і сюжэтаў — ужо для пісьменніка ўхвальна. А калі творца імкнецца напоўніць празаічны тэкст яркай вобразнасцю, каларытам і адметнасцю, няхай і някідкіх, айчынных фарбаў, то чытаецца гэта захапляльна і з удзячнасцю да майстра слова. Тры апавяданні, павуціністая, ледзь улоўная сувязь між імі — і вось мы маем невялічкую аповесць «Я цябе бачу». Добра, калі мы можам убачыць адзін аднаго пры дзённым святле, а іншым разам і на адлегласці адчуць Яе, Яго, Іх... Дай Бог кожнаму зоркасці вока і душэўнай цеплыні, якая адчуваецца ў творы А. Бензерука.**

***Аддзел прозы часопіса «Маладосць»***

калі разгледзеў нават такую калібры, як я. (Я па жыцці, насамрэч, калібры: крылцамі махаю часта-часта, каб не грымнуцца тварам у асфальт).

Нездарма, відаць, Крызіс мужчынскага роду. Аднолькавы, як усе мужчыны: ноччу эканоміць на святле, а калі сонца ўстане — знікае, як афрыканец у тунэлі... А потым нечакана з'явіцца, калі ўжо адгаравала, напілася, ацверазела, плюнула праз левае крыло і забылася сумаваць. Намалюецца ў дзвярах, чапляючыся галавою за лямпачку, і з шырокай, трошкі вінаватай усмешкаю, якая прабіваецца пад вусамі, абвесціць, як у кіно: «Канец Марлезонскага балета. Пара скарачацца!»

Добры ціхмяны Пал Канстанцінавіч (мой кіраўнік да сённяшняга дня) так і сказаў: «Нам трэба скарачацца...»

Ён, праўда, не ведае, што мы яго ўжо даўно ўсім «надзвычай дружным калектывам» самога «скарацілі», і замест афіцыйнага ды прадстаўнічага Паўла Канстанцінавіча Гушчы ён для супрацоўнікаў проста Палкан.

Хоць Палкан зусім не злы, ды і мы не са злосці. Час такі, абрэвіятурны, фастфудаўскі: хуценька паеў, пракаўтнуў нясмачную ежу, вадой запіў і — на лыжы. Пабеглі, вавёрачкі ў коле! Пабеглі!

Бяжыш па горадзе і паўсюль на цябе ўзіраюцца рэкламныя шчыты, а на іх — скарачэнні, абрэвіятуры, шматкроп'і... «Эканамічна не выгодна» ўсе словы пісаць без памылак, а непісьменнасць за абрэвіятурамі амаль не заўважыш. Вось і тут, у бальніцы: «Без очереди обслуживаются ВОВ и УОВ...» Не, каб напісаць: «...обслуживаются ветераны Великой Отечественной войны и её участники...».

Мяне яшчэ ў школе вучылі... «Класуха» Мар Іванаўна (праўда, праўда, як у анекдоце!) не стамлялася паўтараць: «Ветэраны здабылі нам свабоду. Мы жывём пад чыстым мірным небам, бо яны пралівалі кроў на палях вайны, каб нам, іх нашчадкам, цяпер было лягчэй». Я паважаю ветэранаў. Але як паважаць ВОВаў, пускаючы без чаргі паперад сябе?

У той жа школе Вовачка (зноў, як у анекдоце!) сядзеў у мяне за спінай, цягаў мяне за косы, «злізваў» у мяне задачкі па арыфметыцы. Калі ў Воўчыка нешта не вытанцоўвалася, заўсёды шыпеў у спіну: «Маруська, дапамажы». І глядзеў так аддана, як Трыстан на сваю Ізольду. Потым, калі падраслі, Вавуся забыў маё імя, часцей называючы проста «цёлкай»... Ён ажаніўся з нашай аднакласніцай, ціхай і непрыкметнай Валяй. Цяпер ён, здаецца, «выбіўся ў людзі», над кімсьці начальнік і над ім — гара начальнікаў. Але гэта не прычына, каб яму чаргу ў зубадрабільны кабінет саступаць. Для мяне ён як сядзеў за спінай, так і сядзіць...

Хоць сёння Уладзімір Андрэевіч сядзіць зусім у іншым, ве-е-ельмі высокім кабінеце, бывае ў Парыжы, магчыма, нават «у Осла»... Цікава, а ў яго на шыльдзе напісана, што ён былы двоечнік і завуць яго «Начальнік ВОВа»?.. Не, дулю з макам, Воўка, а не атрымаеш ты абслугоўвання па-за чаргой, калі я ў чарзе...

— Вы не бойцеся.

Гэта я ўжо пераступіла парог. Пакуль думала пра Крызіс, неяк і не заўважыла, што ён дапамагае супраць бор-машыны. Гэтую думку пазней запішу ў дзённік... калі выжыву... А-а-а, зноў баюся. Глабальны Крызіс, дапамажы-ы-ы-ы!

— Вы не хвалюйцеся.

— Я і не хвалююся.

Навошта падманваю? Тое ўскалмачанае Божае стварэнне, што зараз глядзіць на мяне з люстэрка, і баіцца, і хвалюецца. Ой, Маруська, якая ж ты дурная, прапусціла б ты Воўку наперад, каб яму, нягодніку, за ўсе пяцігодкі школьнага тэрарызму адпомсцілі за цябе. Быў бы яму тут Сталінград з Валгаградам у адным флаконе, а не Лондан з Парыжам...

— Доктар, я гатова.

Дажылася... Не пазнаю не толькі твар у люстэрку, але і голас «у мікрафоне». Марыначка, зайка, дзе ж той ручаёк, што меладычна льецца з тваіх вуснаў?! Гэты хрып цяпер песняй завецца? Цяпер табе толькі падпяваць: «Купыла мама коныка, а конык бэз ногы...»

— Усё будзе добра, — запэўніў эскулап.

І ашчэрыўся ўсёй сваёй непаўторнай пасткаю. Во, зубы! Бедны хлопец, мабыць, ён ніколі не еў торцікі, шакаладачкі, усялякія пампушачкі, крэмы заварныя... А я цяпер галодная і злая, я цвікі гатова жэрці. А зубоў не хапае. Ды ты яшчэ на адзін замахнешся, хадзячая рэклама «Калгейту» і «Блендамеду». Ну, давай!

Гэтая абракадабра прамільгнула ў маёй галаве, а вымавілася зусім іншае:

— Доктар, я гатова.

— Ну, вось і добра. Бачу, ваш зубік ужо не выратаваць...

«Мо-о-ой...»

— ...шкадую, але будзем рваць...

«Будзем...»

— ...уколем замарозачку, і хвілін праз дзесяць адчуеце, што ваш зуб быццам і не ваш...

«Мо-о-ой!!!»

(Гэта я ўсё маўчу, без супраціўлення аддаючы сваё. У галаве яшчэ помніцца гістарычная кніжка пра французскага караля Францыска, якога таксама ледзь не папёрлі з трона, а ён жаліўся маці: «Усё згублена, акрамя гонару». Ма-ма! Вось ужо — коль! Сапраўды, не балюча...)

Не балюча, а шкада. Людзей. Чалавекаў. Мужчын і жанчын. Палкана шкада, які слязой умыўся, выкідваючы мяне за дзверы...

А сябе не шкада! Я яшчэ ўлезу ў вокны. Калі іх пазачыняюць — у комін залезу! На мятле прылячу. І вымету з сябе ўсё смецце — пустыя, кволыя, безнадзейныя надзеі. Вырву, як гэты зуб!

— Вы штосьці хочаце сказаць?

Я мычу! Цёлкі ж мычаць, калі іх дояць...

Божа мой, што я нясу. І гэта тая Марына, што пісала яшчэ нядаўна пра поспехі ў сельскай гаспадарцы?! Цёлак жа не дояць... Дудкі! Значыцца, я тая адзіная і непаўторная цёлка, якую ва ўмовах, самі ведаеце чаго, падаілі і выштурхнулі за парог.

Доктар пакасіўся. Відаць, на маім твары вымалявалася такая рашучасць, што ён на ўсялякі выпадак вырашыў прытушыць сваю ідыёцкую амерыканістую ўсмешку.

Яшчэ пяць хвілін маўчання, пакуль зубы не замерзлі... Пяць хвілін цішыні — як пасля землятрусу, каб выратавальнікам і іх сабакам было лягчэй працаваць, шукаючы пад заваламі хоць нешта жывое.

Часу не хапае, але пяць хвілін, каб параскінуць мазгамі, застаецца. Мне цяпер спяшацца не трэба. Мне цяпер няма куды спяшацца.

Агульная памылка: усе спяшаюцца і нікуды не паспяваюць, бо ніхто нікому не саступае дарогу. Кожны зарыўся з галавою ў свае праблемы, ствараючы праблемы іншым.

У бацькоў няма часу нават соплі дзецям выцерці, вось і ходзяць, саплівыя, дымяць цыгарэткамі, лаюцца, як боцманы ў гальюне... Боцманы і гальюны — гэта ў мяне рэшткі былой любові (нават каханнем такое не назавеш!). Быў у мяне дзевяць месяцаў матросік. Звычайная гісторыя... За тыя месяцы нічога путнага не нарадзілася, акрамя крызісу. Узняў мой марачок пунсовыя ветразі і адплыў да суседкі. Ладна,

не злую: усім патрэбен кавалак шчасця, толькі мой «капітан» — не падарунак, шчасця ў ім толькі і ёсць, што кавалак... а жыццё з адным кавалкам не пражывеш...

Усе жаляцца: няма часу...

А ў мяне ёсць трошкі часу!

Тая хвілінка, пакуль мой зуб — яшчэ МОЙ зуб.

— Я пайду!

— Ідзіце, — ашалела гаворыць стаматолаг.

Крыху вагаецца, але дадае:

— Аднак вы хутка вернецеся. Боль прачнецца.

— Нічога, я ўмею загаворваць зубы. А боль няхай паспіць.

Я зноў мімаходзь гляджу ў люстэрка. Вось гэта значна лепш!

* * *

Што я магу? Жыву ў панэльным доме, амаль пад дахам. Усім кажу: на «галубятні».

Калі апрануся ладненька, ды грыву расчашу, ды свісток напамажу... Тады можна стаць панэльнай дамай. Аднак вопыту малавата. У свае няпоўныя трыццаць — гэх, да «поўных» тры месяцы застаецца! — акрамя Крызісу, у мяне амаль не было мужчын, тым больш Мужчыны. Аднак, з іншага боку, вопыт — не праблема.

Калі Пал Канстанцінавіч браў мяне ў сваё выдавецтва, я, акрамя школьных сачыненняў, таксама нічога не пісала.

Цяпер «распісалася». Пра што толькі ты, Марына Сяргееўна, не стварала «партрэты часу» за гэтыя пару гадоў: пра цётку-ўдарніцу, пра Першую Скрыпку ў аркестры, якая аказалася гожым мужчынкам, пра Крызіс, чорт яго прыдумаў на маю чарнявенькую галоўку... Калібры, што казаць.

Палкан таксама ў пісьменніцкай справе «не дока». Ён былы ваяка. Маёр ці падпалкоўнік (у зорках заўсёды блытаюся). Сам арганізаваў выдавецтва, выпускаў газетку свайго імя — «В Гуще», у якой я працую (прабачце, працавала!).

Выдавецтва завецца «Русцікус», мо ведаеце? Дасюль гэта было прыбытковае прадпрыемства: шпурляла ў свет розныя раманчыкі, якія расхопліваліся, як гарачыя піражкі. Чытачы нават прыбягалі па дабаўку. Цяпер, у сувязі з вядомымі падзеямі, чытач стаў ашчадны. У рэстараны не ходзіць, жуе на роднай кухні цудоўны амлет, згатаваны любай жонкай. Яшчэ адзін плюс ад Крызіса — ён мацуе сям'ю. Не кожны мужчына цяпер спяшаецца скарыстаць сваё «права» на «лева»... Дарага, бо лічыць кожную капейчыну. (Дзіўная справа, капеек у краіне ўжо даўненька няма, а мы ўсё іх «лічым» — вось яна, сіла «прыгожага слова».)

...«Пад нож» першаю пайшла газетка «В Гуще» — гэта, значыцца, я. Паразважаўшы, уздыхнуўшы, змахнуўшы скупую мужчынскую слязу, мой бравы маёр (ці падпалкоўнік) адправіў мяне ў адстаўку.

Цяпер, каб не звар'яцець, я зноў стаўлю пытанне рубам. Хтосьці смешны і разумны неяк сказаў: «У нас заўсёды востра стаяць два пытанні: "Хто вінаваты?" і "Што рабіць?" Калі першае яшчэ так-сяк вырашаецца, дык другое нават не ўзнімаецца».

Не ў брыво, а ў вока! Зусім пра мяне сказана.

Першае пытанне вырашылі лёгка, нават лёгенька — за мой кошт. Гэта ж я вінаватая, што народу шкада грошай!

Прыйшоў час спытацца ў сябе прыгожай: «Што рабіць, мая даражэнькая калібры?»

Есці ці не есці? Вось у чым пытанне. Канечне, дыета для дзяўчынкі, якой вось-вось трыццаць, — справа патрэбная, хоць і дурнаватая. Але, па-першае, дыета і галадуха — рэчы, па-сутнасці, розныя. Па-другое... Ужо і не трэба ні другога, ні трэцяга, бо атрымаецца, як у анекдоце: «Таварыш генерал! Мая рота не адстралялася па трыццаці васьмі прычынах. Па-першае, нам забыліся падвезці патроны...»

Ёсць яшчэ любімая «Лада» — родненькая «дзявятка», чырвоненькая, дагледжаная, якую мне некалі перадаў бацька.

Машынка — клас! Класная машынка ў Марынкі! Хоць і цеснаватая для маіх доўгіх ног. Але, калі шчыльненька прыцiснуць іх да вушэй, — ехаць можна. З нейкага часу «мая чырвоная дзяўчынка» стала іншамаркаю, што ўраўняла мае правы на дарозе з усялякімі «кадзілакамі», «лексусамі» ды іншымі «запарожцамі». Мы цяпер усе «ўдзельнікі дарожнага руху»... Паспрабуй мяне падрапаць! Я за сваю «сяброўку» кожнаму выкажу сваё шчырае незадавальненне...

Ну што, ладненькая «Лада», на цябе адну спадзяванне. Выцягвай з крызісу. Займёмся прыватным «ізвозам»! Мужыкі таксуюць. Ім можна, а нам што — толькі шпалы на «шпільках» насіць дазваляецца?!

Як гэта ў іх завецца? «Бамбіць», здаецца. Ага, так і завецца!

Пачнем з раніцы. Месца дыслакацыі — чыгуначны вакзал. Там заўсёды ходзяць-брындаюць роты ратазеяў... «Бамбіць»! Хлапцы-малайцы, з дарогі! Гром-баба запраўляе бак! Баба-бамбавоз набівае цэлыя адсекі сваёй да вас пралетарскай (я ж цяпер пралетарка!) нянавісцю і выязджае за вароты.

...Гм! А боль не вяртаецца... Відаць, нервы пайшлі ў другія месцы стомленага арганізму. Дзякуй, Крызіс, спачатку выматаеш усе нервы, нацягнеш іх вяроўкамі, потым палечыш. Дамашні Доктар Боль.

* * *

Раніцай вісеў бялёсы туман. І мая «чырвоненькая» выгодна вылучалася ў асяродку іншых цёмненькіх і шэранькіх таксовак.

Падышоў цягнік. І таксісты, як па камандзе, пачалі ўглядацца ў туман. Пасажыраў малавата. І сярод іх ніхто не пажадаў куды-небудзь ехаць далей.

Праз хвіліну на пероне засталася толькі бабулька з кошыкамі. Мае «калегі» расчаравана павярнулі да машын, а я падышла да вяскоўкі.

— Я не еду, дочачка, — запярэчыла бабка, калі я падняла адзін з яе кошыкаў.

— Ой, маліны! Самі вырасцілі?

— А то ж! — усміхнулася старая. — Гэтымі вось рукамі...

Ах, мае мілыя бабулечкі... Некалі, у дзяцінстве, я малявала. Любіла часцей за іншых маляваць сваю бабулю Юлю. У яе і рукі былі такія самыя — патрэсканыя, быццам зямля ў спёку. І малін было шмат у вёсцы. Такія ж духмяныя, як гэтыя.

— Бабулечка, я вас «за так» давязу.

— «За як»?

— Без грошай.

Старая паглядзела недаверліва, а потым ціха спытала:

— А хіба, дзеванька, так у горадзе цяпер бывае?

— Бывае. Яшчэ як бывае! У нас цяпер акцыя аб'яўлена: «Падвязі бабульку да цягніка, і табе будзе шчасце!», — весела прамовіла я.

— Дык мне да рынку...

Я засмяялася і, падхапіўшы кошыкі, пацягнула старую да «чырвоненькай».

На развітанне гаспадарлівая вяскоўка працягнула пакецік духмяных ягад.

— Не ведаю, якая ў вас там акцыя, але гэта не па-людску за дабро не аддзячыць. Вось табе ласунак!

Я была шчаслівая: «акцыя» ўдалася!

Другім маім кліентам стаў трохі п’янаваты грамадзянін, якога ўпіхвалі ў «Ладу» двое больш цвярозых выпівох. Яны развітваліся, упіхнулі мне ў кішэню адрас «цела беднага Юрыка», благаслаўляючы наша падарожжа словамі:

— Юрыка давязі... Юрыку дрэнна. З дастаўкай на дом. Аплочана, як у банку... Юрык, бывай!

Апошняе было лішняе: Юрык нічога не чуў. Ён нават не чуў, калі мы з жонкай цягнулі яго на чацвёрты паверх і ўкладвалі спаць.

На развітанне Ірына (жонка Юрыка) уздыхнула:

— Бяда з ім... п’е, а так працавіты, цудоўны майстар, каб толькі не гэтае паскудства... Вы ўжо на нас не крыўдуйце, Марыначка. Ён жа, Юра, харошы. Не проста штаны ў хаце, а сапраўдны чалавек. З рукамі, з галавой. Каб толькі гэтая гарэлка перасохла! А вы, Марына, такую цяжкую сабе прафесію абралі. Жанчына-таксіст...

— Ды я сёння першы дзень.

— Тады поспеху вам, удачы. Хай вам яна ўсміхнецца.

Удача ўсміхнулася літаральна праз паўгадзіны.

Удача зноў была «пад шафэ», але ўпэўнена трымалася на нагах і, адкрыўшы дзверку, сказала:

— О!

— Што «окаеш», валжанін?

— У нашым горадзе ўжо завялося «інтым-таксі»? Выконваеце ўсялякія пажаданні кліентаў? — з ходу пачала хаміць «удача».

— Уладзімір Андрэевіч, мы едзем ці стаім?

— О! Ты мяне ведаеш, прыгажуня? Тады едзем...

— Цябе, Валодзька, кожны сабака ў гэтым горадзе ведае.

Воўка доўга лыпаў вачыма, гледзячы на мае ногі. Успомніць мяне па нагах было немагчыма. У сёмым класе яны былі значна карацейшымі. Нарэшце, трохі паразважаўшы, ён вырашыў, што ў жанчыны ёсць таксама галава. Воўка прыцэліўся, спрабуючы злавіць «у кадр» маю галаву. Нарэшце ён здаўся:

— Скажы, хто ты, прыгожае дзіця?!

— Марына.

— О!

— Ты акрамя «О!» нейкія іншыя літары ведаеш?

— Ё!

— Валодзька, ты чаго п’яны з самай раніцы?

— Я з сімпозь-позью-ума, — паспрабаваў ён адчытацца.

Потым зразумеў, што не асіліць іншаземнае слова і пераклаў:

— З афіцыйнай п’янкі, значыцца... Міжнароднай. Былі японцы (тут ён паказаў «японцаў»), палякі, ізраільцы... не... і... пілі ўсе!.. А потым гулі-булі... А ты, Марынка, што тут робіш?

— Як бачыш, цябе вязу.

— О!

Ён памаўчаў, нешта прыкідваючы (з арыфметыкай у яго праблемы былі яшчэ ў школе), нарэшце выдавіў:

— Таксуеш?

— «Бамблю».

— Дык табе на жыццё не хапае?

Я раззлавалася:

— Не, у нас такая акцыя: «Давязі п’янь дадому! Занясі яго з жонкай на паверх, распрані, кінь на ложак! Хай храпяць штаны ў хаце!»

— Не сярдуй, Марын... Вось ужо даехалі. Трымай грошы. Бывай.

І кінуў сотню «баксаў» на мае калені.

— Забяры свае паганыя грошы! — аж завішчала я.

— Ну ведаеш... Яны не паганыя, а заробленыя. Вось гэтымі мазгамі, — ён паляпаў па лысеючым чэрапе. — І сваю «акцыю» на мяне не распаўсюджвай. Сам дайду дадому! Сам распрануся! І сам буду храпець у сваёй хаце!

— Перадавай прывітанне Валі.

— А!

Што за манера гаварыць па адной літары? Я хацела зноў яго падкузьміць. Але спынілася, калі глянула ў Валодзевы вочы.

— Перадам. У нядзелю пайду на могілкі... І перадам, абавязкова... А «стольнік» не выкідвай. Ён табе яшчэ спатрэбіцца. І асцярожней на дарозе...

Як жа я забыла пра Валю? Буду, буду асцярожней на дарозе, Вовік...

* * *

Вось і першыя грошы з’явіліся ў кішэні. Гэта выклікала прыліў сіл і жаданне «замарыць чарвячка».

Прыпаркаваўшыся паблізу высокага дрэва, я ўжо збіралася выйсці, калі заўважыла, што не маю выхаду! За спінай прыладкаваўся нейкі моцны дзяцюк, загарадзіўшы мне выезд сваім белым «мерсэдэсам», а побач тым часам пад’ехала вялікае чорнае аўто ўнушальных памераў і невядомай мне «пароды». Я быццам апынулася на шахматнай дошцы, як нейкая пешка, заціснутая паміж белай і чорнай фігурамі.

Акенца ў чорным аўто няспешна адсунулася. Цыбаты мужчына, чыста паголены і пры гальштуку, спытаў, пазіраючы на мяне зверху ўніз:

— І чым мы тут займаемся?

— Выконваем жаданні кліентаў.

— Ты хто, Залатая Рыбка?

Ён гаварыў амаль ласкава, але бачылася: такі можа «прылашчыць»...

— Ты плыла б адсюль, маленькая. Табе лепей «выконваць жаданні» ў іншым месцы.

— Ды і ў іншых месцах канкурэнцыя.

— Во, правільна, канкурэнцыя. А мне хіба ты канкурэнт, Рыбка?

Так, наезд, здаецца, гэта так у іх завецца? Гэты не паглядзіць, што ты кволая быліначка — возьме і пераломіць. І маленькай птушачцы пер’е павышчыпвае...

— Бачу, што ты не нахабная. Зусім яшчэ ў нашай справе «зялёная». Акрамя таго, у мяне ёсць правіла: кожны мае права на памылку... Нельга караць за адну памылку. Трэба ўрокі засвойваць. Ты памылілася, дарагуша, заехала на чужую тэрыторыю без дазволу. А паколькі ты дзяўчына, табе, Рыбка, і дзве памылкі даравацъ можна, не псуючы пакуль касметыкі.

— Можна спытацца?

— Спытацца можна. Толькі адказ добры не гарантую.

— Вы не пажадаеце трохі адсунуцца, каб я магла выехаць?

— Чаму ж не. Пытанні ў нас бясплатныя, а справы — па рыначнай цане: метр праехаць — чырык згубіць, два — з дваццатнікам развітацца, тры — ужо на паўсотні пацягне, чатыры — цэлы стольнік каштуе... і гэтак далей.

— Гэтак далей — не трэба. Вось табе асабісты партрэт амерыканскага прэзідэнта Франкліна. І адмер, калі ласка, мае чатыры метры, калі такая такса.

Мужчына ўсміхнуўся.

— Зноў памылачка. Ужо другая, апошняя. Трэба табе ведаць, мая выпадковая каляжанка, што ў Амерыцы ніколі не было прэзідэнта з такім прозвішчам. Заяўляю аўтарытэтна, як колішні ваенны, што быў абавязаны дасканала ведаць патэнцыяльнага праціўніка. Аднак містэр Бенджамін Франклін быў настолькі паважанаю асобаю, што ўдзячныя нашчадкі змясцілі ягоную фізіяномію на вельмі паважанай купюры. Прынамсі, Франклін стаў вынаходнікам громаадвода... Ты адчула, Рыбанька, як наблізілася бура? Але громаадвод Франкліна спрацаваў, адвёўшы ад цябе бяду... І прашу, не памыляйся надалей. А каб табе, Залатая Рыбка, не было гэтак сумна ад нашай размовы, дазваляю прыхапіць з сабою яшчэ аднаго кліента. Гэта, так бы мовіць, бонус ад фірмы. Ну, не вяртацца ж табе дамоў зусім без грашовых знакаў і з дрэннымі думкамі?

Акенца марудна закрылася, і чорны аўтамабіль (а за ім і белы) ад’ехалі, саступаючы мне дарогу.

Дзесяць секунд я прыходзіла ў сябе. Ногі калаціліся. Відаць, цяпер нервы былі там... Нарэшце выехала.

І амаль адразу «злавіла» кліента.

Ну, хоць на развітанне «бамбану» па поўнай! Навошта зайцу тармазы?! Бонус дык бонус!

...Ён нічога не сказаў, толькі грымнуў дзвярыма так, што вокны задрыжалі.

— Э! Таварыш, асцярожней! Машына імпартная і мая. Сёння на яе ўсе пакушаюцца.

Ён грозна павярнуўся ў мой бок, хвіліну здзіўлена разглядаў, пачынаючы ад руля і да самай педалі тормаза, і нарэшце сказаў... не — прарычаў, як леў, якому надакучыла есці траву, а хочацца мяса:

— Во прэ сёння! Толькі ад адной дуры выйшаў, як адразу да другой падсеў!

— Едзем?

— Едзем.

— Куды?

— Туды...

Ён махнуў рукой. І мы паехалі «туды».

Нейкі час маўчалі, пакуль ён не спытаў:

— Як цябе зваць?

— Дура Сяргееўна.

— Як?

— Забыўся? Сам так ахрысціў, а мама кліча Марынай, што значыць, «марская». Можа, таму і мора люблю, хоць бываю там зрэдку. Былыя саслужыўцы называлі Марынкай Сяргееўнай.

— Можна я цябе буду называць па імені?

— Гэта значыць, Дурай?! — я пачынала ўскіпаць, як чайнік на пліце.

— Ну, прабач... абставіны... з языка сарвалося. Цяпер назад у глотку не запхнеш. Але прабачэння прашу. Я ж афіцэр, палкоўнік — цяжка мне з сентыментамі ўсялякімі.

— Што ж мне на вас, залатапагоннікаў, гэтак шанцуе. Адзін даў пад зад «са слязамі на вачах», другі ледзь рэбры не пералічыў, трэці дурай абазваў...

— Я ж прабачэння папрасіў.

— А ўсё правільна. Дуры мы бабы, дуры. Хіба наша справа хамут на шыю вешаць? БАМы падымаць, у кузні стаяць ды таксаваць?..

Я паспрабавала прыбавіць газу, але праз дарогу кінулася котка, і ён папляваў праз плячо:

— Ты верыш у забабоны?

— Хто быў на вайне — усе вераць... Мой дзед ваяваў у Айчынную, а калі я збіраўся на свой фронт, сказаў: «Запомні правіла: трафеяў не браць!». Я паслухаўся: з Афганістана не прывёз ніякіх «сувеніраў». Затое сам жывы застаўся. А тых, хто прыхопліваў сабе нешта, шмат не вярнулася. Узяў пярсцёнак — рука пакалечана ці ўвогуле нежывы...

Палкоўнік прамовіў гэта з усмешкай, але, адчувалася, вельмі сур'ёзна.

— Маю па тры зоркі на кожным пагоне ды «Чырвоную Зорку» на грудзях... Служыў ваенным верталётчыкам. На вайне была своеасаблівая такса: за збітую «вяртушку» — 1 мільён афгані — даражэй, чым калым за добрую жонку... Адной з нашых задач было адсякаць караваны. Ведаеш, што такое караван?

— Вярблюды ў пустыні...

— Дудкі! Афганскі караван узору восемдзясят восьмага года — гэта новенькія белыя «Таёты», «КамАЗы», даверху набітыя зброяй, у асноўным, кітайскай вытворчасці.

— Ты згадаў дзедаўскі наказ, а ці былі яшчэ правілы, патрэбныя на вайне? — нарэшце ўва мне пачала прачынацца журналістка.

— Канечне, напрыклад: «Не страляць у іконы». Нельга цэліцца ў храм — праваслаўны, іудзейскі, мусульманскі... Калі прыходзілася гэта рабіць, дык толькі выконваючы загад, які для салдата святы... Калі салдат выконвае загад, на ім няма граху. Расплочвацца за гэта будзе той, хто даў каманду. Таму мы шануем сваіх камандзіраў, разумеючы, якая вялікая адказнасць на іх.

— Што гэта за людзі, «афганцы»?

— Ёсць сярод нас усялякія: і тыя, хто шмат дасягнуў у жыцці, і тыя, хто скаціўся ў бездань. Мы такія самыя людзі, як журналісты ці таксісты. Аднак існуюць дзве рысы, што адрозніваюць нас ад астатніх. Пра першую я ўжо казаў, але паўтаруся: павага да сваіх камандзіраў. Другая рыса — дысцыплінаванасць. Нельга танчыць на мінным полі — узарвешся сам, загубіш таварыша.

Ён замоўк. І я маўчала. Мы ездзілі па коле. Вакол чорнай машыны невядомай «пароды». Гаспадар стаяў побач. Дапаліўшы цыгарэту, кінуў акурак пад ногі і хутка сарваўся з месца, даўшы доўгі сігнал.

— Думаў, вярнуся з вайны — будзе ўсё інакш. Звалі ў бандзюкі — адмовіўся, клікалі ў міліцыю — зноў прамаўчаў. Пайшоў настаўнічаць. Самалёцікі з пацанятамі робім — хочацца хоць кропелькі неба. Знайшоў жанчыну. Здаецца, усё было чын па чыну, нават ажаніцца хацеў, а сёння вяртаюся дамоў... як у дрэнным анекдоце.

Раптам ён спыніўся і спытаў:

— Ты пакінеш нумар свайго тэлефона?

Я раптам закрычала:

— Ды калі ласка! Тэлефона, грамафона, саксафона... Іграй на мне, музыкант! Якія ж вы ўсе аднолькавыя...

Зрабілася неяк не па сабе. Чамусьці сцюдзёна зрабілася. Нервы... Я выскачыла з машыны. Праз імгненне ён быў побач. Абняўшы за плечы, спытаў:

— Так цяплей?

— Адвязі мяне дамоў. Дрэнны з мяне таксіст. За дзень уся выручка — мех непрыемнасцей... А сам не заходзь. Мо калі-небудзь пазней... не сёння.

...Не было сіл, каб распрануцца. Нават не запаліўшы святла, я паваліласся на канапу. У трывожным сне змяшаўся ўвесь мітуслівы і стракаты дзень.

Раптам прыснілася дзяцінства: хатка ў вёсцы, бабулька Юля на лавачцы, чыстая рэчка з драўлянай кладачкай. Ад яе бегла сцяжынка на ўзгорак, адкуль бачылася наваколле як на далоні. Яно месцілася на маёй маленькай далоні... А яшчэ вышэй узносілася старажытная царква з высокай званіцаю. Было свята, было светла. І я бегла басанож па траве. А здалёк гучаў меладычны царкоўны звон: дзінь-дон-дзінь-га-дон-н-н...

...Настойліва званіў тэлефон. Я ўзяла трубку.

— Марына?

Цэлы дзень хацелася раўсці. І слёзы не раз былі побач, а заплакала толькі цяпер. Ох, і дура ты, Марынка, хоць і Сяргееўна.

— А ты мне пакажаш свае зоркі? У зорках на пагонах я не разбіраюся...

— Навошта табе на пагонах? Паглядзі на неба — вось дзе зоркі!

Я падышла да акна. Млечны Шлях, прыгожы і бязмежны, разліўся над галавою.

— Бачыш? Бачыш?! — крычала трубка.

Я ўжо не глядзела на неба. Са сваёй «галубятні» я глядзела на зямлю.

— Бачу. Бачу! Я цябе бачу...

## МАЛІТВА ПЕРАПЁЛКІ

***Апавяданне другое***

**Вечарам наляцелі перапёлкі**
**і накрылі табар, а на золку**
**ляжала раса побач табару.**
**Раса ўзнялася, і вось на**
**паверхні пустыні нешта**
**дробнае, быццам крупы,**
**дробнае, як шэрань на зямлі.**

*Кніга Выхаду, XVI...*

*«Ойча наш, Які ёсць на нябёсах! Хай свяціцца імя Тваё; хай прыйдзе Царства Тваё; хай будзе воля Твая як на небе, так на зямлі...»*

— Глебушка, дай хлебушка.

— Мама, няма Глеба.

Ужо дзевяць дзён няма.

Але гаварыць гэта не трэба. Бессэнсоўна.

Няма Глеба. Мы былі з ім як у Бога за пазухай. Ён быў маё «другое я». Мы глядзеліся як у люстэрка адзін у аднаго. З першай хвіліны.

Ён быў малодшы. На тую самую хвіліну. Мама нас лёгка нарадзіла. Цяжка насіла, мучылася намі, а нарадзіла лёгка, за паўгадзіны. І праблем мы ёй ніколі не стваралі. Вучыліся добра. Працавалі лёгка. Жылі лёгка. Усё лёг-ка. Пакуль быў Глеб.

А дзевяць дзён таму закапалі Глеба ў глебу... Вар'яцкі каламбур.

У пакоі закрыты люстры і «блакітны экран». Хлопчыкі не пытаюцца, чаму ім не дазваляюць глядзець «Калыханку» ды іншыя перадачы. Яны бачаць полымя свечкі, што амаль не калыхнецца, і, здаецца, усё разумеюць без слоў. Каля свечкі — гранёная шклянка, прыкрытая лустаю чорнага хлеба.

Маме зусім дрэнна. Яна не верыць, плача. Аднойчы глянула ёй у вочы. Раней блішчэлі ад божых іскрынак. Цяпер — бляск ад слёз. Тухнуць паціху тыя іскрынкі. У нас — гора, а таму — слёзы. Яны дзесьці блізка. Хоць, бывае, слёзы выліваюцца і ад шчасця. Толькі гэта не наш выпадак.

Я нацягнула коўдру на матчыны плечы.

— Дзе Глеб?

Ах, мамачка, няма нашага Глеба, пайшоў у зямлю наш карміцель, паляцеў у вырай галубок.

Калі ён быў жывы, круціўся бы вавёрка ў коле. Меў сваю «справу», насіўся паўсюль. Казаў: «Святланка, сястрычка, сёння жыццё пайшло такое: узлёт-пасадка. Ну ўсё, пабег — самалёт праз пяць гадзін. Няма часу для перадыху!»

Эх, Глебка, цяпер адпачывай колькі заўгодна. Так здарылася. Так Бог палічыў, адмераўшы табе нядоўгі век. Раней ты быў маладзейшы за мяне на хвіліну. Сёння — на дзевяць дзён і тую ж хвіліну. Далей, год ад году, я буду старэйшаю ўсё болей і болей.

Бяда прыйшла нечакана, амаль імгненна, без знакаў на небе і ўва сне.

Сяброў паменела. Не адразу — патрошку разбегліся. На пахаванні быў толькі Ярык — Яраслаў. Адзін за ўсіх. Ды і ён разгублена глядзеў на труну. Пайсці моўчкі не мог. Абысці — таксама.

— Я шкадую, — сказаў ён.

Сказаў, каб не цягнуць паўзу, што гнятліва павісла над крыжамі.

— Дзякуй, — аднымі вуснамі адказала я.

— Цябе падвезці?

— Не. Мы з мамай і хлопчыкамі на аўтобусе... І вячэры не будзе. Не хачу.

— Так-так. Я разумею. У мяне самога гора: жонка хварэе на «онку»... І трэба, каб усё так здарылася хутка, — гэта ён пра гібель Глеба, але праз секунду зноў загаварыў пра сваё. — Кажуць, рак бывае «мужчынскі» і «жаночы». Калі «мужчынскі» прычэпіцца, яшчэ ёсць шанец выкараскацца. Калі «жаночы» — згарыш у імгненне.

Ён перахрысціўся, глянуўшы на свежую магілу.

— Глупства, Ярык. Няма ні «жаночых», ні «мужчынскіх» анкалагічных захворванняў. Ёсць фіброма, інсулінома, адэнома, карцынома... і яшчэ безліч усялякіх «номаў». Гэта я ведаю дакладна як доктар. І ўсе пухліны падзяляюцца на «злаякасныя» і «добраякасныя». Адны лечацца, іншыя — безнадзейныя. Пакуль жывём, патрэбна спадзявацца на лепшае. Людзі часам перамагаюць любую заразу. Аднак можа здарыцца, што хвароба, надоўга схаваная ў целе, разарве яго за месяцы, працяўшы метастазамі.

У Глеба ўсё было яшчэ хутчэй.

Аднойчы лопнуў нейкі сасуд, маленькі, але важны.

І не выратавалі.

* * *

*«...хлеб наш надзённы дай нам сёння...»*

Іду ўздоўж сцяны са шкла. Празрыстая і доўгая, яна цягнецца паўз вуліцу. Наверсе — выява драпежнай птушкі. Яна з'явілася не адразу.

Сцяна вырасла ў тры дні, калі тутэйшыя людзі, жыхары навакольных дамоў, пачалі скардзіцца: ад машын смурод, куродым, лязг і ўдзень, і ўначы.

Будаўнікі зрабілі сваю справу і пайшлі. А сцяна засталася, празрыстая і доўгая...

Бяда адбылася хутка. Птушкі, якія гаспадарылі павольна ў небе, не зразумелі, што з'явілася размежаванне неба. Яны біліся ў палёце аб сцяну, разбіваліся ў кроў, зноў узнімаліся, ідучы ў атаку.

Раней гэта было іх неба, бязмежна высокае і блакітнае. Такім яно і засталося: і блакіт, і вышыня. Але разрэзанае напалову празрыстай сцяной.

— Воханькі мне, — уздыхнуў смяцяр, зграбаючы цельцы мёртвых птушак. І дадаў недрукаванае слова ў адносінах да людзей.

Тут былі чыжы, ластаўкі, перапёлкі...

Да сцяны хуценька прынесліся-прыляцелі чароды начальнікаў і журналістаў, эколагаў і ветэранаў... Спрачаліся, раіліся... Паслухаліся эколагаў: намалявалі на сцяне выяву драпежнай птушкі, каб адганяла птушыную драбязу — чыжоў, ластавак, перапёлак...

Я — Перапёлка. Гэтае імя ўзялося ад прозвішча. Насамрэч, я — Перапяліца. Перапёлкаю стала яшчэ ў школе, аднакласнікі перайначылі.

Я таксама кружу каля сцяны. Але мая сцяна мураваная. Я яе адчуваю, яна давіць, душыць.

Раней я была вольная — з вольнага неба. Я смяялася, мне было добра. Бачыла іншыя сцены, якія мяне не душылі: Сцяну Плача, Вялікую кітайскую...

А цяпер вырасла мая сцяна, каменная, неадольная. Як для птушкі.

Гэта пачалося не сёння, нават не тады, калі жвір упаў на Глебаву дамавіну.

Першыя цаглінкі ў маёй сцяне (я гэта адчула адразу...) пачалі з'яўляцца, калі загінуў Зілур, мой прынц.

* * *

Мы вучыліся разам, на адным курсе медінстытута.

Ён прыехаў з далёкай краіны Бангладэш. У яго ўсё было экзатычнае: колер твару, колер вачэй, колер усмешкі... Я не пераблытала: яго ўсмешка была асаблівая — шырокая, прыгожая, белазубая — каляровая.

Па пашпарце ён быў маладзейшы за мяне. Насамрэч — старэйшы. Нарадзіўся ў джунглях, у партызанскім атрадзе падчас грамадзянскай вайны. Нейкі пісар і паставіў пазней год нараджэння адвольна.

Калісь дзяўчаты амаль не пачыналі знаёмства першымі. Але раней — не цяпер. У палоне той цудоўнай усмешкі я падышла першаю:

— Света.

— Цень.

— Чаму Цень?

— На маёй мове Зілур — гэта Цень.

— Не зразумела.

— Гэта вельмі проста. Я прыехаў з краіны, дзе гарачыня і спёка, як у кузні. Цень — гэта мара, прахалода, абарона. Зілур — добрае імя для хлопчыка.

Мяне можна было падмануць, я магла памыліцца, але, гледзячы ў яго вочы — адзін з зелянцою, другі — больш з блакітам, я была шчаслівая. З першага дня, з першай сустрэчы.

Праз гады, калі мы атрымалі дыплом, ён сказаў:

— Ты паедзеш са мной.

Ён не пытаў, а сцвярджаў.

— Мы распішамся?

Я спытала проста так. Мне было амаль усё роўна.

— Канечне! — горача гаварыў ён. — Спачатку ў Мінску, потым у мяне на радзіме.

— Але ж вэлюм белы, а ў вас, здаецца, гэта колер жалобы.

— У цябе будзе белы ўбор і ніякай жалобы!

...Калі сказаць, што вечарам мяне чакала бура, — гэта значыць — нічога не сказаць.

Маці крычала:

— Ён жа «чорны»!

— Ён — каляровы. І я кахаю яго.

— Вось яно — ка-ля-ро-ва-е каханне!

Глеб курыў, нервова стрэсваючы попел пад ногі.

— Сястрычка, ты добра падумала?

— Добра.

— Не кідайся ў вір з галавою. Мама праўду кажа! Я разаб'ю яму морду!

— Толькі паспрабуй! Калі ты толькі зачэпіш яго, я...

Я не ведала, што зраблю. Але нешта зрабіла б, абавязкова. І Глеб гэта адчуў. Часта-часта, злы і нярвовы, ён запыхкаў цыгарэтаю, апаліўшы вусны, крыкнуў:

— А! Ды ідзі ты...

— Дзякуй, брацік.

Ён выбег з хаты. Недзе з гадзіну яго не было.

Праз гадзіну Глеб сказаў:

— Мама, яна паедзе ў свой Бангладэш. Гэта не выбрыкі, гэта сур'ёзна.

Маці — у слёзы, але Глеба яна слухалася.

* * *

Сяброўкі — Маша і Даша — спярша таксама пярэчылі, расказваючы пра ўсялякія жудасці.

— Ну, Светка, ты даеш! — піскнула Машка, беленькая, але не дурнічка. — Куды цябе нясе?! Там жа мусульманская краіна. Ён жа на цябе паранджу начэпіць...

— І запіхне ў гарэм трыццаць трэцяй любай жонкай ці зробіць сексуальнай рабыняй, — «прарочыла» Дашка.

— Ды няма ў яго нікога, акрамя мяне.

— У-у-у!!! — загудзелі дзяўчаты. — Гэта яны ўсе так гавораць...

— Прыкусіце свае языкі, змяюкі! — я пачынала сердаваць. — Спачатку Глеб, мама, цяпер — вы.

Маша пачырванела. Яна заўсёды чырванела, калі гаворка тычылася Глеба. Дзяўчына была закахана ў брата. І я ведала гэта.

— Ды што ён — прынц нейкі? — міралюбіва запыталася Даша.

— Прынц, дзяўчынкі. Ён мой прынц!

— Ой, Свецік, якая ж ты шчаслівая.

Вось тады мы і плакалі разам. Ад шчасця.

...Вяселле было даволі сціплым — усе свае, плюс Машка з Дашкаю. Помню, быў вялізны букет ад жаніха. У залу яго ўнеслі пад песню Пугачовай «Мільён пунсовых руж».

А назаўтра я ўжо ляцела ў далёкі край — у казку, загадку, невядомасць.

Краіна мяне ўразіла, як толькі можа еўрапейскага чалавека ўразіць Азія. Яшчэ больш здзівілі бенгальцы. Дарэмна баяліся сяброўкі і мяне палохалі: такіх добра-

зычлівых адносін да дзяцей, старых і жанчын, як тут, я не бачыла нідзе, хоць і падарожнічала нямала.

Найперш пачала вучыць мовы. Сорамна заставацца «нямой» у чужым краі, калі ты хочаш, каб ён некалі стаў тваім. У Бангладэш — дзве дзяржаўныя мовы, якімі валодаюць усе, — бенгалі ды англійская. Ужо праз паўгода, пачаўшы амаль з нуля, я магла разумець і размаўляць! Гэта адбылося на дзіва лёгка — мовы мужавай краіны быццам «увайшлі» ў мяне, і я іх з радасцю «праглынула» (лепшых дзеясловаў я і прыдумаць не магу, апісваючы сваё «паліглоцтва»). Вялікую дапамогу мне аказала Мар'ям, цётка Зілура, якая добразычліва апекавалася мной. Мар'ям стала адным з першых маіх моцных узрушэнняў: з твару яна была яшчэ больш белая, чым я!

— У нашай сям'і — традыцыя, — патлумачыў Зілур, — мужчыны нярэдка бяруць у жонкі белых жанчын. У мяне ж царскі род!

Ён насамрэч аказаўся прынцам, з сям'і надзвычай паважанай, адкуль паходзілі некалькі прэзідэнтаў Бангладэш і нават народны пісьменнік гэтай краіны. Такі вядомы, як у нас Янка Купала. Улетку мы ездзілі на вялікае літаратурнае свята, арганізаванае ў ягоны гонар.

А зімой нарадзіліся Кірылка і Данілка. У іх ёсць і бенгальскія імёны: Кірыл (ён у нас старэйшы) завецца на бацькавай радзіме Рыдоем, а Данік — Раві.

Я патэлефанавала дамоў.

— Глебка, я нарадзіла Данілу і Кірыла.

— Ура! — закрычала трубка.

Было чуваць, што брат кінуўся ў скокі, а потым выкрыкнуў:

— Святлана! Ты малайчына! Двое! Мама, двайко! У нашай сям'і ўсе жанчыны нараджаюць дуплетам!

З Зілурам мы пражылі пяць гадоў. І яшчэ тры месяцы. І яшчэ два дні...

* * *

Мама ўвесь час прасіла прыехаць, каб паглядзець на унукаў. Я паляцела з хлопчыкамі ў Беларусь.

Мамачка пабачыла дзяцей, і вочы яе заіскрыліся шчасцем. А Глеб дык проста свяціўся як медны таз. Ён паўсюль цягаў блізнят, ціскаў іх, падкідваючы пад столю то аднаго, то другога.

— Мяне завуць дзядзька Глеб. Паўтарыце: Глеб!

Данілка смешна зморшчыў носік і прамовіў:

— Хлеб.

Праўду кажуць: ісціна гаворыць вуснамі дзіцяці.

Ён быў нашым хлебам, нашым карміцелем, і гэты дом, вялікі і прыгожы, — гэта ягоны дом, дзе нам было ўтульна разам.

Зілур званіў штодня, сумаваў, весяліў, цікавіўся. З яго званкоў пачыналіся раніцы, ён тэлефанаваў нанач...

— Светачка, — шаптаў ён у апошні раз. — Я купіў Даніку панду, а Кірыку — жырафа. Як думаеш, не пасварацца з-за цацак?.. Да вашага вяртання я яшчэ паспею злётаць у Еўропу, у Жэневу. А потым будзем мець адпачынак — цэлыя дваццаць тры дні! З'ездзім у Бамбей і Калькуту. Малым абяцалі, трэба абяцанні выконваць. Цалую, мая светленькая, і бывай!

На трэці дзень гасцявання ў Мінску я агаломшыла ўсіх весткаю:

— Я часова ўладкавалася на працу.

— Куды?
— У бальніцу.
— Кім?
— Санітаркаю.
Глеб быў прыбіты да зямлі маёй заявай. Ён хвіліну трос галавою, быццам спрабаваў адагнаць надакучлівую муху, а потым спытаўся:
— Мабыць, ты ашалела на старасці гадоў? Якой санітаркаю? У цябе ж дыплом урача!
— Па-першае, сёння я дыпламаваны баран, які за пяць гадоў не меў ані хвіліны практыкі. З такімі «ведамі» без сур'ёзнай перападрыхтоўкі мяне нават на гарматны стрэл нельга дапускаць да пацыентаў. Зарэжу! — і я смешна паказала, як буду гэта рабіць. — Па-другое, мне сумленне не дазваляе тры месяцы сядзець у цябе на шыі.
— Ды сядзі, калі ласка! Светка, у мяне ж грошай куры не дзяўбуць: і мне хопіць, і маме, і табе з хлапчукамі.
— Пытанне вырашана. І пераглядацца не будзе, — рашуча абвясціла я. — Толькі не пасылай зноў у дальнюю дарогу... У мяне ж такі характар, як у цябе, дуплет: як сказала, так і зраблю!
— У-у-у, Пе-ра-пё-лач-ка, — быццам у дзяцінстве, прымружыўшы вока, прамовіў брат.

* * *

*«...і даруй нам правіны нашыя, як і мы даруем вінаватым перад намі...»*

Я помню той вечар, быццам ён яшчэ не скончыўся і доўжыцца ў памяці.
Стомленая пасля змены вярнулася дамоў. Яшчэ не паспела скінуць паліто, калі пачула: «Сёння над Жэнеўскім возерам...»
Глеб, дзеці, мама выбеглі ў калідор.
Пакуль я нічога не разумела і спыталася весела:
— Якія навіны, мае дарагія?.. — і асеклася.
Ішла праграма «Навіны».
— Табе нельга гэта глядзець, — гэта былі словы Глеба, што даносіліся быццам з іншага свету...
Потым я сядзела каля тэлефона. Тупа глядзела на апарат. А ён не званіў.
Нарэшце зайшоў Глеб, ціха крануў за плячо і, узяўшы маю галаву ў свае вялікія далоні, пацалаваў у вочы:
— Трымайся, сястрычка.

* * *

Сёння была аперацыя.
Маленькая прыгожая дзяўчынка з шырокімі сур'ёзнымі вачыма, стрыжаная пад хлопчыка, спыталася:
— Цёця доктар, а мне будзе балюча?
— Зусім не. Ты будзеш спаць і нічога не пачуеш, а калі прачнешся, станеш здаровая. І ўсміхнешся. Ты ўмееш смяяцца?
Яна заўсміхалася.
— Вось і добра, вось і малайчынка.
Малая яшчэ хвілінку вагалася, пакуль не запытала:
— Цёця Света, а Бог ёсць?

— Канечне, ёсць. Ён размаўляе і са мной, і з табой. Вось паслухай.

Я чытала малітву, а яна ўважліва слухала.

— А чаму Ён гаворыць па-беларуску?

— Ён гаворыць на той мове, на якой ты Яго чуеш. Мне Ён прамаўляе па-беларуску.

— Бог ведае ўсе мовы?

— Канечне.

— І англійскую?

— ...і бенгалі.

* * *

Я іду ўздоўж сцяны. Летні цёплы дожджык, рэдкі, бы валасы дзіцяці, прыбіў дзённую спякоту і шэры пыл.

Каля нашага пад'езда стаіць Маша.

— Даўно не бачыліся, сяброўка. Прыемная нечаканасць.

— Не, — яна матлянула галавою, — я цябе чакала. Хачу пагаварыць.

— Заходзь.

— Не, няёмка. Ды і Марыя Сцяпанаўна...

— Маму я ў бальніцу паклала: ёй трэба сур'ёзна падлячыцца. А хлопчыкаў забіраць са школы толькі праз дзве гадзіны. Праходзь.

— Я на хвіліну.

— Заходзь, — я рашуча пацягнула яе за руку.

Яна змянілася. Гэтыя змены лёгка заўважыць: бляклавата-шэры, трохі падпухлы твар і ні грама касметыкі. Ад таго яе заўсёды ярка-чырвоныя вусны падаюцца празрыстымі. Яны дрыжаць, і я разумею, што сусветны патоп мясцовага разліву вось-вось хлыне на маё плячо.

Я ўглядаюся ў яе некалі тонкі стан і вохкаю:

— Машуня, ты ж цяжарная!

— Ёсць трошкі, — яна яшчэ паспрабавала пажартаваць, але, шмаргнуўшы носам, нарэшце заплакала.

У гэтым я ёй ужо не памочніца — я сваё адраўла на трыста гадоў наперад.

— Гэта Глебава дзіця?

— Здагадалася?.. — чуецца скрозь слёзы.

— Нічога сабе тайна мадрыдскага двара! Ты па Глебку так сохла, што ўвесь час то бялела, то чырванела, нібыта польскі сцяг.

— Не запальвай святла. Я непрыгожая...

Я засмяялася:

— Калі ты ўжо пра гэта думаеш, значыцца, справа ідзе на папраўку. Колькі яшчэ засталося?..

— Ужо хутка, восенню. Урачы гавораць, будзе сын.

— Вось і добра. Надакучылі пахаванні. Справім народзіны. Мы яшчэ палічым па восені і курэй, і дзяцей. Пераедзеш сюды.

— Не пераеду.

— Пераедзеш, як міленькая. Я Глебу абяцала, што цябе падтрымаю.

...Нічога я яму такога не абяцала, але ведаю сваё «другое я» — ён быў бы не супраць...

Што яшчэ застаецца? Дачытаць малітву:

*«...і не дапусці нас да спакусы, але ратуй нас ад ліхога; бо Тваё ёсць Царства, і сіла, і слава на вякі. Амінь».*

# ВАНЬКА-УСТАНЬКА

***Апавяданне трэцяе***

> **— ...Няма нічыёй віны... Віна жыцця.**
> **— Віна?.. Ду-рань! Гэта слава жыцця!..**
> **Бяжы туды!.. Стой за дзвярыма.**
> **Баб не пушчаюць у алтар, мужыкоў —**
> **да парадзіхі. Квіты!..**
>
> *Уладзімір Караткевіч*
> *«Каласы пад сярпом тваім».*

— Вось глядзі, шаноўны, на гэтай машынцы ёсць клыпажок, а каля яго лямпачка. Калі лямпачка запаліцца адзін раз, ты бяжыш у краму. Калі гэта паўторыцца — бярэш пляшку каньяку.

— А калі ў трэці раз?

— Ну, калі такое ў трэці раз здарыцца, выбачай, хлопча, — крама ад-мя-ня-ецца. Бярэш свой апарат і на дробныя кавалкі рэжаш тое, што зваяў, а потым зварваеш усё наноў. Ёсць багі ў зваршчыкаў? Тады маліся ім.

Багі не дапамаглі — лямпачка ўпарта гарэла чырвоным полымем.

— Ну, дарагі, сам бачыш: не піць нам сёння каньячок.

— Я ж тыдзень тут корпаўся, — узмаліўся зваршчык.

— Гэта што?! Цяпер ты яшчэ тыдзень будзеш рэзаць, а потым тыдзень зноў варыць. Я дзеля цябе паперку не падмахну. Зважай, але ў мяне няма карысці, каб свой хвасцец падстаўляць ветру. Ты зрабіў сваю справу на «двойку», а я ў сваёй — «выдатнік». Даруй, хлопец.

З «машынкаю» я хаджу ўжо амаль год. На інспектарскую пасаду ўладкаваўся, што грэх хаваць, па знаёмстве. Месяц-другі на мяне і пaглядалі як на блатнога. Нехта спрабаваў «дамовіцца». Потым зразумелі: бессэнсоўна. Тэхніка бяспекі на тое і ёсць тэхніка бяспекі, каб з ёю не расшарквацца. Ёй камплімeнты, кветкі, цукеркі не патрэбны. Яна простая і прамая, як аглобля ў дзедавым возе. Колькі ты ёй вочкамі не страляй, калі яна пачне табе падміргваць — баста! — перарабляй! Інакш з-за таго, што ты, лайдак, нешта не дагледзеў, хтосьці можа застацца без рукі, нагі ці нават галавы. Яшчэ аргументы патрэбны?

Спачатку нехта думаў, што я тут чалавек выпадковы. Цяпер, здаецца, так ніхто не разважае.

Я быў на вайне, крывішчы бачыў удосталь. Бязрукія, бязногія, безгаловыя нам не патрэбны. Вось гэты зваршчык па жыцці мо і добры хлопец, але «добры хлопец» — гэта не прафесія. Таму сёння мой аўтограф ён не атрымае.

Паўтаруся, інспектарам я стаў выпадкова. Пасля арміі прыйшоў у школу, вучыў хлапчукоў авіямадэлізму, клеілі самалёцікі. Плацілі, зразумела, капейкі, таму яшчэ ўладкаваўся сторажам у адну фірмачку.

Год таму, вяртаючыся дамоў з дзяжурства, я выпадкова прыкімарыў у тралейбусе. Прачнуўся ад таго, што нехта тузае мяне за рукаў. Тралейбус сіратліва стаяў на канцавой.

— Грамадзянін, вашы дакуменцікі!

Маладзенькі сяржант прапанаваў мне выйсці і «прайсці». За спінай у яго намаляваўся другі чалавек, таксама ў форме, але ўжо з зоркаю. Зорка была адна і маленькая. Малодшы лейтэнант. Хоць маленькі, але ўжо афіцэр.

— Сярожа, што тут у цябе?

— Ды вось, грамадзянін без дакументаў, спіць, бы ў гатэлі.
— Відаць, п'яны ці бомж? — дапусціў думку «маленькі» лейтэнант.
— Ды не, не падобны ён на бамжа, — засумняваўся сяржант Сярожа.
— Усё ж патрэбна завесці яго ў пастарунак. Мо нешта на яго маецца? — прапанаваў ягоны таварыш.
Ну, і за тое дзякуй, што да бамжоў не далучылі...
— Кінь яго, Пецця. Пайшлі далей, — прапанаваў сяржант.
— Грамадзянін, пойдзем з намі, — заўпарціўся малодшы лейтэнант.
«Правільны» папаўся хлопец, учэпісты. Вядома, зорачка толькі-толькі ўпала на пагоны. Ганарыцца, беражэ, прыбаўкі хоча! Толькі на мне «падняцца» не атрымаецца...
— А што я парушыў?
Пятро быццам чакаў гэтае пытанне. Згаджуся, неарыгінальнае. Хто і калі сябе адчувае парушальнікам?
— Ты...
— Вы... — паправіў я малодшага лейтэнанта.
— Ты мне не хамі!
Во, як вывернуў?! Я зірнуў на яго і гаркнуў рэзка, ды так, што ў тралейбусе вокны ледзь не павылятаі:
— Смірна, салдат!
Міжволі ён выцягнуўся ў струну, ашалела глянуўшы на мяне, але праз імгненне знайшоўся:
— Не крычы на мяне! Пойдзем у аддзяленне. Хай падпалкоўнік высвятляе, што ты за птушка такая галасістая.
— Ну, пайшлі знаёміцца з тваім грозным падпалкоўнікам. Толькі без рук і мардабою. Сам пайду.
І мы пайшлі: Пецця з Сярожам, як павадыры, паперадзе, затым я.

* * *

У паўцёмным памяшканні за вузкім сталом сядзеў, схіліўшы вялікую лысую галаву над стосам паперы, шырокаплечы мужчына.
— Таварыш падпалкоўнік, мы тут чалавечка без дакументаў даставілі, — далажыў малодшы лейтэнант.
— Па-першае, — я пачаў загібаць пальцы, — яшчэ пытанне спрэчнае: хто каго даставіў? Па-другое, пасля Гітлера не памятаю, каб у нашым горадзе нехта ўводзіў каменданцкі час. А вы што, хлопцы, болей крутыя за Гітлера?
Лысы падпалкоўнік адарваўся ад сваіх паперак і з цікавасцю паглядзеў на мяне:
— Ваня?
— Сева!
— Хлопцы! Каго вы прывалаклі, прыдуркі? Гэта ж Ванька-Устанька. У! Жалезналобы, — ён ледзь не ўскочыў на стол. — Ты ж, Ванюха, загавораны. Пятруха! Сярога! Ад яго башкі кулі адскоквалі, як арэхі. Вы ведаеце?.. Ды не халеры вы не ведаеце! Ён жа вяртаўся з палёту — а «вяртушка», што тое рэшата...
— ...а ў галаве ніводнай лішняй дзіркі, — у тон «падпеў» я.
— А ў галаве ніводнай дзіркі! Чулі, мужыкі?! — заходзіўся падпалкоўнік.
— Слухай, Кудраўцаў, а дзе ж твае кудры? — спытаўся я весела.
— Ды жонка з дзецьмі выскублі! А ты жанаты? Дзеці ёсць?

— Жонка ёсць. Дзяцей пакуль няма, — адрапартаваў я. — Дарэчы, з тваімі архараўцамі я забыўся жонку папярэдзіць, што затрымаюся дамоў на вячэру.

— Ды тэлефануй, звані. Скажы, што і на снеданне можаш затрымацца. Нам з табою ёсць, што прыгадаць.

— Сеўка, так не пойдзе. Я жанаты толькі месяц...

— Дык у цябе мядовы месяц? — хітра прышчурыўся Кудраўцаў. — Ма-ла-да-жон! Ну, ты набірай, хуценька звані! І скажы: у нядзелю вы ў мяне гасцюеце.

— Марына?..

* * *

Я ўжо хвалявалася. Моцна-моцна. З таго дня, як мы сустрэліся, я чакаю яго і хвалююся. Ведаю, што шчасце бывае трапяткім і кволым. Як вада і шкло. Як шклянка вады...

У мяне ёсць Ванька. І яшчэ адна таямніца, якою падзяліцца хочацца. Я марыла яму сёння сказаць, але ён пазваніў і «адпрасіўся». Ён сустрэў аднапалчаніна. Мужчынскія размовы. Разумею, гэта правільна. Нам кіндэр, кюхен і кірхен — дзеці, кухня ды царква. Хай так і будзе.

Я кладуся спаць.

Я выключаю святло.

Я сплю са шчаслівай усмешкаю.

* * *

Кудраўцаў грозна глядзіць на «маленькага» лейтэнанта, і той адчувае сябе яшчэ меншым ад гэтага погляду.

— Ведаеш, Пятро... І ты, Сяргей, слухайце, што я скажу. За тое, што хамілі чалавеку, абвяшчаю вам вымову. Не чую?

— Ёсць вымова! — неўпапад адказваюць лейтэнант і сяржант.

— ...а за тое, што сёння я сустрэў сябра, абвяшчаю вам падзяку.

— Ёсць падзяка! — ужо весялей выгукнулі хлопцы.

— Прадстаўляю вам палкоўніка Скакунова Івана Макаравіча. Запішыце сабе на ілбе: гэты чалавек заслугоўвае АСАБЛІВАЙ пашаны і павагі. Вань, ты памятаеш?

— Памятаю, Сева.

— Слухайце, маладыя!.. Мы замацаваліся на той гары. Нас было дзесяцёра. Я быў старшым у групе. А яны пёрлі і пёрлі. Французскі легіён, у якім было набіта, як у каўчэгу, усялякай усячыны: беленькія, жоўценькія, чорненькія... Але прафесіяналы! Вывучаныя галаварэзы. Сярожа, ты маладзейшы. Мабыць, «баевікі» глядзець любіш?

— Люблю, Усевалад Георгіевіч.

— А я глядзець не магу — гара ў мазгі лезе. І яны лезуць, лезуць... адчайныя. Пра-фе-сі-я-на-лы. А нас дзесяцёра. Як у той лічылцы, складзенай Агатай Крысці: «Аднойчы дзесяць негрыцянят прыселі паабедаць...»

Наеліся мы ў той дзень зямлі і камянёў па самы кадык.

...І хутка стала, насамрэч, нас дзевяць. Бой быў. Бой! Першым лёг ля каменьчыка сяржант Іваноў. Шмат на Русі Івановых. Вось адным стала меней... Потым загінуў прапаршчык Айюбаў. Насупраць крычаць: «Алах Акбар!» І мой Айюбаў сказаў: «Алах Акбар», — ды расцягнуўся на белым сонейку, толькі ручаёк чырвоны зацвірчэў.

Васьмёра нас, шалёных. І адступіць няма куды. Злева — бездань, справа — легіён. Я прыкідваю і хлопцам ківаю: калі справа прыціснуць, пойдзем налева — лепей адзін раз палятаць, чым здацца ў палон. Легіянеры за тое, што мы іх косім, бы траву ў расу, літасці не праявяць...

Лысы падпалкоўнік самотна схіліў галаву, прамаўляючы свой рэквіем. Узяў цыгарэту, скамечыў і працягнуў:

— А мае хлопцы, бы чэрці, чорныя і вясёлыя. І справа ім падабаецца — гашэтку ціснуць. Пекла на той гары і пад гарою — не рай. Толькі патронаў меней і меней... Ужо сямёра, а хутка і шасцёра, пяцёра засталося чарцянят. Я ў рацыю крычу, без кодаў і ласкавых слоў: «Маёр, дзе «вяртушка»? Дзе верталёт, маць вашу...» Вань, ты чаго прыляцеў? Ты ж не павінен быў...

— Я толькі вярнуўся з задання. Яшчэ шлемафон не зняў, а мяне ўжо да палкоўніка Сідарцова клічуць. «Маёр Скакуноў, Ваня. Я ведаю, што ты стаміўся. І машына твая стамілася. Гэта не загад, а просьба... На гары нашы арганізавалі нейкі сабантуй, заварылі яны кашу — не расхлябацца самім. Ужо матам мяне ў эфіры крыюць. Паляціш? Не загадваю — вырашай сам, без крыўд».

— «Цяпер чацвёрка негрыцянят купалася ў моры. Адзін патрапіў на кручок — іх засталося трое»... НАС засталося трое, калі з'явілася «вяртушка». Ён, Ванька, быў для нас, як Анёл Божы са Святым Дабравесцем у руках. Ён вырваў нас з тае гары.

Кудраўцаў прымоўк, паклаў сваю далонь на маю. А потым развярнуўся ў крэсле да сваіх архараўцаў і сказаў весела:

— Што застылі? Чаго раты разявілі?! Вось «дзясятка» ў зубы — за вуглом ёсць домік, на ім — вялікі чырвоны надпіс: «24 h» — «24 хэ». Слухай маю каманду: шагам марш у краму! Адна нага тут, другая... самі разумееце. І палкоўнікаў больш мне не затрымліваць!

* * *

— Спрытныя цяпер маладыя: не паспелі туды, а ўжо тут!

Мы сядзелі другую гадзіну.

— Сева, пасля Афгана ты, здаецца, быў яшчэ ў Конга?

— Ага-ага. Гуляў па Афрыцы з поўным боекамплектам. Па экватары ды на рэчцы Лімпапо. Учора сыну чытаў: «Не хадзіце, дзеці, у Афрыку гуляць». Пра Бармалея... Я тады сам быў нібы Бармалей: барада замест гальштука, ножык востры, аўтамат.

— Я ў гарадской арганізацыі ветэранаў, а чаму цябе там няма?

— Ве-да-еш, Ва-ня... — Кудраўцаў пачаў расцягваць словы. — Ты дзе свае рублі атаварваў, атрыманыя ў Афганістане?

— Вядома дзе — у Саюзе, у спецыяльных крамах «Бярозка». Памятаеш, былі такія ў кожным больш-менш значным, як калісь спяваў Высоцкі, савецкім горадзе?

— Помню, чаму ж не? А я свае «бармалееўскія» грошы пакінуў у Рыме. Нас прывезлі туды, нібыта найлепшых гасцей, зрабілі экскурсію па руінах Вечнага Горада, а потым скамандавалі: гэтыя шопікі, таварышы афіцэры, вам на рабаванне. Гуляйце, ваякі! Вось вам самыя лепшыя манеткі на свеце — шпурляйце іх у Цібр на шчасце ды прыхапіце з сабою ў кішэні крышачку «гнілога Захаду». Першая мая машына — адтуль, з Рыма... Я чаму гэта кажу? Бо ніколі не пайду да вас. Вы — пакрыўджаныя, перад вамі ў дзяржавы яшчэ не закрыты рахунак. А са мною яна разлічылася па

поўнай: шмоткамі, рублямі, машынамі... Таму мне сорамна будзе прыкладацца да тых невялічкіх ільгот, якія ў вас ёсць. Ты чым займаешся?

Я расказваў. Ён маўчаў. Ківаў галавою, быццам згаджаўся, а адказаў незадаволена:

— Кажаш, самалёцікі клеіш? Варту нясеш пры грашовым мяху за капейкі? Гэта не справа, чакай.

Кудраўцаў зняў трубку, няспешна набраў нумар і загаварыў:

— Уладзімір Андрэевіч, выбачайце, што позна. Але лепей позна, чым ніколі... Я знайшоў для вас чалавека. Калі яму завітаць? Так, запісваю... Добра. Будзе!.. І вы будзьце здаровы.

Паклаўшы трубку, ён працягнуў мне паперку, дадаўшы:

— Заўтра ў дзесяць пойдзеш па гэтым адрасе. Там дапамогуць. Работа — па табе. Ты, Ванюха, верабей стрэляны і на мякіне цябе не ашукаеш. Будзеш інспектаваць будаўнічыя аб’екты... Там не ўсё ладна. Будаўнічы бум, а пад гэтаю валынкаю, якія толькі кветачкі не ўзыходзяць... І ў нядзелю — не забывай! — у мяне дома.

— Сева, а я табе падараваў ужо свайго скакуна?

Кудраўцаў паглядзеў здзіўлена:

— Ды ў мяне канюшні пакуль няма.

Я засмяяўся:

— Мы ж не толькі самалёцікі клеім. Для душы час ад часу я выразаю драўляных коней. Скакун ад Скакунова — брэнд, як зараз кажуць. Дык у мяне яшчэ адзін стаіць зроблены, але не падораны. Лакам яго пакрыю і ў нядзелю прынясу. Рыхтуй канюшню!

* * *

— Уладзімір Андрэевіч на месцы, — з ласкавай усмешкаю сказала міленькая сакратарка. — Як вас прадставіць?

— Скажыце: пра мяне тэлефанавалі з міліцыі.

Яна кіўнула галавою і пырхнула ў кабінет. Праз імгненне, калі прыгажуня з’явілася зноў, усмешка яе стала яшчэ больш ласкаваю.

Я таксама ўсміхнуўся.

— Як вас завуць?

— Алеся.

— Дзякуй, Алеська.

— За што?

— За ўсмешку.

Яна засмяялася, і пад акампанемент гэтага дзявочага смеху я пераступіў парог.

Гаспадар кабінета падняўся, працягваючы руку, замёр.

— Мы ўжо знаёмы?

Ён глядзеў то на мяне, то на драўлянага каня на сваім шырокім стале.

Я ўспомніў першым. Тры гады таму ён прыводзіў у маю школу вялікую дэлегацыю кітайцаў. І тады я падараваў двух скакуноў: адзін «паскакаў» у Паднябесную, другі, як аказалася, — у гэты кабінет.

— Я вас пазнаў, — бадзёра сказаў начальнік. — Вы таварыш Конеў!

— Дзякуй, канечне. Прозвішча Конеў гучнае, маршальскае. Але я — Скакуноў.

І мы абодва засмяяліся.

* * *

— У нас будзе маленькі.

Я прамовіла гэта ціха.

А ён падхапіўся і закрычаў:

— Марынка!

— Я ўжо трыццаць гадоў Марынка. Мне пара раджаць. Ваня, я гэтага вельмі-вельмі хачу. Ты не пярэч.

— Я буду пярэчыць? Усё ж якая ты дурненькая, Сяргееўна.

Ён наблізіў свае вусны да майго вуха, заказытаў вусамі і палымяна зашаптаў:

— Я вельмі-вельмі-вельмі хачу, каб ты хацела... А які ён, маленькі? Вось такі?

Ён смешна паказаў мезенец.

— Ды што ты! Значна меньшы. Вось, паглядзі. Мы ўчора ўжо ўпершыню «сфатаграфаваліся». Вось гэта на УЗІ — яна!

— Хто яна?

— Наша дзяўчынка.

— Хло-пец, — не згадзіўся муж.

Мы ўпершыню «паспрачаліся» за апошнія паўгода.

* * *

— Дзень добры, Іван Макаравіч...

Голас быў ціхі і знаёмы. Мне зрабілася ніякавата.

Сёння не будзе добрага дня.

З таго часу, як ён пазваніў упершыню, дзесьці ў жываце міжволі прачынаецца халадок. Я пачаў баяцца... Не баяўся, калі вяртаўся з-пад агню, калі завісаў над той гарою, калі... Цяпер — халадок, неспакой і трывожнае чаканне гэтага: «Дзень добры...»

Упершыню ён пазваніў тыдзень таму, на другі дзень, калі Марына сказала, што цяжарная.

— Дзень добры, Іван Макаравіч.

— Дзень добры, — весела павітаўся я. — З кім маю гонар размаўляць?

— Вось вам весела, — пажаліўся ціхі голас. — А мне сумна. А я таксама па жыцці вясёлы і жыццярадасны. У нас шмат агульнага.

— Што вы хочаце?

— Практычная размова, канструктыўная, — пахваліў голас у трубцы. — Вы памыліліся, паважаны, але ў мяне ёсць прынцыпы. Я лічу, кожны можа памыляцца, галоўнае, каб умеў небалюча выпраўляць свае памылкі... Вы памыліліся, а памылкі трэба выпраўляць.

— Чаго вам трэба? — зноў упарта спытаў я, адчуваючы, як ціхі голас ліпне да мяне.

— Вы павінны падпісаць паперы. Шмат добрых і разумных людзей папрацавалі, каб усё і ўсім было добра... І ўсім, сапраўды, будзе добра... калі вы падпішыце паперы.

— Ды пайшоў ты!

Голас засмяяўся. І тады ўпершыню я адчуў халадок у жываце.

— Не спяшайцеся, Іван Макаравіч. У нечым вы мне сімпатычны, і жонка ваша, Марына Сяргееўна, таксама. Здаецца, вы чакаеце папаўненне? Савет ды любоў, як гаворыцца. Але ўсё ж не ўспрымайце мае словы як жарт. Вам тры дні на выпраўленне памылкі. І раю: не звяртайцеся да Кудраўцава — Пеця з Сярожам вам не дапамогуць.

Тры дні мінулі. Тэлефон маўчаў, і халадок паціху пачаў раставаць.

Тэлефон ажыў увечары сёмага дня:

— Дзень добры, Іван Макаравіч. Выбачайце, што затрымаўся. У нас былі невялікія праблемы, але ўсё шчасліва разрулілася. Цяпер зноў да вас. Вы для нас таксама праблема. Што вырашылі?

— Я не буду падпісваць паперы, пакуль там не будзе ўсё чыста.

— Там будзе ўсё чыста, але, відаць, ужо без вас. Шкадую.

Трубка запульсавала кароткімі гудкамі.

* * *

Я бегам вяртаўся дамоў. Марынін мабільны тэлефон упарта адказваў, што абанент знаходзіцца па-за зонаю дзеяння сеціва. Холадна і манатонна ён паўтараў гэта па-руску, па-англійску...

Толькі дома, пасля мо дваццаць пятага набору, замест голасу «дзяжурнай паненкі» загучаў мілы Марынкін голас.

— Марына, ты дзе? Што з табою?! — ліхаманкава закрычаў я.

— Ваня, не хвалюйся, са мной усё добра. Я ў бальніцы.

— Ты хворая? Што з табою?

— Цяжарнасць — не хвароба. Але мяне паклалі на захаванне. Ведаеш, — засмяялася Марына, — у картачцы напісалі, што я буду «СТАРОРОДЯЩАЯ»! Крута, трыццаць стукнула — і ўжо бабулька!

— Чаму не званіла?

— Прасілі, пакуль правяралася, адключыць тэлефон. А зараз уключыла — бацюшкі! — ад цябе «недазвонаў» працьма. Нешта здарылася?

— Усё нармальна. Я хутка буду. Але я хваляваўся... Чаму ты не паведаміла?

— Ты дзе?

— Дома.

— Падыдзі да тэлевізара. На ім паперчына... Чытай!

«Ванечка, міленькі, не хвалюйся. Я ў бальніцы. Усё добра, але, хутчэй за ўсё, нас пакладуць на захаванне. Я цябе вельмі-вельмі-вельмі кахаю. Марына».

— І я цябе!

* * *

Я бег уздоўж празрыстай шкляной сцяны, прыхапіўшы букецік дробненькіх блакітных кветак. Яны такія самыя, як вочы ў маёй Марынкі.

Ёй будзе прыемна, я ведаю.

* * *

«Ён хутка будзе тут. Я яго чакаю».

«Я буду хутка. Яна мяне чакае».

* * *

Іх было пяцёра. Але спачатку малы хлапчына, метр з кепкаю, паклікаў мяне:

— Дзядзька, дай цыгарэту.

— Не куру і табе не раю. Малы яшчэ.

Чацвёра іншых «уступіліся». Адзін, старэйшы, прамовіў з крывой усмешкаю:
— Глядзіце: ён нам не раіць!
Нядобрая ўсмешка. Нічога цукровага ад яе чакаць не мае сэнсу. Хутка ўзважыўшы сілы, я сабраўся адступіць, але быў прыціснуты да шкляной сцяны.
— Бач, жа-ніх, — глянуўшы на мой букецік, заўважыў другі, чарнявы.
Я паспрабаваў пажартаваць:
— Мне што, хлопцы, кішэні перад вамі вывернуць, каб вы пабачылі, што ў мяне няма цыгарэт?
— Пачакай, мы цябе самога вывернем, — нядобра паабяцаў першы.
Я не стаў чакаць, пачаў першым. Бліжэй быў чарнявы. Трымаючы ў правай руцэ букецік, леваю, якая ў мяне не горшая, моцна ўдарыў у сківіцу. Выпад быў такой сілы, што чарнявы, усклікнуўшы, паваліўся снопам. Я хутка адскочыў назад, але ўдарыўся спінай аб шкляную сцяну. Я забыўся...
Іх было пяцёра, і гэта мяне не палохала. Але супраць мяне была яшчэ сцяна!
Адступіўшы, я згубіў каштоўныя імгненні, і таму, хто быў старэйшы, гэтага хапіла, каб ударыць...
А потым удары пасыпаліся як з рога. Тыя, што стаялі справа-злева білі бітамі, старэйшы — кулаком. Апошняе, што я пабачыў — пакуль яшчэ бачыў... — хлопчык, якому я «пашкадаваў» цыгарэту, з лямантам бег прэч.

* * *

«Райаддзел унутраных спраў просіць садзейнічання ў высвятленні асобы мужчыны, збітага ўчора вечарам... Усім, хто стаў выпадковым сведкам здарэння ці нешта ведае пра яго, просьба патэлефанаваць...»
— Ты яго пазнаў? — падпалкоўнік Кудраўцаў тыцнуў пальцам у тэлевізійны экран.
Малодшы лейтэнант адказаў, апусціўшы галаву:
— Па нашых зводках ён праходзіў як невядомы.
— Мне ён вядомы, — цяжка прамовіў падпалкоўнік. — І табе ён вядомы. Колькі вы будзеце ГЭТА круціць? Дзе вы швэндаецеся ўвесь час, калі ўсялякая шантрапа збівае людзей?
Маўчанне, цяжкае, бы дым, павісае ў пакоі. Нарэшце, рубануўшы далонню, Кудраўцаў крычыць:
— А тыя, хто ГЭТА зрабіў, таксама дасюль невядомыя?!
— Аднаму палкоўнік Скакуноў гэтак умазаў, што сківіцу вывернула. Мы іх усіх узялі.
— Аператыўна. А зараз — яшчэ аператыўней даведайся тэлефон урача, які над ім варожыць.

* * *

Пачуўся разгублены голас маладзенькай медыцынскай сястрычкі:
— Святлана Пятроўна, вас да тэлефона. Падыдзеце?
— Хто просіць?
— З міліцыі.
Хвіліна, другая, трэцяя... Нарэшце жаночы стомлены голас гаворыць:
— Слухаю вас.
— Скажыце, як адчувае сябе Скакуноў?

— Вельмі цяжкі.
Кудраўцаў спыняецца.
Хвіліна, другая... Яна чакае.
— Выжыве?
— Усё ў Божых руках.
Падпалкоўнік нервова крычыць:
— А вы хто? Прапаведнік ці доктар? Што вы мне папоўскія пропаведзі чытаеце?!
— Я — доктар, — холадна адказвае жанчына. — Але ёсць сэнс звярнуцца да святара... У яго мала шанцаў. Можа, дзесяць адсоткаў, можа, адзін ці нават меней...
— Няхай у яго іх нават нуль цэлых шыш дзясятых застаецца, але нельга сядзець склаўшы рукі і спадзявацца толькі на Бога. Што трэба?
— Супакоіцца.
— Які спакой?! — зноў рычыць Кудраўцаў, сціскаючы кулак. — Што трэба?
— Шмат крыві.
— Будзе.
— У яго рэдкая група.
— Я ведаю.
— Адкуль?
— Гэта і мая група. Яшчэ што? Апаратура?
— У нас добрая апаратура.
— Яшчэ што?
— Потым спадзявацца. На нас і на Бога. Калі не памрэ праз тры дні, з'явіцца надзея. Калі з'явіцца надзея, усё толькі пачнецца. Пашкоджанняў шмат. Яму будзе цяжка вярнуцца, ён ужо ля парога ў Бога.
— Ды замаўчыце са сваёю праваслаўнай лухтой!
— Я — мусульманка.
— Не зразумеў?
— А і не трэба нічога разумець... Калі ён выжыве, спатрэбіцца доўгая рэабілітацыя, самае меншае — паўгода.
— Ён выкараскаецца. Я ведаю.
— Адкуль?
— Ён — Ванька-Устанька!
— Не разумею.
— А і не трэба нічога разумець, — ужо зусім спакойна гаворыць падпалкоўнік, паціраючы свой лысы чэрап.

* * *

Праз тры дні надышоў месяц лістапад. У ноч выпаў першы снег. Ён ціха клаўся на жоўтую апалую лістоту. Быў лёгкі прымаразак, і прыгожыя сняжынкі, збітыя ў камякі, сыпалі з неба, засцілаючы наваколле.
— Святлана Пятроўна, — радасна прашаптала малодзенькая сястрычка, — ён прачнуўся! — і выбегла на калідор.
Я ўвайшла ў палату.
— Добры вечар, Іван Макаравіч. А ваш Кудраўцаў — празорлівец. Вы выкараскаецеся.
— Я дрэнна бачу, — слаба прамовіў Скакуноў.
— Хутка будзе лепш.

— Што там?
— Дзе?
— За акном.
— Там ноч і снег.
— Ужо зіма?
— Восень. Гэта першы снег — добры знак. Што вы жадаеце, Іван Макаравіч?
— Можна коечку трохі бліжэй да акна? Хачу краёчак неба, каб бачыць снег.
— Зробім. Што яшчэ?
— Нічога...
Потым палкоўнік трохі падумаў і папрасіў:
— Марыне пазваніце.
— Яна тут: спіць у маім кабінеце. Але мы яе пабудзім.

* * *

Мне снілася чырвоная машына. Ваня сядзеў побач. Ён быў у форме, пры пагонах, з ордэнам «Чырвонай Зоркі» на грудзях. (Я ўжо разбіраюся ў зорках...)

Потым зноў прыснілася дзяцінства. Ля драўлянай старэнькай хаткі — бабулька Юля ў светлай святочнай хустачцы. А да чыстай рэчкі з драўлянай кладачкай па жоўтай сцяжынцы, што вілася на пагорак, басанож бегла дзяўчынка. Удалечыні ціха і празрыста гудзеў малінавы звон. Перад малою адкрываўся далягляд. Яна ўзняла руку, і царква апынулася на яе далоні. Дзяўчынка была падобна на мяне і трошкі на Ваню. «Светачка», — я паклікала маленькую...

— Уставайце, Марыначка, ён прачнуўся. Заходзьце.
— Святлана Пятроўна, у мяне будзе дачка. Я назаву яе Светай.
— Ідзіце. Курэй і дзяцей яшчэ палічым. Ён чакае.
Ваня быў жывы.
Я стаяла каля ложка, плакала і гаварыла нейкую бязглуздзіцу:
— Я бачыла цябе ўва сне. Ты быў у пагонах, з зоркамі.
— Ды навошта табе мае зоркі? Снег пайшоў... Глянь на неба — вунь дзе зоркі! Бачыш?
— Бачу. Бачу! Я цябе бачу...



# КВЕТКІ ВЕРАЦЬ У ВЕЧНАЕ ЛЕТА

## *Вершы паэтаў Берасцейшчыны*

**Штогод часопіс «Маладосць» з прыемнасцю прысвячае свае старонкі берасцейскім творцам. Нездарма тэматычныя нумары сталі для нас добрай традыцыяй. Прадстаўнікам літаратуры гэтага рэгіёна заўжды ёсць чым падзяліцца з чытачамі — падзеямі культурнага жыцця, новымі імёнамі-адкрыццямі. І, безумоўна, таленавітымі творамі. Тры аўтары — тры розныя любові да сваёй зямлі, тры розныя бачанні родных краявідаў і наогул свету. Тры розныя, няпростыя лёсы. Але самае істотнае — адметныя паэты, вершы якіх узбагачаюць нашу літаратуру.**

*Віка ТРЭНАС*

***Галіна БАБАРЫКА***
***в. Мачуль Столінскага раёна***

* * *

Здарожыўся дзень. Надвячорак
Упаў на зямлю цішынёй.
Сусвет мірыядамі зорак
Расшыў парасон над зямлёй.

Усё, што за дзень пражыта
Пясчынкамі радасці, слёз,
Здаецца, не стала нябытам —
Лягло на прасторы нябёс.

Ляжаць каля праўды і веры
Крупінкі сумненняў, маны,
І здрады, і злосці без меры,
Дабра, што не мае цаны.

Світанак пастукае ў дзверы
З надзеяй, што мудрасць нясе…
Асыплюцца зоркі… І шэрань
Зноў свет агарне пакрысе.

**МУЗЫКА**

Яблыкам малінавым даспелым
Сонца ападае за сады,
Вёску ахінаючы нясмела,
Цягнуцца туману нераты.

Сілы не хапае любавацца,
Ночы прыгажосць без гледача,
Стомленая восеньскаю працай,
Вёска замірае на вачах.

Рукі адпачылі каб да ранку...
Раптам, разарваўшы цішыню,
Найгрышам музыка каля ганка
Стому выклікае на вайну.

Музыка ўзлятае пад аблокі,
Зоркамі трымціць у вышыні,
Грай жа, беларускі Завалокін,
Душы ад знямогі барані.

Месяц серабрыстыя нябёсы
Бляклым асвятляе ліхтаром,
З яблыкамі падаюць у росы
Ноты залатыя за акном.

*Анатоль ШУШКО*
*г. Пінск*

## КАМЯНІ

Вы — нібы здані прада мною
далёкіх прадзедаў маіх,
з іх невыказнаю тугою,
з глухой жальбой і болем іх.

О камяні! — нямыя жорны
імхом парослай цішыні,
няўжо іх гонар непакорны
у вас, у чэрствых, не пранік?

О камяні! Якая сіла
і хто вас можа абудзіць?
Вы — як пагаслыя свяцілы...
Няўжо вам болей не свяціць?..

## ПАЦЕРЫ ДА МОВЫ

Мазалёвая,
з крываточынай,
і не сынава,
і не доччына,
паўсядзённаю,
усяўладнаю,
як жыццё-быццё,
безагляднаю,
мова родная,
Богу годная,
уваскрэсні, прашу,
НАРОДНАЮ,
каб вясна мая
ачмурэлая,
як пялёстачак,
белым-белая,
засвяцілася,
усміхнулася,
жылкай кожнаю
адгукнулася:
добрым — шчырасцю,
шчырым — шчодрасцю,
шчодрым — міласцю,
мілым — роднасцю,
родным — дзейнасцю,
дзейсным — вернасцю,
верным — ладам
ды вечнай еднасцю.

## КАХАННЕ

Гэтулькі ўва мне святла,
        Любая,
Што забыў, як ты была
        Згубаю.
Гэтулькі ўва мне вясны —
        Крэўнасці, —
Што забыў пра гора-сны
        Рэўнасці.
Гэтулькі ўва мне цяпла
        Роднага,
Што забыў, як ты знайшла
        Роўнага.
Рознае у нас было,
        Ветлая,
Каб аднойчы, ды знайшло —
        Светлае.

***Анатоль ГАЛУШКА***
***в. Магіліцы***
***Івацэвіцкага раёна***

## ВЫТОКІ

Як той парою ззяе лета,
Рака іскрыцца між лазы.
Зіхоткай зоркаю сусвету
Мільгаюць крылы страказы.

Тварэц натхнёнаю рукою
Крануў паветра, і чутно,
Як ліст шапоча з асакою,
Сцяжынка сцеле палатно.

На соннай гладзі азярыны
Размытых хмараў крыгалом.
Тут роднай моваю Скарыны
Гучыць народжаны псалом.

Тут вечна ўсё, як на пачатку:
Палі, дарогі, сінь вады.
І толькі ног маіх сляды
Размылі хвалі без астатку.

## ПОМНЮ

Я ветлівы дотык далоняў тваіх
І пах валасоў тваіх — помню.
І зорнае неба адно на дваіх,
І на дваіх адну — поўню.

Як цэлы сусвет на імгненне заціх,
І толькі пульсацыя ў скронях.
І цёплыя вусны на вуснах маіх —
Я помню, каханая, помню.

Таемных жаданняў і слодыч, і жах
І сэрца, бы ластаўка ў клетцы,
То быццам аціхне ў гарачых грудзях,
То раптам шалёна заб'ецца.

Маўчанне тваё і гамонку вачэй
Гатовы быў слухаць бясконца.
І песню, што ўранку спяваў салавей
Цяплу, і каханню, і сонцу.

Я помню, каханая, помню...

## ПАЛЫН

Сярод кветак сівы, знямелы,
Нерухома застыў палын.
І здалося, што ў свеце цэлым
Ён застаўся такі адзін.

Ён пад небам адзін паволі
Дажывае свой шэры век.
А ля красак прыгожых, кволых
Прыпыняецца чалавек.

Кветкі верацъ у вечнае лета.
Толькі ведае горкі палын:
Перамеле ўсіх — тых і гэтых —
Неспатольнага часу млын...



Ігар СІДАРУК

# НЕ ЗАПАЛЬВАЮЧЫ СВЯТЛА...

*Мініяцюры*



*Ігар Сідарук нарадзіўся ў 1964 годзе ў Кобрыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Аўтар паэтычных зборнікаў «Чарнабел», «Саната Арганата», «Моўкнасць», зборніка прозы «Квадратная варона», кнігі для дзяцей «Павучальныя гісторыі дзядзечкі Сіда Рука» і каля 20 п'ес.*

**Імя Ігара Сідарука вядомае беларускаму чытачу. Гэтую вядомасць (што не роўна растыражаванасці) ён зарабіў і дзякуючы пэўнай правакацыйнасці многіх сваіх тэкстаў, і, што істотна, дзякуючы сапраўды багатаму, значнаму нарobку. У якіх толькі жанрах не выступае Ігар Сідарук: ён паэт, празаік, драматург, аўтар дзіцячай літаратуры.**

**Традыцыйны берасцейскі нумар «Маладосці» прапануе чытачу лірычныя мініяцюры Ігара Сідарука, якія дадавочна супярэчаць міфу пра пурытанскую беларускую літаратуру. Стае аўтару і шчырасці, і далікатнасці — і гэта вельмі ўдзячнае спалучэнне для твораў такога кшталту.**

*Алена КАРП*

## ДЗЕВЯЦЬ АНЁЛАЎ КАХАННЯ

Першым прыляцеў Анёл Подыху — і ўпершыню ты адчула, што вечар можа мець пах нашых вуснаў.

Другім прыляцеў Анёл Гарэзнасці — і ўжо я дзівіўся, чаму раптам ты корміш мяне з лыжачкі мёдам з кавалачкамі цытрыны.

Трэцім апусціўся Анёл Шэптаў — і мы разам прыслухоўваліся, як цалуе вечар залатую лістоту бярозы.

Чацвёртым склаў крылы Анёл Аховы Неба — і ты, гледзячы проста ў вочы, паклала мне ў руку ключы ад таямніцы судакранання...

Пятым сеў строга насупраць Анёл Малітвы — і мы, страціўшы памяць, дзе засталося наша адзенне, нечакана між намі адчулі Бога.

Шостым з'явіўся Анёл Пазнання — і наша здагадка, што Зямля трымаецца на шчырых дотыках цёплых аголеных плеч, ператварылася ў перакананне.

Сёмым хутка ўвіхурыўся Анёл Весялосці — і спявалі, смяяліся, трыумфавалі нашы звонкія целы, гулялі ў хованкі нашы вочы і пальцы, знаходзілі адзін аднаго нашы існасці й сусветы.

Восьмым нерухома прысеў Анёл Самоты — і злёгку здрыганулася твая скура, нібы па ёй прабегліся ўспаміны аб тым, што некалі яшчэ адбудзецца...

І, нарэшце, дзявятым узняўся над намі Анёл Кахання — і зорная ноч згубіла пачатак і згубіла канец; і я ўжо не быў мужчынам, а ты не была жанчынаю, пакольку мы сталі адным, непадзельным; і ўсе Дзевяць Анёлаў — таксама былі ўжо намі.

А потым — ноч скончылася, і засвяціла раніца. Усе Анёлы адляцелі, а ты, абуваючы лёгкія пантофлікі, прамовіла: «Я нават і не заўважыла, калі ты навучыў мяне лётаць!»

Што ж, змоўчу. Нахабна пакідаючы сабе заслугу, якая належыць Дзевяці Анёлам Кахання.

## КАЛІ ЛЕТА НАПОЎНЕНА ПАХАМ ІНТЫМУ...

Сёння пачуў, як няспешна шапоча, як лёгка вібруе ў яблычна-прахалодным паветры твая скура. Бязгучна кранаўся і сонечна цалаваў яе.

Ты смяялася... Так, смяялася! Цябе весяліла тое, што немагчыма спыніць нястрымны рух маіх прагных вуснаў.

А мне кожная нотка твайго сакавітага голасу, бісквітнага смеху адчайна казытала шыю, мядова сцякала запазуху — і я прыціскаў мацней да грудзіны кашулю: нібы прыціскаў не гэтыя таемныя гукі і пахі, а твае палымяныя, як сярэдзіна лета, грудкі, твой абсыпаны рамонкавай жаўцізною жывоцік, твае даверлівыя далоні.

— Ты ведаеш, чым пахне сённяшні вечар?

— Не...

— Ён пахне тваім жнівеньскім подыхам. І калі гэты жнівень нечакана знікне, сатрэцца ды рассыплецца ў залаты пыл, з кожнаю пылінкаю абсыплецца і мая сутнасць.

— Вой, так сур'ёзна!

— Сур'ёзна. Таму што не хачу побач з табой — рассыпацца.

— І не трэба! Што я буду рабіць не са сваім мужчынам, а з пылам, няхай і залатым?!

Што ж, калі я сапраўды твой мужчына... Тады гэты вечар яшчэ пахне — павінен пахнуць — нашымі поглядамі і дотыкамі, нашымі шэптамі і гульнямі, нашымі ўсмешкамі і маўчаннем.

Нашым каханнем, мілая. У якім ніхто не хоча прызнавацца першым...

## ПА ТОНКІМ ДЫ ГАРАЧЫМ ЛЁДЗЕ

— Ты запрашаеш мяне на такі тонкі лёд... А што калі ён праваліцца пада мною?

— Ты думаеш, гэта лёд?.. Нават калі і праваліцца — мае рукі сагрэюць цябе і цела тваё. Табе грэлі калі-небудзь пальцы ног пацалункамі?

— Не... Але я не магу вось так проста крочыць па ім.

— І ўсё ж паспрабуй. Рызыкні, зрабі гэты крок: страшна і коўзка толькі напачатку. Потым будзе адчайна-горача і незваротна. Нельга вярнуцца, калі запрашэнне прынята, і мы ідзём крок у крок, і раніца яшчэ не хутка.

— Мы ідзем сярод ночы?

— І сярод, і скрозь, ад пачатку да самага канца. Сярод ночы, якая плавіць, якая ператварае ў гарачую, даўкую вільгаць не толькі халодны лёд. Паглядзі, якімі бурштынавымі, яркімі, буйнымі кроплямі зрабіліся нашы пагляды. Якімі цёплымі, ліпеньскімі павевамі мы кранаемся адзін аднаго. Адчуваеш? Як перахоплівае і ўзносіць дыханне шчымлівая, чыстая сутнасць бясконцага падзення ці ўзлёту...

— Дык падзення ці ўзлёту?

— А як, якім словам яшчэ назваць, калі раптам нястрымным смехам успыхваюць нашы вочы?! І я сам гляджу ў твае вочы і правальваюся не толькі пад лёд, але і пад агромністы, бурлівы акіян, лячу ў бездань, узношуся да тых зорачак, кожная з якіх мае назву асобнай літары твайго імя.

— Так мала?

— Чаго?..

— Зорачак!

— Не хвалюйся, яператвару іх у свае пацалункі. Якімі сагрэю не толькі пальцы тваіх ног. Цёплыя, як летнія рамонкі, я пакіну іх на тваіх плячах — і плечы ператварацца ў сонечныя, вясёлыя палянкі. Дакрануся да шыі — і шыю ахопяць каралі з малін, суніц і хмелю. Абсыплю жывот і грудзі — і кожная кропля цела будзе свяціцца зоркаю, якіх, спадзяюся, у мяне ўсё ж хопіць.

— Хачу спадзявацца...

— Пачакай, ты ідзеш? Дзе ж ты?..

— Я ўжо — на тваіх руках!

## ПАД ТВАІМ НАСМЕШЛІВЫМ ПАГЛЯДАМ

Я раптам адчуў, што ніколі ў жыцці не цалаваў такія прыгожыя вусны. Ніколі мая рука не кранулася такой дзіўнай і гладкай скуры, і ніколі жанчына не глядзела на мяне як безабароннае, даверлівае дзіця...

Але перад гэтым мы сядзелі ў кавярні насупраць адзін аднаго, і я адчуваў, як уважліва ты вывучаеш мяне. Ад твайго крыху насмешлівага пагляду не магло схавацца нічога: ні тое, як разліваю духмяную гарбату з маленькага парцэлянавага гарбатнічка, ні тое, як сяджу ў крэсле, які арнамент на маім шэрым швэдры, як нетаропка аглядваю чарговых наведнікаў і, вядома, як гляджу на цябе. Так, ты бачыла і мой пагляд. Просты, адкрыты, мужчынскі. І мне вельмі хацелася, каб ты думала, што я бачу твае вочы, адно толькі вочы.

Магчыма, ты і насамрэч думала, што я бачу адно толькі вочы. Але ў кожнага нармальнага мужчыны таксама ёсць асаблівы пагляд... Калі неадрыўна — на шчочкі, на твар і злёгку на шыю — але бачыш, адчуваеш, уяўляеш астатняе...

...Цьмяна помніцца, як мы пакінулі тую маленечкую кавярню. Як знайшлі, што павінны былі знайсці... Твае вусны крыху прыадкрыліся, і я раптам адчуў, што ніколі ў жыцці мяне не ахутваў пах травянога, чыстага покрыва тонкай мяты дзявочага цела. Нашы душы смяяліся, рукі спявалі, знаходзячы ўсё, што павінны знаходзіць у такія хвіліны нястрымныя, наэлектрызаваныя рукі; а недзе бязгучна ўзрывалася неба.

І нават у гэты міг, у гэты імклівы, вулканічны, шчаслівы міг — ад твайго лёгкага, крыху насмешлівага пагляду не магло схавацца нічога. Ды і не павінна было — хавацца.

## НЕ ЗАПАЛЬВАЮЧЫ СВЯТЛА...

Гэта было абавязковай умоваю. Мы не павінны бачыць адзін аднаго. Як не бачыліся ніколі да гэтага. Толькі тэлефонныя галасы, толькі тэмбры і інтанацыі. Інтанацыі, якія заварожвалі, развярэджвалі, абуджалі ўяленне. З кожным днём, з кожнай размоваю — усё болей і болей...

Таму нічога дзіўнага, што сёння мы побач. Няхай і з гэтай абавязковай умовою. Каб не было расчаравання, каб пасля ўсяго, што адбудзецца, — развітацца лёгка. Урэшце, гэта не так складана: знайсці, дакрануцца, адчуць адзін аднаго ў поўнай цемры. Вось плечы твае і рукі. Вось вусны — яны ў цябе маюць адметны смак: крыху кісла-салодкага чарнасліву і снежнае завірухі, якая сёння валадорыць за вокнамі. Праводжу пальцам па тваіх вуснах. Імгненне — і ён ужо ў палоне...

Ты бярэш маю руку ў сваю, рашуча і адначасна спалохана кіруеш яе рухам...

Мілая дзяўчынка, сонечная мая незнаёмка! Я і сам ведаю, спапяляючы гэты шлях, патаемную і адкрытую сцяжынку, праходзячы па якой вельмі важна, каб ты адчувала камфорт і пяшчоту, незваротнасць і шчымлівы адчай, хвалюючую алагічнасць і цвёрдую правільнасць усяго, што адбываецца паміж намі.

Магчыма, табе крыху страшна і непаўторна вусцішна — але не хочацца спыняцца, не хочацца, каб ужо мае вусны адрываліся ад тваіх, не хочацца, каб мае пальцы спынялі гэты няспешны вальс, нетаропкую прыцішаную баладу, пранікнёнае ўрачыстае лунанне.

Лунанне сярод кропелек роснага, цёплага воску, водарнай, тонкай, паглынаючай да самага апошняга вынятку атмасферы.

А потым... Потым ты пойдзеш. І мы так і не запалім святла. Навошта?

Дастаткова таго, што ўспыхнула, што згарэла. Ці, магчыма, пакуль толькі заіскрылася ледзь...



Анатоль ДЭБІШ

# ЧАС І ЛЁС



*Анатоль Дэбіш нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Шамятоўка Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў Мінскі інстытут культуры. Жыве і працуе ў Брэсце. Аўтар зборнікаў паэзіі «Калядная вячэра», «Стодзівы».*

**Гадоў дваццаць пяць таму ў часопісе «Маладосць» з'явіліся першыя творы Анатоля Дэбіша. І былі яны светлыя, энергічныя, і, чытаючы іх, хацелася самому пісаць гэтак жа светла і энергічна. І некаторыя маладыя паэты пісалі пад Анатоля Дэбіша. А сам Анатоль пасля першых яркіх публікацый то з'яўляўся ў друку, то знікаў на гады. І ягонае творчае маўчанне трывожыла, бо мне, думаю, і не толькі мне, не хапала часам твораў паэта. І сёння, чытаючы новыя вершы Анатоля, я радуюся, што ён не ўцёк ад музы і, ведаючы яго, кажу яму на будучае: «Не знікай!»**

*Віктар ШНІП*

* * *

Адляцелі дзесь за хмары
Дні маленства залатога.
Засталіся толькі мары,
Толькі мары — больш нічога.

Дом драўляны над ракою
І да могілак дарога.
Засталіся толькі мроі,
Толькі мроі — больш нічога.

Зараслі травою градкі:
Ні гумна цяпер, ні стога.
Засталіся толькі згадкі,
Толькі згадкі — больш нічога.

Не прайсці сцяжынай роснай,
Не вярнуцца больш дадому.
На гарышчы ладзяць кросны
Не палотны — сум і стому.

Скрозь зямлю парослы ганак
На гарбе трымае дзверы.
Промнем сонца весні ранак
Зноў кладзецца на шпалеры.

На пусты халодны ложак,
На знямелую падлогу,
На мяне-былога, можа...

Дзень пражыў — і дзякуй Богу!

## ПЕРШЫ КРОК

Зрабіць бы толькі першы крок,
Набрацца мужнасці і моцы.
А там — другі, а там — скачок,
І я — лячу, бо спрыту — досыць.

Калі узведзены курок
Мне жахам сэрца разрывае
Зрабіць бы толькі першы крок,
А там... Там — смерці не бывае.

* * *

Пялёсткі суму і святла
На весні дол рассыпаў сад.
Дзень адыходзіць. Ноч прыйшла —
Стаіць каханкай ля прысад.

Баіцца, быццам праганю
Ці асуджу яе прыход.
Ці браму ёй не адчыню,
І клямкі цяжкія варот.

О, госця дзіўная мая,
Заходзь, мой двор і дом — пусты!
Цябе даўно чакаю я.
Такі ж самотнік, як і ты.

* * *

Маленькай здрады — не бывае,
Яна — ці ёсць, а ці няма.
Іуду хтосьці дакарае...
Мо дакараеце дарма?

Хто мы, што трызнім Вечным раем?
Як нам зямных пазбыцца бед?
У іншых кветку зла шукаем,
Не заўважаючы ў сабе.

Вякі прайшлі, а зло не гіне.
Хто вінаваты ў тым, скажы?
Зло не павісла на асіне.
Зло не распята на крыжы.

* * *

Сусвет люляла сонца зранку
Праменнем ласкі і дабра.
Ды раптам бліснула маланка,
І хлынуў дождж, нібы з вядра.

Пярун хрысціў рукою ката
Лугі, палеткі, і бары.
Гарэла бацькавая хата,
Згарэў ля хаты клён стары.

Агню вятрыска рваў салому
І нёс па вёсцы — з дому ў дом.
А мне здавалася, малому,
Ўсё гэта толькі дзіўным сном.

Між слёз нявер'я і адчаю —
Блукаў з вядзерцам ля вады.
І зараз я яго трымаю
Ў руках сваіх — як і тады.

Сярод жыццёвай навальніцы
Куды іду? І дзе мяжа?
Ці гэта існа ўсё, ці сніцца?..
Не затушыць душы пажар.

* * *

Быў колісь я крылаты,
Шлях выбіраў прамы.
Калі на сэрцы краты —
Няма страшней турмы.

Ля бацькавае хаты
Раслі, як дрэвы, мы.
Калі на сэрцы краты —
Няма страшней турмы.

Вясною — быў араты,
Цясляр — сярод зімы.
Калі на сэрцы краты —
Няма страшней турмы.

Ні мамы, і не таты,
Адзін грудок нямы.
Калі на сэрцы краты —
Няма страшней турмы.

Адны за мною страты,
Дзён спаленых дымы,
І ціснуць сэрца краты,
Што горай ад турмы.

Што маю — тым багаты.
Гуляй, сяброў гурма!
Раструшчаныя — краты,
І рушыцца — турма.

*Зінаіда ДУДЗЮК*

# АДНАРОГ

## *Аповесць*



*Зінаіда Дудзюк нарадзілася ў вёсцы Слабодка на Браслаўшчыне. Скончыла Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут. Жыве і працуе ў Брэсце. Аўтар зборнікаў паэзіі «Праводзіны птушак», «Абрысы лета», п'ес, празаічных твораў.*

**І ў сённяшнім дні, калі праз інтэрнэт маем магчымасць зазірнуць у самыя патаемныя куточкі зямлі, нам, прынамсі, нашай літаратуры, аніяк не абысціся без міфічных істот. Таго ж славутага Аднарога. Як ён пачуваецца ў глухой беларускай вёсачцы? Гэта і паспрабавала высветліць Зінаіда Дудзюк. Вёска XX—XXI стагоддзяў і мястэчка XXV(VI—VII) стагоддзяў для Аднарога аднолькавыя, ці ледзь не аднолькавыя, а вось чытачу Будучыня ў «выкананні» пісьменніцы ці прыйдзецца даспадобы?.. Відаць, пакажа час і ўсё тая ж Будучыня, якая прыйдзе сама. Трэба толькі крышку пачакаць...**

*Аддзел прозы часопіса «Маладосць»*

### 1

Уладзік ехаў у дзіцячай калясцы, круцячы рукамі высокія колы, і яна пацiху пхалася па пясчанай дарозе. Найбольш ён баяўся загрузнуць у пяску, старанна аб'язджаў небяспечныя мясціны, а на ўсялякі выпадак меў пры сабе моцны кій, каб можна было скрануць сваю таратайку з месца, як човен, які сеў на мель. Вецер задзіраў угору ягоную выбеленую за лета грыўку, казытаў у носе насеннем травы і пылам, шкуматаў майку. Хлопчык зірнуў на таполі, што ўсхвалявана шумелі пры дарозе, на неба, дзе сабраліся шэрыя хмаркі, і падумаў, што, мусіць, будзе дождж. Хутка пачнецца восень, ягоныя равеснікі пойдуць у другі клас, а яму давядзецца сядзець дома. Асабліва было горка, калі пачыналася непагадзь ці навальвала снегу, тады нават на вуліцу не выйдзеш. Добра, што былая настаўніца, а цяпер пенсіянерка, Леакадзія Максімаўна, зімой навучыла яго чытаць і пісаць. Цяпер Уладзік чытаў усё, што толькі трапляла ў рукі, а пісаў неахайна і не любіў гэты занятак.

Зараз ён спяшаўся. Хацеў паспець да прыходу аўталаўкі, бо ў хаце не засталося ані крошкі хлеба. Грошай у хлопчыка таксама не было, але ён спадзяваўся пазычыць у каго з вяскоўцаў, каб потым з пенсіі аддаць. Гэтак ён рабіў і раней, калі мама некуды сыходзіла. Ён атрымліваў дапамогу па інваліднасці і пры сваіх нерухомых нагах адчуваў сябе даволі самастойным чалавекам. Хвароба ягоная была не безнадзейная. Дактары браліся лячыць, але ўсё нешта замінала гэтаму. Двойчы мама здабывала недзе грошы, везла сына ў сталіцу, але так і не магла давезці. Першы раз

яна сказала, што грошы ў яе ўкралі, другі раз, што сама згубіла. Што і гаварыць, не шанцуе Уладзіку. Учора захварэла маленькая сястрычка, пасінела ўся, зрабілася непрытомная. Маці павезла яе ў райцэнтр, і да гэтага часу не вярнулася. А Уладзіку думай і рабі, што хочаш, а дома ж сякая-такая гаспадарка: парсючок, куры, кот. І ўсе есці хочуць. Ён нарваў парсючку травы і ўкінуў у карыта. А куры з катом няхай самі якую ежу шукаюць. Сабе ён назбіраў недаспелых яблыкаў і ўсе паеў да абеду, але ж яблыкамі сыты не будзеш. Хочацца хлеба...

Над вуліцаю нізка і хутка, як стрэлы, снавалі ластаўкі, і Уладзік прыйшоў да канчатковай высновы, што будзе дождж. Пра такую прыкмету казала бабуля Маня, калі была жывая. Зноў яму давядзецца падстаўляць вялікую міску пад дзірку, дзе працякае страха. Гэтая старая хата дасталася маме ад бабулі, якая летась памерла, а раней, гадоў колькі таму, Уладзік жыў у горадзе. А потым тата паехаў некуды на заробкі і знік, не адгукаўся ні лістом, ні званком. Мама засталася з хворым сынам, вось і мусіла вяртацца ў вёску. Эх, каб пасяліцца хоць бы ў аграгарадку! Там школа блізка, хлопцаў-равеснікаў шмат, а тут адны старыя, як яны самі кажуць, дажываюць век. А яшчэ лепш было б, каб Уладзік умеў лётаць, як ластаўкі. Адна хвіліна — і ты ўжо ў тым канцы вуліцы, другая — назад вярнуўся. Гойсай куды хочаш, хоць за возера, хоць за балота, хоць за лес з ранку да вечара. І ніякае табе перашкоды!

На імгненне страціў Уладзік пільнасць — і ягоная таратайка забуксавала, па самыя восі ўлезла ў пясок. Ах, каб ты спрахла! Як жа гэта можна так варон лавіць! Уладзік узяў кій, упёрся ім у зямлю, спрабуючы зрушыць каляску з месца. І так налёг на левы борцік, што каляска наогул перакулілася, а яздокываліўся з яе проста ў пясок. Ён сеў, абтрос пыл з майкі і трусоў, паставіў каляску на колы, выпхнуў на цвярдзейшае месца, але ўзлезці ў яе з зямлі не ўдавалася. Таратайка была старая, няўстойлівая, на высокіх колах. Яна ці перакульвалася, ці, нібы здзекваючыся, ад'язджала ўперад. Уладзік раззлаваўся, пачаў апантана накідвацца на каляску, але яна зрабілася яшчэ больш непаслухмянай.

Звычайна ягоная карэта стаяла ў двары каля ганку. Уладзік выпаўзаў з сянец і без цяжкасці зверху ўвальваўся ў сярэдзіну. А цяпер паспрабуй асядлай яе знізу. З дакукаю хлопчык думаў, што пакуль ён тут валаводзіцца, аўталаўка паедзе і яму давядзецца жыць без хлеба. Вернецца мама, а ў яго і на раз няма чаго ўкусіць. Ад гэтых думак яму зрабілася крыўдна, ад уласнай бездапаможнасці, на вочы нагарнуліся слёзы, ён выцер іх брудным кулачком і стомлена сцішыўся. Заставалася чакаць, што нехта з вяскоўцаў заўважыць яго і дапаможа. У такіх выпадках у яго заўсёды ўзнікала адно пытанне: чаму ўсе дзеці здаровыя, бегаюць па вуліцы, сябруюць, ходзяць у школу, а ён не можа? Адказу не было, замест яго з'яўлялася адчуванне страшэннай несправядлівасці, з якой ён вымушаны мірыцца.

— Што, брат, аварыя здарылася? — пачуў за спінай Уладзік голас дзеда Карнея Лесняка і ўзрадавана азірнуўся.

— Ага, перакуліўся, — азваўся хлопчык.

Карней падняў худзенькае Уладзікава цела і пасадзіў у каляску.

— Слаба ты, хлопец, расцеш. Лёгкі, як пушынка, — сказаў Карней, штурхаючы перад сабою каляску.

— Каб я хадзіў, дык і рос бы, а так сяджу, бы корч пры дарозе, ніякага руху...

— Калі цябе ўжо маці адвязе да доктара?

— Не ведаю... Учора наша Ангелінка захварэла... Мама як павезла яе ў бальніцу, дык яшчэ не вярнулася.

— Нічога, патрывай, будзеш ты бегаць. Ніхто цябе не дагоніць, — суцешыў стары малога.

З двара ўслед за Карнеем выйшла жарабя. Было яно такой чыстай белай масці, што на сонцы аж балюча на яго глядзець. Здавалася, што поўсць зіхціць і пераліваецца срэбрам. Уладзік радасна заўсміхаўся, паклікаў да сябе стрыгунка:

—Косю-косю-косю!

Але жарабя не звярнула на яго аніякае ўвагі.

— Жарэбчык да чужых не ідзе, — заўважыў хлопчык.

Карней паправіў яго:

— Гэта кабылка, Уладзік. А кабылкі заўсёды больш асцярожныя...

— Прыгожая! Пашанцавала табе, дзеду, — такога коніка сярод балота напаткаць...

— Не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло...

Пра тое, што Карней заблукаў у лесе, калі хадзіў у чарніцы, ведала ўся вёска. Два дні яго шукала міліцыя, а ён з'явіўся сам з жаробкаю і здзіўляўся, чаму яго шукалі, калі ён у тым лесе мо ўсяго гадзін на пяць забавіўся... Вясковыя жанчыны вырашылі так: мусіць, у Карнея падняўся ціск (калі дзед яго мерае?), страціў чалавек прытомнасць, а пасля ачомаўся ды і прысунуўся дахаты. Не стаў ім Карней тлумачыць, што тым днём ягоны гадзіннік быццам спыніўся... Ды і ўвогуле, хіба пра ўбачанае раскажаш? Падумаюць, звар'яцеў Карней. А вінавата ў прыгодзе якраз і было гэтае самае жарабя. Пайшоў за ім следам, хацеў злавіць. А яно ўсё не давалася, вось і прывяло старога дурня невядома куды...

Уладзік абарваў Карнеевы згадкі і папрасіў:

— Дзеду, пазыч, калі ласка, мне грошай на хлеб да пенсіі.

— Пенсіянер пенсіянеру ніколі не адмовіць, — усміхнуўся Карней. — Мо да хлеба яшчэ чаго хочаш прыкупіць?

— Не, мама сварыцца будзе... Мне толькі хлеб трэба. А там яна, як вернецца, дык няхай сама купляе...

## 2

Жанчыны сабраліся на пляцы каля будынка школы, што стаяў з павыдзіранымі вокнамі і разбітымі дзвярамі. Сюды звычайна прыязджала аўталаўка па аўторках і пятніцах. Здалёк сялянкі заўважылі Карнея, які ішоў злёгку накульгваючы (даўно балела правае калена) і вёз Уладзіка ў калясцы, прыязна заўсміхаліся.

— Нашы кавалеры ідуць, — сказала цётка з круглым тварам.

— Акрыяў Карнейка, а я думала не выжыве пасля смерці Мальвіны. Такі ўжо хадзіў як у ваду апушчаны, — уздыхнула другая.

— Яго жарабя на свеце і трымае. Ёсць дзеля каго жыць, — заўважыла трэцяя, — А слухайце, што чула... Фельчарка наша казала, што Інка моцна напілася і дала цыцку сваёй Ангелінцы. Дзіцятка як насмакталася таго малака з гарэлкаю, дык і пасінела ўсё. Цяпер у рэанімацыі ляжыць. Інка, мусіць, зноў запіла, а Уладзік без нагляду застаўся.

— Беднае хлапчанё, — заківалі жанчыны галовамі.

— Бяда, калі няма бацькі, а калі яшчэ і маці п'яніца — дык зусім гора вялікае, — сказала старая Тэкля, што сядзела на лаўцы, абапіраючыся на кіёк.

Да гурту падышоў мужчына сталага веку, жанчыны сустрэлі яго з павагаю.

— Як маецеся, Платонавіч? — спытала бойкая кабета.

— Нічога, жыву паціху.

— А дзе ж твая Максімаўна?

— Ды зноў паехала некуды па справах. Няма ёй ні пенсіі, ні адпачынку. Ды і гэта не блага. Я вось каторую з вас абдыму...

Платонавіч абшчаперыў тую, бойкую і мажную кабеціну. Яна роблена заверашчала, потым засмяялася, але не вырывалася, а даверліва тулілася да мужчыны. Ён выпусціў яе з рук, сказаў:

— Ладная ты маладзіца, Вольга, цябе з наскоку не абдымеш, трэба спярша патрэніравацца.

— Няма на каго мне сваю ласку траціць, хіба толькі на кароў, вось і абрастаю салам. Гэта мой арганізм так сябе бароніць, — яна зноў засмяялася.

На ўсю вёску засталося толькі двое мужчын: Платонавіч, жанаты з Леакадзіяй Максімаўнай, ды аўдавелы Карней. Жанчын жа было болей як дзясятак. Праўда, год таму з'явіўся ў вёсцы яшчэ Іван, мужчына няпэўнага ўзросту, якога тутэйшы люд называў Прыблудным. Прыйшоў ён невядома адкуль, заняў адну пустую хату і пераконваў усіх, што яму гаспадар дазволіў тут жыць. Іван нідзе не працаваў, шныраў па ваколіцах, падбіраў усё, што дрэнна ляжала, тым і жыў. Часта яго бачылі моцна п'яным. Старая доўгая вёска Вырай абязлюдзела і дажывала век, як і яе апошнія жыхары, якія, прадчуваючы свой паступовы зыход, стараліся трымацца гуртам, прыязна і сціпла.

У гэты час да вяскоўцаў падышлі Карней з Уладзікам, і ўсе позіркі зацікаўлена скіраваліся да іх. Мужчыны павіталіся за руку. Платонавіч не абмінуў увагаю Уладзіка. Хлопчыка гэта вельмі парадавала. Да пенсіі Платонавіч працаваў настаўнікам, усе яго паважалі, і для малога быў вялікі гонар — павітацца з ім за руку.

— Уладзік, а дзе твая мама? — спытала Вольга.

— Ангелінку ў бальніцу павезла, — адказаў хлопчык.

— А што здарылася з тваёю сястрычкаю?

— Захварэла раптам, пасінела ўся...

Вольга акінула прысутных шматзначным позіркам, маўляў, я ж вам казала, і працягвала дапытваць малога:

— Дык ты сёння сам начаваў? І не страшна табе?

— Ці мне першы раз... Чаго баяцца?

— Малайчына Уладзік, сапраўдныя мужчыны нічога не баяцца, — падтрымаў хлопчыка Платонавіч.

Старая Тэкля між тым уважліва разглядвала жарабя, белую гладкую поўсць, хвалістую грыву, нарэшце прамовіла:

— Карней, час табе падстрыгаць сваё жарабя. Бач ты якую грыву адгадаваў, ажно ў вачах ад яе цёмна.

— Малое яно яшчэ... Ды і шкода такой прыгажосці...

— Сапраўды, вельмі прыгожая, хоць ты косы заплятай, — заўсміхалася Тэкля бяззубым ротам.

— Ага, Прыблудны таксама яго ўпадабаў. Днямі бачыла, калі даіла кароў на поплаве, што каля жарабяці круціўся. А яно як убрыкне яго, як убрыкне! Чыстую праўду кажу! Тады Іван узяў камень і як шпурнуў! Жарабя ад яго дало лататы...

У канцы вуліцы загула доўгачаканая аўталаўка, узняла пыл, напусціла едкага дыму і спынілася. З кабіны выскачыў малады хлопец, астрыжаны пад корань, усміхнуўся, павітаў грамаду, пачаў адчыняць сваю краму. Нецярплівыя жанчыны пыталі, што прывёз і па чым. Пакуль іншыя прыглядаліся ды прыцэньваліся да тавараў, Вольга набыла два вялікія колцы каўбасы, дзве булкі хлеба і батон, нешта з крупаў.

— Якога хлеба ты хочаш, Уладзік? — спытаў Карней.

— Белага...

— Я вазьму табе таго, загорнутага ў цэлафан. Трымай...

— Дзякую, дзеду, грошы я аддам...

— Вырасцеш, тады і аддасі, — адказаў Карней, разлічыўся з прадаўцом і паштурхаў каляску з Уладзікам перад сабою.

Да іхняга мужчынскага гурту далучыўся Платонавіч, ішоў побач, смаліў цыгарку.

— Кідаў бы ты курыць, — параіў Карней. — Трэба пра здароўе падумаць.

— А твой Кося мяне любіць, бачыш, як хінецца.

— Гэта ж ён цябе шкадуе, — адказаў Карней. — Конь — жывёла разумная.

Платонавіч узлахмаціў грыву жарабяці, пагладзіў рукою лоб і здзіўлена ўскрыкнуў:

— Ды ў яго рог расце на ілбе.

— Скажаш абы-што, — хмыкнуў Карней.

— Сам паглядзі, сапраўдны рог... За грываю пакуль не відно. Дзіўная мутацыя, ці не чарнобыльская аварыя вінавата?

Карней дакрануўся да ілба жарабяці і упэўніўся сам, што Платонавіч казаў праўду.

— Слухай, а можа, гэта сапраўдны аднарог? — спытаў Платонавіч

— Які аднарог? — перапытаў Карней. — Хаця ты біёлаг, табе лепш ведаць.

— Не, гэта звязана не з біялогіяй, а з міфалогіяй. Існуюць паданні, што была такая фантастычная жывёла, падобная да каня з рогам на лбе. Рог гэты быў панацэяй ад усіх хвароб, надзяляў чалавека мудрасцю і здароўем.

— Позна я яго знайшоў, каб раней, мо ён маю Васілісу выратаваў бы...

Уладзік, які ўвесь час не ўмешваўся ў гаворку, узрушана спытаў:

— Дык, можа, мяне той рог палечыць? Як яго спажываць?

— Трэба паглядзець у інтэрнэце, там усялякую даведку можна знайсці, — параіў Платонавіч.

— А яшчэ варта пачакаць, калі рог вырасце, пакуль тут адна гулька, — заўважыў Карней, абмацваючы лоб жарабяці.

— Эх, каб хутчэй пачаць хадзіць! Я б найперш усю вёску аббег, у кожны куток зазірнуў, лес вывучыў бы, як свае пяць пальцаў...

— Усё будзе добра, Уладзік, — абнадзеіў Карней, спыняючыся ля сваіх весніц і раздумваючы, ці не правесці хлопчыка да самай ягонай хаты, але той апярэдзіў яго, сказаўшы, што паедзе сам.

На тым і развіталіся. Усцешаны Уладзік памалу паехаў уздоўж вуліцы, а мужчыны засталіся, спачувальна пазіраючы яму ўслед.

### 3

Ужо прадавец зачыняў дзверцы машыны, калі да яго падбегла Іна і пачала прасіць:

— Пачакайце, прадайце дзве пляшкі гарэлкі.

Жанчыны ажно аслупянелі ад такой просьбы, а Вольга не стрывала і спытала:

— Скуль у цябе грошы на гарэлку?

— А табе што?

— Зноў да Івана Прыблуднага ўнадзілася? Зрабіў табе Ангелінку, яшчэ каго зробіць!

— Я ў цябе, цётка, есці не прашу! Не твая справа!

— Чаму Уладзіка не лечыш? Прападае дзіця! Яму б зараз лётаць, а ён вымушаны поўзаць, як чарвяк!

— Я за яго грошы жыву! І Ангелінку кармлю!

— Вой, абое рабое! Што ты сабе думаеш, дзеўка, сап'ешся, на каго дзяцей пакінеш? Уладзік адзін дома. На хлеб у Карнея грошай прасіў, а ты з гэтым злодзеем, п'янюгаю цешышся! — абурана азвалася Алена.

— Адчапіцеся, бабы, Іван мяне кахае, а вы зайздросціце! — адрэзала Іна і зноў пачала прасіць хлопца, каб прадаў ёй дзве пляшкі.

Той не стаў адмаўляць пакупніцы. Не меў права. Інка ўзяла гарэлку, прыціснула бутэлькі да жывата і хуценька пашыбавала ўздоўж вёскі, худая, даўганогая.

Жанчыны прыняліся лаяць Прыблуднага Івана, са з'яўленнем якога ў вёсцы пачало рабіцца абы-што. Яны былі пераканаglobalны, што гэта ён павыдзіраў вокны са школы; папрадаваў у іншых вёсках усё начынне, якое знайшоў там; парты пасек і спаліў замест дроў. У вяскоўцаў таксама пачалі знікаць чыгуны, косы ды іншыя жалезныя рэчы — Іван збіраў металалом. Але рабіў свае злачынствы ён таемна, ніхто яго за руку не злавіў. Усё, што Прыблудны мог панесці на сабе, цяпер трэба было хаваць і замыкаць. Раней якая жанчына ідзе на поле, зачыніць хату на затычку, каб відно было, што яе няма дома, а цяпер усе вешаюць вялізныя замкі, бо як Іван улезе, усё выграбе са скрыні, яшчэ і гаршчкі ў печы выліжа. Апусцелыя хаты ён даўно ўжо абшнырыў і вынес усё, што толькі мог. Гэта ж не чалавек — а насланнё нейкае, кара Боская!

Аўталаўка даўно паехала, а жанчыны ўсё стаялі, не разыходзіліся, разважалі пра свае вясковыя праблемы, а іх, як звычайна, было нямала. Захопленыя гутаркаю, яны і не заўважылі, як да іх пад'ехала на веласіпедзе Леакадзія Максімаўна, былая настаўніца тутэйшай школы, павіталася, і жанчыны спачатку паведамілі, што яе Платонавіч набраў цэлы мех харчоў ды пайшоў дахаты, а потым з абурэннем пачалі расказваць ёй пра Інку, якая, аказваецца, Уладзіка не лечыць толькі таму, што жыве на ягоную пенсію.

— Вы разумная жанчына, прыдумайце, Максімаўна, як дапамагчы хлопчыку, — сказала Вольга. — Зусім сап'ецца Інка з гэтым Іванам.

— Буду ў раёне, параюся з начальствам... Хоць няма ў мяне веры... Расчаравалася я зусім... і ва ўсіх, — адказала Леакадзія Максімаўна.

— Калі ўжо і вы, дык што ж нам? — адказала Вольга і спагадліва спытала. — А вы ўсё за школу ваюеце?

— Што ўжо за школу ваяваць, калі няма дзяцей у вёсцы? Хоць бы музей стварыць... Міне колькі гадоў, нікога з нас не застанецца... Знікне, памрэ разам з намі вёска Вырай. Каб хоць якая памяць засталася. З нашага селішча выйшла шмат адукаваных людзей. Няхай бы іхнія ўнукі прыязджалі ды пра сваю радзіму і род нешта даведваліся...

Жанчыны згоднаківалі ў адказ галовамі і з гаркотаю ўяўлялі той час, калі ўсе яны перасяляцца на могілкі да продкаў, а ў вёсцы застанецца адзін Іван Прыблудны рабаваць рэшткі іхняга жытла. І зноў не стрывала Вольга і прамовіла:

— Памажыце, Максімаўна, як бы нам выгнаць гэтага Прыблуднага Івана з вёскі, ён нам усё жыццё атруціў.

— Мы выганім, а ён, як зараза, у суседняе сяло пяройдзе, — адказала Леакадзія Максімаўна.

— Ён жа Інку зводзіць! Пакуль не было яго, жыла яна маладзіца маладзіцай. А цяпер як звар'яцела ўсё роўна, — даводзіла Алена. — Ненавіджу п'яніц, так за век свой нагаравалася з гэткім жа, дзясятаму закажу...

— Трэба з участковым параіцца, мо ён што прыдумае...

**4**

Карней у паўвуха слухаў расповед Платонавіча пра нашых футбалістаў, якія перамаглі казахскую каманду, а сам усё думаў пра свайго Косю. Ці не Іван гэта жарабяці каменем набіў гузака? А калі сапраўды ён той самы міфічны аднарог, што завёў яго невядома ў які час, дзе ўсё інакшае... А мо, гэта сон такі быў? Прымроілася нешта, быццам на яве...

Карней з Платонавічам сядзелі на лаўцы ў цяньку пад бэзам, тут жа прымасціўся і згарнуўся клубочкам кот, быццам драмаў пад іхнюю гамонку. Між штыкецін пралезла курыца і нешта дзяўбла ў сябе пад нагамі. Жарабя скубло траву каля плота.

— Паслухай, Платонавіч, я думаю, мо гэта Іван набіў майму жарабяці шышку на лбе, а ты выдумаў, што ён аднарог.

— Давай паглядзім... Вось акуляры на нос уздзену, — з гатоўнасцю адказаў Платонавіч.

Карней паклікаў жарабя, і яно паслухмяна прыбегла да гаспадара, тыцнулася храпаю ў далонь. Платонавіч разгроб грыву, уважліва разгледзеў шышку, якая нагадвала вялікую чорную перліну, а самы канец быў чырвоны, быццам упрыгожаны рубінам, памацаў пальцам і зрабіў выснову:

— Натуральны рог! Ніякае гематомы няма... Рог, ён і ёсць рог! Дажыліся! З-за чарнобыльскай бяды ўжо коні рагатыя нараджаюцца...

— А калі ён сапраўды аднарог? — дапытваўся Карней.

— Ну, гэта ж толькі казка! — засмяяўся Платонавіч. — Хаця ў сярэднявеччы людзі ахвотна верылі ў гэтую казку. Лекі з чароўнага рога шырока прадаваліся і каштавалі дужа дорага.

— А раптам сапраўды такая жывёла жыла на свеце?

— Не думаў я, што ты, Карней, такі рамантык. Але калі ўжо на тое пайшло, дык слухай. Шмат хто паляваў на аднарога, але злавіць яго было немагчыма. Толькі ж да цнатлівай дзяўчыны ён падыходзіў сам, клаў ёй галаву на прыпол і заміраў. Разумееш, Карней, цнатлівак ён любіў! А твайму аднарогу не будзе з кім душу пацешыць. У нас адны старыя бабы. Праўда, Інка маладая, ды і тая збілася з дарогі.

Платонавіч задуменна зірнуў удоўж вуліцы і ўзрадавана сказаў:

— Мая палавіна едзе... Зараз нешта раскажа цікавейшае...

Да іх наблізілася на веласіпедзе Леакадзія Максімаўна, звыкла прытармазіла, па-маладому саскочыла з двухколавай машыны, прывіталася. Па яе твары Платонавіч адразу зразумеў, што настрой у жонкі дрэнны: вусны падціснутыя, бровы ссунутыя да пераносся.

— Ну, што ты, Ліка, выездзіла? — спытаў Платонавіч у жонкі.

— Анічога, хваробу сабе на галаву, — раздражнёна адказала яна.

— Колькі разоў казаў табе: пайшла на пенсію, дык адпачывай, займайся сабою, а то ўсё шукаеш нейкіх прыгод.

— Як ты можаш так казаць, калі школа, якой ты аддаў усё жыццё, развальваецца на вачах? А з яе ж палац можна зрабіць, музей, ды ўвекавечыць нашу вёску і тысячы тых людзей, якія абраблялі гэтую зямлю ці нарадзіліся тут і шчыруюць дзеля беларускай навукі і культуры! У нас жа нават акадэмік ёсць!

— Годзе мітынгаваць, я ж заўсёды быў за адно з табою! Але супраць плыні не паплывеш! — паспрабаваў супакоіць жонку Платонавіч. — Мо дарма ты далёка ходзіш па дапамогу? Папрасі нас з Карнеем, і мы паціху пачнём ладзіць стэнды для твайго музея проста ў нас дома. Збірай матэрыялы. Раней у Вырай людзей больш прыбывала, чым выбывала. Некалі і мы, залётныя птахі, звілі тут з табою гняздо. Цяпер з нашага Выраю людзі, на жаль, адно на могілкі вылятаюць. Як ні круці, мы

ўжо не маладыя. Застанецца пасля нас дом-музей, падорым яго сельсавету і будзем з таго свету назіраць за ім...

Леакадзія Максімаўна горка ўсміхнулася і прамовіла:

— Люблю цябе за тваю разважлівасць, усё жыццё я гару, як агонь, а ты павольны, быццам вада ў нашым возеры.

— Эге, падчас навальніцы наша возера так можа ўсхадзіцца, што ўсялякую лодку перакуліць, — заўважыў Карней.

— Мой Платонавіч у маладосці таксама шмат пласкадонак куляў, ледзьве яго ўтаймавала, — засмяялася жанчына. — Затое цяпер ён капітан бывалы, ніякага шторму не баіцца і кіруе нашым сямейным караблём дасведчана і разумна. Пайшлі, капітан, даўно абедаць пара, годзе чужыя лаўкі праседжваць. Ну і прыгожае жарабя ў цябе, Карней, проста, як лялька, не налюбуюся...

Платонавіч нетаропка падняўся з лаўкі і пашыбаваў услед за жонкаю. Карней працягнуў руку да Косі, памацаў рог на ілбе і сказаў сабе:

— Пажывём — пабачым, што ў цябе там вырасце.

Аднекуль з другога канца вуліцы пачуўся лямант, плакала жанчына. Карней прыслухаўся, пазнаў голас Вольгі і пайшоў на яго. Здалёк пачуў, што яна ці то прасіла дапамогі, ці то праклінала каго. З двароў павыходзілі жанчыны і нетаропка пасунуліся ёй насустрач. А Вольга бегла сама, без хусткі, з распатланымі валасамі і заплаканымі вачыма.

— Людцы добрыя, ратуйце! Злодзей грошы ўкраў! Усё да капеечкі выцягнуў! А Божачка літасцівы, што ж мне цяпер рабіць?!

Вяскоўцы абступілі Вольгу, пачалі распытваць, што з ёю здарылася. Тая распавяла, што грошы, якія атрымлівала за здачу малака, хавала пад падушку, кінулася ў схованку, а яна пустая, маўляў, і сабакі не брахалі, а грошы ўкралі...

— Мо ты куды ў іншае месца паклала ды забылася? — спытала старая Тэкля. — Я часцяком гэтак, нешта абы-дзе кіну, а пасля шукаю...

— Не, цётачка, адна ў мяне схованка была....

— А ці шмат грошай? — пацікавіўся Карней.

— Не ведаю, апошнім часам і не лічыла... Атрымаю за малако ды і загарну ў хустачку...

Карней зразумеў, што яна не хоча называць лічбу. Вольга лічылася ў сяле багачкаю, трымала тры каровы, штодня здавала шмат малака.

— Трэба ўчастковага клікаць, — параіў Карней.

Жанчыны хорам пачалі крычаць, што без участковага пераканаfanы: гэта Іванава работа. Інку ён пасылаў да аўталаўкі па гарэлку, а раней жа сам гнаў самагонку ў лесе ды яшчэ мужчынам у суседнюю вёску прадаваў. Скуль у яго грошы? Жанчыны раілі Вользе ісці да Івана і патрабаваць украдзенае, а яны будуць сачыць, каб чаго не здарылася... Карней не стаў увязвацца ў гэтую бабскую авантуру, пашыбаваў з Косяю дамоў, бо разумеў, што ў прайдзісвета дарма пытаць праўды. Калі ён сапраўды ўкраў грошы, дык хіба аддасць па добрай волі, а пакуль факт кражы не даказаны, дык чалавека нельга злодзеем называць. Прэзумпцыя невінаватасці...

## 5

Вольга рашуча кіравала да хаты, дзе жыў Іван. Гнілы плот паваліўся, стары сад здзічэў і зарос крапівою. Шыбы ў вокнах такія брудныя, што і занавесак не трэба. Вольга асцераглася зазіраць у акно, ступіла на хісткі ганак і пагрукала кулаком у дзверы. Прыслухалася, пачула галасы ў хаце, і раптам дзверы прыадчыніліся — спа-

чатку высунулася кудлатая Іванава галава з п’янымі вачамі, потым узнік аголены ягоны торс, увесь размаляваны татуіроўкамі.

— Чаго табе, цётка? — спытаў раздражнёна, падазрона азіраючы яе з ног да галавы.

— Дык прыйшла спытаць, ці не браў ты маіх грошай?

— Што? — раптам зароў Іван дзікім голасам і выйшаў на ганак зусім голы. — Я табе пакажу грошы!

Вольга затуліла вочы далонямі, каб не бачыць гэткага сораму, і рынулася з двара, як ад нячыстай сілы. Жанчыны, якія цікавалі за Вольгай, не надта зразумелі, што там адбылося, але таксама кінуліся хто куды ўроссып. Іван са свайго двара не паказваўся, мусіць, вярнуўся назад у хату. Калі вяскоўкі адбеглі на бяспечную адлегласць, дык спыніліся, да іх далучылася Вольга.

— Чаго ты, Вольга, так спалохалася? — спытала Тэкля. — Мо ён з нажом ці сякераю да цябе кінуўся?

— Горш, цётка, ён выйшаў голы, як бізун — ды да мяне! А страшны! Аброслы ўвесь, размаляваны ад шыі да ног, ажно сіні! Крый мяне Божа, яшчэ калі такое бачыць...

Жанчыны толькі спачувальна ўсміхнуліся. Вядомая рэч, Вольга ніколі не была замужам, так ужо атрымалася, што за абы-каго не хацела, а выбару асаблівага ў сяле не было. Што ні механізатар, дык п’яніца горкі. Сама яна гаспадарлівая ды старанная. Нашто ёй пустадомак у хаце? У горад не паехала, засталася пры хворай маці, якая пры добрым доглядзе пражыла даволі доўгі век.

— Вось, Волечка, і ўведала ты, што з сябе ўяўляе п’яны мужык. Ён на што заўгодна здатны, ні сораму ў яго, ні розуму, — уздыхнула Алена, якая калісь мела мужа накшталт Івана.

— Бог літасцівы збярог мяне ад гэтае навалы, — перахрысцілася Вольга.

— А што ж ён сказаў наконт грошай? — дапытвалася Тэкля.

— Адразу пачаў пагражаць ды і выскачыў голы, як чорт з балота, — дык мне ўжо і не да грошай стала, каб толькі ногі хутчэй вынесці з двара, а яны быццам да зямлі прыраслі.

— А Інку там не бачыла?

— Не бачыла... Як зірнула на гэтую брыдоту, дык і свету божага не пабачыла! Вочы затуліла — ды бягом...

— Нічога ў нас, бабы, не атрымаецца, — зрабіла выснову Алена. — Трэба да ўчастковага звяртацца. Але ж Іван грошы прап’е, і чым дакажаш, што гэта ён злодзей?

— Скажам участковаму, што ён самагонку гоніць у лесе, няхай яго аштрафуюць, — прапанавала Тэкля.

— Хто з нас тую самагонку не гоніць? Як без яе жыць, калі за ўсё трэба плаціць людзям? Пакасілі — плаці, памалацілі — плаці, дроў насеклі — плаці... І што мне з таго штрафу? Хто мне грошы верне? — гаротна выдыхнула Вольга.

— Тэлефануй участковаму, — заключыла Тэкля на правах старэйшай у вёсцы.

Вольга згадзілася, што іншага выйсця няма, і накіравалася дамоў: у яе, адной з нямногіх, быў тэлефон. Жанчыны дачакаліся, пакуль яна схаваецца ў двары, і пачалі абмяркоўваць падзею:

— Спудзіў нашу Вольгу голы мужык! Гэта ж трэба дадумацца — выскачыць галяком, — засмяялася Алена.

Жанчыны таксама заўсміхаліся, уяўляючы, як напалохала гэтакае відовішча дзеўку-векавуху.

— Слухайце, а чаго ён голы, калі там Інка? — спытала Тэкля.

— Таму ён такі, што яна там, — зарагатала Алена з бабулінай наіўнасці.

— Пасмяешся, як сама нарвешся, — папярэдзіла старая.

— А я не спалохаюся! Як пад гарачую руку патрапіць, дык і адцяць магу ягоны мужчынскі гонар!

Жанчыны засмяяліся і амаль паверылі Алене, бо ведалі, якая яна адчайная. Аднойчы, калі яе муж так напіўся, што і на нагах не стаяў, яна абвязала яго вяроўкаю і пацягнула ў возера тапіць. І, мусіць, утапіла б, каб аднавяскоўцы не адбілі. Але ніштто не ўратавала чалавека. Ад гарэлкі ў хуткім часе сам сканаў — захлынуўся ванітамі.

— Жарты жартамі, а ў мяне свінні някормленыя, — спахапілася Тэкля і паціху патупала вуліцаю, абапіраючыся на кіёк, да сваёй маленькай хаткі.

Астатнія жанчыны таксама ўспомнілі, што іх чакаюць справы — разышліся. Вуліца ўраз апусцела, стала па-сірочы няўтульнай. Занадта шмат было тут хат без фіранак і кветак на падаконніках. Тут даўно ніхто не жыў. У большасці жанчын ужо і ўнукі павырасталі, праўнукі нарадзіліся, але не прываблівала болей нашчадкаў родная вёска. Пагубляліся яны недзе ў гарадах, занятыя турботамі, якія не надта разумела старэйшае пакаленне. Чым можна займацца, калі не маеш гаспадаркі, хіба тэлевізар няньчыць? Зрэдзь, калі хто наведваў старую маці, дык гэта было падзеяю на ўсю вёску. Прыходзіла віншавальная паштоўка — чыталі разам. Ды вельмі рэдка здараліся гэтыя святы. Часам Тэкля казала, што горад забраў людзей больш, чым вайна. І жанчыны з ёю згаджаліся. Бо пасля вайны было ў кожным двары па пяцёра дзяцей. Дзе яны цяпер, куды падзеліся? Моўчкі дагнівалі старыя хаты, дажывалі свой век. Дзве нават згарэлі. Людзі казалі, што гэта таксама Іванавых рук справа. А калі пачалі выказваць сваю незадаволенасць, Прыблудны намякнуў, што яны дачакаюцца сваёй чаргі... Людзі ў страху аціхлі і асцерагаліся чапаць Прыблуднага.

## 6

Уладзік чакаў маму. Ён сядзеў у калясцы і пазіраў на весніцы. Хмары, якія ўвесь дзень разгортваліся сувоямі над вёскаю, да вечара скаціліся за далягляд, неба ачысцілася, вецер аціх, і, каб не камары ды мухі, якія гэтай парою былі асабліва ўедлівыя, дык лепшага часу і нельга было жадаць. Уладзік не бачыў сонца, якое схавалася за хатаю і збіралася на начлег. Ды і сам хлопчык збіраўся ўкладвацца спаць. Як жа ён здзівіўся, калі раптам весніцы асцярожна, з рыпам, прыадчыніліся, і ў шчыліну прасунулася белая пыса. Блакітнае вока міргнула чорнымі вейкамі. Уладзік пазнаў Карнеева жарабя, працягнуў да яго руку і радасна паклікаў:

— Кося! Кося! Заходзь у двор! Тут нікога няма! Я адзін!

Жарабя быццам зразумела хлопчыка, увайшло ў двор, тыцнулася ва Уладзікаву далонь. Хлопчык згадаў пра недаедзены батон, які ляжаў тут жа ў калясцы, адламаў ладны кавалак і працягнуў жарабяці. Яно панюхала белы мякіш і пачало нетаропка, са смакам, есці.

— Ах ты, мой ласкавы! Ах ты, мой прыгожы! І ты згубіў сваю маму, а таму мусіш жыць у дзеда Карнея. Я разумею цябе... Без мамы дрэнна. Мая мама хутка вернецца з бальніцы разам з Ангелінкаю. І твая мама знойдзецца, вось пабачыш, — пераконваў Уладзік жарабя, трымаючы на далоні адной рукі кавалак батону, а другою гладзячы яго па шыі.

Кося даеў хлеб, лёг побач з каляскаю, а галаву паклаў на Уладзікавы ногі. Хлопчык доўга гладзіў жарабя і незаўважна заснуў пад высокімі, здавалася, такімі

блізкімі зоркамі. Ён не бачыў, як падалі знічкі, здатныя здзейсніць самае неверагоднае жаданне, не чуў, як кукарэкаў певень, спачатку склікаючы курэй на начлег, а потым будзячы іх раніцаю.

Уладзік спаў і сніў дзівосны горад, дзе цягнікі з яркімі каляровымі вагончыкамі лёталі проста ў паветры, а будынкі былі такія ж круглыя і прыгожыя, як велікодныя яйкі. Людзі хадзілі ў дзіўным лёгкім адзенні, якое шчыльна аблягала целы і пераліваліся рознымі адценнямі, ад цёплых да халодных, быццам рэагавала на кожны павеў ветру. І сам Уладзік быў апрануты гэтак жа. Ён ішоў па вуліцы, такой знаёмай, быццам гэта была тая самая вясковая вуліца ў Выраі, дзе ён цяпер жыў. Звярнуў у парк, які вырас на цяперашнім поплаве. А за паркам было футбольнае поле проста на беразе возера. Там ён угледзеў хлопчыкаў, якія гулялі ў футбол, далучыўся да іх. Гэтых дзяцей ён бачыў упершыню, але здавалася, што яны даўно знаёмыя. Яму крычалі:

— Уладзік, пасуй! Сюды, бі!

Ён часам слухаў каго з сяброў і даваў пас ім, іншы раз вёў мяч туды, куды хацеў, забіваў гол і бегаў, бегаў! З асалодаю! Без стомы і знямогі! Ногі ягоныя былі дужыя і спрытныя! За ім здалёку назірала белае жарабя і, здавалася, радавалася за яго.

Уладзіка абудзіла сонца. Яно пачало свяціць яму проста ў вочы. Ад гэтага сляпучага ззяння, якое прабівалася нават праз вейкі, хлопчык прачнуўся, з расчараваннем пабачыў, што жарабяці побач няма, але ён усё роўна быў удзячны гэтаму хоць і нечаканаму, але такому жаданаму вечароваму госцю.

Уладзік павярнуў каляску, каб сонца не біла ў вочы, і доўга згадваў свой шчаслівы сон, у якім ён быў здаровы і моцны. Як бы яму хацелася вось гэтак не ў сне, а на яве хоць адзін раз згуляць у футбол. За гэта ён гатовы аддаць усе свае хлапечыя скарбы: стары замок без ключа, каляровыя алоўкі і нават кніжку казак, якую яму падаравала Леакадзія Максімаўна.

«Не дарма мне прысніўся гэты сон, — падумаў Уладзік. — Аднойчы вернецца з заробкаў тата, прывязе шмат грошай, якіх хопіць на дарогу да вялікага горада і на лекі. Ён завязе мяне да тых дактароў, якія вылечаць мае ногі. І калі гэта здарыцца, я буду толькі бегаць і хадзіць, хадзіць і бегаць. Мо нават спаць буду стоячы, каб ногі не развучыліся рабіць сваю звычайную справу...»

Да Уладзіка падышоў кот, пачаў мяўкаць і прасіць есці.

— Прагаладаўся? — спытаў хлопчык. — А чаму мышэй не ловіш? Каб у мяне былі такія лапы, як у цябе, я б усіх мышэй разагнаў бы ў вёсцы.

Ён адламаў ад батона невялікі кавалак і даў кату, які сквапна накінуўся на хлеб. Уладзік агледзеў рэшту булкі і засмучана падумаў, што калі і сёння не вернецца мама, давядзецца яму галадаць да новай аўталаўкі, перабівацца яблыкамі.

## 7

Амаль штодня Карней рабіў запісы ў дзённіку. Гадоў трыццаць ужо ён вёў назіранні за зменамі ў прыродзе, каб мець магчымасць параўноўваць і прадказваць надвор'е. З ягоных запісаў было відно, што з кожным годам зіма наступала ўсё пазней, доўжылася мала, а потым надыходзіла зацяжная халодная вясна ды лета з прымаразкамі. Няма ранейшых снежных зімаў, што намяталі гурбы роўна са стрэхамі, і платоў не было відно. Яшчэ ў сакавіку здараліся моцныя завеі. Потым да красавіка снег паступова раставаў. Лета было цёплае, з навальніцамі ды вясёлкамі. А цяпер як пачнецца дождж, ды дзень пры дні пляжыць, пакуль увесь здабытак сялянскі не

пагноіць. Або, наадварот, высушыць усё, хоць ты хросным ходам вакол вёскі хадзі ды дождж заклікай. Аднак зямелька наша, хоць і не надта пладаносная, а ўсё ж стараецца, родзіць. Гадоў дваццаць таму выдаўся такі мокры год, што шмат прапала, ночы былі даволі халодныя, аднак і ў тых умовах знайшлося што сабраць на палях ды агародах. Не ўродзіць бульба, будзе жыта, не завяжуцца яблыкі, то ягады паспеюць ды парадуюць і малых, і старых.

Толькі няма тут запісу, калі памерла ягоная Васіліса. Гэты дзень і хвіліну ён ніколі не забудзе без усялякіх запісаў. Добрая жонка яна была, працавітая, вясёлая. Пагаварыць любіла, іншы раз і занадта. Часам Карней і не слухаў яе, пра нешта сваё думаў, а яна шчабятала сабе, як птушка, невядома пра што. Як яму зараз не хапае яе голасу! Часам шанцуе, заплюшчыць вочы, сцішыцца, задрэмле і пачуе раптам, што Васіліса кліча. Расплюшчыць вочы — нідзе нікога, толькі дрэвы за вокнамі шумяць.

Ён шмат разоў згадваў той момант, калі памерла жонка, і сам у сябе пытаўся, ці мог ён нешта зрабіць. З самага ранку яна пачувалася блага, скардзілася, што вельмі баліць сэрца і галава. І як не балець? Адзіны сын, які вывучыўся на доктара, раптам кінуў жонку, звольніўся з працы, некуды паехаў і згінуў. Быў разумны хлопец, а як здурнеў: ні ліста, ні паштоўкі. Было пра што думаць ды бедаваць Васілісе. Былая нявестка з унукам з таго часу ні разу на вочы не паказалася. Карней ездзіў у сталіцу яе шукаць, але дарма. Суседзі яму сказалі, што яна разам з новым мужам выехала некуды ў далёкае замежжа. Карней, устурбаваны хваробай Васілісы, пайшоў да Вольгі і па тэлефоне выклікаў хуткую дапамогу. Прыехала маладая доктарка, зрабіла два уколы, пасядзела, памерала ціск і паехала. Васіліса паляжала крыху на ложку, а потым устала ды зварыла яшчэ на абед капусту і бульбу. А па абедзе як прылегла адпачыць, дык болей і не прачнулася...

За гэтымі горкімі ўспамінамі застаў Карнея Платонавіч. Былі мужчыны аднагодкамі, абодвум каціла пад семдзесят, але колішні механізатар Карней Трахімавіч Лясняк так і застаўся Карнеем. А былога настаўніка называлі Платонавічам, і, мусіць, мала хто помніў ягонае імя.

— Што ты тутака пішаш? — пасміхнуўся Платонавіч. — Табе трэба было б з маёю Лікаю некалі пабрацца, вы б разам гісторыю вёскі пісалі б.

— Ведаеш, браце, твая Леакадзія Максімаўна — жанчына добрая, але ж для мяне лепш за маю Васілісу нікога не было і не будзе.

— У цябе, сусед, бачу я настрой мінорны. А я хацеў цябе трохі пацешыць.

— Пацеш, калі хацеў, — пагадзіўся адказаў Карней.

— Пасядзеў я ў інтэрнэце, пагартаў сайты і знайшоў трохі звестак пра аднарога, якія трэба эксперыментальна праверыць. Дзе тваё жарабя?

— Ходзіць недзе тут ля двара...

— Я ішоў і нідзе яго не бачыў, — адказаў Платонавіч.

— Дык, мусіць, на поплаве пасецца... Дзе яму яшчэ быць? Там жа Вользіны каровы. Якая ні ёсць, а ўсё ж кампанія... Ведаеш, не замыкаю я яго, нанач у хлеў не заганяю, усё думаю, мо гаспадар у жарабяці ёсць? Не з неба ж яно звалілася. Прыйдзе чалавек шукаць сваё дабро, дык няхай і бярэ... Не замкнёнае яно, пасецца сабе на волі...

Платонавіч сеў насупраць Карнея і з усмешкаю прамовіў:

— Ведаеш, аднарогі, аказваецца, значна адрозніваюцца ад звычайных коней. І некаторыя знешнія прыкметы твайго жарабяці цалкам адпавядаюць гэтаму.

— Не блазнуй, Платонавіч, — адмахнуўся Карней. — Калі што і супадае, дык, думаю, гэта чыстая выпадковасць.

— Вось слухай, — сусед дастаў з кішэні паперу. — Я раздрукаваў тэкст. У аднарогаў хвалістая грыва, блакітныя вочы, яны белай масці. Усё як у твайго Косі...

Карней нічога не адказаў, толькі падумаў: «Выходзіць, гэта быў не сон. Я сапраўды трапіў у іншы час. І завёў мяне туды Кося...»

— Чаго маўчыш? — спытаў Платонавіч.

— Не ведаю, што і казаць.

— Зрэшты, са знешнімі прыкметамі мы разабраліся, цяпер пойдзем шукаць твайго Косю і правяраць ягоныя чароўныя здольнасці.

— Ты думаеш, што мой канёк сапраўды чароўны?

— Я біёлаг, Карней, атэіст. У цуды ніколі не верыў. Можа, прырода вырашыла пакараць мяне за нявер'е. Калі тваё жарабя — не мутант, а сапраўды прадстаўнік невядомага віду жывёл, мусіць, я звар'яцею ад шчасця ці ад немагчымасці зразумець гэты феномен. Безумоўна, я не маю магчымасці правесці генную экспертызу, але ж, думаю, іншых навукоўцаў гэтая жывёла зможа зацікавіць, а яны ўжо зробяць высновы. Слухай, ну, чаго ты вылупіўся, як неразумнае дзіця. Пайшлі хутчэй...

## 8

На вуліцы было бязлюдна, толькі куры хадзілі, як сапраўдныя гаспадыні. Вёска згубілася сярод лясоў ды балот, не кожны дзень тут машына праязджала.

Карней з Платонавічам выйшлі за ваколіцу на поплаў, не надта вялікі, раней яго не хапала для пашы тутэйшага статку, а цяпер раздолле, але нікому непатрэбнае. Тут пасвіліся на прывязі толькі тры Вользіны каровы. Правы край поплава густа парос лазою, за якою хавалася вялікае возера. Яно папаўнялася вадою з глыбокага яру, за якім узвышалася лысая выспа. Старыя людзі казалі, што на гэтым пясчаным узгорку было некалі шмат курганоў, але ці нехта іх раскапаў, ці вецер развеяў пясок, але не засталося ад іх і знаку. За выспаю раскінулася балота, не надта топкае, дзе людзі штогод запасаліся журавінамі. Яно паступова пераходзіла ў вялікі лес, густы і амаль непраходны.

— Не відно твайго Косі, — занепакоіўся Платонавіч.

Карней пацiснуў плячыма, маўляў, няма дык і няма.

— Я табе скажу, Карней, нельга пакідаць маладняк без нагляду, — даводзіў сусед. — Вунь Інка свайго малога пакінула і дамоў не паказваецца, а ён яе чакае. Мая Максімаўна хацела да нас яго ўзяць. Дзіця без нагляду адно, галоднае. Не пайшоў, кажа: буду маму чакаць. Ну, занесла мая яму паесці і адчапілася. Ці гэта правільна, каб дзіця пры жывой матцы жыло без дагляду?

— Што тут зробіш, Платонавіч? Той Інцы ў душу не залезеш і галаву сваю не прыставіш. Разгубілася жанчына, маладая яшчэ... Сама не навучыцца, дык жыццё навучыць... Ці не чуў, як там Вользіны грошы?

— Прыязджаў участковы, але ні Івана, ні Інкі не застаў. Мо дзе ў горад падаліся баляваць... Мусіць, Вольга шмат грошай назбірала...

— Кося, Кося! — паклікаў Карней жарабя.

Між кустоўя мільганула белая постаць.

— Вунь дзе яно, ажно ля берага, — узрадаваўся Платонавіч. — Не кліч яго пакуль. Пайшлі да вады, там будзем праводзіць эксперымент.

— Які? — насцярожыўся Карней.

— Пабачыш...

Мужчыны мінулі кустоўе і выйшлі на пясчаны бераг возера. Дзве збуцвелыя лодкі дагнівалі ў вадзе. Гаспадары іхнія, заядлыя рыбакі, даўно памерлі. Раней

Карней таксама любіў пасядзець з вудай на беразе, але пасля чарнобыльскай аварыі страціў цікавасць да гэтага занятку, бо разумеў, што разам з вадою, якая імкліва з палеткаў у возера сплывала, трапляла сюды і радыяцыя. Вясковыя жанчыны называлі яе па-свойму — «рацыяй». З таго часу ўсе селішчы іхняга раёна дзяліліся на тыя, якія маюць «рацыю», і тыя, якія яе не маюць. Лічылася, што ў Вырай радыяцыі няма, таму тутэйшыя жыхары ніякіх ільгот не мелі ў адрозненне ад іншых вёсак, якія акалялі іх. Той-сёй з вырайцаў нават зайздросціў суседзям. Карней раней жартаваў, што палешуку ніякая радыяцыя не страшная, ён ператворыць яе ў рацыю і будзе жыць. Аднак памыляўся. Людзі паціху, па адным паміралі. І Васіліса пайшла ў лепшы свет. Не да жартаў цяпер Карнею, сумна і самотна аднаму на свеце.

Жарабя піло ваду і гожа адлюстроўвалася ў нерухомай азёрнай паверхні. Платонавіч прыгледзеўся да берагу, азірнуўся на свае сляды і здзіўлена сказаў:

— Паглядзі, ні аднаго слядочка ад капытоў твайго Косі, быццам ён прайшоў і зямлі не крануўся. А гэта адна з прыкмет чароўнасці.

— Можа, ён з таго боку па траве ў ваду ўвайшоў, — запярэчыў Карней.

— Можа, можа... Паглядзі, якая вада каламутная, чорная, возера на тарфяністым глеі ляжыць. А цяпер зірні, што робіцца каля Косі...

Сапраўды, каля жарабяці вада зрабілася такая празрыстая, што ў ёй яскрава бачыліся касякі малькоў, якія быццам гулялі вакол ягоных ног.

— Гэта яшчэ адна прыкмета, — пераможна зазначыў Платонавіч. — Так што, Карней, гэтую рэдкую жывёлу трэба адпраўляць на даследаванне ў Нацыянальную акадэмію навук.

— Давай пачакаем, няхай жарабя вырасце, а тады падумаем, — прапанаваў Карней.

— Ты ўпэўнены, што гэтая чароўная кабылка ў цябе застанецца назаўсёды?

— А чаму б і не?

— Зразумей, чалавеча, гэта ж міфічная жывёла! Яна як цуд! Тут ёсць, тут няма! — даводзіў Платонавіч. — Раю табе, бяры жарабя, вядзі ў хлеў і замкні. Няхай біёлагі разбіраюцца з гэтакім дзівам. Глядзі, у яго і капыты крыху надрэзаныя, нешта сярэдняе паміж казлінымі і конскімі, ды і ногі занадта тонкія.

Ён сам памкнуўся ўхапіць жарабя за грыву, але тое ўхілілася і пабегла ў кустоўе, Платонавіч рушыў за ім. Карней пастаяў, раздумваючы, што рабіць далей. Аднойчы ён ужо пайшоў гэтак жа безразважна за жарабяткам, а апынуўся невядома дзе. Добра, што пашанцавала назад вярнуцца... Трэба было засцерагчы Платонавіча ад памылкі, якую зрабіў нядаўна сам.

— Пакінь, Платонавіч, Косю, няхай ідзе. Як яму спатрэбіцца, само прыйдзе. Ніхто не любіць няволю, тым больш, калі гэта фантастычная жывёла, у чым ты мяне толькі што горача пераконваў...

— Паслухай, Ляснік, ты проста цёмны чалавек, далёкі ад навукі! Ты ведаеш, што мы можам зрабіць адкрыццё ў біялогіі! Казку зрабіць яваю! Праславіцца на ўвесь свет!

— Зжыў я ўсё жыццё без тае славы і далей буду жыць, — абыякава адказаў Карней. — Няхай наша чароўнае жарабя скача, куды хоча...

Платонавіч працягваў абурацца недальнабачнасцю свайго суседа, які акрамя трактара нічога ў жыцці не бачыў, і цяпер, калі ёсць магчымасць дапамагчы айчыннай навуцы, ён не хоча і пальцам варухнуць. У гэты час пачулася тонкае прарэзлівае ржанне Косі, быццам крык падлетка, у якога ламаецца голас. Мужчыны рушылі ў той бок, адкуль пачуўся покліч. Хутка ў кустоўі ўбачылі Косю, які схіліўся над жанчынай. Падышлі бліжэй і з цяжкасцю пазналі Інку. Твар яе быў азызлы, жоўта-сіняга

колеру, галава разбітая, чорная кроў запяклася на русых валасах, сукенка брудная і падраная.

— Гэта ж Інка, — усклікнуў Карней. — Ці жывая хоць?

Платонавіч прысеў каля маладзіцы, узяў яе руку, стаў слухаць пульс, потым прыклаў пальцы да соннай артэрыі.

— Пульс не праслухоўваецца, — усхвалявана прамовіў ён.

— Трэба несці дамоў, — прапанаваў Карней.

— А раптам у яе пазваночнік пашкоджаны, тады нельга з месца кранаць...

— Які пазваночнік, вунь на галаве рана...

Пакуль мужчыны разважалі над Інкай, Кося наблізіўся да жанчыны, апусціў галаву ёй на грудзі — жанчына расплюшчыла вочы і няўцямна зірнула на мужчын.

— Ажыла! — узрадавана сказаў Платонавіч. — Я ж табе казаў, што гэта сапраўдны аднарог!

Карней не звярнуў увагі на словы суседа, схіліўся над Інкай, спытаў:

— Як ты? Што ў цябе баліць?

— Галава...

— Устаць і ісці зможаш?

Інка варухнулася, села і заплюшчыла вочы:

— Галава кружыцца, свет пераварочваецца дагары нагамі...

— Нічога, гэта пройдзе, — запэўніў Карней, памагаючы жанчыне падняцца.

Платонавіч падхапіў Інку з другога боку, і мужчыны памалу павялі яе ў вёску.

— Што з табою здарылася? — спытаў Карней.

— Не памятаю...

— Нехта цябе змалаціў на горкі яблык...

— Ты яшчэ пытаеш? — з сарказмам адказаў Платонавіч. — Іванава работа. Хто каго любіць, той таго чубіць.

— Дзе Іван? Гэта ён цябе пабіў? — спытаў Карней у маладзіцы.

— Не ведаю, не помню, — адказала яна. — Завядзіце мяне да яго. Трэба з ім пагутарыць.

— Няўжо яшчэ не нагаманіліся? — насмешліва спытаў Платонавіч.

Інка нічога не адказала, плялася, звесіўшы галаву, валасы затулялі азызлы ссінелы твар, на якім замест вачэй засталіся толькі дзве вузкія шчылінкі.

## 9

Ля Іванавай хаты валяліся нейкія паперы, абрыўкі цэлафану, жалезнае ламачча.

— Развёў антысанітарыю, ператварыў двор у сметнік, — абурыўся Платонавіч, спыняючыся каля весніц.

У гэты час з суседняга двара, дзе ніхто даўно не жыў, выйшаў Іван з мехам на плячы (нёс нешта цяжкае), насцярожана зірнуў на вяскоўцаў, але не спыніўся, наблізіўся, зірнуў на Інку, злосна выдыхнуў:

— З'явілася, не запылілася! З двума хахалямі!

— Ваня, я хачу табе сказаць...

— Ідзі дамоў і больш ніколі не прыходзь, — гаркнуў Іван і пашыбаваў у свой двор не азіраючыся...

— Ванечка, Ванечка... — бездапаможна прашаптала Інка, хацела пайсці за ім следам, але Платонавіч спыніў яе.

— Не губляй галаву, маладзіца, табе ў доктара трэба зняць пабоі. Цябе сын дома чакае, а ты...

Інка раптам страціла прытомнасць і асунулася на зямлю.

— Ну, вось дагуляліся... Пайду патэлефаную ад Вольгі і выклікаю хуткую дапамогу, заадно скажу, што Іван аб'явіўся, мо гэта зацікавіць участковага, — прагаварыў Платонавіч і хуценька пайшоў уздоўж вуліцы.

Карней бездапаможна азірнуўся, не ведаючы, як дапамагчы распластанай Інцы, але убачыў Косю, папрасіў яго:

— Ратуй Інку.

Кося наблізіўся да жанчыны, лізнуў лоб, яна расплюшчыла вочы і спытала:

— Дзядзька Карней, што са мною?

— Захварэла ты. Хутка доктар прыедзе і палечыць, а пакуль паляжы.

Вароны звягліва і няспынна каркалі, быццам нешта важнае вырашалі. Жанчына зірнула праз вузкія шчылінкі заплылых вачэй і спытала:

— Чаго яны тут сабраліся? Ці не на маю смерць?

— Табе трэба жыць, Інка, у цябе двое дзетак малых. Хто ж іх на ногі паставіць?

Інка ціха ўсхліпнула, з вачэй яе выкаціліся дзве слязіны і скаціліся ажно да падбародка.

— Ангелінку шкода, зусім малая... І Уладзік бездапаможны, — прашаптала яна.

— Годзе, не плач... Усё будзе добра... Табе нельга хвалявацца, — супакоіў яе Карней.

Хутка вярнуліся Вольга з Платонавічам, прынеслі вады, адпаілі Інку. Яна села, абапіраючыся на плот. Вольга разглядвала Інку, божкала ды войкала:

— Як жа можна гэтак змалаціць прыгожы тварык? Нелюдзем трэба быць, зверам, каб вось так здзекавацца з чалавека! — казала яна голасна, падпершы бакі рукамі, каб пачуў Іван у хаце. — Як такіх вылюдкаў зямля носіць! Жылі мы сабе і гора не ведалі, дык на табе, маеш! Навалач нейкая прыпаўзла і свет каламуціць! Каб ты сваёй крыві напіўся! Усё ліха на цябе! Каб табе рукі паадсыхалі! — сыпала Вольга праклёны.

З хаты выйшаў Іван, моцна грукнуў дзвярамі, крыкнуў:

— Чаго тут сабраліся, прэч пайшлі! Зараз як вазьму дручка, дык мала не будзе!

Ён брудна вылаяўся, падышоў да плота і пачаў адломваць штыкеціну! Вольга адышла ад Іванавага двара колькі крокаў і крыкнула:

— Я вось зараз участковаму патэлефаную. Гэта наша вуліца, нашы хаты! А ты, набрыдзь, выбірайся адсюль!

Іван выйшаў з двара, змрочна зірнуў на людзей. Вольга кінулася бягом да сваёй хаты.

— Гэта ты Інку збіў? — спытаў Карней у Івана.

— Навошта мне гэтая самадайка здалася, рукі пэцкаць аб яе...

— Ваня, Ваня, як ты можаш? — прашаптала Інка.

— Ідзіце адсюль! — загадаў Іван.

— Не можам мы ісці, — з'едліва прамовіў Платонавіч. — Ножкі нас не носяць. Зараз хуткая прыедзе і павязе нашу красуню на ногі ставіць. А некаму давядзецца пасядзець за тое, што рукі распускае...

— Не палохай мяне, стары, я сам каго хочаш магу напалохаць...

— Мы не з баязлівых, — адказаў Карней. — Удвох неяк справімся з табою, так што ідзі ў хату і патрывай трохі нашу прысутнасць...

Вароны на таполі зноў пачалі каркаць. Іван злосна зірнуў на іх, вылаяўся, адкінуў штыкеціну і падаўся ў двор.

Белая машына з чырвонымі палоскамі і лічбай «103» з'явілася на дзіва хутка. Аказваецца, была яна ў суседняй вёсцы. Доктар агледзеў Інку і канстатаваў:

— Чэрапна-мазгавая траўма.

Паклалі на насілкі і занеслі ў машыну. Прыбегла Вольга, якая цікавала за Іванавай хатаю з-за плоту, сабраліся іншыя жанчыны, абмяркоўвалі, праклінalі Прыблуднага, які прынёс у вёску адны няшчасці. Платонавіч адвёў Карнея ўбок і сказаў, што няма часу стаяць тут і часаць языкі, трэба вырашаць сваю неадкладную справу.

— Што тут доўга вырашаць? Згодны я... Тэлефануй у сваю акадэмію, — адказаў Карней.

— Даўно б так, — прамовіў задаволена Платонавіч. — Адыдзем убок, я хачу ўпэўніцца яшчэ раз, што ў жарабяці ёсць рог.

Карней паклікаў Косю, адвёў убок, прытрымаў за грыву, пакуль Платонавіч абмацваў і аглядаў рог.

— Глядзі ты, усё, як было напісана: рог, як перліна, а самы кончык чырвоны. Па-мойму, ён расце! — узрадавана засведчыў Платонавіч. — Слухай, давай да мяне ў хлеў жарабя паставім. Так будзе надзейней.

— Эх, Платонавіч, калі гэтая жывёла чароўная, дык яе ніякія замкі і хлявы не ўтрымаюць. Кося да мяне прывязаўся, я яму найлепшы ахоўнік, а цябе ён не вельмі любіць, бачыш, як касавурыцца. Не пойдзе ён да цябе, — адказаў Карней.

Сусед ніякавата перасмыкнуў вуснамі. Пэўна, пачутае пакрыўдзіла яго, аднак ён махнуў рукою на развітанне і выгукнуў:

— Пайду тэлефанаваць...

Як жанчыны ні крычалі, Іван з двара не выйшаў. Пакрупова людзі разышліся. На тое месца, дзе яны стаялі, зляцеліся вароны, селі на дол, пачалі шукаць пад нагамі якую пажыву. Белае жарабя спудзіла птушак, яны імкліва ўзняліся ў паветра, зачапілі электрычны дрот — сноп агністых іскраў пырснуў на хату, у якой жыў Іван. Імгненна загарэўся дах, праз колькі хвілін увесь будынак ахапіла полымя. Агонь рваўся ўвышкі, агонь трашчаў і роў, як галодны звер. Наляцеў вецер, закруціў, пусціў дым па вёсцы, каб усё ведалі, што вось ён, яго вялікасць пажар. Пачалі збягацца людзі з вёдрамі. Некаторыя вырашылі, што злачынец наўмысна падпаліў хату і ўцёк. Вольга, якая адчувала, што недзе ў памяшканні могуць быць схаваныя яе грошы, хутка выклікала пажарнікаў, сама насіла вёдрамі ваду і ўсё прыгаворвала:

— Ратуйце, людцы мае добрыя! Ратуйце, людцы мае ласкавыя!

Баба Тэкля загаласіла:

— Ай-бо, гэта ж там чалавек гарыць! А хто ж яго выратуе-е-е! А хто ж яго вынесе-е-е!

— Сам вінаваты, няма чаго напівацца да свінога віску! — злосна сказала Алена! — І мой такі ж быў! За гарэлкаю свету не бачыў!

— Я й сама ў той агонь пайшла б, дык ці ж я здолею яго падняць? Божа літасцівы, ратуй раба твайго Івана, разбудзі і дапамажы жывым з агню выйсці-і-і, — працягвала галашэнні Тэкля, абапіраючыся дзвюма рукамі на кіёк.

Некаторыя жанчыны, гледзячы на яе, таксама выціралі куточкі вачэй ражкамі хустак. Яны з надзеяю павярнуліся да Карнея і Платонавіча, якія з'явіліся на пажары пазней за ўсіх.

— Мужчынкі, ратуйце Івана! — папрасіла Тэкля.

— Дзе ж яго выратуеш? Ён даўно падсмажыўся. Хата да апошняга вянца палае, — разважліва адказаў Платонавіч. — Так хутка толькі ад шаравой маланкі можа загарэцца.

— Не было ніякае маланкі, — запэўніла Алена. — Бог яго пакараў за тое, што жыў як свіння; што Інку спаіў, што дачку ёй зрабіў, а расціць не памагаў; што краў у нас усё; што школу разбурыў, хаты папаліў і нас у страхоцці трымаў!

Жанчыны супакоіліся, з сумам пазіралі на пажарышча, думаючы: вось быў чалавек і няма. Добра, што яшчэ ўся вёска не ўзялася гарэць. Бог літасцівы...

Калі прыехала пажарная машына, тушыць ужо не было чаго. Выратавальнікі пагрэбаліся сярод галавешак, ніякіх чалавечых рэштак не знайшлі, тым і суцешыліся. Вяскоўцаў гэтае паведамленне таксама супакоіла. Участковага наадварот вынік пажару засмуціў: зноў давядзецца шукаць няўлоўнага Івана.

## 10

Карней быў устрывожаны, не хацелася яму аддаваць Косю на даследаванне акадэмікам. Прадчуваў, што не выжыве жарабя ў няволі. А яго ж яшчэ пачнуць калоць ды рэзаць — браць розныя аналізы. Сам Карней дактароў вельмі баяўся, асабліва стаматолагаў. Дуплы ў зубах, калі балелі, затыкаў несалёным салам або часнаком, рабіў прымочкі з самагонкаю, а лячыць не ішоў. Так зубы амаль усе выкрышыліся, засталося колькі пянькоў, таму выглядаў Карней старэй за свой узросту, але гэта яго мала турбавала. Хоць даволі было ў вёсцы жанчын, жаніцца ён не збіраўся, бо ведаў: ягоную Васілісу ні адна на свеце жанчына замяніць не можа.

Адзіным выйсцем было схаваць Косю ад Платонавіча і акадэмікаў, якія могуць звесці са свету далікатнае жарабя сваімі даследаваннямі. Але не ўмеў Карней хлусіць, таму разумеў, што хавацца яму давядзецца і самому, інакш як ён зірне ў вочы суседу? Па слабасці і дабрыні сваёй даў згоду, а цяпер, як рак, пнецца назад.

Схавацца ён мог толькі туды, дзе аднойчы прабыў тры дні, але нікому не прызнаўся, сказаў, што заблудзіўся ў лесе. Там іншае жыццё, іншыя людзі, там Уладзіка хутка на ногі паставілі б, ды і яму, старому, дапамаглі б, мусіць. І ўсё ж нешта палохала і стрымлівала Карнея, мо тое, што нельга адначасова быць і там, і тут. А гэты час і свет яму звыклы і дарагі. Тут Васіліса побач, хоць і на могілках. І Карней заўсёды гатовы туды перасяліцца, але ж жывы ў магілу не палезеш. А няхай толькі Гасподзь пакліча, дык, калі ласка, хоць цяпер... Ах, добра было б Уладзіку дапамагчы, шкода малога, сядзіць, прывязаны да каляскі. А яму бегаць бы, падбрыкваць, як жарэбчыку, праз платы лазіць, чужыя грушы ды яблыкі латашыць, рыбаліць, купацца. Возера вунь зусім зарасло з-за таго, што ніхто яго ваду лішні раз не ўскаламуціць.

Ад гэтых думак ажно сэрца зайшлося ў Карнея, узяў ён пад язык валідол, пачакаў пакуль трохі палепшае, а сам між тым падумаў, што не выжыве жарабя тут. Сумленне заесць самога, калі аддасць Косю, і нарэшце адважыўся: пачаў збірацца ў дарогу. Узяў рэшту хлеба, якая заставалася ў хаце, кавалачак сала і загарнуў у газету. Пайшоў на грады, нашчыпаў зялёнай цыбулі. Склаў усё гэта ў стары пляцак, пару чыстай бялізны прыхапіў. Халоднай вадою абмыўся да пояса, апрануў усё чыстае, як на свята, чаравікі растаптаныя наваксаваў, прычасаўся, агледзеў сябе ў люстэрка (сто гадоў гэтага не рабіў) і выйшаў з хаты, радуючыся, што не пакідае без нагляду ніякае жыўнасці. Курэй усіх парэзаў на памінкі, а парася захварэла і само здохла. Кот некуды сышоў, ужо тыдзень не трапляўся на вочы гаспадару.

Карней замкнуў дзверы, выйшаў з двара, гукнуў Косю, які задуменна стаяў зводдаль, і разам яны пайшлі ўздоўж бязлюднай вуліцы. Чорныя вачніцы пустых хат,

у якіх даўно ніхто не жыў, пазіралі на іх з дакорам. Толькі зрэдку з падаконнікаў усміхаліся Карнею хатнія кветкі ды бялелі карункавыя фіранкі. Ён сэрцам развітваўся з вёскаю і суседзямі, бо не быў упэўнены, што здолее вярнуцца назад.

Спачатку Карней пайшоў на могілкі, сеў на лаўку каля жончынай магілы, пагладзіў надмагільны грудок, зірнуў на Косю і сказаў:

— Мушу я, Васіліса, сысці з вёскі, але перакананы, што пасля смерці нашы душы ўжо ніколі не раз'яднаюцца. Павінна ж быць нейкае святое месца для тых, хто пакахаў раз і назаўсёды. Ты не сумуй, я заўсёды з табою. І хоць няма цябе побач, мне ўвесь час здаецца, што з неба назіраеш ты за мною, размаўляеш, разважаеш, дапамагаеш. Каханне — такая штука, што не адпускае чалавека... Вось што я табе хацеў сказаць...

Карней змоўк і за некалькі хвілін пранеслася перад ім усё яго жыццё: ад галоднага пасляваеннага маленства да цяперашняй сталасці. Нарадзіўся ён у час вайны, яшчэ нічога не цяміў, калі бацьку забралі на фронт. А праз колькі месяцаў прыйшоў ліст са шпіталя, што бацька цяжка паранены, калі яго не забяруць родзічы, дык ён будзе дажываць век у прытулку для інвалідаў. Маці паехала па мужа, а малы Карней застаўся нецярпліва чакаць бацьку. Праз тыдзень прыкаціўся з чыгуначнай станцыі воз, а на ім сядзелі два незнаёмыя мужчыны і мама. Карней дарэмна спрабаваў здагадацца, каторы з іх бацька, каб кінуцца да яго ў абдымкі. Маці замітусілася, не звяртаючы ўвагі на сына, быццам ён тут чужы і непатрэбны, кінулася расчыняць сенцы. Адзін мужчына саскочыў з воза, падняў другога, бязногага, і, як дзіця, панёс у хату. Сэрца ў Карнея скаланулася ад страшнай здагадкі. Ён схаваўся за хату і заплакаў, не верачы самому сабе...

Калі чужы дзядзька паехаў з двара, толькі тады Карней выцер слёзы, апаласнуў у сенцах твар з вядра, выцерся і пайшоў вітацца з бацькам. У гэты момант ён пакляўся сабе, што хутка вырасце і сам будзе насіць тату на руках.

Бацька зрабіў сабе возік на чатырох колах, у ім ездзіў па двары, дапамагаў сыну дзе парадаю, дзе рукамі, прывучаў да спрадвечнай сялянскай працы. Майстравіты быў чалавек! Кожны раз, калі Карней бачыў Уладзіка на калясцы, яму згадваўся бязногі бацька, пачынала балець сэрца і розныя горкія думкі лезлі ў галаву. Ён праклінаў вайну, якая знішчыла і пакалечыла мільёны маладых прыгожых мужчын, падрэзала пад корань шмат сем'яў, не дала расквітнець талентам.

Карней пасля дзесяцігодкі не паехаў вучыцца ў горад, а застаўся дома, бо трэба было дапамагаць бацькам. Выдатніца Васіліса пакахала Карнея. Так яны і пражылі век разам — адно дзеля аднаго, жонка і цяпер жыла б, каб не сын, які невядома куды паехаў і сем гадоў не адгукаўся. Не вытрымала яна невядомасці, слабае мела сэрца... А зрэшты, Карней быў перакананы, што смерці няма... Не можа жывая чалавечая душа проста так знікнуць, бо існуе закон захавання энергіі. Нішто нікуды не знікае, проста мяняе форму існавання...

Карней схамянуўся, калі пачало ўжо вечарэць, абляяў сябе старым ёлупам, развітаўся з Васілісаю, пакланіўся бацькам і шматлікім родзічам (па іхніх магілах можна было б вывучыць радавод, каб былі на іх надпісы, але ў мінулым па беднасці ставілі нябожчыкам толькі драўляныя крыжы, якія хутка згнівалі), потым падазваў Косю, які адышоў далекавата ад могілак, і накіраваўся да Уладзіка. Хлопчык сядзеў у калясцы, жаваў яблык.

— Здароў, мужык, — павітаўся з ім Карней за руку, як з роўным.

Уладзік узрадавана заўсміхаўся і сказаў:

— Вой, і Кося прыйшоў, — працягнуў далонь і пагладзіў жарабя, — а я маму чакаю...

— Не чакай сёння. Яе разам з Ангелінкаю паклалі ў бальніцу. — адказаў Карней. — А ты хочаш вылечыцца?

— Хачу... Вось прыедзе тата, прывязе грошай і знойдзе сапраўднага доктара...

— Я ўжо знайшоў для цябе добрага доктара, — прагаварыў Карней, — збірайся.

— А што мне збірацца? Так і паеду ў калясцы...

— Не, каляска табе больш не спатрэбіцца. Сядай на Косю...

Вочы Уладзіка засвяціліся шчасцем. Карней пасадзіў хлопчыка на аднарога, і яны рушылі з двара ў бок поплава. Па дарозе ім сустрэлася Леакадзія Максімаўна, яна здзіўлена спытала:

— Куды ж ты, Уладзік, едзеш?

— Лячыцца, — адказаў хлопчык.

— Добра ты прыдумаў, Карней, я па тэлебачанні бачыла, што дзяцей, якія не ходзяць, лечаць, возячы на конях, — пахваліла яна суседа, а хлопчыку падала цэлафанавы пакет. — Вось табе піражкі з яблыкамі. Частуйся, на здароўе.

— Дзякую, Леакадзія Максімаўна, я піражкі вельмі люблю, — узрадаваўся хлопчык, адразу разгарнуў пакунак, дастаў печыва і пачаў есці, потым схамянуўся, пачаў частаваць і Карнея, але той адмовіўся ад прысмакаў.

Жанчына дакранулася да лба Косі, правярала, ці сапраўды ёсць у яго рог і сказала:

— Мой Платонавіч нібы звар'яцеў. Увесь час толькі пра аднарога і гаворыць. У Нацыянальную акадэмію навук тэлефанаваў, у Мінск, ды там сёння навукоўцы сабраліся на сход — нічога не дабіўся. Гаварыў, што заўтра з самага ранку зноў пачне...

— Няхай заўтра, перш чым тэлефанаваць, да мяне забяжыць, маю нешта цікавае сказаць, а як не заспее, дык няхай чакае, — загадкава ўсміхнуўся Карней.

— Добра, так яму ўсё і скажу, — паабяцала Максімаўна на развітанне.

Карней вывеў аднарога на поплаў. Лёгкі туман слаўся над травою. За лес скацілася сонца, але яшчэ цемра не апусцілася на зямлю.

— Што гэта ў нас пад нагамі, дым? — здзіўлена спытаў Уладзік.

— Гэта туман. Няўжо ты ніколі раней не бачыў туману? — падзівіўся Карней.

— Я ніколі не быў тут, хоць даўно хацелася паглядзець, што за вёскаю.

— Яшчэ нагледзішся.

Карней павёў Косю напрасткі да яра. Ён хваляваўся і трывожыўся, ці атрымаецца, як тады? Памарудзіў на ўскрайку і асцярожна, прытрымліваючы аднарога за грыву, пачаў спускацца ў зеленаваты морак. Туман паглынуў людзей і жарабя, быццам іх ніколі не было.

## 11

Туман развеяўся, Карней убачыў над галавою зорнае неба, а наперадзе — яскравыя агні вялікага селішча, узрадаваўся: «Здаецца, усё атрымалася!»

— Гэта горад? — спытаў Уладзік. — Я і не ведаў, што ён так блізка.

— Цяпер усё блізка, пойдзем туды, сам пабачыш.

Здавалася, зусім не шмат часу патрацілі яны на дарогу, а неўпрыкмет пачало світаць. Вядома, летняя ноч кароткая. А мо для Карнея, чалавека з іншага часу, гадзіны праляталі хутчэй? Наперадзе за прысадамі паказаліся першыя збудаванні, круглыя, з высокімі дахамі.

— Я такія хаты сніў надоечы, — паведаміў Уладзік.
— Няўжо праўда?
— Праўда, дзеду. А яшчэ там вагончыкі ў паветры лёталі.
— Такія? — спытаў Карней і паказаў рукою на тутэйшы лятучы транспарт.
— Ага. Я думаў, што такія толькі ў снах бываюць...
— Мы ў будучыні, Уладзік. Тут жывуць дактары, якія цябе вылечаць...
— Гэта як у фантастычных мульціках? — спытаў Уладзік.
— Амаль так...

Яшчэ мінулым разам Карней паспеў разгледзець і монаксілы, як называўся гарадскі транспарт, і жыхароў. А былі яны тут усе маладыя і здаровыя. Гэтае паселішча вырасла на месцы ягонай вёскі Вырай. Справа цягнулася возера, за спінаю застаўся поплаў і яр. Дэкарацыі тыя ж, а дзеянне іншае...

Знаёмай дарогай Карней пакрочыў да рэабілітацыйнага цэнтра. У мінулы раз, калі ён з'явіўся на вуліцы, людзі збегліся на яго паглядзець. Ім ніколі не даводзілася бачыць такога старога чалавека. Цікаўная маладзіца спытала, ці не трыста гадоў яму? Ён падумаў, што гэта жарт. Аднак адказаў сур'ёзна, што яму яшчэ і сямідзесяці няма. А тая здзівілася і сказала, што ёй сто дваццаць, але ж яна захавалася намнога лепш. Сапраўды, жанчыне ён не даў бы і трыццаці пяці: скура свежая, вочы ззяюць, валасы густыя і бліскучыя. Тут ужо і сам ён успрыняў яе словы са смехам. Махнуў рукою і пайшоў далей, цікаўна азіраючыся па баках. Тут яго і заўважыў доктар, пачаў распытваць хто ён, адкуль. Прапаноўваў абнавіць арганізм у цэнтры, але Карней толькі пасмяяўся, маўляў, навошта тая штучная знешняя маладосць, калі душа старая?

— З вамі папрацуюць псіхолагі, і ўсё атрымаецца, — пераконваў доктар. — А для мяне гэта цікавы эксперымент. У нас людзі не чакаюць старасці, а з маладых гадоў займаюцца карэкцыяй усіх адхіленняў у арганізме. Таму няма ў нашым грамадстве старых, усе маладыя, і кожны чалавек, калі захоча, можа жыць вечна...
— Шкада, што позна я сюды прыйшоў. Сёлета ў мяне памерла жонка. Мусіць, вы змаглі б яе выратаваць...
— Бясспрэчна...

Тады Карней не згадзіўся на амаладжэнне, ды і зараз ён прыйшоў сюды толькі дзеля Уладзіка, які, мусіць, з-за Чарнобыля атрымаў сваю хваробу.

На вуліцах яшчэ было пуста, гарадок спаў. Уладзік разглядваў каляровыя будынкі і не пераставаў здзіўляцца.
— Усё, як у маім сне. Толькі я там з хлопцамі ў футбол гуляў.
— Так яно і будзе, — адказаў Карней. — Тутэйшыя дактары ўсё ўмеюць.

Дзверы рэабілітацыйнага цэнтра самі расчыніліся перад імі. Насустрач выйшаў знаёмы доктар і радасна ўсклікнуў:
— О, каго бачу! Спадар Карней вярнуўся! І менавіта ў маё дзяжурства! Гэта лёс! А хто з вамі, унук?
— Гэта сусед мой, Уладзік, у будучыні, мусіць, будзе футбалістам. А пакуль у яго хворыя ногі. Памажыце яму, калі ласка.
— Паглядзім, паглядзім, — прамармытаў доктар і пачаў абмацваць слабыя Уладзікавы ногі. — Усё будзе выдатна! Прашу ў мой кабінет.
— А куды ж мне падзець маё жарабя? — спытаў Карней, беручы Уладзіка на рукі.
— Не хвалюйцеся, пра яго паклапоцяцца.
— Яго нельга трымаць у хляве, выпусціце яго на поплаў, ён сам сябе пракорміць.

Яны ўвайшлі ў пакой, абсталяваны нейкімі незразумелымі прыборамі і экранамі. Доктар пасадзіў Уладзіка на крэсла, пачаў націскаць кнопкі, разглядваў выявы на экранах, нешта сам сабе мармытаў, пасля сказаў:

— Уладзік, ты будзеш бегаць хутчэй за ўсіх. А зараз я накірую цябе ў палату, там цябе памыюць, накормяць, а потым пачнём лячыцца. Згода?

Уладзік пагадзіўся не раздумваючы. Доктар націснуў кнопку. На экране ўзнік прыемны твар дзяўчыны. Доктар растлумачыў ёй, дзе трэба размясціць хлопчыка. Праз тры хвіліны дзяўчына была ўжо ў кабінеце, яна прыязна ўсміхнулася юнаму пацыенту і пасадзіла яго ў самаходную каляску.

— Гэта ж сапраўдная машына! — з захапленнем прамовіў хлопчык. — Я на такой мог бы і ў школу ездзіць.

— Ты хутка на сваіх нагах будзеш бегаць, — усміхнуўся доктар.

Калі дзверы зачыніліся, ён рэзка павярнуўся да Карнея і спытаў:

— А што з вамі будзем рабіць, спадар Карней? Няўжо так і збіраецеся дажываць век старым і бяззубым дзедам?

— Не я першы, не я апошні, — разважліва адказаў Карней.

— Вы апошні ў наш час, як ні сумна... Гэта старасць за вас гаворыць, ёй нічога не трэба, яна нічога не хоча. Я падару вам маладосць!

— Ведаеце, каго я найбольш баяўся ў сваім жыцці? Дактароў! З іхнімі ўколамі, скальпелямі і горкімі парашкамі! Нічога больш жахлівага я не ведаў!

— Кіньце згадваць леташні снег. Мусіць, вас бабуля напалохала такімі казкамі ў маленстве, — засмяяўся доктар. — Цяпер нічога падобнага няма! Нанатэхналогіі дазваляюць бескантактна кіраваць працэсамі аднаўлення арганізма.

— Не веру...

— Ну, вы проста як Станіслаўскі...

— Які Станіслаўскі? — перапытаў Карней.

— Быў сотні дзве гадоў таму тэатральны рэжысёр... Карацей, так, Уладзік праляжыць у нас месяцаў шэсць. Можаце вяртацца ў сваю глухамань...

— Паўгода? — засмучана спытаў Карней.

— Так. А што?

— Я ўзяў хлопчыка без дазволу маці, яна якраз захварэла, Уладзік аказаўся без дагляду, вось я на свой грэх... — скрушна прагаварыў Карней.

— Не страшна. Мы яе папярэдзім...

— Не зможаце... Прабачце, доктар, я вам мінулы раз сказаў не ўсю праўду. Я зусім не з глухога лесу да вас прыблукаў. Я з гэтага селішча, з Выраю, але з мінулага... Я з іншага часу, доктар. І Уладзік адтуль...

Доктар неўразумела глядзеў на Карнея, быццам перад ім сядзеў псіхічнахворы чалавек.

— Разумею, вам цяжка мне паверыць... Але так і ёсць, — сказаў стары.

— Хіба ў мінулым людзі мелі машыну часу? — насмешліва спытаў доктар.

— Не мелі, але я выкарыстаў чароўную сілу аднарога, — прызнаўся Карней.

— Ну, гэта ўжо зусім казкі.

— Паназірайце за маім жарабяткам, праз колькі месяцаў самі ўпэўніцеся, што гэта за жывёла...

Доктар здзіўлена зірнуў на Карнея, памаўчаў, нешта вырашаючы для сябе, урэшце сказаў:

— Калі вам пашанцавала пераадолець час, дык чаму не скарыстацца новымі дасягненнямі навукі? Няўжо вам не хочацца зноў адчуць сябе маладым і здаровым? Гэта ж натуральнае жаданне! Без Уладзіка назад вы не можаце вярнуцца, вам давядзецца яго чакаць. Дык што вы будзеце тут рабіць столькі часу?

— Бог з вамі! Угаварылі! Што мне губляць?

— Вось і цудоўна! Сядайце ў крэсла! — прапанаваў доктар.

Ён утаропіўся ў экраны і праз некалькі хвілін паведаміў:

— Печань трэба мяняць, левую нырку таксама! Божа мой, які артроз! А што з лёгкімі? Гэта ад тытуню?

— Не, я ніколі не курыў. Ад пылу гэта... Трактарыстам працаваў... Ды і Чарнобыль усім нам нашкодзіў...

— Трактар, такая старажытная сельскагаспадарчая машына? А пра Чарнобыль ведаю... Дык з якога ж вы часу, шаноўны, прыйшлі да нас?

— З чарнобыльскага...

Доктар прысвіснуў. Потым засмяяўся:

— Мне пашанцавала, як нікому. Шаноўны спадар Карней, я зраблю ўсё, каб вам захацелася пачаць новае жыццё. І не так важна, які гэта будзе час — цяперашні ці мінулы. А чаму вы не пытаеце, у якім часе апынуліся?

— Баюся...

— Чаго?

— Страшна перажыць самога сябе. Вы мяне разумееце?

— Не зусім... Але пра гэта пагутарым пазней, у нас яшчэ будзе шмат часу. А зараз займайце свае апартаменты, пакуль не перадумалі, а я пачну вас лячыць...

## 12

Карней абудзіўся ад дотыку да шчакі, расплюшчыў вочы, убачыў над сабою знаёмы твар доктара, усміхнуўся. Ён помніў, што надоечы яго рыхтавалі да нейкіх працэдур, а зараз, пэўна, ён пасля іх ачомаўся.

— Як пачуваецеся? — спытаў доктар.

Карней прыслухваўся да свайго цела і адказаў:

— Дзякую, добра.

— Выдатна... Можа, есці хочаце?

Карней прыслухаўся да сябе і адказаў:

— Бадай, ад кавалачка сала з часнаком і чорным хлебам не адмовіўся б...

— Ну, хто ж есць сала? Навошта новенькую печань зноў забіваць тлушчам?

— Прабачце, доктар, звычка такая ў мяне... Пасля смерці жонкі гатаваць сабе ленаваўся, сала пажую — і сыты.

— Уставайце памалу, я вам дапамагу...

— Ці ж я такі хворы? — збянтэжыўся пацыент і лёгка сеў на ложку, а потым падняўся на ногі, прайшоўся па пакоі, адчуваючы незвычайную лёгкасць ва ўсім целе, пазгінаў правую нагу і не адчуў звыклага болю ў калене. — Ды вы проста чараўнік! А як Уладзік?

— У яго ўсё добра. Хутка сустрэнецеся. А зараз падыдзіце да люстэрка, вось сюды, — доктар паказаў рукою.

Карней зірнуў на сваё адлюстраванне і не пазнаў, падумаў, што пабачыў нейкага маладога чалавека на экране.

— Хто гэта? — спытаў ён.

— Гэта вы, спадар Карней! Вы і ніхто іншы!

— Не, гэта не я! У мяне валасы сівыя і зубы вышчарбленыя! — Карней ніякавата расцягнуў вусны і ўбачыў два рады роўных белых зубоў. — І маршчын шмат было... Гэта зманлівае люстэрка.

— Цяпер вы такі ж малады, як усе навокал, незалежна ад узросту. Можаце пачынаць новае жыццё: вучыцца, любіцца, жаніцца — што заўгодна...

Карней з цікаўнасцю агледзеў сябе. Цяпер ён выглядаў гадоў на трыццаць: прыемны твар, русыя валасы, зеленаватыя вочы, іскрыстыя і маладыя.

— Як жа я вярнуся дамоў? Мяне ніхто не пазнае! — у адчаі ўскрыкнуў ён. — Як мне цяпер новы пашпарт сабе здабываць?

— Заставайцеся тут. Ці трэба вам вяртацца ў мінулае, каб дажываць век у закінутым селішчы, калі ў гэтым часе ў вас ёсць неабмежаваныя магчымасці для сапраўднага жыцця? Вы можаце выбраць сабе новую прафесію, сустрэць каханую жанчыну, нарадзіць дзяцей! Наперадзе ў вас бясконцае жыццё. Мы вырасцілі вам новую печань, лёгкія і нырку, падправілі храшчы, ачысцілі кроў! Вы абсалютна малады чалавек па ўсіх паказчыках. Гэтыя аперацыі мы можам паўтараць колькі заўгодна!

— Калі ж вы паспелі ўсё гэта? — здзіўлена спытаў Карней.

— Зірніце ў акно...

Карней глянуў праз шыбу і ўбачыў сад у квецені, яблыні пеніліся ружовымі кветкамі, над імі лёталі руплівіцы-пчолкі. Над садам панаваў дух аднаўлення, а высокае блакітнае неба акрывала з пяшчотаю і цеплынёю гэты невыказна прыгожы свет.

— Я трапіў да вас летам, а цяпер ужо вясна? Ці я праспаў амаль цэлы год? — уражана спытаў пацыент.

— Так, — пацвердзіў доктар. — Спалі вы на незвычайным ложку. Які, колькі трэба, масіраваў кожную вашу мышцу, не дапускаючы застою крыві. Вы працягвалі насычана жыць, мы навучылі вас у сне маляваць і пісаць вершы, мы давалі вам веды па гісторыі, эканоміцы, сацыялогіі, філалогіі, псіхалогіі ды іншых навуках. Так што гэты час для вас не прайшоў дарэмна! Вы яшчэ будзеце здзіўляцца сваёй дасведчанасці...

Карней памаўчаў, спрабуючы ацаніць пачутае, не ведаючы пакуль, радавацца альбо засмучацца тым пераменам, што адбыліся з ім. Свядомасць ягоная двайлася, адзін малады і бадзёры голас казаў: «Усё выдатна»; другі, стары і стомлены, пытаўся: «Навошта мне гэта?» Раптам ён зноў згадаў пра Уладзіка і з горыччу прамовіў:

— Мяне ж Інка, Уладзікава маці, пракляне, што я звёз невядома куды яе сына...

— Калі вы вернеце ёй здаровага хлопчыка, яна вам даруе... Здароўе дзіцяці — для бацькоў галоўнае, — адказаў доктар.

— Не зусім так. Інка жыла на дапамогу па інваліднасці за сына... А цяпер ні Уладзіка, ні грошай... Працы няма...

— Няхай Уладзік застаецца тут. У вашым часе, як я разумею, недасканалая сістэма адукацыі, усё на зародкавым узроўні. Вы пахадзіце па горадку, паглядзіце, як цяпер людзі апрацоўваюць зямлю, як сеюць, якія ў нас машыны, і наогул... Карацей кажучы, пераапранайцеся, касцюм ваш новы вісіць у шафе. Для вас падабралі рэтраадзенне, больш звыклае, чым цяперашняе.

— Аднекуль я ведаю, што адзенне ў вас шчыльна аблягае цела, як другая скура, і рэагуе на вонкавую тэмпературу. Калі горача, яна стварае прыемную прахалоду, калі холадна — саграваe.

— Усё так і ёсць. Пераапранайцеся, я вас чакаю на ганку.

Карней надзеў штаны, тэніску, куртку, паглядзеў на сябе ў люстэрка і зноў збянтэжыўся: свядомасць яшчэ не здатная была ўспрыняць новы вобраз. Але ён не стаў любавацца сабою, а хутка пайшоў да доктара, каб не прымушаць таго чакаць.

— Ну, як цяпер сябе адчуваеце? — доктар кінуў на пацыента зацікаўлены позірк.

— Не ведаю, што і сказаць. Старасць з маладосцю змагаюцца ўва мне. А хто пераможа?..

— Пажывём — пабачым. Зірніце, вунь дзеці гуляюць у футбол. Там Уладзік...

— Добра. А дзе ж мой аднарог?

— Знойдзеце яго на поплаве, — адказаў доктар і таропка вярнуўся ў корпус рэабілітацыйнага цэнтра.

Карней пайшоў да футбольнага поля і доўга прыглядаўся да двух дзесяткаў светлагаловых хлапчукоў у аднолькавых жоўтых і блакітных майках, пакуль нарэшце пазнаў Уладзіка. Хлопчык так быў захоплены гульнёю, што, здавалася, нічога, акрамя мяча, не бачыў, і на вачах у Карнея забіў гол. Трэнер, які вёў і судзіў гульню, пахваліў Уладзіка, маўляў, малайчына, старайся.

Карней дачакаўся, калі Уладзік вызваліцца і паклікаў яго да сябе.

— Хто вы? — здзіўлена спытаў хлопчык.

— Дзед Карней, не пазнаў мяне?

— Які ж вы дзед? — ніякавата цепануў хлопчык плячыма.

— Не здзіўляйся, Уладзік. Мы трапілі ў будучыню. Тут у людзей вялікія магчымасці. Цябе паставілі на ногі, а мяне вылечылі ад старасці і зрабілі маладым знешне, а ў душы я ўсё яшчэ застаюся дзедам.

— Я пазнаю твае вочы і ўсмешку, — сказаў Уладзік.

— Вось і добра. А калі табе цяжка называць мяне дзедам, дык заві дзядзькам.

— Добра, — ахвотна згадзіўся Уладзік.

— Ну, як табе тут?

— Добра, толькі я па маме засумаваў, па сястрычцы, дамоў хачу...

— І я таксама хачу дамоў. А ці зразумеў ты, што гэта і ёсць наша вёска Вырай у будучым? Замест нашых апусцелых хат вырастуць вось такія круглыя, як ступы, размаляваныя казачныя будыначкі, і жыццё будзе зусім іншае. Ты хочаш жыць вечна, Уладзік?

— Хачу!

— А я і не ведаю, браце... Нам, каб вярнуцца назад, трэба адшукаць нашага Косю ды добра падумаць... Ідзі пакуль, пагуляй з хлопцамі... А я пайду жарабя шукаць, — сказаў Карней, а сам падумаў, што, мусіць, аднарог за гэты час вырас у сапраўднага каня. Нясцерпна захацелася хутчэй яго ўбачыць. Ці пазнае свайго колішняга гаспадара? Зрэшты, невядома, хто кім валодаў?.. Гэта жарабя прывяло яго сюды, перайначыла жыццё, прымусіла жыць на раздарожжы, выбіраючы паміж мінулым і будучым.

## 13

Карней выйшаў на вуліцу, няспешна пакрочыў, прыглядаючыся да сустрэчных людзей, будынкаў, прыкідваючы, дзе чыя хата раней стаяла. «Здаецца, тут была Вользіна хата, побач — Аленіна, далей — Тэкліна, — узгадваў ён сабе. — А дзе ж мая дамоўка? Ні халеры не разбярэш, вуліцу перакроілі. Ні саду майго, ні явара ў канцы агарода! Шкада, а я ж па адным дрэўцы з райцэнтра вазіў. Па тры гатункі на яблыню прышчэпаў рабіў...» Задуменны, ён і не заўважыў, як перад ім узнікла дзяўчына ў блакітна-ружовым шчыльным камбінезончыку.

— Добры дзень! — бадзёра прывіталася яна.

Карней паглядзеў на дзяўчыну і вачам сваім не паверыў: перад ім стаяла юная Васіліса.

— Вы не помніце мяне, а я вас даглядала, калі вы лячыліся ў цэнтры...

Карней пільна ўзіраўся ў твар дзяўчыны, толькі адно адрозненне знайшоў. У Васілісы не было чорнай радзімкі злева над верхняю губою, значыць, гэта была не яна.

— Як ваша імя? — спытаў Карней.

— Гарыслава, — адказала яна. — Можна проста — Слаўка. Клічуць, хто як хоча. Мой муж, калі раззлуецца, называе Гарынычам. Я не крыўдую, няхай хоць гаршчком хрысціць, абы ў печ не ставіў. Ведаеце, мае продкі з гэтых мясцін. Прадзед, хоць і жыў часова за мяжой, куды яго вывезла маці з айчымам, як толькі дасягнуў паўналеццця, вярнуўся на радзіму. Ён быў добрым доктарам. Па традыцыі гэтай справай ў нас займаліся дзед і мой бацька, які выйграў тэндар на будаўніцтва тут рэабілітацыйнага цэнтра. Ад былой вёскі да таго часу тут і следу не засталося. Па сутнасці, мы заснавалі новы Вырай. Цудоўная назва, праўда?

Карней слухаў маладзіцу і думаў, была б тут зараз Леакадзія Максімаўна, яна б ад шчасця памерла: нашы нашчадкі захавалі беларускую мову і цудоўна ёю карыстаюцца!

— Вы цудоўна размаўляеце па-беларуску, — пахваліў Гарыславу Карней. — І доктар, што мяне лячыў, — таксама...

— Мы ж беларусы! Дзіва! Як жа можна іначай? У нас усе толькі так і размаўляюць!

Карней не мог адарваць вачэй ад твару маладзіцы, быццам не яна, а Васіліса зараз усміхалася яму маладымі вуснамі.

— З якога роду ваш бацька, як яго прозвішча? — спытаў ён.

— З Леснякоў мы. У мяне ёсць радаводнае дрэва, зараз пакажу.

Яна дастала маленькую скрыначку, панацiскала кнопкі, нібы гартаючы старонкі, і паказала Карнею. Ён здзівіўся, што бачыць такія маленькія літары, і зразумеў: зрок яму таксама вярнулі. На самым версе радаводнага дрэва красаваліся імёны Трахіма і Аксінні — гэта былі ягоныя бацькі, далей ішлі Карней і Васіліса, а ўнізе яшчэ пяць пакаленняў... Іван учытаўся ў імёны. Нараджаліся пераважна хлопцы, усе сем'і былі нешматдзетныя, найчасцей — адно дзіця, род не надта пашыраўся. Ён міжвольна падумаў, што хлопчыкі нараджаліся, як на вайну.

— Вось усё, што мы знайшлі. Пазнейшыя дакументы не захаваліся, — са шкадаваннем заўважыла маладзічка. — Зрэшты, у нас ёсць музей, вунь той двухпавярховы будынак. Мы паставілі яго на падмурку старой школы. Там можна пазнаёміцца са звесткамі пра гэтае селішча з пятнаццатага стагоддзя. Археолагі даследавалі нашы курганы і перадалі нам трохі матэрыялаў, якія датуюцца прыкладна пятым тысячагоддзем да нашай эры.

Карней усміхнуўся і прамовіў:

— Я твой прапрадзед, Гарыслава. Ты вельмі падобная на маю жонку Васілісу. Трахім і Аксіння — мае бацькі. А ў мяне былі дзед Міхалка і баба Хрысціна па матчынай лініі ды дзед Васіль і баба Адарка — па бацькавай. Гэта я табе кажу як жывы сведка, без усялякіх папер, можаш паверыць мне на слова.

Цяпер ужо Гарыслава ўтаропілася ў Карнея і пазірала, як на прывід. Вочы яе выпраменьвалі недавер, і яна сказала насмешліва:

— Вы маніце... Я не веру ў казкі і перасяленне душ...

— Хочаш вер, хочаш не вер, дарагая мая прапраўнучка, але так яно ёсць на самой справе. Я трапіў сюды з далёкага мінулага з дапамогаю аднарога і хачу вярнуцца назад. Чужы я тут і не патрэбны...

— Што вы, спадар Карней! Прашу вас, не крыўдуйце! Я шчаслівая мець такога прыгожага і маладога прапрадзеда! Хачу пазнаёміць вас з маімі сынамі. У

мяне іх двое. Аднаго завуць Трахім, другога — Карней! Бацька паехаў на сімпозіум у Амстэрдам, прыедзе праз тыдзень, тады я вас і з ім пазнаёмлю. А жыву я тут, у гэтай хаце. На жаль, спяшаюся на працу. Заходзьце ўвечары. Мае дзеткі са школы вернуцца, і муж будзе дома. Але, мусіць, ён не паверыць, што вы з мінулага... Нават калі вы ўсё гэта прыдумалі, я буду рада пазнаёміць сваю сям'ю з пацыентам, над якім мне давялося шмат папрацаваць. Вам жа вырасцілі новую печань, лёгкія, нырку і шмат што яшчэ, — яна хітравата ўсміхнулася. — Такая мудрая механіка. Адны зубы чаго каштавалі!

— Дык мае зубы не ўстаўныя? — у сваю чаргу здзівіўся Карней.

— Яшчэ чаго! Зубы ўстаўляць! Смех дый годзе! Растуць яны як міленькія! Галоўнае — добра пасадзіць.

Карней зразумеў, што ён не верыць ёй, а яна — яму. Яны людзі розных эпох і пакаленняў, але ён ужо любіў сваю прапраўнучку, ганарыўся яе розумам і адчуваў, што недарма жыў на свеце і кахаў сваю Васілісу. Яшчэ парадавала тое, што ёсць музей, пра які марылі Платонавіч з жонкаю. Хто сказаў, што мары не здзяйсняюцца? Здзяйсняюцца — няхай сабе і ў пятым калене!

Гарыслава прыязна развіталася з Карнеем, яшчэ раз запрасіла на вячэру і скіравалася да цэнтра рэабілітацыі. Ён пайшоў у бок поплава і раптам твар у твар сутыкнуўся з Іванам Прыблудным.

— Ці ты гэта, Іване? — ускрыкнуў Карней узрушана і нават радасна: як жа, сустрэў чалавека са свайго часу!

— Ну, я... А ты хто? — спытаў насуплена Іван.

— Карней, не пазнаў? Падмаладзілі тут мяне...

— Ты — Карней?.. А хаця, мне таксама тут зубы ўставілі і яшчэ хрэн ведае, што са мной зрабілі. Я таксама пасля іхняй рэабілітацыі сябе не пазнаў...

— Як ты сюды трапіў?

— Не помню. Добра заклаў за каўнер і заснуў, — Іван шчоўкнуў сабе па шыі двума пальцамі, — прачнуўся тут, на вуліцы. Яны мяне схапілі і павезлі ў свой цэнтр, пачалі страўнік мыць, клізмы рабіць замест таго, каб даць пахмяліцца. А ты што тут робіш?

— Хацеў ад цябе схавацца, ды не ўдалося, — пасміхнуўся Карней.

— Здохну тут! Скажы, як назад вярнуцца? — спытаў Іван, як злодзей, азіраючыся па баках.

— Не ведаю, — адказаў Карней, а сам падумаў, нашто гэтае пустазелле трэба ў вёсцы, няхай лепш тут перавыхоўваецца.

— А ў цябе выпіць няма?

— Няма...

— Вось трапіў дык трапіў! Тут жа гарэлкі не прадаюць, віно — і тое мензуркамі мераюць, а калі трохі перабраў — зноў у цэнтр, на чыстку. Яны мне прапаноўваюць вечнае жыццё, а на які хрэн яно мне? Мусіць, павешуся...

— Дык ідзі ў лес і гані сабе самагонку!

— Ага, у лес! Яны ж мяне ўключылі ў групу рызыкі, чып нейкі прышылі і трымаюць, як сабаку на ланцугу! Няхай яна гарам гарыць гэтая будучыня разам з імі!

— Супакойся, Іван, змірыся. Жыццё не такое благое. Падбяры тут сабе добрую маладзіцу ды і жыві, ты ж яшчэ зусім малады чалавек.

— Ох, не, Карней, не! Душа гарыць! Не вытрымаю я тут! Мне воля трэба! — Іван адчайна закруціў галавою.

— Бывай, яшчэ сустрэнемся! — Карней узмахнуў на развітанне рукой, яшчэ пачуў, што Іван нешта сказаў яму ўслед, але не азірнуўся: не мела сэнсу доўжыць далей гаворку. П'яніцу хоць побач з Богам пасадзі, яму ўсё роўна будзе блага.

Як толькі даміны расступіліся, яшчэ здалёку ўбачыў Карней цэлы табун белых жарабят. «Дзе ж мой Кося?» — разгублена спытаў сам у сябе і хутка пайшоў бліжэй, спадзеючыся ўбачыць свайго дарослага аднарога. Але тут быў толькі маладняк. Карней засумняваўся, мо ягоны конік так і не вырас, і пачаў клікаць свайго аднарога:

— Кося! Кося! Кося!

Аднак ні адно жарабя нават не павярнула галавы на ягоны голас. Табун шчыпаў траву і не звяртаў аніякае ўвагі на чалавека. Карней наблізіўся да аднаго жарабяці, памацаў лоб і адчуў пад пальцамі рог. Так гэта быў статак маладых аднарогаў! Адкуль ён узяўся? Мо заўсёды тут быў? А зрэшты, якая яму справа да гэтага абыякавага табуна. Сэрца трывожна захвалявалася, страх халадком прайшоў па спіне. Карнею трэба было знайсці свайго Косю, інакш ён ніколі не зможа вярнуцца ў свой час... Ледзь не подбегам кінуўся назад да доктара, бо толькі той мог сказаць, куды падзеўся Кося.

## 14

Доктар вагаўся, быццам падбіраў у думках самыя правільныя і патрэбныя ў гэты момант словы, нарэшце сказаў:

— Вымушаны прасіць у вас прабачэння, шаноўны спадар Карней, за ўсіх навукоўцаў нашай установы. Такая недарэчнасць атрымалася... Супрацоўнікаў вельмі зацікавіў ваш аднарог, яны вырашылі даследаваць яго, злавіць не змаглі, здолелі толькі загнаць у ангар і замкнуць там да раніцы... А на другі дзень знайшлі жарабя мёртвым. Мы ўсе былі ў роспачы! Не паверыце! Дзяўчаты галасілі, як па нябожчыку!

— Божа, я ж папярэджваў! Аднарогі не жывуць у няволі! — з болем і адчаем у голасе папракнуў доктара Карней. — Як можна было так здзекавацца з далікатнай жывёлы!

А сам падумаў са злосцю, што схаваў аднарога ад Платонавічавых акадэмікаў, дык гэтыя даследчыкі даканалі Косю.

— Даруйце, даруйце нам! Я гатовы стаць на калені і прасіць прабачэння! Вінаватыя мы ўсе: наіўныя і дапытлівыя людзі! Нам здаецца, што гэты свет існуе толькі для нас! А на самой справе — гэта мы жывём дзеля яго! Кожнае жыццё не больш, чым паленца ў яскравым вогнішчы жыцця! — горача прамовіў доктар. — Калі гэтае няшчасце здарылася, мы вырашылі кланіраваць аднарога. Атрымаўся цэлы статак з ягонага матэрыялу. Выкарысталі ўсё да апошняй шарсцінкі!

— Выходзіць, у майго Косі і магілы няма?

— Няма! Якая ж магіла можа быць у міфічнай жывёлы? Міфы жывуць вечна! І аднарогі цяпер будуць вечныя.

— Якія ж гэта аднарогі? — з сарказмам заўважыў Карней. — Яны дурныя, як авечкі. На чалавека ніяк не рэагуюць. Голасу быццам не чуюць...

Доктар з усмешкай зірнуў на Карнея і прамовіў:

— А нашто ім людзі, калі пашы даволі і кампанія ў іх вясёлая ды шматлікая. Вось калі аднарог застаецца адзін, тады ён шукае сабе сябра. А вы ўсё ж хочаце вярнуцца назад?

— Я не ведаю, мо застаўся б... У мяне тут знайшлася прапраўнучка ў пятым калене. Але Уладзік засумаваў па маме і сястрычцы...

— Ён дзіця і не можа вырашаць, дзе яму лепш. Калі вы вернеце яго ў мінулы час, дык пазбавіце доўгага і цікавага жыцця...

— Я пакуль не ведаю, што важней: вечнае жыццё тут ці гора маці, якая згубіла свайго сына. Можа, вы мне дапаможаце вырашыць гэтую задачу, доктар?

— Вядзіце сюды ўсю вашу вёску, разам з Уладзікавай мамай і сястрой...

— А маю памерлую жонку вы мне можаце вярнуць?

— Можам кланіраваць. Яна будзе як дзве кроплі падобная да вашай палавінкі.

— А што яна будзе ведаць і помніць пра мяне! Ці здолее пакахаць так, як кахала Васіліса? Не ведаеце? Дык навошта пачынаць справу, канец якой застаецца непрадказальным? Каб асуджаць сябе на новыя пакуты? А як я магу забраць з вёскі старую Тэклю, калі ў горадзе жывуць яе дзеці, унукі і праўнукі, якіх яна любіць больш за сябе самую і штодня чакае ў госці... Ды яна гэтую сваю ціхую і рэдкую радасць ніколі не памяняе на новую маладосць! Нічога, доктар, у маёй душы не змянілася. Калі я сустрэў сваю прапраўнучку, дык яшчэ вастрэй адчуў, які я стары. Не ў свой час трапіў! Пагасцяваў трохі, дзякую за ласку, пара дамоў збірацца.

Доктар маўчаў. Карней падняўся і пайшоў у двор. На ганку яго чакаў Уладзік. Хлопчык радасна кінуўся яму насустрач і спытаў:

— Дзядзька Карней, калі да мамы паедзем?

— Хутка, Уладзік. На жаль, Кося наш загінуў...

— Як? Чаму? — устрывожыўся хлопчык.

— Так атрымалася. Але на поплаве пасецца цэлы табун белых жарабят, пойдзем, выберам аднаго, прыручым, і будзе ён нам замест Косі. Мы ж не можам без яго дамоў вярнуцца. Там нас Платонавіч чакае... І твая мама, і Ангелінка...

— Пайшлі хутчэй, — згадзіўся Уладзік, узяў Карнея за руку і пацягнуў у бок поплава.

— Паспеем яшчэ, перш давай наведаем музей. Ты быў калі-небудзь у музеі?

— Не, не быў, а што гэта такое? — спытаў Уладзік.

— Гэта такі асаблівы будынак, дзе захоўваюцца розныя старыя рэчы, дзе пануе мінулы час. А мы, якія завіталі сюды з мінулага, можам даведацца тут пра сваю будучыню...

Карней з Уладзікам увайшлі ў музей, прайшліся па прасторных залах, разглядаючы розныя рэчы: каменныя прылады працы, наканечнікі стрэл, барану, саху, прасніцу, плуг ад трактара... Трапіліся ім фотаздымкі старой вёскі, на якіх Карней пазнаў і сваю хату. Потым падышлі да стэнду славутых людзей, доўга ўчытваліся ў знаёмыя прозвішчы, узіраліся ў партрэты. Людзей гэтых Карней не ведаў. Быў тут адзін пісьменнік, два лётчыкі, некалькі дэпутатаў Дзяржаўнай Рады і навукоўцаў, а сярод іх — астраном Астаповіч Уладзіслаў Францавіч.

— Глядзі, Уладзік, гэта ж ты! Астраномам будзеш, новыя зоркі адкрыеш, разгадаеш таямніцы Сусвету! — узрадавана ўсміхаўся Карней, а сам з надзеяй падумаў, што, мусіць, яны ўсё-такі здолеюць вярнуцца дамоў...

*Ян РАДВАН*

# РАДЗІВІЛІЯДА,*

## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

### *Кніга другая*

Што ж тут рабіць і з каго спаганяць адкупленне за страты?
«Варварскі край! Ты цяпер пакаранне спазнаеш нарэшце!
З гэткім жа Марсам і я буду вас праследаваць, людзі,
Хоць і ў гаротнай журбе...». Гэты вокліч — вянец ратнай справе.
Медных гармат галасы загучалі па пушчах пагрозна,
Нівы ажно загулі, як пусцілася конніца разам,
Воднай віхуры падобна, калі па шляхах і палетках
Вершнікі хваляй цякуць, разбіваючы ўсе ўмацаванні,
Хаты руйнуюць яны, гарады навакольныя бурацць.
Зззяюць мячы, наталяючы смагу гарачай крывёю,
Жудасны грукат цяпер адзываецца ў крэпасцях моцных.
Поле ахутана дымам, валы атачаюцца крыкам —
Гэта багаты Смаленск па забойствах учыненых плача.
Тут жа ліцвіны, разбіўшыся ў групы, далей спусташаюць
Веліжа плодныя землі і раняць людзей без разбору.
Дайце мне сто языкоў, дайце голас жалезны — не змог бы
Я б і тады апісаць гэты страшны разгром маскавітаў:
Марс ваяўнічы, ліхі ў той зямлі, лютаваў і сваволіў.
Сэрца Івана, аднак, не зраклося любові да сечы,
Князь не скарыўся — о не! — не прынёс прапановы аб міры,
Гонар святы занядбаў, песціць помсту адзіную ў сэрцы,
Лютасцю дыхае сам: безразважнасць, ды гнеў, ды заганнасць —
Вось чым кіруецца ён у вайне; а з людзьмі — як драпежнік,
Гэты бязлітасны монстр; зноў збірае вялізныя сілы,
Зноў прадпрымае вайну, ненажэрны і ўсё яшчэ моцны.
Подлым падманам сваім між усіх гарадоў і плямёнаў
Паніку сее, дзе толькі Масковіі снежнай прасторы.
Вунь на жалезных кавадлах мячы закаляюцца ў моцы,
Войска збіраюць маскоўцы ды стрэлы на камені вострацъ.

---

* *Працяг. Пачатак Кнігі другой у № 6, 7, 2011 г.*

Зноў граюць марсавы рогі ў журботным сугуччы; склікаюць
Тых, хто далёка жыве, на ўзбярэжжы Акі гаманлівай,
Цверычаў, пермскіх мужоў ды адважную бранскую моладзь;
Хто ля Салёнай[1] жыве, хто халоднымі водамі Обі
Смагу сваю наталяе, — шырэйшай ракі не бывае, —
Потым казанцаў яшчэ, астраханцаў ды гунграў[2] далёкіх,
Персам суседніх сібіраў, нязломных у войнах, якія
Плодныя нівы абходзяць каля гарадоў ахеменскіх,
Шмат азіятаў з-за Волгі, таксама і з-за Танаіса[3]:
Ён жа шырокай мяжой між Еўропай і Азіяй стаўся.
Мноства сабралася ўсіх: дзвесце тысяч вярхом прыскакалі;
Цёмная пыльная хмара ўзнялася, калі па раўнінах
Конніцы хуткай атрады панесліся ўсцяж; па-за гэтым
Войскі шматлікай пяхоты запоўнілі землі — там тысяч
Восем дзясяткаў было разнастайных плямён і народаў[4].
Глеба пад імі дрыжыць, расступаюцца воды рачныя,
Стогне ад стрэлаў зямля, пад гарматамі аж прысядае.
Так вось сваволіць зіма: адбіраючы ў аўстра лістоту,
Круціць-віруе ў лясах; так чарнявы натоўп мурашыны
Хлеба скрылёк атакуе, на дзёране мяккім забыты;
Так, як шматлікія хвалі ўздымае бурлівае мора, —
Так і вялікае мноства маскоўцаў панеслася хутка,
Новым захопам табе пагражаючы, Полацк магутны!
Густанаселены горад ад даўніх вякоў на ўзбярэжжы[5]
Хуткай Дзвіны падымае валы старадаўнія ўгору;
Быў ён аплотам русінам, пазней — уладаннем ліцвінаў,
Славіўся скарбам сваім, аж пакуль яму лёс быў спрыяльны.
Вось і тады ён квітнеў, а масковец, забыўшы дамовы,
Здрадна напаў, навакольным паселішчам чынячы страты;
Хуткі Рубон там бяжыць, Палата пераносіць бурліва
Росныя хвалі свае; працякаючы хуткаю плыняй,
Вал велізарны яна да муроў прыпярэзвае шчыльна.
Знік супакой: нападае бясконца імклівы масковец,
Жахі вайны несучы, ды пажары, ды безліч прыдумак —
Тых, на якія здаўна гэткі здольны быў Марс ліхадзейны.
Галас, бязладдзе і тлум!.. Вунь пад градам лятучых качулак
Рушацца, б'юцца наўсцяж старажытнага Полацка дахі.
Полымя ліжа муры ды спяшаецца ўнутр уварвацца;

[1] Салёная — рэчка, што працякае недалёка да горада Старая Руса.

[2] У арыгінале — Hungri. С. Нарбутас лічыць, што гаворка тут ідзе пра «уграў» (ugras). У «Аповесці мінулых гадоў» узгадваюцца «белыя угры», якія «атрымалі ў спадчыну зямлю славянскую». Акадэмік Д. С. Ліхачоў, каменціруючы гэты фрагмент, прыводзіць сведчанне венгерскага вучонага Ё. Перані, які ідэнтыфікуе «уграў» з цюркскім племем «анагураў», якое ў VI—VII ст. уварвалася на Балканскі паўвостраў.

[3] Танаіс — антычная назва Дона.

[4] Глоса: «Маскоўцаў: 200.000 вершнікаў, 80.000 пехацінцаў, 200 гармат».

[5] Глоса: «Полацк».

Горад, падпалены ўраз, уздымаецца вогнішчам цёмным;
Іскры на дрэва ляцяць, ды знутры кормяць паклю; дык ясна:
Дзікі свавольны агонь аж датуль не суцішыўся, покуль
Попелам сталася ўсё, засталася самотная крэпасць.
Вораг раз’ятраны тут на яе нападае з вялізнай
Сілаю войска, і мур сценабітным жалезам руйнуе.
Тут не ўстаіць нават ясеняў гай з хмараносных узвышшаў,
Зараслі нават старыя сасновага стромкага бору;
Шчыльнай заслонаю сцен не ўтрываў тут і мур непахісны:
Рушыцца, падае ён пад такой разбуральнаю сілай.
Сполах ганебны, аднак, не працяў мужных сэрцаў ліцвінаў,
Страх не прабраўся ў душу ваяроў дабрародных і годных:
Мужна закрылі грудзьмі зруйнаванае брамы праломы,
Хоць і няроўныя сілай ваеннай маскоўскаму войску.
Я не магу прамаўчаць пра цябе ў сваіх вершах, Глябовіч[1],
Роду выдатнага светач адзіны, ваяр найхрабрэйшы:
Ясная зорка, герой між ліцвінаў, ён добра вядомы
Доблесцю ратнай, яшчэ вылучаецца мудрай парадай
Часта ў сенаце. Аж Зайздрасць — і тая яго паважае,
Ведае: зуб паламае, як толькі ўкусіць паспрабуе.
Што за ваяр! Па заслугах ён зробіцца потым легендай.
Ворагі мчацца ды гоняць і смерць, і забойчую Парку;
Фронтам шырокім ідуць ды імкнуцца ўварвацца знянацку.
Сполах пануюць і страх, ды аблуды паўсюдна; адныя
Крэпасць загадваюць здаць, а другія — трымаць абарону.
Бог Найвышэйшы тады прагі славы і сіл прыбаўляе,
Болей натхнення ўлівае ў Глябовіча мужнае сэрца.
Жвава падскочыў: «Дакуль нам цярпець невыносную ганьбу?
Страх праганяйма, сябры! Што за боязь ды што за маруднасць?
Што за бязглуздасць цяпер вас усіх ахапіла знянацку?
Як жа ваш рыцарскі дух, што калісьці быў непераможны,
Гэтак раптоўна змяніўся на роспач ганебную? Годзе!
Станьце! Зважайце, мужы, на сябе і на подзвігі продкаў,
Аўгуста-князя імя ды на гонар, якім вы Радзіме
Маеце вечна плаціць, — і нязломнасць сваю пакажыце!
Гэй, ці не хочаце вы сваю зброю пакінуць без плёну?
Што азначае той вершнік — каляйнот старажытны ліцвінаў?
Дзе ж вам ратунку шукаць? Да якіх вы імкнецеся сховаў?»
Словам гарачым узняў ён саюзныя войскі на бітву.
З воклічам рушылі ўсе, наступаюць у роўных шарэнгах,
Жыцці гатовы аддаць пад мурамі высокімі вежаў.
Вось Галубіцкі суровы ды Корсакі — мужная моладзь[2],

---

[1] Глоса: «Глябовіч вельмі мужна абараняе Полацк». Маецца на ўвазе Ян Янавіч Глябовіч (1544—1590), які ў 1571—1585 гг. быў кашталянам мінскім.

[2] Глоса: «Арыстакраты, якія былі ў полацкай крэпасці».

Пётр, адважны ваяр з роду слаўнага Дарагастайскіх,
Полацкі сам ваявода Давойна, Нямірскія разам,
Гесманы тут жа ды граф (ён паляк з нараджэння) Вярхліньскі[1]:
Смерць ён гатовы прыняць у абмен на здабытую славу;
Шмат палачанаў яшчэ, вельмі годныя, мужныя людзі,
Крочаць на верную смерць, каб свабоду здабыць. Гэта бітвы
Вузел сапраўдны, хаця небагата іх лікам. Ды Слава
Мужных герояў такіх данясе да наступных стагоддзяў.
Войскі ўступаюць у бітву. Маскоўцы таўкуцца пры браме:
Тут іх і рубяць мячы, што пакінулі сховішчы похваў.
Сыплюцца стрэлы дажджом, толькі мноства аголенай зброі
Змусіла ўсё ж адступіць; вось на ратніка падае ратнік.
Націск натоўпу нарэшце руйнуе прабітыя сцены:
Падае збураны мур на маскоўцаў, ды іншыя тут жа
Круглыя кулькі свінца з дапамогай агню выпускаюць.
Кроў маскавітаў кіпіць; вунь адны, падарваныя, енчаць,[2]
Глебу ў пакутах грызуць, а другія забіты мячамі,
Іншых закручвае ў вір неспакойнымі водамі Дýна.
Стосамі трупы цяпер Палату запаўняюць, і гэта
Скрозь юнакі! Аж відаць, як крывёй напіваюцца хвалі,
Потым нясуць да Дзвіны тых забітых, што воды сцягнулі.
Гучна ліцвіны, аднак, завялі пераможную песню —
Нават па стратах ліхіх ды ў турботах няўмольнага Марса.
Самі не знаюць яшчэ: з-пад пенатаў нябеснага Пана
Што ім цяпер прынясе надвячорак або зараніца...
Што перажыў ты, Іване, убачыўшы столькі забітых?
Войска загублена ўшчэнт, пад мурамі высокімі лёгшы;
Гонар дзяржавы змарнеў, абнядужалі сілы вайскоўцаў.
З гэтай прычыны цяпер разгараецца злобай Масковец:
Сорам і гнеў авалодалі ім, і з вачэй апантана
Сыплюцца іскры. Пакольκі набожнасць не стала ўспамогай,
Кіем Іван пачынае святога лупіць Мікалая[3]:
«Што прамармычаш ты, здраднік, чаму ты мяне тут пакінуў,
Вывеўшы з роднага краю, фальшывы заступнік маскоўцаў?
Можа, хацеў бы ты дбаць пра лацінскія справы? Нашто ж мы
Курым табе фіміям ды панхейскія водары ўзносім,

---

[1] Мацей Стрыйкоўскі адзначае, што ў той час, як ваявода Полацка Станіслаў Давойна выйшаў з замка, аддаючыся на ласку вялікага князя Маскоўскага, «ротмістр Вяжхліньскі мужна абараняўся, умацаваўшыся ў праломе з палякамі і з полацкай шляхтай».

[2] Глоса: «Сіла, якая цураецца разважнасці, руйнуе сама сябе».

[3] Глоса: «Святы Мікалай, адзін з нябесных апекуноў маскоўцаў». Пра асаблівае ўшанаванне святога Мікалая жыхарамі Белай Русі пісаў нямецкі святар Пауль Одэрборн у сваім трактаце «Праўдзівы і надзейны аповед пра веру русаў, [іх] шлюбныя і пахавальныя абрады, побыт, адзенне і г. д., а таксама пра веру і звычаі татараў» (Росτак, 1582). Святы Мікалай, па словах пісьменніка, ушаноўваўся тут як Бог-ахоўнік.

Топім падатлівы воск, для цябе дабрадатна шануем
Вечны агонь, да таго ж у твой гонар узводзім святыні,
Ладзім святочныя дні, каб імя тваё мецъ у пашане;
Вобраз твой годна нясуць, і святар да народа выходзіць...
Значыць, і ты нам спрыяй ды шануй так, як мы, адпаведна!»
З гэткім жа гневам пасля ён вышэйшым саноўнікам кажа:
«О маскавіты, бяздзейны народ, нерашучыя ў сэрцы,
Толькі і здольныя вы балбатаць, што, маўляў, хопіць войнаў,
Колькі яшчэ ваяваць... Дзе ж ваш Марс, у нагах? Што за ганьба!
Спрытна ўцякаеце вы, я ж глядзець на такое павінен!
Косяць вас дружна мячы? Але я спачуваць вам не буду!
Бач, нелянівыя вы, што да Бакха, піроў, патанцулек, —[1]
Толькі б клубамі круціць, як дудар ці то лірнік зайграе!
Вы (калі хочаце жыць) умацуйце свой дух ваяўнічы:
Полацка сілаю зброі здабыць нам не ўдасца, а толькі
Змораны голадам люд пераможам працяглай аблогай.
Хай яны ноччу і днём у бясконцых пакутах там церпяць:
Час можа тое змагчы, што ні лютасць, ні гнеў не зруйнуюць.
Мне ж вы патрэбны цяпер са сваёй найвялікшаю сілай.
Той атрымае заплату, хто крыкне: «Захоплены горад!»,
Даўшы магчымасць хутчэй нашай раці здабыць перамогу».

[1] Глоса: «Норавы маскоўцаў».

***Пераклад з лацінскай***
***Жанны НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЙ***



*Андрэй ЖВАЛЕЎСКІ,*
*Яўгенія ПАСТАРНАК*

# ГІМНАЗІЯ № 13*

***Раман-казка***

## ЧАСТКА 2
## ЧОРНА-БЕЛАЯ БЛЫТАНІНА

### Глава 16
### ТО ШАХМАТЫ, ТО КАРТЫ

...Апамятаўшыся, Антоха заміргаў вачамі. Цяпер засталася толькі рэальнасць. І ў гэтай рэальнасці паміж Лёляю і ім стаяла Люба. Яна вельмі спакойна і добразычліва глядзела кудысьці паміж Антонам і Лёляю, але было зразумела — калі яны вырашаць ваяваць між сабою, спачатку давядзецца ўступіць у бой з Любаю. І сутычка не будзе лёгкаю.

Антоха асцярожна адышоў назад. Амаль адначасова тое ж самае зрабіла Лёля.

Чорнае і белае войска зараўло ад расчаравання.

— Баязлівец! — чуўся з агульнага лямванту голас Паляндры.

— Здрадніца! — скрыгатаў зубамі Пярун.

Сеўка, Маша і Мішка выскачылі ў калідор. Антон і Лёля працягвалі адступаць назад. Люба падавалася назад таксама, стараючыся прыкрыць іх адразу і ад белых, і ад чорных.

Цяжка сказаць, хто сарваўся з месца першым. Магчыма, аднарог, які цэліўся ў грудзі Антоху. Але можа, і змей, які імкнуўся абвіцца вакол Лёлінай шыі. А хутчэй за ўсё, яны пачалі рухацца адначасова, таму што сутыкнуліся на паўдарозе і счапіліся адзін з адным.

А ўслед за імі ў бой уступілі і абодва войскі.

Апошнім, што паспелі пабачыць гімназісты, перш чым кінуцца прэч ад спартыўнай залы, стаў клубок з чорных і белых байцоў, якія калашмацілі адзін аднаго. Па перакошаных лютасцю тварах і мордах немагчыма было вызначыць, хто тут белы, хто тут чорны...

* * *

Гімназісты зашыліся ў каморку да Кладавіка і сядзелі там, чакаючы, калі гукі бітвы аціхнуць.

Антон і Лёля так і не змаглі перасіліць сябе і падняць адно на аднаго вочы. Яны гэтак бы і сядзелі вечна ў розных кутках каморкі, калі б не Сеўка, які, расчарціўшы аркуш паперы схемаю, падняў усіх у ёй разбірацца.

---

* Працяг. Пачатак у № 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7 г. г.

Сеўка дамаляваў на адным краю карты белы круг і падпісаў «Лёля», а на другім — чорны і падпісаў «Антон».

— На сённяшні дзень карціна наступная, — сказаў Сеўка. — Антон за чорных, Лёля за белых, мы з Машкаю шэрыя...

— А што гэта значыць? — запытаўся Мішка.

Сеўка збянтэжыўся, але яму на дапамогу прыйшла Маша.

— Васька нам растлумачыў, што мы за ісціну, а не за колер! А яшчэ мы ўвогуле не адсюль, мае продкі прыйшлі на гэтую зямлю з Усходу, а Сеўкіны — з Захаду!

— Мы ўсе з «Захаду», — пацiснуў плячамі Мішка, — з трэцяга.

— Яна не мікраараён «Захад-3» мае на ўвазе, — уздыхнуў Сеўка, — а заходнія краіны. Мой прапрадзед з Даніі ў Вільню калісьці прыехаў... Добра, гэта не істотна! Галоўнае, што ў нас з Машкаю чорнага і белага пароўну, мы на расклад ніяк не паўплываем.

Сеўка дадаў у верхняй частцы кружочкі «Сеўка» і «Маша» і пачаў іх заштрыхоўваць.

— А мы з Любкаю? — зацікавіўся Мішка. — Мы адкуль прыехалі?

— Вы тут заўжды былі, калі верыць кату! — адказала Маша. — І колеру ў вас няма!

— Вох, — прабурчаў Мішка, — не трэба гэтаму кату верыць...

Сеўка, не звяртаючы ўвагі на яго бурчанне, намаляваў два кругі ўнізе схемы, падпісаў іх «Люба» і «Міша», пасля чаго намаляваў у кожным па пытальніку.

— І што? — запытаўся Мішка.

— І нічога, — сказаў Сеўка. — Пат. Сілы раўнаважныя.

— Гэта кепска? — запыталася Лёля.

— Відаць, гэта ніяк, — сказаў Сеўка, — калі ў іх тут вайна, дык ніхто нікога не пераможа, калі толькі мы не прымем чыйсьці бок.

— А абавязкова трэба, каб нехта перамог? — запыталася Люба.

— Магчыма, гэта наш адзіны шанц адсюль выбрацца, — сказаў Сеўка.

На Антона і Лёлю нельга было глядзець без шкадавання.

— А можа, руны нам дапамогуць? — нясмела запыталася Маша. — Калі ўжо яны ў нас ёсць, павінны ж яны нешта значыць.

— Дарэчы, — ціха сказаў Антон, вымаючы з кішэні сваю бірульку-руну, — мне Кашч... мне Паляндра аддала. Сеўка, паглядзі, што яна абазначае?

Сеўка палез у кніжачку, якую сцягнуў з бібліятэкі.

— Гэта руна «Воін», — паведаміў ён.

Маша зазірнула яму цераз плячо і хіхікнула:

— А па-мойму, гэта тыповы Гары Потар! Давай яе табе на лоб прылепім!

Антон міжвольна пацёр лоб. Сеўка зачытаў з кнігі:

— «І яшчэ гэта руна Перамогі, таму што Воін Духу набывае Сілу, толькі калі пераможа самога сябе, калі зможа разбіць кайданы свядомасці, калі прынясе ў ахвяру сябе знешняга дзеля вызвалення сябе ўнутранага».

— Цікава, — зноўку хіхікнула Маша, — Джоан Ролінг пра гэта ведала?

— Ды ведала, напэўна ведала, — сказаў Сеўка, — руны ж вельмі падобныя, нашы і скандынаўскія. Ды і кельцкія... У іх, хутчэй за ўсё, таксама штосьці падобнае ёсць.

— Прыкольна, Антоха, а можа, ты цяпер на мятле можаш лётаць? — ажывіўся Мішка. — О! Давай некалькі заклінанняў праверым, а? Я помню...

— Мішка, не смешна, — ціха сказала Лёля.

— Ну, як хочаце, — панікнуў Мішка.

— Значыцца, атрымліваецца, — задумліва сказаў Антон, — што парушыць раўнавагу можам толькі мы з Лёляю...

— Чаму ты не сказаў, што Паляндра дала табе руну? — запыталася Лёля.

— А каму гэта было цікава? — злосна прамовіў ёй у адказ Антон. — Ты ж тырчала ў свайго Перуна.

— Ён не мой! — усклікнула Лёля.

— А чый? Вы — белая косць... — Антон адвярнуўся.

— Паслухайце, — раптам адазвалася Люба, — вы павінны дамовіцца. Белыя, чорныя, нам усё роўна...

— Ну чаму ж, — перабіў Сеўка, — ужо лепш белыя. Яны неяк больш сімпатычныя.

— Цікава, чым жа? — прабурчаў Мішка. — Біліся яны аднолькава люта.

— Калі разважаць лагічна, — заявіла Маша і заслужыла ўхвальны позірк Сеўкі, — белы колер сімвалізуе Сонца, іншымі словамі — жыццё. А чорны — ноч, што азначае смерць...

— Ага! — насмешліва перапыніў яе Антоха. — Быў я ў Егіпце, дык там Сонца не жыццё сімвалізуе, а поўны каюк усяму жывому!

Але яго ніхто не падтрымаў. Наадварот, Мішка пацягнуўся з салодкай усмешкай:

— Эх, я зараз бы на сонейка з задавальненнем зірнуў...

— Значыцца, — адазвалася Маша голасам, у якім пачулася лёгкая дрогкасць, і закончыла: — Белыя павінны перамагчы чорных.

Заўважыўшы цяжкі позірк Антохі, яна дадала выбачлівым тонам:

— Гэта проста логіка...

Усе маўчалі, пазіраючы на Антоху.

— Дайце мне падумаць! — прамовіў ён не расціскаючы зубоў.

Сеўка і Маша ледзьве не з палёгкай адвярнуліся, Мішка паціснуў плячамі і для пэўнасці пайшоў у дальні куток кладоўкі. Люба прыабняла Лёлю і таксама адвяла яе ўбок, нашэптваючы штосьці супакойлівае на вуха.

Антон пачаў думаць.

Прымаць рашэнне страшэнна не хацелася, і таму ў галаву лезлі ўсялякія іншыя думкі. Напрыклад, чамусьці згадалася, што Паляндра называла яго падчас бітвы не па імені, а па прозвішчы. Ды яшчэ і дзіўна гэтак, як быццам з прыдыханнем... Нехта ж яшчэ нядаўна гэтак жа яго называў... Не «Волкаў», а «Волкхаффф»...

— Волкхафф, — у задумлівасці паўтарыў Антоха.

— «Волхвы не боятся могучих владык, — нечакана адчаканіла Маша, — и княжеский дар им не нужен...»

— Чаго? — здзівіўся Антоха.

— «Правдив и свободен их вещий язык, — працягнула Маша, — и с волей небесною дружен».

Цяпер ужо ўсе з неўразуменнем утаропіліся на яе.

— Гэта Пушкін! — патлумачыла Маша. — «Песня пра Вешчага Алега».

— Да чаго тут Пушкін? — не зразумеў Антон.

— Ну, ты сказаў «Волхв», я адразу і ўспомніла!

— Я не «Волхв» сказаў, а... — Антон так і застыў з разяўленым ротам.

— Цябе так важак зграі называў, — павольна прамовіла Лёля. — Ты што... «волхв»?

— Я? — здзівіўся Антон. — Ды з чаго б гэта?

І задумаўся.

— А хто такія «валхвы»? — запытаўся ён праз хвіліну.

— Яны не баяцца магутных уладароў! — паўтарыла ў перакладзе Маша. — Адным словам, вешчуны, альбо яшчэ чарадзеі.

Антон паморшчыўся.

— Гэта мы ўжо чулі. А яшчэ што-небудзь ведаеш?

Маша схавалася за Сеўку.

— «Валхвы» на Раство немаўлятку Хрысту дарункі прынеслі, — успомніў Сеўка.

— А я тут пры чым? — здзівіўся Антон.

— Ні пры чым, відаць, — сказаў Сеўка. — Ведаеце што, там ужо ціха, наверсе. Пайшлі ў бібліятэку, пакуль бітва заціхла.

— Ідзіце, ідзіце, — праскрыпеў з кутка Кладавік, — і я цалейшым буду.

— А што, для цябе ёсць небяспека? — спалохалася Маша.

— Пакуль не ўмяшаюся — няма, — уздыхнуў Кладавік, — але я ж умяшаюся, я сябе ведаю. Так што ідзіце далей ад граху. Ідзіце, ідзіце, — працягнуў ён, убачыўшы збянтэжанасць гасцей, — у калідорах чыста. Усе сядзяць па дамах, раны залізваюць. Так што некалькі гадзін нічога не бойцеся.

* * *

У бібліятэцы было ціха, утульна і вельмі спакойна.

— Давайце тут спаць застанемся, — прапанавала Маша, — а то ў спартыўную залу вяртацца не хочацца.

Антон кіўнуў. Яму таксама не хацелася вяртацца ў залу. Яму ўвогуле не хацелася нікуды ісці — сесці б і ціха сядзець дзе-небудзь у куточку.

— Сеўка, ты знойдзеш кніжку пра вешчуноў ды розных чарадзеяў? — запытаўся ён.

— Ага! — радасна адказаў Сеўка і знік у праходзе паміж шафамі.

— Я таксама пашукаю! — у тон Сеўку ўсклікнула Маша і знікла ў другім праходзе.

Астатнія не падзялялі энтузіязму «шэрай» парачкі і цярпліва чакалі, чым закончацца пошукі. Антон, каб ні на каго не глядзець, сеў за стол бібліятэкаркі і апусціў галаву на рукі.

— О! — адазвалася Маша праз некалькі хвілін. — Як цікава!

— Што? — запытаўся Антон не паднімаючы галавы.

Машка вярнулася з чарговай энцыклапедыяй і грымнула яе на стол.

— Аказваецца, была такая багіня — Лёля. Багіня вясны, кахання, прыгажосці...

— Я прасіў пра чарадзеяў, тых самых «валхвоў» знайсці, — перапыніў Машу Антон.

— Ага, ага, ага, я помню, — зачасціла Маша, — але тут так цікава! Аказваецца, яна дачка Маці Багоў, і тут такія прыгожыя абрады! Яе ролю заўжды выконвала самая прыгожая дзяўчына...

— Хопіць! — раўнуў Антон.

Чамусьці было невыносна слухаць, як расхвальваюць Лёлю.

— А руна «Лёля», — працягвала Маша, — звязана з вадою. Іншымі словамі, у ёй сіла вады.

— Так, — страпянулася Лёля, — я помню, тады, у падзямеллі, мяне як быццам свежай вадою напаілі...

— Слухай, — сказала Маша, заміраючы ад захаплення, — а раптам ты на самой справе Лёля? Нездарма ж табе руна адчынілася!

— Маш, ну што ты прыдумляеш, — адмахнулася Лёля.

— Я не прыдумляю! — пачала настойваць Маша, ідучы ўслед за Лёляю па пакоі. — Паслухай, усё ж лагічна! Нават калі ты не багіня, дык нейкі яе далёкі нашчадак...

— Вядома ж, багіня, — з'едліва адгукнуўся Антон. — Ну няўжо нехта яшчэ ў гэтым сумняваецца? Белая косць, усе справы... Пярун яе да сябе ў госці кліча. Не тое, што мы ўсе...

Лёля адвярнулася да сцяны і з усіх сіл старалася не заплакаць.

— Антон, ты чаго? — здзівілася Маша. — Навошта ты на яе нападаеш? Што яна табе зрабіла?

— Нічога! — кінуў Антон. — Якраз у тым і справа, што нічога! Яна багіня, давайце цяпер усе будзем вакол яе скакаць. Куды ўжо нам, валхвам-вешчунам нейкім занюханым, з ёю цягацца!

— Антон, ты не справядлівы! — уступіла ў размову Люба.

— Так, я не справядлівы! Я заўжды не справядлівы! Я ўва ўсім не справядлівы! Я ўвесь час усё псую! Я — чорны! І маё месца ў падвале, з Кашчэем.

— А яшчэ ты — Гары Потар, — хіхікнуў Мішка.

Скандал, які ледзьве не ўспыхнуў, спыніў Сеўка. Ён цягнуў запылены том з такім выглядам, што адразу стала зразумела — знайшоў! Нават Антоха і Лёля адразу забыліся на ўсе крыўды.

— «Валхвы, — прачытаў горды Сеўка, — гэта асаблівы клас людзей, якія карысталіся вялікім уплывам у старажытнасці. Гэта былі мудрацы, ці так званыя магі, мудрасць і сіла якіх зводзілася да ведання таямніц, што былі недаступныя звычайным людзям».

— А чаму я, «волхв», чорны? — запытаўся Антон. — А не шэры, як вы... мудрацы?

Сеўка не пакрыўдзіўся, яго надта ж распірала гордасць за знойдзены адказ на цяжкое пытанне.

— Ды таму што! Чытай! — Сеўка сунуў Антоху пад нос раскрытую кнігу.

Гарачае жаданне дапамагчы таварышу сыграла з Сеўкаю злы жарт, ён ледзьве не заехаў Антону па носе. Давялося адбіраць у гордага даследчыка кнігу (гэта аказаўся «Міфалагічны слоўнік») і чытаць. Прычым гаворка там ішла не зусім пра «валхва», а пра нейкага Волха.

— Волх, — паспешліва прачытаў Антон, — міфалагізаваны персанаж былін, уладальнік цудадзейных пярэваратных уласцівасцей».

Далей ішла заблытаная гісторыя пра нейкага Волху Усяслававіча, якога часам для разнастайнасці называлі Вольгай. Гэты ВУ аказаўся спрытным хлопцам, народжаным ад змея...

Калі Антон дачытаў да гэтага месца, Мішка не ўстрымаўся і прашаптаў:

— Гары, ты разумеешшшш мову зззмеяўўў?

Антон вырашыў не марнаваць часу на жартаўніка і далей чытаў ужо сам сабе. Увогуле, яму гэты Волх нават спадабаўся: сапраўдны важак, з дванаццаці гадоў ужо дружынай камандаваў, на Індыю ў паход хадзіў. І пераварочвацца ўмеў не толькі ў ваўка, але і ў сокала, а таксама і ў нейкага тура — залатыя рогі. «У быка, ці што?» — здзівіўся Антон.

Далей слоўнік расказваў пра ўсялякія подзвігі Волха, у цэлым — таксама гераічныя. Праўда, у канцы Волх чамусьці аб'явіў сябе роўным Перуну і, як пісалі ў кнізе, «супрацьпаставіў сябе яму». Скончылася гэта кепска. Нейкія таямнічыя «рачныя д'яблы» ўтапілі Волха ў рэчцы.

Антон загарнуў кнігу і змрочна працягнуў яе ззяючаму Сеўку.

— І чаму ж ты гэтак радуешся?

— Дык жа разабраліся! — вось тут Сеўка пакрыўдзіўся.

— У чым? — Машка пачала вырываць слоўнік з яго рук.

— Зараз раскажу! — не здаваўся той.

Антон, якому меней за ўсё хацелася прымаць удзел у абмеркаваннях даўніх сутычак свайго «цёзкі па прозвішчы» з Перуном, павярнуўся і выйшаў з бібліятэкі.

У калідоры стаяла няўстойлівая цішыня. Калі не прыслухоўвацца — як быццам проста ціха. Але калі Антон «уключыў» воўчы слых, цішыня напоўнілася шоргатам і скрыпамі. У канцы калідора Кабінетавік рамантаваў крывое крэсла. Трошкі далей чыесьці мяккія лапы асцярожна неслі свайго ўладальніка па пратаптаным маршруце. «Напэўна, дазорны, — падумаў Антоха. — Начны дазор!» — і ўсміхнуўся.

«Куды ж мне пайсці...» — мільганула думка, а ногі самі неслі яго ўніз, у сутарэнне.

На гэты раз ён сустрэў Паляндру, калі яна раскладвала пасьянс на старых школьных сталах, якія адправілі на звалку.

— Прывітанне! — сказаў ён.

— Прывітанне, — не паднімаючы галавы, адказала Паляндра.

Антон трошкі патаптаўся ў парозе, а потым увайшоў і сеў на вольны край стала. Паляндра моўчкі раскладвала карты, Антон спрабаваў сфармуляваць мноства пытанняў, якія ў яго назбіраліся. Фармулёўкі знікалі, таму што побач з гэтай прыгожай маладой жанчынай зусім не думалася пра тое, што яна мае дачыненне да нейкіх цёмных сіл.

— Я — «волхв»? — нарэшце запытаўся Антон. — Іншымі словамі, чарадзей, вяшчун?

Паляндра кінула на яго хуткі позірк і няпэўна пацiснула плячамі.

— А ты гэтага хочаш? — пацікавілася яна.

— А мяне нехта пытаецца? — з'едліва пытаннем на пытанне адказаў Антон.

— Я пытаюся, — спакойна прамовіла Паляндра. — Ты, дарэчы, у карты гуляеш?

— У «дурня»?

Паляндра паморшчылася.

— Самі робіце з сябе дурняў, а потым яшчэ і крыўдуеце, — сказала яна ўбок. — Давай у «дваццаць адно». Хоць інтуіцыю развівае...

Паляндра змяшала карты і пачала павольна і прыгожа іх тасаваць.

— Ты хочаш быць чарадзеем? — запыталася яна.

— Адкуль я ведаю! — буркнуў Антон. — Я ж паняцця не маю, што трэба рабіць...

— А чаго тады незадаволены?

Антон утаропіўся ў стол, а Паляндра пачала павольна здаваць карты.

— Вочы адводзіш, — сказала яна, — нядобрая прыкмета.

Антоха адкрыў свае карты, пабачыў сямёрку віна і пяцёрку трэфа.

— Яшчэ! — сказаў ён.

Паляндра з мілаю ўсмешкай працягнула яму карту. Антон адкрыў званковую дзесятку.

— Нуль — адзін, — спакойна сказала саперніца. — Цяпер здавай ты, каб цікавей было.

Антон узяў у рукі карты і пачаў іх перамешваць.

— Калі ты адводзіш вочы — значыцца, нешта супраць мяне маеш, так?

— Не, — хутка сказаў Антон, разглядваючы карты.

— Потым падняў-такі вочы і ўткнуўся ў пранізлівы позірк Паляндры.

— Я не хачу быць чорным, — сказаў ён.

Перавёў позірк на калоду і пачаў здаваць.

— Чорнае... Белае... — Паляндра запаліла і паглядзела ў карты. — Яшчэ!

Антон працягнуў ёй «яшчэ», і яна кінула на стол дзясятку чырваў, сямёрку віна і званковага караля.

— Дваццаць адно! — сказала яна. — Нуль — два, я здаю.

Паляндра забрала карты.

— Начыталіся ўсялякіх модных кніжак і думаеце, усё так проста — адзін чорны, другі белы... Два вясёлыя гусакі...

— Я не думаю, што проста, — сказаў Антон, — але я не разумею, чаму...

— Панавешвалі ярлыкоў, а цяпер самім даводзіцца пакутаваць, — працягнула Паляндра.

— Ды растлумач ты як мае быць! — не вытрымаў Антон.

— А што тлумачыць? — стомлена сказала яна, выпускаючы дым. — Немагчыма сябраваць з усімі. Нехта кагосьці любіць, хтосьці некага не любіць. А ўжо калі яшчэ і барацьба за ўладу...

— Ты нешта з Перуном не падзяліла? — запытаўся Антон.

— Я з ім шмат чаго не падзяліла, — адказала Паляндра. — А яшчэ ў яго хваравітае самалюбства, якое калі прышчаміць...

Паляндра драпежна выскалілася і кінула Антону карты.

— Але чаму ён — белы, а ты... наадварот? — запытаўся Антон. — Яшчэ адну карту.

— Мне не пасуе белы колер, — адрэзала Паляндра і адкінула за спіну чорную касу.

— Але ты не падобная на ліхадзейку, — сказаў Антон.

Паляндра разрагаталася.

— Антон, паслухай, не трэба ставіцца да гэтага так сур’ёзна. Ты ж ведаеш, дзе вы.

— Дзе? — перапыніў яе Антон.

— У казцы, — усміхнулася Паляндра, — тут жа ўсё ўмоўна. Ды і ўвогуле мы багі, мы вершым лёсы свету...

Паляндра хмыкнула.

— Дарэчы, у цябе ўжо перабор, — сказала яна. — Але свой лёс мы вяршыць не можам.

— Хочаш сказаць, што ты асуджана быць Кашчэем? — запытаўся Антон.

— Ну, ужо адразу асуджана, — засмяялася Паляндра. — А хто сказаў, што гэта кепска? Мне ўсё падабаецца. Павінен жа нехта супрацьстаяць гэтаму напышліваму, самаўлюбёнаму, нахабнаму...

— А дамовіцца нельга?

— Нееe, дамовіцца нельга. Сэнс жыцця будзе страчаны.

Антон раздаў карты. На гэты раз Паляндра набрала дваццаць адно адразу, дзвюма першымі картамі.

— Сумна з табою гуляць, — сказала яна, кінуўшы на стол туза і дзесятку. — Па-першае, у цябе выключна неразвітая інтуіцыя...

— А па-другое? — насупіўся Антон.

— А па-другое, у мяне мечаная калода!

Паляндра разрагаталася. Антон успыхнуў і падняўся з крэсла.

— Я пайду, — сказаў ён.

— Ідзі, — спакойна адказала Паляндра.

Антон дайшоў да дзвярэй, але на парозе ўсё-ткі развярнуўся.

— Я шмат пра што хацеў распытаць...

— Ідзі, — спакойна і ўладна паўтарыла Паляндра.

Антон зразумеў, што яго настойліва выправаджваюць за дзверы. Стала крыўдна. Вельмі...

На гэты раз ён развярнуўся і пайшоў не азіраючыся.

— Вось жжжжа-жж Кашшшчэй! — прашыпеў вялізны чорны Змей, выпаўзаючы з-пад стала. — Узяла і пакрыўдзіла Волхха...

— Дурань ты, — ціха сказала Паляндра, — калі б я была сапраўдным Кашчэем, я не крыўдзіла б... Я прывабіла б так, што ён пра ўсіх сваіх сяброў і думаць бы забыўся... Я яго не адпусціла б.

— Думаешшш, змагла б?

— А тое! — усміхнулася Паляндра.

— Тады чччаму жжж...

— Таму што гэтая дзяўчынка моцна яго зачапіла. А ты ж ведаеш, я не люблю прайграваць... А калі шчыра... Мне здаецца, гэтыя дзеткі што-небудзь прыдумаюць.

— Інтуіцццыя? Ці зноў шшштосьцці мечччанае?

— Я заўжды гуляю сумленна, — сумна сказала Кашчэй. — Але ўсім так хочацца верыць, што іх падманваюць...

## Глава 17

## БОГУ ПАТРЭБНА АХВЯРА

Антоха ішоў па лесвіцы ўверх і злаваўся на Паляндру за тое, што тая абышлася з ім, як з маленькім: абдурыла, пасмяялася і выставіла за дзверы. Відаць, сядзіць там цяпер, зларадпічае... Усё-ткі Кашчэй — яна і ёсць Кашчэй...

З-за змрочных думак ён не заўважаў нічога наўкол да таго часу, пакуль не ўткнуўся ў Сеўку.

— Ты чаго тут ходзіш? — абурыўся Антон.

— Цябе шукаю, між іншым, — адказаў Сеўка. — Лёля вельмі хвалюецца, яна ірвалася адна ісці цябе ратаваць, я яе не пусціў.

— І яна цябе паслухалася? — з’едліва запытаўся Антон.

— Ну так... — здзівіўся Сеўка. — А што?

«А са мною спрачацца пачала б?» — падумаў Антон і толькі тут заўважыў Лёлю, якая стаяла трошкі ўбаку.

— Знайшоўся? — рэзка запыталася яна. — Ну і цудоўна.

— Добра, калі ўжо Антоха жывы, пайду я далей чытаць. Там Машка столькі цікавага пазнаходзіла!

Сеўка збег, асвятляючы сабе шлях ліхтарыкам, а Антон і Лёля засталіся адны ў змрочным калідоры.

— А я пра Лёлю ў кнізе пачытала, — парушыла маўчанне дзяўчынка.

— Пра багіню?

— Ага.

— Ну і як, німб не ціснe? — злосна запытаўся Антон.

— Не ціснe, — спакойна адказала Лёля. — Шмат падобнага. Але яна — гэта не я. Я чалавек. І ты, дарэчы, таксама. А ўсялякія цуды... — Лёля няпэўна пацiснула плячамі. — Дык мы ж у казку трапілі.

— У казку трапілі... я чалавек... — зачаравана паўтарыў Антон і ўспомніў словы Паляндры. — Багі могуць вяршыць лёсы свету, а свой лёс не могуць...

— Багі — не могуць, — пацвердзіла Лёля.

— А людзі? — запытаўся Антон. Але ён, калі пытаўся, ужо ведаў адказ. — Людзі могуць! — паведаміў цёмнаму калідору Антоха.

У яго быццам гара з плячэй звалілася.

— Паслухай, — сказаў ён, — я не хачу ні з кім ваяваць. І я не хачу быць чорным! Я, праўда, і белым быць не хачу... Але калі гэта адзіная магчымасць выбрацца... Давай, ідзі да свайго Перуна. Скажы, што ў яго распараджэнне паступае зводны дыверсійны атрад «Зебра».

— Чаму «Зебра»? — здзівілася Лёля, тут жа здагадалася і ўсміхнулася. — Ну гэтак! Чорна-белыя! Ёсць, таварыш камандзір атрада!

Антоху здалося, што ў калідоры трошкі пасвятлела.

А яшчэ ён раптам пабачыў фінал сну, які так доўга яго даймаў. Яго верны воўк сумна-сумна глядзеў яму ў вочы. Ён нават як быццам хацеў завіляць хвастом. Але ваўкі гэтага не ўмеюць, таму шэры напарнік бязгучна запытаўся: «Ты ўпэўнены?» «Вядома, — адказаў Антон, — але мне будзе цябе не хапаць». — «Нічога, — падумаў у адказ воўк, — ты здолееш. Ты цяпер дужы».

Ён урачыста нахіліў морду, развярнуўся і пабег трушком у цемру. На душы ў Антона стала адначасова і лягчэй, і цяжэй. Ён зразумеў, што воўк больш да яго не вернецца...

Калі ён апамятаўся, Лёлі побач ужо не было.

* * *

Лёля бегла наверх, пракручваючы ў галаве, што зараз адбудзецца. Пярун, мудры і грозны, скажа: «Малайчына, Лёля»... Ці: «Ты паклала канец спрадвечнай варожасці»... Ці проста пакланіцца ёй — не ў ногі, зразумела, а ледзь заўважна схіліць галаву...

Лёлі было трошкі сорамна за свае думкі, але яна нічога не магла з сабою зрабіць. Усё-ткі гэта менавіта яна пераканала Антона перайсці на бок белых! Менавіта яна зможа забяспечыць перамогу дабра над злом! Напэўна, гэта будзе апошняя перамога, і болей ніколі чорныя арміі...

Лёля выскачыла на дах.

— Пярун! — закрычала яна.

Але працягнуць не паспела.

Нешта бліснула, загрукацела, і ў твар ударыў свежы пах азону. Дзяўчынцы давялося праціраць вочы і трэсці галавой, каб апамятацца.

— Як ты смееш?! — прагрымеў голас, такі ж аглушальны, як гром перад ім. — Ты! Здрадніца!

Ад абурэння Лёля атарапела.

— Я?...

Але Пярун зноўку не даў ёй дагаварыць.

— Маўчаць! Ты не зрабіла таго, што трэба было зрабіць... Маўчаць, я сказаў!

Лёля пакінула спробы ўставіць слова і працерла нарэшце вочы. Пярун свяціўся ў паўзмроку, быццам неонавая рэклама. Побач з ім біў капытом аднарог, а за спінаю хвалявалася празрыстае воблака — гурт дзівосных дзяўчат. Аднак твары ў іх зараз былі зусім не дзівосныя, хутчэй скрыўленыя грымасамі гідлівасці.

— Ты вартая пакарання!

Лёля ўпарта нахіліла галаву, але Пярун, здаецца, вырашыў, што яна просіць прабачэння. Яго голас стаў не такім раскацістым.

— Але я добры! Да таго ж, Лёля, ты белая. Чыста белая, якіх мала засталося цяпер. Я гатовы дапусціць цябе да сваіх стоп і нават выслухаць. Ад цябе патрабуецца зусім трошкі, простая фармальнасць...

Нешта ў голасе Перуна прымусіла Лёлю напружыцца.

— Мне патрэбна... ахвяра, — зняважліва закончыў белы правадыр. — Чалавечая ахвяра.

Да Лёлі ад узрушэння вярнуўся дар мовы.

— Што табе патрэбна? — нявептліва перайшоўшы на ты, запыталася яна.

— Нам, вялікім багам, — вялікасна прамовіў Пярун, не заўважыўшы Лёлінага здзеклівага тону, — спакон веку прыносілі ахвяры. Тады мы, — Пярун выпрастаў плечы, — змянялі гнеў на міласць.

У Лёлі на языку закруцілася шмат непрыемнага пра вялікіх багоў, але ўслых казаць яна нічога не стала. Развярнулася і пачала ціха спускацца з даху.

— Заўтра апоўдні! — данеслася да яе.

* * *

Лёля спусцілася на трэці паверх і села проста на прыступкі. Па-першае, падкасіліся ногі, па-другое, дагналі слёзы. Усе яе надзеі на мір праваліліся, а Пярун — той самы Пярун, які белы і справядлівы, які быў для яе сімвалам дабрыні і міру, таму што белы колер — гэта дабро, — Пярун аказаўся дурным і злосным.

Лёля разрыдалася. Хтосьці яе супакойваў, гладзіў па галаве і нават прынёс вады. Лёля рыдала, не звяртаючы ўвагі на такія дробязі. Ачулася, калі ўсе слёзы былі выплаканы, падняла вочы і сустрэлася з добрым і ўважлівым позіркам Любы. Больш побач нікога не было відаць.

— Што здарылася, Лёлечка?

— Я ў яго верыла... — выдыхнула Лёля.

— Ён не хоча дапамагчы?

— Горш, — уздыхнула Лёля, — ён... ён...

Вочы дзяўчынкі зноў напоўніліся слязьмі.

— Што «ён»?

— Ён хоча, каб мы прынеслі ахвяру.

— Відаць, не ахвяру, а проста падарунак, — спакойна сказала Люба. — Можна ж прынесці яму плюшкаў, цукеркаў усялякіх...

— Не, — перапыніла Лёля, — ён хоча чалавечую ахвяру. Ён гэтак сказаў.

Люба адхінулася, як быццам яе выцялі.

— Так і сказаў? — перапытала яна.

Лёля кіўнула. Люба паднялася з прыступак і змрочна пачала туды-сюды крочыць па калідоры.

— Ты не кажы нікому пра гэта, — сказала яна, — а не то хлопчыкі біцца палезуць, ты ж іх ведаеш...

— Ды як я магу не сказаць?

— Ну скажы не ўсё. Скажы проста — не дамовіліся.

— Але чаму? — ашаломлена запыталася Лёля.

— Таму што я, здаецца, ведаю, як выканаць гэтую ўмову. Але мне патрэбна, каб мне ніхто не перашкаджаў.

Люба, поўная рашучасці, пацягнула Лёлю за сабой.

— Ідзем да астатніх, яны ўжо хвалююцца.

Усе па-ранейшаму сядзелі ў бібліятэцы і сапраўды ўжо хваляваліся. Убачыўшы заплаканую Лёлю, Антон падхапіўся і кінуўся да яе.

— Што здарылася? Ён цябе пакрыўдзіў? — Антон сціснуў кулакі.

— Вось бачыш, — прашаптала Лёлі на вуха Люба.

— А што, яе крыўдзіць толькі табе можна? — з падколкай запыталася Маша.

— Ён... ну... — Лёля пакутліва прыкідвала, што ж сказаць.

— Заўтра... — прашаптала Люба.

— Ён сказаў прыйсці заўтра, — выціснула з сябе дзяўчынка.

— А чаго ты плачаш? — з падазронасцю запытаўся Антон.

— Ён сварыўся, — шчыра адказала Лёля, — казаў, што я здрадніца, і ўвогуле...

— Ён мне адразу не спадабаўся, — скрозь зубы сказаў Антон.

— А што рабіць? — запытаўся Мішка.

— Спаць класціся, — сказала Люба. — Раніца заўжды мудрэйшая.

— А можа проста пайсці да Перуна і даць яму па мордзе, га? — з надзеяй прапанаваў Мішка, прыладкоўваючыся на двух крэслах.

Лёля ўспомніла гром, пах азону і ўздрыгнула.

— Не! — сказала яна і пераглянулася з Любаю.

— Добра, чакаем да заўтра, — сказаў Антон, задумліва гледзячы на дзяўчынак.

— А нельга нам быць самім па сабе, ні за каго? — ціха запыталася Лёля.

Сеўка, які ўжо скурчыўся клубочкам, абклаўшыся кнігамі і выкарыстоўваючы самую вялікую з іх у якасці падушкі, зараз жа страпянуўся.

— Нельга! Пакуль цябе не было, мы тут з Машаю ўсё высветлілі.

— Што? — запыталася Лёля.

— Наша гіпотэза такая, — пачаў Сеўка, — ёсць Белыя, і ёсць Чорныя. Жылі яны ў дубе, а мы сваім выбухам штосьці зрабілі... Зразумець бы што... — Сеўка ўсхапіўся, паправіў акуляры, паглядзеў на памяшканне, зразумеў, што пахадзіць туды-сюды няма дзе, і ўсеўся на месца. — Карацей, усе яны з дуба павылазілі. І, відаць, пакуль мы не ўмяшаліся, у Белых была перавага.

Дакладчык строга агледзеў прысутных, але ў строгасці асаблівай патрэбы не было — усе і так слухалі ўважліва.

— Потым мы вызвалілі Кашчэя, — працягнуў Сеўка, — і ўсё сапсавалі... Ці паправілі... Карацей, гэта як паглядзець. Сутнасць у тым, што цяпер у іх раўнавага.

— Гэта дрэнна? — запыталася Лёля.

— Відаць, дрэнна, — сказаў Сеўка. — Чорных стала больш, нечысць усялякая павылазіла. Дамавікі па кутках трасуцца. А нам цяпер трэба нейкім чынам зноў аднавіць перавагу Белых.

Лёля змучана паглядзела на Любу.

— Спіце! — сказала Люба. — Заўтра ўсё будзе добра.

* * *

Усю ноч Антон спаў адным вокам. Яму больш не сніўся слуп з ідалам, замест яго ў галаву лезла ўсялякае глупства. Напрыклад, мроілася, што ён — воўк, які ахоўвае атару авечак. Авечкі ўвесь час імкнуцца разбегчыся, а ён іх зноўку зганяе ў гурт. Не паспее вярнуць адных, як з супрацьлеглага краю атары нехта зноў спрабуе ўцячы. Воўк-пастух кідаецца да іх, грозна гыркае, заганяючы дурных жывёлін назад, — і прыкмячае новых уцекачоў. Авечкі рухаюцца не хутка, але вельмі бесталкова, з-за гэтага даводзіцца гойсаць туды-сюды і збіваць лапы да крыві. А ўпускаць нельга — удалечыні гарыць вогнішча пастухоў, якія толькі і чакаюць, каб злавіць авечку і засмажыць...

Антоха расплюшчыў вочы і доўга не мог зразумець, як вогнішча крыважэрных пастухоў змагло перанесціся ў рэальнасць. Потым зразумеў і раззлаваўся. Гэта ў дальнім кутку Сеўка і Маша свяцілі вечным ліхтарыкам на старонкі нейкай кніжкі.

— Што гэта там за вячоркі такія? — зашыпеў Антон. — А ну зараз жа спаць!

Ліхтарык спалохана тузануўся і пагаснуў.

— А можна мы яшчэ пачытаем? — у цішыні, якая ўсталявалася, Машын голас гучаў асабліва жаласна. — Сеўка спрабуе скласці руны, але тут...

— Заўтра разбярэцеся! — адрэзаў Антоха і павярнуўся на другі бок.

І тут жа праваліўся ў новы сон, трошкі больш прыемны, чым папярэдні. Цяпер ён бачыў высокага вясёлага хлопца ў палатнянай кашулі да пятаў, з поясам і нажнамі, у чорных ботах і вастраверхім шлеме. Хлопцаў твар здаўся Антоху знаёмым. Прыгледзеўшыся, ён скеміў, што гэта яго далёкі продак — штосьці роднае бачылася ва ўпарта сціснутых губах, позірку спадылба, у постаці і жэстах.

— Прывітанне, брат, — хлопец працягнуў Антоху далонь. — Ты ж з нашых?

У сне адразу разумееш, пра што гаворка. Антоха пацiснуў руку і кіўнуў.

— Ага. Я «волхв», значыцца, вяшчун.

Далонь была грубаю, жарсткаватаю ад мазалёў.

— Я ў воўка пераварочвацца магу, — чамусьці пахваліўся Антоха.

Хлопец весела засмяяўся і ляпнуў свайго далёкага нашчадка па плячы.

— У воўка — гэта любы хлапчук можа. Хочаш, навучу сокалам пераварочвацца?

Антоха не пакрыўдзіўся, наадварот, пакорліва схіліў галаву.

— Навучы, Волх Усяслававіч!

— Раз плюнуць! — і Волх сапраўды плюнуў сабе на правую далонь, а потым прыстукнуў яе леваю.

І адразу ж узляцеў высока ў неба, як быццам яго падкінуў агромністы батут. Антоха хуценька паўтарыў маніпуляцыі...

... Ляцець аказалася лёгка — трэба было толькі злавіць крыламі ўзыходзячы паток і лунаць на ім, як на нябачным надзіманым сенніку. Зямля была далёка ўнізе, але ён распазнаваў кожную травінку ў полі, кожную пясчынку на дне ручаіны. І яшчэ — мноства ўсялякіх жывых істот: зайцаў, конікаў, вадамераў, курапатак...

— Эгэ-гэй! — крыкнуў Антоху Волх. — Не ўпусці Берагіню!

Антон-сокал адразу зразумеў, што продак мае на ўвазе лёгкакрылую птушачку, якая сарвалася з галіны бярозы і падалася да ракі, туды, дзе віраваў цёмны вір. Антоха дакладна ведаў, што нельга яе падпускаць да вады, таму што ўпадзе і згіне. Ён склаў крылы і паляцеў уніз, зямля прыцягвала яго з усіх сваіх сіл, але ён у адчаі разумеў — упусціць, не паспее...

Антоха ўсхапіўся ў поце, з сэрцам, якое шалёна калацілася, і ўтаропіўся ў дзверы. Там, у праёме застыла вялікая няскладная постаць.

— Ты хто? — хрыпла запытаўся ён.

— Люба, — адказала постаць.

— Куды?

Люба памарудзіла з адказам.

— У туалет.

— Я з табою! — Антон падняўся, адчуваючы, што рукі да гэтага часу дрыжаць, як быццам ад нечалавечага напружання.

— Навошта?

На гэтае пытанне ён не ведаў адказу, таму проста ўстаў і пайшоў за Любаю. Адчуваючы сябе па-дурному, дачакаўся яе пад дзвярыма туалета і адканваіраваў назад. Люба панура маўчала і доўга поркалася, ладкуючыся спаць. Антоха трошкі

падумаў і лёг упоперак уваходных дзвярэй. Так яму стала трошкі спакайней, хоць яшчэ некалькі разоў пасярод ночы ён прачынаўся — здавалася, што птушачка-берагіня зноўку хоча кінуцца ў вір. Ён падскокваў, глядзеў некалькі хвілін у цемру і зноўку клаўся ўпоперак дзвярэй.

Закончылася ўсё так, як і павінна было закончыцца, — непаваротлівы Мішка, які раніцай пайшоў умывацца, не працершы як мае быць вачэй, наступіў Антоху на руку.

* * *

Лёля прачнулася бледная і напружаная. На пытанне Машы, ці здаровая яна, прамармытала нешта невыразнае і пакутліва паглядзела на Любу.

Люба, спакойная, як слон, ці нават як мамант, стаяла каля люстэрка і расчэсвала свае шыкоўныя доўгія валасы. На хлопчыкаў гэтае простае мерапрыемства зрабіла выключна магічнае ўздзеянне. Антоха ўтаропіўся на бліскучыя пасмы, не ў сілах адвесці позірку, Сеўка сутаргава заторгаўся ў пошуках акуляраў, а Мішка проста аб’ехаў на падлогу з разяўленым ротам.

— Галаву памыць бы, — задумліва праспявала Люба быццам бы сваім, але трошкі больш нізкім і хрыплаватым голасам.

Яна злёгку матнула галавою. Валасы ўзняліся лёгкім воблакам і павольна рассыпаліся па плячах. Хлопчыкі сінхронна ўздыхнулі.

— Мабыць, пайду, у душ схаджу... — праспявала Люба.

— Які душ... — пачала Лёля, але асеклася пад хуткім і грозным Любіным позіркам.

— Адна? — абурыўся Антон, спрабуючы сагнаць мароку гэтай новай, невядомай яму Любы і прабіцца да ўласнага розуму.

— А што? — запыталася Люба.

Але запыталася так, што Антоху кінула ў чырвань, Сеўка зняў запацелыя акуляры, а Мішка ўрэзаў кулаком у дзверы і выскачыў у калідор.

Антон хуценька адвярнуўся ад Любы і наткнуўся на дзіўны Лёлін пагляд. Ад гэтага пачырванеў яшчэ болей і пачаў шукаць тэрміновую справу. Яна знайшлася адразу ж у выглядзе Сеўкі, які быў яшчэ без акуляраў, але ўсё роўна вытарэшчваўся на Любіны валасы.

— Чым вы там усю ноч займаліся? — прагрымеў Антоха голасам строгага бацькі, які да раніцы не мог дачакацца шалапутнай дачкі. — Што вы там з Машкаю складвалі, калі трэба было спаць?

Сеўка схамянуўся і вярнуў акуляры на нос. Маша, якая якраз апетытна пазяхала, пачала адказваць, не закончыўшы позех:

— Уауауа... не складваюцца!

— У нас руны не складваюцца, — пераклаў Сеўка.

— А ну пакажы!

Наўрад ці Антон спадзяваўся разабрацца ў лагічнай загадцы лепей, чым Сеўка і Маша, але ён быў гатовы на што заўгодна, толькі б не глядзець на Любу ці Лёлю. Аднак Люба пайшла ўжо, а Лёля затаілася ў кутку.

— Ну, глядзі! — Сеўка яшчэ не прачнуўся як след, але ўжо быў гатовы да новага мазгавога штурму.

Ён расклаў на стале пяць квадрацікаў з літарамі: «В», «Т», «Г», «С» і «Л».

— Гэта нашы руны, калі перавесці іх на рускую мову, — Сеўка перавярнуў літару «С», і на яе адвароце Антон пабачыў адлюстраванне сваёй руны.

Ён аўтаматычна праверыў кішэню кашулі — бірулька была на месцы.

— Не хвалюйся, — сказала Маша, дэманструючы таўшчэзную кніжку, — мы з энцыклапедыі перамалявалі. Мы ўсю ноч спрабавалі і так, і гэтак...

— Дык тут жа адны зычныя! — здзівіўся Антоха. — Што гэта за слова без галосных?

— У некаторых старажытных мовах галосныя не пісаліся, — павучальна пачаў Сеўка, — а ў мовах семіцкай групы...

— Галосныя мы падставілі б! — перапыніла яго Маша. — Толькі тут усё роўна бязглуздзіца атрымліваецца як ні круці!

Антон пакасіўся на Лёлю. Тая ўсё яшчэ сядзела ў дзіўным здранцвенні. Антоха рашуча, хоць і бяздумна, пачаў перасоўваць паперкі па стале. Сеўка з цікавасцю назіраў за гэтымі маніпуляцыямі і раптам закрычаў:

— Стаяць!

Антоха ад нечаканасці адхапіў руку. Сеўка асцярожна паправіў паперкі, якія выкла́ліся ў камбінацыю: «В», «Л», «С», «Г», «Т».

— Нешта такое ёсць! — азартна прашаптаў Сеўка.

Маша на імгненне задумалася і пераставіла месцамі «Г» і «Т».

— В-л-с-т... г, — прачытаў Антоха.

— Амаль «Власть», што па-беларуску азначае «ўлада», — сказала Маша. — Толькі «А» прапушчана. І замест мяккага знака літара «Г»...

Сеўка абедзвюма рукамі ўчапіўся ў валасы — відаць, каб лепш думалася...

* * *

Пасля сваіх ганебных уцёкаў з бібліятэкі Мішка стаяў у калідоры за вуглом і саромеўся вярнуцца назад. Дасаромеўся да таго, што дачакаўся, — з дзвярэй выслізнула Люба, азірнулася, ціхенька прычыніла дзверы і рушыла да лесвіцы. Ці то ўсё яшчэ ён быў ва ўладзе чараў Любіных валасоў, якія развяваліся ад хуткай хады, ці то адчуваў, што дзяўчынка задумала штосьці нядобрае, але Мішка пайшоў за ёю, хаваючыся за вугламі і паўзком прабіраючыся пад вокнамі, як сапраўдны спецназавец.

Перад выхадам на дах Люба літаральна на імгненне прытармазіла, потым рэзка выдыхнула, ірванула на сябе дзверы і зрабіла крок наперад.

— Пярун! — гукнула яна проста з парога.

Не дачакаўшыся адказу, дзяўчынка выйшла на сярэдзіну даха.

— Пярун! — крыкнула яна трошкі гучней.

Мішка застыў каля дзвярэй, не адважваючыся выйсці на дах за ёю. Люба дайшла да вялізнага стала, заваленага недаедкамі ежы, гідліва пакасілася на яго і закрычала на ўвесь голас:

— Пярун!.. Выходзь. Я прыйшла!

Пярун з'явіўся з-за бліжэйшага коміна, пазяхаючы на ўвесь рот і пацягваючыся.

— Я сказаў у дванаццаць, — незадаволена паведаміў ён, але, пабачыўшы Любу, ледзь не звярнуў сабе сківіцы.

— Якія госці... — працягнуў ён.

Люба стаяла каля стала і глядзела проста яму ў вочы. Пярун раптам замітусіўся, забегаў па даху, але хутка суняўся і сеў на крэсла.

— Навошта прыйшла? — запытаўся ён, узяўшы сябе ў рукі, а разам з тым — і бутэрброд з ікрою.

— Ты ведаеш, — адказала Люба.

— Ну я, як бы... — Пярун скалануўся і паклаў бутэрброд на месца. — Я меў на ўвазе чалавечую ахвяру.

Вярхоўны бог пастараўся як мае быць вылучыць мімікаю і інтанацыяй слова «чалавечую». Збоку гэта выглядала так, як быццам пры згадванні людзей Перуна раптоўна перакасіла.

— Я — чалавек, — спакойна сказала Люба.

— Ну так, ну так, — захіхікаў Пярун, — зрэшты... хі-хі-хі... гэта нават цікава... І што, цябе вось так вось узялі і адпусцілі, ага?

— Калі ты... — жалезным голасам сказала Люба і зрабіла прыгожа разлічаную паўзу, — ... Пярун, каму-небудзь зараз вякнеш хоць слова...

— Ды ты як са мною размаўляеш? — узняўся Пярун.

— Так, як ты гэтага заслугоўваеш, — прамовіла Люба.

— Я цябе знішчу! — закрычаў Пярун.

— Я за гэтым і прыйшла, — спакойна сказала Люба.

Мішка, не разбіраючы дарогі, рвануў на дах, спатыкнуўся аб парог і расцягнуўся ва ўвесь рост.

— Ты станеш пачвараю! — прашыпеў Пярун і шарахнуў у Любу маланкаю.

Усё наўкол зацягнула дымам, зноў пачуўся пах азону, а маланка, бліснуўшы, у адно імгненне пагасла, яркай змяёй убегла ў Любіну бірульку.

— Берагіня! — ахнуў Пярун.

— Любка! — закрычаў Мішка, паднімаючыся.

— Звязаць! Прыняць! — загадаў Пярун, і на Мішку зараз жа накінуліся з усіх бакоў белыя постаці.

— Дык і будзь Берагіняй! — грымнуў Пярун, і дах зацягнула туманам.

— Ты прыняў ахвяру? — пачуўся спакойны голас Любы.

— Ты яшчэ і размаўляеш? — абурыўся Пярун.

— Я ў цябе пытаюся, вярхоўны бог славян, а калі я пытаюся, ты павінен адказваць, — адчаканіла Люба. — Ты прыняў ахвяру?

— Прыняў! — гаркнуў Пярун.

Люба знікла, туман рассеяўся. На даху засталіся Мішка, які ляжаў ніцма са звязанымі рукамі і нагамі, і світа Перуна з азадачанымі тварамі.

— Хто яна? — ціха запытаўся плячысты хлопец, зусім голы, калі не лічыць вянка на галаве і дзіды ў руцэ.

— Не твая справа, Ярыла! — крыкнуў Пярун. — А гэтага шпіёна пад замок. Упусціце — адкажаце галавою. Зразумела?

На даху зноў разліўся пах азону.

## Глава 18

## МІШКА ЎСПАМІНАЕ СЯБЕ

— «Г», — мармытаў Сеўка, — «Г»... Вось жа... адно слова — «Г»!

Маша ўзяла паперку са злашчаснай літарай і паглядзела на адваротны бок. Там выявілася руна. Маша зверыла з энцыклапедыяй.

— Зрэшты, — задумліва сказала яна, — гэтую руну можна замяніць не на «Г», а на «К»...

Сеўка на хвіліну задумаўся, але са шкадаваннем адмёў гэтую версію:

— Хрэн рэдзькі...

Ён запусціў пальцы яшчэ глыбей у шавялюру. Маша ўгледзелася ў набор рунаў на старонцы кнігі, потым паглядзела на руну, якую трымала ў руцэ, зноўку на старонку... на паперку...

— Я зразумела! — урачыста прашаптала яна. — Вось!

І Маша перавярнула паперку так, што руна ператварылася ў літару.

— Алатыр... — павольна прамовіў Сеўка, вымаючы рукі з валасоў.

— Ці літара «А»! — горда дадала Маша.

Сеўка забраў у яе паперку, выправіў «Г» на «А» і паклаў яе ў сярэдзіну слова.

Цяпер на стале было выкладзена: «В», «Л», «А», «С», «Т».

— «Власть»! — адначасова прамовілі Машка з Сеўкаю і абмяняліся цырымонным поціскам рук.

— А мяккі знак? — для парадку прыдраўся Антоха.

— Мяккі знак, — пагардліва адказаў Сеўка, — вось яшчэ літара мне! Можа, раней гэтае слова цвёрда прамаўлялася!

— Ці «т» было заўжды мяккім! — падтрымала яго Маша. — Лёль! Мы ўсё зразумелі! Ідзі да нас!

Лёля, быццам у сне, падыйшла да стала.

— Вось! — Сеўка паказаў на паперкі так, нібыта яны толькі што расшыфравалі пасланне іншаземнай цывілізацыі.

— «Власть»! — бясколерным голасам пацвердзіла Лёля. — І што гэта значыць?

— Ага, — падтрымаў яе Антон. — Для чаго ўся гэтая шарада?

Маша і Сеўка разгублена паглядзелі адно на аднаго. Пасланне іншапланецян аказалася бессэнсоўным нават пасля расшыфроўкі.

— Давай разважаць лагічна, — панура сказаў Сеўка і змоўк.

Маўчанне працягвалася даволі доўга. Антон паспеў некалькі разоў крадком паглядзець на Лёлю — яна не рэагавала. Тады ён, як быццам выпадкова, пальцамі дакрануўся да яе рукі. Лёля падняла на яго вочы, поўныя жаху. Антону палягчэла — Лёля не з-за яго такая дзіўная. Але тут жа захваляваўся — а з-за чаго тады? Ён ужо хацеў адвесці яе ўбок і параспытваць, але тут Сеўка выйшаў са ступару.

— Калі разважаць лагічна, — працягнуў ён даволі бадзёра, — дык што атрымліваецца?

Меркавалася, што пытанне рытарычнае, але Маша ўсё роўна адказала:

— Калі адну руну перавярнуць, дык атрымаецца слова «Власть».

— Правільна! — падняў указальны палец Сеўка. — Іншымі словамі, калі нейкую руну перавярнуць, можна атрымаць «власть», уладу!

— Але мы ўжо перавярнулі гэтую... якая ці-то «Г», ці-то «К», — заўважыў Антон. — І дзе ж улада?

— Значыцца, — Сеўка ўтаропіўся ў кнігу, — трэба знайсці падобную пару рунаў.

Маша пачала вадзіць пальцам па табліцы рунаў.

— Ёсць! — зноўку ў адзін голас усклікнулі Маша і Сеўка.

«Гэтак яны хорам хутка ўвесь час размаўляць пачнуць», — падумаў Антоха. Але здзекавацца не стаў. Сеўка і Маша паказвалі на значок, які яму здаўся невыразна знаёмым.

— Дзесьці я такое ўжо бачыў, — задумліва прамармытаў ён, разглядваючы руну.

А побач з ёю — яе перавернуты варыянт...

***Працяг у наступным нумары.***

***Пераклад з рускай Раісы БАРАВІКОВАЙ.***



*Старонка мінулага*

## ПРЫПЯЦЬ

Здалася ты мне з вышыні трапяткой,
З глухой самалётнай шыбы
Сасновай галінаю,
                    да якой,
Як гнёзды, прыліплі сялібы.

Хоць вабяць уладна другія краі,
Усё ж я іду на зніжэнне.
Рака мая, кожнаю кропляй крыві
Адчуў я тваё прыцяжэнне!

На беразе — купамі сена капцы.
Глядзіш — і здаецца, што гэта,
Лугі пагаліўшы, прыселі касцы
Спачыць да наступнага лета.

Чакай, я бліжэй да цябе падыду!..
Разгледзець здаля немагчыма,
Ці вербы пялёхкацца выйшлі ў ваду,
Ці мыюць бялізну жанчыны...

І ці не ад поту сялянскага ты
Зрабілася рыжаю, Прыпяць?
Маўчыць.
Расцягнула гармоняй плыты,
Каб рытмы рабочыя рыпаць.

*Пятрусь МАКАЛЬ*

***«Маладосць» № 8, 1965 г.***

МАЛАДОСЦЬ

8

Валянціна ЛОКУН

# БЕРАСЦЕЙСКАЕ ШМАТГАЛОССЕ

Проза берасцейскіх пісьменнікаў — люстэрка агульнанацыянальнай літаратуры. Пра гэта сведчыць творчасць саміх берасцейцаў, што жывуць на гэтай зямлі, і тых, хто звязаны з ёй духоўнымі каранямі: Яўгенія Янішчыц, Ніна Мацяш, Любоў Тарасюк, Валянціна Коўтун, Раіса Баравікова, Мікола Купрэеў, Леанід Дранько-Майсюк, Георгій Марчук, Алесь Разанаў, Аксана Спрынчан, Віктар Гардзей, Зінаіда Дудзюк, Васіль Жуковіч, Мікола Пракаповіч, Анатоль Крэйдзіч, Алесь Каско, Марыя Ляшук, Анатоль Шушко, Валерый Грышкавец, Мікалай Елянеўскі, Андрэй Мазько... Толькі апошнім часам свет пабачылі выданні шэрагу берасцейскіх літаратараў: «Палеская элегія» М. Купрэева, «Урокі першага кахання» В. Гапеева, «Благословенные небом» М. Ляшук. Увагу крытыкаў і чытачоў звярнулі на сябе таксама раман А. Брытуна «Пах мускусу» і раман Л. Валасюка «Апошняя вандроўка». Досыць плённым было апошняе дзесяцігоддзе для Зінаіды Дудзюк, якая вядомая найперш як аўтарка гістарычнай прозы: раманы «Кола Сварога», «Слодыч і атрута», аповесць-хранограф «Славянскія князі» і інш.

*«У кожнага берасцейца — свая Берасцейшчына»,* — трапна аднойчы адзначыла Раіса Баравікова на старонках часопіса «Маладосць». Працягваючы думку пісьменніцы, можна сказаць, што кожны творца апявае свой куточак Берасцейшчыны. *«Мой родны кут, як ты мне мілы...»* Гэты «кут» у кожнага свой — самы дарагі, самы прыгожы, самы запаветны. Спеўнай ластаўкай засталася ў памяці пінчукоў Яўгенія Янішчыц. Не адно ўжо дзесяцігоддзе складае оды сваім землякам-палешукам Георгій Марчук — і не толькі палешукам, а і зямлі паляшуцкай, зямлі цара Давіда. З'яўляючыся аўтарам «Давыд-гарадоцкіх канонаў», пісьменнік разам з тым стварыў такія раманы, як «Кветкі правінцыі», «Крык на хутары»...

Насуперак усялякім заявам, што раман як маштабнае эпічнае адлюстраванне рэчаіснасці знікае з найноўшай літаратуры, пісьменнікі з поспехам працягваюць распрацоўваць гэты жанр. Проза **Уладзіміра Гніламёдава** — яскравы прыклад. Этапным у развіцці нацыянальнай літаратуры можна назваць яго шырокае палатно з жыцця «заходнікаў» — «Уліс з Прускі», «Усход», «Расія», «Валошкі на мяжы» (цыкл не завершаны), якому аўтар аддаў больш за дзесяць гадоў свайго творчага жыцця. Узяўшы за аснову «летапіс» свайго роду, пісьменнік узняўся да філасофскага асэнсавання спрадвечных працэсаў быцця. Абапіраючыся на мастацкія традыцыі нацыянальнай літаратуры (М. Гарэцкага, К. Чорнага, І. Мележа), а таксама на вопыт еўрапейскай літаратуры (найперш У. Фолкнера, Т. Мана), празаік стварыў сваю адметную школу пісьма — поліфанічную, эпічна-дакументальную, эпічна-аналітычную. Філасофскія разважанні сінтэзуюцца з жыццёвай і гістарычнай канкрэтыкай. Паэтыка кантрастаў, узаемадачыненні выяўленчых і экспрэсіўных пачаткаў, сінтэз аб'ектыўнага апавядання і суб'ектываванага адлюстравання надаюць дыскурсу У. Гніламёдава пэўную жанравую шматмернасць. Разам з тым, гэта твор з адзінай мастацкай структурай, якая ахоплівае ўсе плыні жыцця — ад эпахальна-гістарычных падзей да інтымна-псіхалагічных зрухаў душы чалавека — адзінай мерай быцця.

Тэксты У. Гніламёдава прасякнуты гоманам жыцця, дзе ні адзін голас не падобны на другі. Роднасць з **гэтай** зямлёй — і ёсць тое, што робіць героя У. Гніламёдава глыбокім

па сваёй духоўнай сутнасці, унутрана непахісным.

Так ужо сталася, што **Міколу Купрэева** я адкрыла для сябе толькі нядаўна, калі пабачыла свет яго пасмяротная кніга «Палеская элегія», у якую ўвайшлі аповесці: «Дзіцячыя гульні пасля вайны», «Імгненне светлае», «На вуліцы Карла Маркса з Паэтам», «Палеская элегія», «Рэчкаю плывём, плывём». Які яркі самабытны талент! Адразу ж узгадваюцца «Записки охотника» І. Тургенева, проза Я. Брыля... Кнігу прачытала на адным дыханні. І хоць напісаная яна прозай, з яе старонак льецца сапраўдная песня — настолькі моцны ў ёй музычны пачатак, настолькі мілагучная мова, якой карыстаецца аўтар. Тут паядноўваюцца эстэтычны і сацыяльны пачаткі. Мікола Купрэеў сфармуляваў **свой** прынцып дзейнасці творцы: «*Перад тым, як пачаць верш на чыстым аркушы паперы, трэба паглядзець на сябе ў люстэрка — каб яшчэ раз пераканацца, што ты з твару не падобны ні на каго ў свеце. Потым трэба ўспомніць, што і думаеш ты так, як ніхто ў свеце. І бачыш ты вунь тую травінку, той камень за акном не так, як бачыць іх нават найбліжэйшы табе па духу і па крыві чалавек. Дык чаму ж тады твой верш павінен быць падобны на верш Багдановіча ці Жычкі, Пушкіна ці Бадака?*». Безумоўна, такім прынцыпам кіраваўся і сам М. Купрэеў

У творчасці пісьменніка — і, мабыць, найперш у яго душы — адбываецца натуральнае спалучэнне, зліццё ў суцэльную плынь «музычнага водгулля», што сыходзіць ад палескай прыроды і таго, што нясе ў сабе прыродная душа палешука. Яго «песня» змяшчае ў сабе боль пакрыўджаных душ і адчуванне спрадвечных законаў хараства і гармоніі. А побач з гэтым гучыць трывога за гэту гармонію. Проза творцы наскрозь біяграфічная, але ж піша ён пра ўсіх нас, палешукоў, беларусаў, нашае жыццё.

Мікола Купрэеў — пісьменнік з абвостраным адчуваннем «зломнасці» сучаснай яму эпохі. Галоўны герой — вясковы настаўнік, інтэлігент. Але найперш ён — вандроўнік, «бадзяга», які не прымае сучаснае жыццё, шукае паратунку ў дарозе, у новых сустрэчах, у палескай прыродзе. Вобраз дарогі, па якой рухаецца-вандруе герой М. Купрэева, выконвае не толькі інфармацыйна-геаграфічныя функцыі — дарога ўплывае на эмацыянальна-суперажывальнае ўспрыманне сітуацыі. Падрабязнае апісанне дарожных перажыванняў героя служыць структурна-арганізуючым сродкам сюжэту, а таксама «пашырае», «узбуйняе» вобраз героя. Упісваючыся ў прыродны свет, персанаж М. Купрэева паўстае як абноўленая асоба — з адчуваннем сваёй трагічнай неабароненасці і адначасова сакральнай вартасці.

Апакаліптычным адчуваннем постчарнобыльскага свету прасякнута заключная аповесць зборніка «Рэчкай плывём, плывём». Матыў знікнення Палескага свету як нацыянальнай Атлантыды ў мастацкай прасторы М. Купрэева набывае маштабы трагедыі. *«Мы ўсе становімся манкуртамі»*, — як страшны прысуд гучыць з вуснаў героя пісьменніка. І ўжо зусім біблейскае бачыцца ў падарожжы палешукоў на лодцы па рацэ. Гэта своеасаблівы Ноеў каўчэг, толькі **наш**, паляшуцкі. І насельнікі лодкі **свае** — два вясковыя дзядзькі, казёл, каза, певень і сабака. Ствараецца ўражанне ўключэння міфалагічнага свету ў свет рэальны, бо там, у лесе, па той жа рацэ плаваюць і рэальныя людзі — зладзеі, бандыты... Рэфрэнам праз усю аповесць праходзіць лексема «*плывём*». Гэта таксама сімвал, у якім заключаны рытм самога жыцця — запаволенага, але няспыннага: *«І во мы зноў плывём у лодцы нашай рэчкай... плывём у бок вялікай ракі, якая ўпадае ў яшчэ большую раку, а тая рака ўпадае недзе далёка-далёка ў мора. Але ж наша лодка вялікімі тымі рэкамі плысці не будзе — нам не будзе чаго рабіць на тых рэчках і на іх берагах*».

Глыбока метафарычны і вобраз падбітага жураўля-жорава. Гэта сімвал самой Беларусі. «*А ці не сам ты,* — звяртаецца ягерой да мясцовага жыхара Янкі, — *а ці не сам я ўжо даўно падбіты? І ці не шукаюць нас, дый не толькі нас с табою, — ці не шукаюць нас людзі з ружжамі, дый не толькі з ружжамі — з лазерам, а мы хаваемся, хаваемся — хто дзе...*» Сімвалічна і тое, што ратаваць жураўля намерыўся не хто іншы, як вясковы дзівак Янко Іванавіч — «*галоўны калгасны вартаўнік*», «*худзенькі, чарнатва-*

*ры, у картузе, белай кашулі навыпуск, выцвілых картовых нагавіцах і белых жаночых басаножках*». У яго вельмі адказная місія, якую ён сам на сябе і ўсклаў. Ён павінен застрэліць жураўля, каб «*пазбавіць яго ад пакутаў*». Вобраз Янко — гэта вобраз змізарнелага, дарэшты зломленага палешука 80-х гадоў, зломленага жыццём і людзьмі. У гэтым не толькі яго бяда, але і віна. Таму ўпарта паўзе Янко да забітага ўжо жураўля. Паўзе, каб вымаліць у яго прабачэнне, каб пакаяцца — за сябе і за ўсіх беларусаў.

Мікола Купрэеў — сапраўдны майстар палескага пейзажу. Маляўнічы поўдзень Берасцейшчыны, глухія палескія мясціны — гэта непаўторны асяродак, дзе чалавек можа схавацца ад людскога тлуму, атрымаць душэўнае суцяшэнне, унутраную раўнавагу. «*Глядзеў у неба: там плывуць белыя чыстыя аблокі, даганяюць адно аднога, дакранаюцца мяккімі краямі, разлучаюцца, аддаляюцца і зноў збліжаюцца, цесна злучаюцца, становяцца адным шырокім воблакам, і скрозь гэтае воблака ідуць на зямлю, на рэчку, на нашую лодку цёплыя сонечныя промні. І мне так добра ў нашай лодцы, на нашай рэчцы...*» Прырода як частка бязмежнага духоўнага космасу процістаіць бездухоўнасці чалавека. Пейзаж у М. Купрэева з’яўляецца катэгорыяй не толькі прасторы, але і часу, ён звязвае чалавека з духам продкаў: «*Вярнуўся да палаткі. Сонца ўжо грэла. Ад моху, ад лісця, ад брызенту падымалася пара. <...> Далекавата, на небакраі, стаяла блакітнае сонца, блакітнае, мабыць, ад некранутай — месцамі — каўшамі экскаватараў Ясельды. Потым сонца пойдзе на Велясніцу, на Рудку, пастаіць над дваром Жэні Янішчыц. Потым павольна пакоціцца на Моталь, адкуль ужо чуецца ціхі, як з-пад зямлі звон нажніц — іх там востраць перад стрыжкай авечак. Перад тым сонца падсушыць парк графа Скірмунта каля Парэчча...*»

У адлюстраванні прыроднага свету закладзена ідэя самога жыцця, таму і вобраз прыроды набывае ўсё большую самадастатковасць, яна страчвае ролю фона, становіцца «эпічным аналагам» быцця чалавека. Паралельна з трагічнай сітуацыяй у чалавечым жыцці ідзе сваё жыццё ў прыродзе (хоць і там ужо адгукаюцца праца экскаватараў — меліярацыя — і наступствы Чарнобыля).

Усходы і захады сонца, лес і рака, ранішнія туманы і нават прахалодныя дажджы — усё гэта ўздзейнічае на душу чалавека, утаймоўвае яго злосць і крыўду.

Мастацкая парадыгма М. Купрэева насычана адступленнямі, экскурсамі, паралелямі, вобразнымі апісаннямі, аздоблена паляшуцкай моўнай стыхіяй. Аповесці берасцейскага пісьменніка варта разглядаць у кантэксце сучаснай беларускай літаратуры.

Свой адмысловы «накірунак» у літаратуры распрацоўвае **Валерый Гапееў**. Яго цікавіць найперш свет падлеткаў, працэс іх сталення. У 2010 годзе ў выдавецтве «Літаратура і Мастацтва» ў серыі «Пераходны ўзрост» пабачыла свет яго кніга «Урокі першага кахання». У яе ўвайшлі тры аповесці: «Усё цудоўна, або Урок бяспечнага кахання», «Лёшкава каханне, або Віртуальнае дрэва рэальнасці» і «Першы боль, або Доказ закона прыгажосці». Творы звязаны паміж сабой тэматычна, у іх дзейнічаюць адны і тыя ж героі — толькі змяшчаюцца акцэнты аўтарскай увагі да іх. У першай аповесці дамінуе канфлікт старшакласнікаў і бацькоў, выносіцца на суд стаўленне бацькоў да сваіх амаль дарослых дзяцей.

Пачатак аповесці. Нібыта ў прадчуванні кантрасту, тут уладарыць матыў задаволенасці сабою і жыццём. Аўтар настойліва падкрэслівае гэтую гармонію: «*Ранак быў цудоўным: празрыстым, ціхім, шматабяцаючым*», «*Цудоўна пачаўся дзень...*» І зноў: «*Цудоўна пачаўся дзень*», «*Цудоўна заканчваецца дзень*», «*Увогуле ўсё цудоўна*». Такая настойлівасць насцярожвае, яна ўжо загадзя настройвае чытача на дысананс, папярэджвае аб магчымай драме.

Нішто не прадказвае бяды для галоўнай гераіні Тані Пракопавай (галоўнай — умоўна, бо галоўным тут з’яўляецца ўвесь 10 «А» клас). Яшчэ ўначы ёй нешта «прыснілася-прымроілася» прыемнае, і ўвесь дзень яна жыла чаканнем вечара, збіралася на дыскатэку. Праўда, сёння ў школе аб’яўлены Дзень прафілактыкі СНІДу, і 10 «А» адказны за яго правядзенне. Тут і завязваецца інтрыга: «зубаскал і шалапут» Юрыс Клімко вырашыў «пажартаваць» і падкінуў

у кішэні аднакласнікам па пакеціку з прэзерватывам. Неўзабаве ён стане прычынай канфлікта паміж дарослымі і падлеткамі. Маладое пакаленне ўвогуле назаве яго «разбуральнікам» кахання і высокай духоўнасці.

Часавая прастора твора падзяляецца на два «кантрасныя» адрэзкі: падзеі дня і начны бунт-суд падлеткаў. Гармонія заканчваецца тады, калі Таніна маці выпадкова знаходзіць ў сумачцы дачкі прэзерватыў і б'е яе. З гэтага моманту свет для Тані раскалоўся на часткі, страціў сваю важкасць. Усё, чым жыла дзяўчына да гэтага часу, зрабілася далёкім-далёкім, «*усё роўна як бы глядзеў у бінокль адным бокам, а нехта прыйшоў і ўладна перавярнуў бінокль у тваіх руках. І тое, што здавалася вялікім і значным, стала дробязным, мізэрным, не вартым увагі*». Унутраная драма дзяўчынкі настолькі вялікая, што Таня страчвае ўсялякую сувязь з **гэтым** жыццём, яе вабіць ужо іншы свет, іншасвет, бясконцае неба над галавой і сонца, якое «*няспешна коціцца вунь за той лясок. Сонца — гэта ты. Ты — гэта сонца. Знікне сонца — прыйдзе ноч. І ты знікнеш, бо пойдзеш у ноч*». Выратоўвае Таню яе сябар Сашка. Гэта ён заўважыў дзяўчыну на дзявятым паверсе, яна сядзела на падаконніку «*тварам да неба, тварам да сонца*». Сашка адвозіць дзяўчыну ў лес, у Чарэмшань, туды, дзе паўсюдна буяе чаромха і спяваюць салаўі. Паступова там збіраецца ўвесь 10 «А», да іх далучаюцца класная, завуч школы і некаторыя з бацькоў.

На фоне сапраўднай прыроднай гармоніі (чаромха, салаўіны спеў) і разыгрэецца сцэна «суда» — дзяцей над бацькамі. «*Я ведаю, што ўсе дарослыя — сволачы, што ім напляваць на нашы праблемы, тым больш — на нашы жарты. Што іх дабрыня — гэта добры кій, змочаны з аднаго боку цукрам. Як падпарадкуешся, то можаш палізаць. А не — дык адразу па галаве*», — так разумее сітуацыю Сяргей, якога бацька таксама даўно і жорстка б'е газавым шлангам. Хлопец бачыць прычыну жорсткасці бацькоў у іх недаверы да дзяцей. «*Яны мяркуюць аб нас на прыкладзе саміх сябе... І мы для іх — самыя разбэшчаныя, самыя распушчаныя, самыя няўдзячныя з усіх пакаленняў*», — перакананы юнак. У сваіх меркаваннях падлеткі аднадушныя і непахісныя, яны не прымаюць ніякіх паўтонаў. «*У нас суд. Мы судзім сваіх бацькоў. І настаўнікаў. Увогуле — дарослых*». Усё як і на сапраўдным судзе. Спачатку зачытваецца абвінавачанне: «*Мы, дзесяцікласнікі, абвінавачваем вас, дарослых — бацькоў, настаўнікаў, — у тым, што вы руйнуеце нашу веру ў светлыя пачуцці кахання і сяброўства, што вы штурхаеце нас у бруд жывёльнага сексу,* <...> *што вы, кажучы, што любіце нас, між тым бачыце ў нас няўдзячных, цынічных, безадказных*».

Так, па-максімалісцку апантана, змагаюцца героі В. Гапеева за сваю свабоду, а разам з ёю і за чысціню кахання, яго маральнасць і духоўнасць. Толькі сапраўднае каханне, па В. Гапееву, адкрывае ісціну жыцця, супрацьстаіць смерці. «*І знікне смерць сама перад тварам Кахання, бо само Каханне ёсць жыццё!*»

У адпаведнасці з правіламі суда-гульні аўтар дае «слова» і дарослым, каб і яны аргументавалі свае паводзіны. Менавіта тут і ўзнікае такое паняцце, як дараванне. Толькі ўзаемнае дараванне можа вырашыць гэты нечаканы канфлікт. І не толькі гэты. Дараванне — той маральна-этычны фундамент, на якім выбудоўваюцца стасункі паміж людзьмі.

Пісьменнік змяшчае ў структуру апавядання яшчэ і словы малітвы Крыжу Гасподняму, а пасля і тэкст малітвы Каханню, складзенай ужо на аснове першай. Усё гэта, як сведчыць аўтарская рэмарка, узгоднена з Мінскай Епархіяй Беларускай Праваслаўнай Царквы. Але падаецца, што ў кантэксце бясконцых «гульняў» з прэзерватывам гэта выглядае не зусім карэктна.

Свет гармоніі, які раптоўна быў страчаны, вяртаецца. Фінал набывае аптымістычнае гучанне: «*Ранак быў цудоўны. Сонца вялікім барвовым плоскім дыскам паважна ўзнімалася над горадам*». Невыпадкова тут пададзены і вобраз дарогі, які мае глыбокі сімвалічны змест: «*Сяргей пайшоў у вёску да бабулі. "Нічога, што доўга ісці. Затое насустрач сонцу"*».

У аповесці «Лёшкава каханне, або Віртуальнае дрэва рэальнасці» галоўным героем з'яўляецца камп'ютар.

У хранатоп сучаснасці ўпісваецца новая міфалагема часу — вобраз-сімвал камп'ютара, які ўплывае на быццё чалавека ў якасці новага боства, без якога сучасны чалавек, асабліва малады, не можа абысціся. «*Лёшка даўно ўпэўніўся, што так званыя віртуальныя адносіны — зусім не віртуальныя. Самыя рэальныя. Калі так да іх падыходзіць... то і тэлефанаванні — віртуальныя. І пісьмы, што людзі раней пісалі, — таксама віртуальныя. Людзі ж існуюць, людзі жывыя, і думкі ты агучваеш свае, і рэакцыя на гэтыя думкі застаецца на старонках форумаў*». Толькі мастацкая логіка дыскурсу сведчыць пра іншае: віртуальны свет — свет сканструяваны, прыдуманы, як мянушкі-нікі. Лёшка назваў сябе Талерам, Юрыс увогуле ўзяў сабе жаночае імя Ксенка. І каханне віртуальнае несапраўднае. У выніку атрымліваецца драма, распачатая як жарт.

У цэнтры аповесці «Першы боль, або Доказ закона прыгажосці» — характар, асоба чалавека. Адлюстраваны працэс сталення 17-гадовай дзяўчыны Кацярыны, якая атрымала ў сваім жыцці першы ўрок кахання, свой першы боль і першае расчараванне. Аўтара цікавіць не плынь свядомасці, а найперш логіка пачуцця, дыялектыка першай юначай страсці, якая сваім драматызмам ўздымае гераіню на новую ступень сталення.

Пісьменнік абмежаваў ча́савую прастору ў аповесці «Усё цудоўна» толькі аднымі суткамі, «Лёшкава каханне» — некалькімі тыднямі. Аповесць «Першы боль» адлюстроўвае некалькі месяцаў з жыцця гераіні, і менавіта за гэты час, як і ў папярэдніх творах, павінна адбыцца нейкае ўзрушэнне, катаклізм, што ўнясе пэўныя карэктывы ў свядомасць, маральны ці духоўны свет героя.

Кацярына марыла скончыць школу, курсы і пайсці працаваць, а на зробленыя грошы зрабіць рамонт у кватэры, купіць мэблю, новы тэлевізар, выплаціць крэдыт. Пасля гэтага вучыцца далей завочна, каб быць як усе яе аднакласнікі. Ну і канечне, сустрэць Яго. А пакуль дзяўчына ўсё лета праводзіць на лецішчы, займаецца агародам, і гэта дае ёй добрую капейку: яна апранула-абула сябе, малодшых сястру і брата, ды і маці, што працуе на дзвюх работах, нешта застаецца. Тут, у пасёлку, Кацярына пачувае сябе спакойна, «*тут кожны дзень заўтрашні быў падобны на сённяшні, тут свядомасць трымала ў сабе вельмі простае і зразумелае заданне — дагледзець садавіну... і не цягнула яе ў горад, лецішча было бліжэйшым і раднейшым. Тут усё было зразумелым і ясным: праца, мэта, сродкі*».

Яшчэ там, не лецішчы, Кацярына адчула нейкія змены ў сабе. Аўтар падае гэты стан праз «абноўлены» партрэт дзяўчыны, якая ўпершыню стаяла аголеная перад вялікім люстрам.

«Хваля радаснага здзіўлення» яшчэ не раз будзе находзіць на дзяўчыну: і калі ў іхняй сям'і з'явіўся новы муж маці — Сяргей Віктаравіч, «*просты, сціплы, акуратна апрануты*», і калі яна пераехала ў кватэру Галіны Міхайлаўны, маці Сяргея Віктаравіча, і займела там асобны пакой, і, нарэшце, калі гэты самы Сяргей Віктаравіч падарыў ёй камп'ютар. «*За нейкі тыдзень яе жыццё перавярнулася: яшчэ колькі дзён таму бедная папялушка і вось цяпер, лічы — прынцэса*». І спачатку гэтая знешняя побытавая ўпарадкаванасць парушыла звыклы для яе лад жыцця. Пасля смерці бацькі Кацярына разлічвала толькі на сябе і маці, ведала, што яе заўтрашні дзень залежыць толькі ад яе. Цяпер жа яна адчувала сябе нібыта ўбаку ад свайго лёсу. Гэта яе трывожыла і бянтэжыла. Толькі і з гэтым станам яна хутка звыклася.

І вось тут ў жыцці гераіні з'яўляецца камп'ютар. Зноў камп'ютар! Інтэрнэт зацягвае маладых людзей у сваё сеціва, падмяняе рэальнае жыццё. Там больш свабоды, там ніхто не бачыць вачэй субяседніка, а галоўнае — там можна **іграць**, самому «ствараць» сябе.

Каця таксама стварыла свой віртуальны вобраз, які «*жыве асобна ад яе і ад усіх, і адначасова яго няма. Ёсць Кацярына. Але ж Кацярына зусім не такая, як тая Менеджар* (нік Кацярыны — В. Л.). *Там — тая Кацярына, якой бы яна хацела быць у жыцці, штодзень: упэўненай, смелай.., каханай*». Менавіта Менеджар, а не Кацярына ўпершыню на роўных размаўляла з Юрыем, дыскутавала з ім.

Юрый — маральны антыпод Кацярыны. Яшчэ пасля першага свайго кахання герой прыйшоў да высновы: «*Нават самая цудоўная жанчына застаецца жывым стварэннем, якому акрамя ўсяго іншага трэба і спраўляць свае фізіялагічныя патрэбы...*» Пазней герой «адкрые» для сябе матэматычнае і гістарычнае тлумачэнне прыгажосці. Што да кахання, дык Юрый звядзе яго да звычайнай хімічнай рэакцыі. Цяпер яго турбавала толькі адно — каб не адстаць ад хлопцаў-аднакласнікаў, «*якія паспыталі (чутак хапала) першую блізкасць*», а ён у свае амаль сямнаццаць год нічога яшчэ не ведаў. Менавіта з гэтай прычыны Юрый «*усё больш адчуваў сябе непаўнацэнным*». А паколькі ён лічыўся чалавекам мэтанакіраваным, то ў сваіх планах на будучыню пазначыў для сябе і **такую** задачу — як адзін з пунктаў самарэалізацыі.

Сутыкаюцца дзве пазіцыі: духоўнасці і бездухоўнасці, маральнасці і амаральнасці, спагадлівасці і эгаізму. Душа Кацярыны пацягнулася да Юрыя, якога па сутнасці яна сабе прыдумала і пакахала.

Драма герояў В. Гапеева ў тым, што яны жыццё «на форуме» прынялі за рэальнае і замест сябе рэальных **іграюць** у сябе прыдуманых.

* * *

Не сціхаюць спрэчкі аб стане літаратуры XXI стагоддзя — якая яна? Найперш, думаецца, розная — тэматычна, жанрава, стылёва і г. д. Традыцыйная і постмадэрнісцкая. Што да беларускай, то яна яшчэ і адраджэнская, як і час, які яна адлюстроўвае. «*У якасці адметнай рысы літаратурнага працэсу першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя сёння вылучаецца імкненне празаікаў розных пакаленняў адшукаць адэкватныя «духу эпохі» мастацкія формы дзеля ўрэчаўлення традыцыйна важнай для нацыянальнага прыгожага пісьменства аксіялогіі*», — адзначае даследчыца Ірына Шаўлякова. Толькі існуе яшчэ адзін момант, які таксама ў пэўнай ступені абумоўлівае спецыфіку развіцця найноўшай беларускай літаратуры, — уплывы іншых літаратурных і эстэтычных сістэм, напрыклад, еўрапейскай постмадэрнісцкай парадыгмы. Асабліва цяпер, калі беларуская літаратура пераадолела межы закрытасці былой савецкай і годна, на роўных, уваходзіць у агульнаеўрапейскі кантэкст.

Такім чынам, проза берасцейскіх пісьменнікаў развіваецца ў агульным рэчышчы нацыянальнай і еўрапейскай сацыякультур. Перадусім, гэта проза моцная рэалістычным пачаткам. Менавіта ў сістэме каардынат рэалізму адбываецца мастацкае выяўленне анталагічна важнай праблематыкі. Мастацкія дыскурсы пісьменнікаў скіраваны не на канструяванне жыцця, а на адлюстраванне быцця ва ўсёй яго складанасці і супярэчнасці. Праўда, ёсць і тыя, хто арыентуецца на жанравы і стылёвы эксперымент, мастацкую ўмоўнасць. І гэта таксама добра, бо такі працэс развіцця рэгіянальнай літаратуры найбольш садзейнічае яе яднанню з прозай нацыянальнай, набліжае яе да сусветных узораў.

# З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА НІНЫ МАЦЯШ

Ужо некалькі гадоў няма на гэтай зямлі яскравай і таленавітай Зоркі, сапраўднай Грамадзянкі і проста Паэтэсы Ніны Язэпаўны Мацяш. На ўспамін засталіся нашаму сучасніку і нашчадку нізкі паэзіі, кнігі казак, перакладаў, п'ес, зборнік песень «Бэзавая завіруха», невялікая сціплая «Спроба аўтабіяграфіі», асобныя фотаздымкі і, вядома ж, памяць.

На жаль, гэтая мужная і сціплая жанчына няшмат пакінула звестак пра сваё асабістае жыццё, родзічаў, сям'ю — бацькоў, сясцёр, брата... Практычна нідзе мы сёння не прачытаем успамінаў пра Ніну Мацяш. Толькі па асобных яе творах чытач можа здагадвацца аб некаторых фактах яе біяграфіі.



*Язэп Мікалаевіч Мацяш.*

У 1989 годзе, напярэдадні свайго пяцідзесяцігадовага юбілею, Нінай Язэпаўнай была напісана аўтабіяграфія. У гэтым дакуменце пісьменніца гаворыць пра сваё жаночае шчасце, пра хваробу і пра сваіх сяброў.

Калі пацікавіцца зместам шасцітомнага бібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі» (т. 4), то можна заўважыць, што і тут звесткі пра дзяцінства і юнацтва Ніны Мацяш адсутнічаюць.

Улічваючы гэтыя акалічнасці і проста маючы прыхільнасць да асобы пісьменніцы, мы вырашылі даследаваць гэтыя неасветленыя біяграфічныя факты, абапіраючыся на сведчанні родзічаў, сяброў і сучаснікаў Ніны Мацяш, сабраць яе фотаздымкі — асабліва перыяду дзіцячых і юнацкіх гадоў паэтэсы.

Свае пошукі мы пачалі з прыватных сустрэч і ўспамінаў дзвюх родных сясцёр Ніны Язэпаўны Мацяш.

Спачатку — з самай малодшай, дзясятай, сястрой Аленай Язэпаўнай Ліцвін. Гэтая жанчына свядома ўзяла на сябе адказнасць быць захавальніцай творчай спадчыны сваёй таленавітай сястры. Зараз Алена Язэпаўна жыве ў Белаазёрску, даглядае бацькоўскую хату ў Нівах. Пасля смерці бацькі займаецца пчалярствам.

Пасля адбылася сустрэча з адной са старэйшых сясцёр — Зінаідай Язэпаўнай Меляшэвіч. Яна пенсіянерка, жыве ў горадзе Бярозе.

Мы даведаліся шмат цікавых фактаў пра сям'ю паэтэсы-зямлячкі: пра ўзаемаадносіны паміж дарослымі і дзецьмі, іх побыт, заняткі, жыццёвыя клопаты, рэлігійныя погляды. Маем магчымасць дапоўніць «Спробу аўтабіяграфіі» ўнікальнымі звесткамі пра дзяцінства і юнацтва Ніны Язэпаўны.

## ТОНКІ ПСІХОЛАГ, САПРАЎДНЫ ПЕДАГОГ, КАМАНДЗІР...

*Ды ўва ўсім, усюды ТЫ адвеку*
*Быў і ёсць сумленным ЧАЛАВЕКАМ...*

***Ніна Мацяш.***
***Даражэнькі бацечку наш родны!***

**Язэп (Іосіф) Мікалаевіч Мацяш** нарадзіўся 4 снежня 1902 года ў вёсцы Нівы Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Рана застаўся сіратою. Самастойна навучыўся чытаць і пісаць. Выключна чытаў па-польску. У часы Заходняй Беларусі служыў у польскай арміі капралам. Доўгі час адна-

вяскоўцы называлі паміж сабою Язэпавых дзяўчат Капралёвымі.

У савецкі час бацька паэтэсы спачатку працаваў настаўнікам у Ніўскай пачатковай школе, а потым, калі ад яго запатрабавалася адпаведная прафесійная адукацыя, ён вымушаны быў пакінуць выкладанне і перайсці ў мясцовы саўгас, быў брыгадзірам. Як лепшы работнік, пабываў у Маскве на выставе дасягненняў народнай гаспадаркі.

Доўгі час спецыялісты раённага аддзела адукацыі, ведаючы пра педагагічны дар земляка, прасілі Язэпа Мікалаевіча застацца працаваць настаўнікам, накіроўвалі на курсы, каб толькі стаў спецыялістам, як кажуць, з дыпломам. Але пасля ваганняў ён усё ж такі адмовіўся, бо не мог пакінуць сваю вялікую сям'ю надоўга, не адпускала бяда: цяжка хварэлі старэйшыя дочкі — Ганна і Марыя.

«Язэп Мікалаевіч быў працавіты, пунктуальны, ва ўсім любіў парадак. Ён быў сапраўдным камандзірам і ў хаце, і ва ўсім нашым жыцці, быў добрым гаспадаром! — з гонарам зазначае малодшая дачка Алена. — Займаўся гарбарствам (апрацоўваў авечыя шкуры, шыў кажухі). Пазней захапіўся і бортніцтвам (пчалярствам). Увогуле быў майстар на ўсе рукі».

Як тонкі псіхолаг, шукаючы занятак хворым дочкам, Язэп Мікалаевіч вырашыў купіць швейную машынку «ZINGER», на якой стала шыць старэйшая Ганна. Марыя займалася ручной працай. А меншая Ніна вельмі добра навучылася вышываць. Яе вышыванкі і цяпер дэманструюцца на гарадскіх выставах. Відаць, менавіта гэтае дзявочае захапленне ўжо значна пазней (як цяжка стане браць у рукі іголку) натхніць яе на стварэнне ўнікальнай пёркаграфіі. Асобныя работы, напрыклад, упрыгожылі яе кнігі перакладаў з французкай мовы Франсуа Жакмэна «Поры года» і вершаў польскай паэтэсы Віславы Шымборскай «Хваля».

Напэўна, не было жыхара ў навакольных вёсках, які не пабываў бы ў хаце Мацяшоў з заказам на адзенне. Так у сям'і з'яўляўся дадатковы рубель, сумленна зароблены Язэпавымі дзяўчатамі. Зразумела, бацька радаваўся не іх заробкам, а сваёй рэалізаванай ідэі: увачавідкі мацавалася іх жаданне жыць, трываць, змагацца з неадступнай хваробай, быць карыснымі для сям'і і людзей. Язэп Мікалаевіч, хаваючы свой бацькоўскі боль, заўсёды павучаў дзяцей так: «Яно добра ўмець усё рабіць, але добра, каб не ўсё даводзілася выконваць».

Менавіта бацька прывіў дзецям, асабліва Ніне, цікавасць да вучобы. У хаце заўсёды былі кнігі.

Пражыў Язэп Мікалаевіч амаль сто гадоў. Удзячная дачка-паэтэса Ніна Мацяш прысвяціла свайму тату вершы «Бацька», «Даражэнькі бацечку наш родны!» і «З думкай пра бацьку».

### «А МАМА!.. УСЁЙ ДУШОЙ ГАРНУЛАСЯ ДА ХАРАСТВА ЗЯМНОГА...»

Алена Сымонаўна Мацяш (у дзявоцтве Сеч) нарадзілася 14 лютага 1905 года. Як і будучы муж, гадавалася сіратою. «І сеяла-садзіла, і прала, і ткала, і шыла, і вышывала. А як спявала, танцавала! Непісьменная была, а ўсёй душой гарнулася да хараства зямнога. Турботы сялянкі незлічоныя: дзеці, гаспадарка, гарод, поле. А ў нашай хаце не пераводзіліся кветкі: пасаджаныя мамай вазоны, прынесеныя ёй лугавыя краскі», — гэтыя радкі дачка Ніна скажа пра маці таксама ў «Спробе аўтабіяграфіі». Вядома, што Алена Сымонаўна пэўны час працавала паляводам у мясцовым саўгасе. Прыгожая чарнявая жанчына.

Дачка Зінаіда пра маці ўспамінае так: «Маці — дабрэйшы чалавек, разумная жанчына, заўсёды хвалявалася за дзяцей. Вельмі шмат працавала. З бацькам жыла пастаянна ў згодзе, мірна і дружна. І ён ніколі не крыўдзіў яе».

Меншая дачка Алена сцвярджае: «Прыгажосць і маці — гэта для нас адно і тое. Маці была для нас усім. І цяпер існуе нейкая дзіўная сувязь паміж ёю і намі: недзе ў снах, у думках. А як яна хораша спявала! Які ў яе быў цудоўны голас! Нарадзіся яна пазней — безумоўна, магла б стаць прафесійнай спявачкай».

Прайшло больш за дваццаць гадоў пасля яе смерці, а каля хаты заўсёды красуюць кветкі. Відаць, гэтае захапленне маці таксама паўплывала і на паэтэсу Ніну. У 2004 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла яе чарговая кніжка для дзяцей

малодшага школьнага ўзросту пад назвай «Адведзіны лета». Тут зямлячка праявіла сябе як выдатны філолаг, батанік і арнітолаг.

Як вядома, Ніна Язэпаўна прысвеціць сваёй любай матулі і славутую «Паэму жніва» (1987), за якую пазней будзе ўганаравана Літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова:

Як пяшчотна вішанька цвіла!..
Мама, мама! Недарэчна мусіць,
І пытацца, ці ў сваім замустве
Сапраўды шчаслівай ты была.



*Ніна і Алена Сымонаўна Мацяш.*

Думкі пра маці знайшлі ўвасабленне і ў вершах «Песня матчынай маладосці», «Тры песні», «Калыханка маме», «Рукі маці», «Мароз на дварэ», «Тры каласкі любові і смутку» і «Берагіня».

## ДЗЕЦІ

Сям'я Язэпа Мікалаевіча і Алены Сымонаўны была шматдзетнай. Было ў ёй дзесяцёра дзяцей: восем дачок і два сыны. На жаль, некаторыя з іх памерлі яшчэ малымі.

Самай старэйшай была Ганна, 1929 года нараджэння. Хварэла на меапатыю.

Другой, у 1930 годзе, нарадзілася Вольга (па мужу Бандык). Працавала ў мясцовым саўгасе, пасля — на Альшэўскай птушкафабрыцы. Цяпер — пенсіянерка, жыве ў родным сяле.

Дачка Зінаіда (па мужу Меляшэвіч) з'явілася на свет у 1932 годзе. Набыла спецыяльнасць фельчара-акушэркі. Працавала у Бярозаўскай цэнтральнай раённай бальніцы. Пасля смерці маці доўгі час даглядала хворых сясцёр. Зараз на пенсіі. Жыве ў Бярозе.

Чацвёртай была Люба (па мужу Попік). Нарадзілася ў 1936 годзе. Трагічна загінула ў аўтамабільнай катастрофе ў 1973 годзе.

Марыя — з 1939 года. Захварэла, як і старэйшая Ганна, на меапатыю.

Шостай стане Надзея. Яна народзіцца перад самай вайной. Яшчэ дзіцём памрэ ад запалення лёгкіх.

Першы доўгачаканы сын Юзік (Іосіф) нарадзіўся ў 1941 годзе. Пражыў усяго дзевяць месяцаў (па словах Зінаіды Мацяш — чатыры гады). Памёр ад невядомай хваробы.

Восьмай па ліку з'явілася на свет Ніна. Нарадзілася 20 верасня 1943 года. Паэтэса, перакладчыца, грамадскі дзеяч. Памерла 19 снежня 2008 года.

Сын Мікалай (1949 года нараджэння) закончыў Горкаўскую сельскагаспадарчую акадэмію, адслужыў у войску. Затым працаваў на пасадзе галоўнага інжынера ў саўгасе «Белаазёрскі» роднай вёскі. Быў старшынёй мясцовага сельскага Савета. Зараз на пенсіі. Жыве ў Нівах.

Апошнім дзіцём стала Алена (па мужу Ліцвіна), ці, як называюць яе родзічы, Гэля, 1950 года нараджэння. Пасля заканчэння БДУ працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў школах Бярозы і Белаазёрска. Зараз на пенсіі. Жыве ў Белаазёрску.

## ГАСПАДАРКА, СЯМЕЙНЫЯ КЛОПАТЫ І ЗАБАВЫ ДЗЯЦЕЙ

Як вядома, дзяцінства пісьменніцы прайшло ў роднай вёсцы Нівы Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Ніна Язэпаўна са шчырай удзячнасцю гаворыць пра сваю родную сям'ю: «...сямейны лад, сардэчнасць, спагадлівасць, разумная разважлівасць бацькоў выклікала да іх усеагульную павагу і пашану аднавяскоўцаў. І сама я ўжо даўно

зразумела: усё, што ёсць ува мне добрае — яно ад іх, ад маіх бацькоў. У пэўнай ступені нават вершы таксама ад іх».

Хата Мацяшоў у сярэдзіне мінулага стагоддзя знаходзілася на хутары. Іх гаспадарка на той час была невялікай, але сям'я жыла нябедна, не галадала. Першы веласіпед, радыёпрыёмнік, тэлевізар, першы аўтамабіль куплялі ў Нівах менавіта Мацяшы.

З успамінаў малодшай дачкі Алены: «Менавіта ў нас быў першы сад, заўсёды ў першых з'яўляліся і агуркі ў агародзе. Сям'я мела вялікі статак гусей. І вядома, асноўным заняткам дзяцей было пасвіць гэтых птушак. Таксама мы лавілі рыбу, хадзілі ў суседні лес у грыбы і ягады. Дапамагалі сваім бацькам усюды і ва ўсім. Напрыклад, рыхтавалі сена, дровы на зіму. Ведаю, што менавіта Зіна і Вольга былі першымі памочнікамі ў бацькі, можна сказаць, былі за сыноў. Увогуле да нашай сям'і ўсе адносіліся з павагай, бо гаспадары — маці і бацька — былі добрыя душой і працавітыя людзі».

Зазначае і старэйшая дачка Зінаіда: «Мы стараліся адгарадзіць хворых сясцёр ад фізічных нагрузак. Практычна ўсе дзеці ўмелі жаць жыта, пасвіць кароў, касіць, не баяліся запрэгчы каня, нават вадзілі яго ў начное. З удзячнасцю ўспамінаю і бацькавы арэлі, зробленыя для нашай забавы».

Сям'я жыла ў той час, калі адмаўляліся рэлігійныя каштоўнасці. Але Мацяшы традыцыйна спраўлялі вялікія царкоўныя святы: Каляды, Вялікдзень, Тройцу і інш. Да Вялікай Айчыннай вайны хадзілі ў Альшэўскую царкву, а пасля яе разбурэння — у Пескаўскую.

## НЯЎМОЛЬНАЯ І НЕАДСТУПНАЯ БЯДА СЯМ'І

Сапраўднай трагедыяй сям'і Мацяшоў стала неадчэпная хвароба, якая паступова калечыла, а пасля заўчасна забірала адно за адным жыцці дзяцей: спачатку Ганны, затым Марыі, а пазней і Ніны. Гэта хвароба — меапатыя. Нервова-мышачнае захворванне, якое перадаецца генетычна ці з'яўляецца наступствам нервовых узрушэнняў.

Медыцынскіх напрацовак па меапатыі на тыя часы не існавала. Гэтае захворванне лічылася спадчыннай бядой беларусаў: па статыстычных звестках, хворых на яе людзей у савецкія часы найбольш было менавіта на тэрыторыі нашай Айчыны.

Ніна Мацяш пачала хварэць гадоў у адзінаццаць. Старэйшая яе сястра Ганна сур'ёзна захварэла ў васямнаццаць. У Марыі меапатыя выявілася ў пятнаццацігадовым узросце.

Безумоўна, бацькі шукалі паратунку. Язэп Мікалаевіч яшчэ ў вайну вазіў старэйшую Ганну да нямецкага ўрача на Бронную Гару. Доктар даў нейкія лекі, ад якіх дзяўчынка толькі з паўгода адчувала сябе добра, а далей стан яе зноў пачаў пагаршацца.

Бацька хацеў везці Ніну ў Румынію, пабываў на прыёме нават у Леаніда Брэжнева, каб яе вылечыць, але яму не дазволілі выехаць за мяжу і накіравалі Ніну з Аленай у Ленінград у інстытут нейрахірургіі.

## ВАЙНА ПРАЙШЛАСЯ ПА ЎСІХ

У сям'і Мацяшоў памятаюць такі факт: калі ў чэрвені 1941 года пачалася вайна, гаспадара сям'і прызвалі на фронт. Усе здольныя мужчыны з вёскі Нівы сабраліся і пайшлі праз лес у Бярозаўскі райваенкамат (дарогі Белаазёрск—Бяроза тады яшчэ не было). Насустрач навабранцам, недалёка ад Стрыгіні, сустрэўся на машыне адступаючы афіцэр. Ён спыніў гэты «атрад», пагутарыў з людзьмі, а потым вярнуў іх назад, каб арганізаваць падпольны супраціў. Бацька вярнуўся дамоў.

У Нівах саміх немцаў не было. Зрэдку прыходзілі толькі мадзьяры ці мясцовыя паліцаі. Часта на Мацяшоў хутар наведваліся партызаны і бежанцы. Гаспадары дапамагалі ім, чым толькі маглі.

Зінаіда Язэпаўна з горыччу распавяла, што вайна прайшлася па ўсіх родзічах. Добра памятае, як бацька праводзіў на фронт трох стрыечных братоў. У час праводзін ён на дарозе апусціўся на калені і ўсіх хлапцоў перахрысціў услед. Можа, таму ўсе яны пасля і вярнуліся з вайны жывымі.

Аднойчы на хутар, дзе жыла сям'я Язэпа Мікалаевіча, прыйшло некалькі чалавек мадзьяраў. Ім нехта паведаміў, што тут ёсць вельмі прыгожы малады конь, якога яшчэ ніхто ні разу не запрагаў. Сапраўды, бацька прыхаваў гадаванца за патаемнай сцяной у

хляве: не адразу чужынцы змаглі яго знайсці і вырашылі забраць стрыгунка. Але некалькі дзён запар ім гэта не ўдавалася: конік шалёна адбіваўся, не даваўся ў рукі чужынцам. Мадзьяры прымушалі гаспадара, страшылі, каб той злавіў стрыгунка. Язэп Мікалаевіч тлумачыў, што конік малады, буйны, і нават гаспадар не здольны з ім справіцца. Але мадзьяры даўмеліся і прывялі на двор нямоглую кабылу. Вядома, малады жарэбчык унюхаў госцю, заржаў і кінуўся да яе. Якраз у гэты момант захопнікі накінулі на яго лейцы, але сесці на жывёліну так ніхто з іх і не адважыўся. Коніка адвялі ў Пескі ў паліцэйскі ўчастак і вельмі доўга не маглі прыручыць.

Дачка Зінаіда прыгадала, што ў апошнія гады ліхалецця была спроба знішчыць усю вёску Нівы разам з жыхарамі. Але насельнікі нейкім чынам даведаліся пра гэта і сышлі ў суседні лес. У хаце Мацяшоў застаўся толькі бацька з Зінай. Калі на вёску ноччу пачалі падаць першыя бомбы з нямецкіх самалётаў, Язэп Мікалаевіч схапіў дачку, і яны разам пабеглі да сваіх у лес. Такім чынам, уся сям'я засталася жывой.

Родныя сёстры паэтэсы яшчэ ўспаміналі, што шаснаццацігадовага брата іх маці, дзядзьку Івана, ворагі прымусілі ісці ў паліцыю, каб патруляваць вуліцы. Калі скончылася вайна, юнака асудзілі і адправілі ў Сібір, у Магадан. Потым ён быў рэабілітаваны, але ўсё ж адсядзеў колькі часу ў савецкіх лагерах як нямецкі паслугач.

Вядомы і такі факт: адзін з родных братоў Язэпа Мікалаевіча ў ваенныя гады быў вывезены ў Аргенціну, потым застаўся ў Лацінскай Амерыцы, там і памёр.

## ШКОЛЬНЫЯ ГАДЫ, ВУЧОБА І ПЕРШЫЯ ВЕРШЫ НІНЫ МАЦЯШ

У 1950 годзе Ніна пайшла вучыцца ў першы клас мясцовай школы, як тады называлі яе, — «па хатах». Спачатку дзеці сядзелі за доўгімі сталамі, а пазней ужо з'явіліся і парты. Да восьмага класа Ніна вучылася ў Ніўскай сямігадовай школе.

Дзесяцігодку заканчвала ўжо ў раённым цэнтры.

З успамінаў малодшай сястры Алены: «Вучылася Ніна добра, захаплялася літаратурай, праяўляла цікавасць і да замежных моў. Між іншым, мне заўсёды ставілі яе ў прыклад. Яна шмат чаго дасягнула ў жыцці. Адносіны з настаўнікамі ў сястры былі добрыя. Яны заўсёды выказвалі задавальненне вынікамі гэтай старанннай вучаніцы. З нецярпеннем мы, дзеці, чакалі Ніну на выхадныя дадому».

Менавіта тут, у Бярозаўскай школе, дзяўчына цвёрда вырашыла пайсці вучыцца далей — у Мінскі педагагічны інстытут замежных моў на нямецка-французскае аддзяленне, каб стаць перакладчыцай. У 1960 годзе яе мара спраўдзілася.

Першы верш Ніны з'явіўся ў друку ў 1963 годзе ў раённай газеце «Маяк коммунизма», калі з-за хваробы яна знаходзілася ў акадэмічным адпачынку.

Раннія творы Ніны Мацяш былі прысвечаны сваёй маленькай радзіме: прыродзе, людзям, родзічам, суседняй новабудоўлі — новаму гораду Белаазёрску.

Алена з удзячнасцю расказвае, як атрымала за чытанне верша «Белаазёрск» сваю першую ўзнагароду сярод чытальнікаў раёна, вобласці і нават рэспублікі. Са шчымлівым настроем прыгадвае яго і зараз:

Ці бачыў ты хоць раз Белаазёрск,
Калі на дахі мякка ноч прысядзе,
Павее казкай ад старых азёр
І пойдуць песні поруч па абсадзе?

Гэта быў адзін з ранніх вершаў Ніны Мацяш. Паэтэса з Ніў ужо кантактавала з супрацоўнікамі выдавецтва і пасылала свае творы ў раённую газету.

На развітанне хочацца сказаць, што Ніна Мацяш была сціплым і сумленным чалавекам. Магчыма, яна стала такой менавіта дзякуючы сваім родным і блізкім людзям. Моцная духам, няўрымслівая, яна ніколі не апускала рукі, не спынялася ні перад якімі жыццёвымі нягодамі.

Сёння асоба Ніны Мацяш заслугоўвае асаблівай пашаны, памяці. Галоўнае, што мы можам зрабіць для нашай славутай зямлячкі, — гэта захаваць памяць: хацелася б бачыць вуліцу, названую яе імем, літаратурны музей на яе кватэры, помнік у Белаазёрску!

***Мікола ЖУКОВІЧ і Вольга АЛЯКСЕЕВА,***
***дырэктар і вучаніца Бярозаўскай сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 1***

*Алена ГАРМЕЛЬ*

# «ВОДАР СОНЦА» АЛЯКСЕЯ КАПАЦКЕВІЧА

**Я**к, па-вашаму, пахне сонца? Прадбачу здзіўленне: «Хіба ж яно можа мець пах?!» Паверце, можа! Вы гэта адчуеце, калі пазнаёміцеся з першым паэтычным зборнікам паэта з Берасцейшчыны Аляксея Капацкевіча.

*Аляксей Аляксандравіч нарадзіўся 7 красавіка 1942 года ў вёсцы Сычы, цяпер жыве ў вёсцы Вельямовічы Брэсцкага раёна. Мастацкія замалёўкі, нарысы, нататкі, публіцыстычныя артыкулы пачаў пісаць яшчэ ў юнацтве.*

Яго кніга «Водар сонца» складаецца з некалькіх раздзелаў: «І спее зноў маё жаданне...», «Байкі, гумарэскі, сатыра», «Вершы для дзяцей», «Глазами души» (рускамоўныя творы аўтара займаюць прыкладна палову выдання). Сустракаюцца тут і аўтарскія пераклады з рускай мовы на беларускую і наадварот («Прадчуванне» і «Предчувствие весны», «Навальніца» і «Дождик»). І зусім не выпадкова, што гэтыя вершы маюць розныя назвы: па сутнасці гэта незалежныя адзін ад аднаго творы, кожнаму з якіх аўтар дае сваё «ўласнае» дыханне.

Аўтар шчыра вітае свайго чытача вершам «Вясковая раніца» — своеасаблівым гімнам сонцу. Вобраз гэтага свяціла сустракаецца ў многіх творах паэта. Можна сказаць, светлая — уся творчасць Аляксея Капацкевіча. А душа паэта прагне складаць усё новы і новы «шчыры верш адмысловы, дзе вечна жылі б і вясна, і любоў» («Калі ж?»).

Ці вось такое «прамяністае» пажаданне знаходзім на адной са старонак кнігі:

Я дарую вам крыўды — усе да адной,
Дарагія шчаслівыя людзі,
Хай на сэрцы вам радасна будзе
І ў душы хай пануе спакой!
Хай вас цемра-бяда абміне,
Хай ваш погляд заўжды будзе ясным!
Як сваім вас пакрыўдзіў няшчасцем —
Калі ласка, даруйце вы мне.

Цалкам страціўшы зрок у 17 гадоў, паэт, нягледзячы ні на што, заклікае відушчых заўважаць хараство роднай прыроды, любіць свой край, радавацца кожнаму новаму дню, кожнаму імгненню жыцця.

Напрыклад, хіба не шчасце адчуваць пах «дзіўны чабаровы» або «ліпы водар мядовы», як гэта сцвярждае лірычны герой твора «Пахі лета»? І з чым, скажыце, можна параўнаць пах свежаспечанага хлеба («Хлеб») або яблыкаў («У садзе», «Мне кожны яблык зоркай свеціць...»)? Аляксей Капацкевіч прызнаецца:

Мне большага шчасця не трэба —
Каб толькі свяцілася неба
І зоры ўначы каб мне ззялі
Ды жыць і тварыць памагалі.

Зоры паэт заўважае не толькі ў нябёсах, але і ў зямных пладах («Мне кожны яблык зоркай свеціць...»). «Ззяць» жа, на думку майстра слова, можа таксама душа чалавека («Першы снег») і, зразумела, сонца, якое аўтар называе «кветкай нябеснай новага дня» («Зімовы эцюд»).

Як бачым, сонечнае святло выпраменьваюць нават «зімовыя» вершы Аляксея Капацкевіча, таму не дзіўна, што ў самую сцюдзёную пару года ў яго паэзіі нават «дуб вячысты срэбным інеем цвіце» («Зімовы ранак»). У творчай скарбонцы таленавітага паэта шмат лірычных, патрыятычных, гумарыстычных, філасофскіх твораў, прасякнутых шчырай любоўю да Радзімы, навакольнага свету і ўвогуле да жыцця.

Свае паэтычныя малюнкі Аляксей Капацкевіч стварае з дапамогай трапных вобразных сродкаў. Можна сказаць, ён вельмі беражліва ставіцца да кожнага слова, бо ўмее бачыць сэрцам.

Анатоль ТРАФІМЧЫК

# «КРАІНЫ ГЭТАЕ ГЕРОЙ...»: КАСЦЮШКА Ў ПАЭЗІІ БЕРАСЦЕЙШЧЫНЫ

*Да 265-х угодкаў нараджэння Т. КАСЦЮШКІ*

Адразу пасля паўстання 1794 г. вобраз Тадэвуша Касцюшкі пачаў міфалагізавацца на даволі шырокай тэрыторыі будучай Беларусі. Але заходнерусізм ды працяг паланізацыі адлучылі беларускую нацыю і культуру ад ліцвінскай глебы і канчаткова нівеліравалі ўспрыманне Рэчы Паспалітай як поліэтнічнай дзяржавы, што стала адной з прычын маргіналізацыі гэтага вобраза.

Яшчэ не так даўно адзіным знакам у гонар слаўнага сына Беларусі на яе прасторах быў звычайны валун у старым парку М. Агінскага, на якім высечана «Ценям Касцюшкі». Да 1990-х гадоў на малой радзіме Касцюшкі — Берасцейшчыне — пра героя двух кантынентаў нагадваў, бадай, толькі... музей Аляксандра Суворава ў Кобрыне. Выпраўляючы такую прыкрасць, берасцейскія майстры паэтычнага слова сталі ў авангардзе ўзвялічвання вобраза славутага земляка ў беларускім мастацкім дыскурсе.

Так, у апошняй частцы трыпціха Васіля Жуковіча «З імем Тадэвуша Касцюшкі» гучыць заклік да ценю змагара прыйсці «ў гэты цьмяны дзень». Аўтар імкнецца да эмацыянальнага ўздзеяння на чытача дзеля яго нацыянальна-патрыятычнага выхавання (дарэчы, аб гэтым гаворыць і назва рубрыкі, у якой змешчаны творы, — «Паэтычная школа пачуццяў»). У творы Васіля Жуковіча Тадэвуш Касцюшка — самаахвярны змагар-пакутнік. Чытач пранікаецца сімпатыяй да героя, якая паступова перарастае ў абуральны гнеў да агрэсараў. У выніку адбываецца своеасаблівая метафарызацыя вобраза змагара: паэт хоча, каб Касцюшкаў цень стаў паходняй і сёння.

Амаль адначасова з Васілём Жуковічам апублікавала свой верш, напісаны пад уражаннем ад сустрэчы ў Чыкага з Тадэвушам Касцюшкам, увекавечаным у бронзе, Раіса Баравікова. Мяркуючы па інтанацыі верша, паэтка адчувае крэўную еднасць з земляком-героем:

Краіны гэтае герой,
Ён, можа, мне цяпер найблізкі
Мясцінкай той, што ад калыскі
Была ў душы яго адной.

Славутай жаночай інтуіцыяй Р. Баравікова нават праз холад металу (у чым, вядома ж, бачыцца і заслуга аўтара помніка) змагла адчуць настальгічныя перажыванні ліцвіна:

І мроіцца, — ірвуць сляды
высозных гмахаў агароджу...
Ах, гэта я яго праводжу
Дамоў, адкуль прыйшоў сюды.

Падсвядомасць паэткі, як відаць па апошніх радках, не змагла, аднак, пазбегнуць «провадаў» — вяртання героя дамоў, на радзіму, дзе ён быў гэтулькі часу забытым.

Услед за Васілём Жуковічам (родам з Камянеччыны) і Раісай Баравіковай (з Бярозаўскага раёна) да матываў жыцця, дзейнасці і гістарычнага значэння героя звярнуліся баранавіцкія паэты Алесь Корнеў ды Аляксей Белы. Дарэчы будзе адзначыць, што ўсе згаданыя мастакі слова праявілі адметнасць творчага падыходу да раскрыцця тэмы. І ў той жа час такая поліфанія складваецца ў ідэйнае сугучча іх твораў.

Паказальна, што паралелі ў творах, прысвечаных беларускімі паэтамі Тадэвушу Касцюшку, узнікаюць не толькі паміж зместам і настроямі, але і формай вершаў. А. Корнеў ў паэтычным нарысе гісторыі Беларусі, які склаўся ў цэлы зборнік вершаў, адгукнуўся пра знакамітага земляка другім пасля В. Жуковіча трыпціхам — «За свабоду

Айчыны пакутнай». Верш мае ліра-эпічны характар. З аднаго боку ён абапіраецца на рэальныя гістарычныя падзеі, да якіх меў непасрэднае дачыненне Касцюшка, на факты з ягонага жыцця, з іншага ж — аповед насычаны эмоцыямі і каларытнымі фарбамі:

Вучыў далікатна дачку ваяводы
Алоўкам і фарбай наносіць малюнак.
І раптам — як выбух! — агонь асалоды!
Пялёсткам ружовым гарыць пацалунак.

Найбольш лірычнай з'яўляецца першая частка трыпціха, што і натуральна, бо апавядае ў ёй аўтар пра каханне Тадэвуша, якое завяршылася крахам. Летуценнасць дзвюх закаханых птушак, сінягорліцы і вярбеля (так А. Корнеў перадае словы Сасноўскага, што, маўляў, галубка не для вераб'я), брутальна разбіваецца аб ястрабіную чараду гайдукоў, якія дагналі таемныя ўцёкі. «І цела, і воля» сінягорліцы былі скручаны.

Улада багацця! Цябе не раскрышым.
Ты — шчасце, і гонар, і боль чалавечы.
Тадэвуш ва ўцёках. Жыве пад Парыжам
На пару не з любай, а з крыўдай-галечай.

Другая частка трыпціха пачынаецца імпульсам, які перадае падзеі, паваротныя для развіцця ўсяго свету:

А ў той час за морамі, за акіянам —
Паўстанне! Паўстанне пад небам барвяным!
Свабода, правы здабываюцца кроўю,
Раўняюцца ўсе! Аніякіх саслоўяў!

А. Корнеў перадае, што адзін з матываў вярбоўкі Касцюшкі ў амерыканскую армію — барацьба за свабоду і роўнасць, адсутнасць якіх на Радзіме Тадэвушу перашкодзіла знітаваць лёс з каханай, якой малады, але бедны шляхціч быў не пара. Амерыканскую старонку з біяграфіі Касцюшкі паэт перадае пункцірна, адзначаючы найважнейшыя моманты: перамогі паўстанцаў, дзякуючы фартыфікацыйным здольнасцям ліцвіна, яго ўзнагароды, прысваенне чына генерала і запрашэнне жыць у маладой рэспубліцы ўшанаваным чалавекам. Але, як адказвае герой, «у горы, прыгнёце пакуль што ліцвіны», і едзе на Радзіму.

Змаганне за лёс роднай зямлі атрымлівае ў Алеся Корнева гучную эмацыйную інтанацыю:

Ляцелі і коні, і вілы, і ружжы.
Басота, а косы сталёвыя ўверсе!
Ды вораг з гарматамі, вопытны, дужы.
І венгры, і прусы. Суховаў і Ферзен.

Палеглі паўстанцы. І стогны, і крыкі...
Падстрэлены конь закруціўся, затупаў.
Казакі дагналі: і кулі, і пікі...
Начальнік паўстання ў крыві паміж трупаў.

Відавочна, аўтар не імкнуўся стварыць поўны жыццяпіс Тадэвуша Касцюшкі (для гэтага спатрэбілася б як мінімум паэма). У дадзеным трыпціху А. Корнеў паставіў асветніцкую задачу — данесці да чытача маштабнасць і значэнне гістарычнай постаці, а таксама перадаць драматызм чалавечай долі, якая стала лёсавызначальнай для гісторыі многіх народаў.

Яшчэ адзін з самых блізкіх землякоў Касцюшкі — цяперашні баранавец Аляксей Белы — стварыў верш на аснове жыццяпісу героя — «Сны аб Радзіме». Гэты твор вылучаецца пранікнёным лірызмам (пры захаванні багатай фактуры).

Напачатку А. Белы разважае над феноменам героя:

Узгоркі, гасцінцы ды пушчы,
Гісторыі сумныя цені...
Дык хто ты, Тадэвуш Касцюшка,
Са шляхты. У сёмым калені!

Паэт спрабуе знайсці вытокі гэтага феномену. Пошук прыводзіць да адказу ў традыцыйным для беларускай культуры фальклорным стылі, што надае вершу рысы быліннасці, а яго героя ўзвялічвае да легендарна-міфічнага ўзроўню народнага асілка:

Зубры тут блукалі і туры.
Казуль па прагалах насіла.
Таму, пэўна, Бенавентура
Тут браў і адвагу, і сілу.

Далей прасочваецца сацыяльная эвалюцыя Тадэвуша. Яго сяброўства ахоплівае ўсё шырэйшае кола — ад таварышаў з малой радзімы да двух прэзідэнтаў амерыканскай краіны, якія былі яму «проста сябрамі». Падкрэсліваецца воінская доблесць Касцюшкі, дзякуючы якой Тадэвуш вырас да чыну брыгаднага генерала:

Ішоў ты праз горы і плошчы —
Ў баях адстаяў гэта права.
Змагаўся зусім не за грошы,
І нат не заўсёды за славу.

А. Белы выкарыстоўвае прыём пераходу ад рэтраспектыўнага апісання шляху Касцюшкі да перспектыўнага. Пунктам такога пераходу з'яўляецца якраз амерыканскі перыяд жыцця героя.

...Каму стала проста палёгка,
Каму адстаялі свабоду.
А тут шчэ было так далёка
Да «Акта Паўстання Народу».
Далёка было да палону,
Да плачу удоў і самоты,
Калі беларускія клёны
Крывёй наталялі лістоту.

Што застаецца Касцюшку? Сны пра родны край. У гэтым — своеасаблівая повязь з купалаўскім сненнем аб Беларусі. Аўтар атаясамлівае свайго героя з лірычным героем Янкі Купалы, з дапамогай паэтычных сродкаў злучаючы ліцвінскасць першага з беларускасцю другога.

Аўтар упэўнены, што «босая памяць / Зноў ступіць на ганак», што подзвіг героя і яго ідэалы неўміручыя. Таму заключны акорд верша — мажорны.

Аптымістычнай рытмікай характарызуецца і верш Расціслава Бензерука «1794». Дынаміка вершаванага памеру перадае людское ўспрыманне такой постаці, як Касцюшка, які адной сваёй прысутнасцю абнадзейвае, нягледзячы на яскравы сімвал бяды, які быццам бы пераляцеў у беларускі верш з лірыкі Эдгара По:

Што, крумкач, жалобна крачаш?..
Надыходзіць волі час,
І чакае ўсіх удача,
Як Касцюшка сярод нас.

Зададзеная напачатку антыномія захоўваецца на працягу ўсяго верша:

Хоць пара не для свавольных,
Прадракаеш: быць бядзе!
Не, Касцюшку час вызвольны
Аж да Крупчыц давядзе.
<...>
Будуць бітвы і за Бугам.
Не прароч, крумкач, бяды!
Бачыш, носяцца харугвы,
А Касцюшка малады.

Ды ўсё ж Касцюшка, хоць і чакае яго раненне і палон, з'яўляецца, паводле верша, мацнейшым за ліхія сілы, яго дзеянні, ідэалы могуць і павінны атрымліваць перавагу над крумкачамі гісторыі, якія хацелі б яе перайначыць на свой, д'ябальскі капыл. І гэтыя радкі становяцца народнымі:

Поле бітваў і капліца —
Наша памяць назаўжды!

У першым з прыведзеных радкоў маецца на ўвазе поле ля вёскі Крупчыцы, дзе пастаўлена капліца, якая ўшаноўвае памяць палеглых у адной з самых жорсткіх бітваў касцюшкаўскага збройнага чыну. Лакалізацыя абумоўлена тым, што гэтая мясцовасць з'яўляецца малой радзімай Бензерукоў, на якой, паводле адной з версій, нарадзіўся Касцюшка. Так паэт робіць свой унёсак у вялікую справу захавання памяці пра славутага земляка.

У цэлым жа мастацкі вобраз героя ў берасцейскіх паэтаў ствараецца, з аднаго боку, у адпаведнасці з прынцыпам гістарызму і згодна з нацыянальнай традыцыяй, з іншага — такая адпаведнасць не абмяжоўвае аўтараў у выбары мастацкіх сродкаў, фарбаў, нярэдка рамантычных, для стварэння лірычна-гістарычнага партрэта Тадэвуша Касцюшкі, выяўлення яго вартасцей, той ролі, якую ён адыграў для свайго народа, народаў іншых краін. Паэты здолелі перадаць няўрымслівасць натуры Касцюшкі, раскрыць яго ўнутраны свет. Паэты ведаюць: scripta manent, напісанае застаецца, — таму і ўмацоўваюць гістарычную памяць народа сваімі радкамі, у якіх немагчыма выкрасліць імя Тадэвуша Касцюшкі.



# БЛАСЛАВЁНАЯ ВЁСКА ГУТАВА

Мне ніколі так і не давялося пабыць у гэтай вёсцы, што дзесьці жыве сваім жыццём у Драгічынскім раёне, ды, відаць, ужо і не давядзецца... Таму і не ведаю, колькі там вуліц, ці проста адна вуліца, якія кветкі летнім часам цешаць вочы ў гародчыках, ды і ўвогуле, як глядзяцца людзі, хаты, наваколле... І разам з тым, гэтая вёска, як і мая родная ў Бярозаўскім раёне, з ранняй маладосці мне вельмі блізкая. Колькі разоў у тыя, ужо такія далёкія маладыя гады даводзілася чуць ад маёй сяброўкі Алы Кабаковіч: «Трэба ехаць у Гутава», «Вось, калі вярнуся з Гутава», «Павязу Аню (дачку, цяпер — вядомы крытык і літаратуразнаўца Ганна Кісліцына) ў Гутава»... Але гэты мой кароткі расповед не столькі пра вёску, колькі пра яркіх творцаў, што нарадзіліся (дарэчы, у адным — 1943 годзе) і ўзгадаваліся ў ёй. Гэта ўжо згаданая паэт, перакладчык, літаратуразнаўца Ала Кабаковіч і тонкі лірык Мікола Федзюковіч. Для мяне Гутава якраз гэтым дарагое і слаўнае, апошняе — праз іх радкі.



*Ала Кабаковіч.*

Над Гутавам маім
Стаяла Мілавіца,
Цвіў белым цветам бэз,
А месяц — бляскам рос,
Каб маладосць мая
Паспела надзівіцца
На прыгажосць крыла,
Што ахінула лёс.

*(Ала КАБАКОВІЧ).*

Прыгажосць крыла... Вядома ж, крыла Бацькаўшчыны, пра што наш класік Уладзімір Караткевіч сказаў па-свойму: «Зямля пад белымі крыламі», але разам з тым гэтыя вобразы вельмі сугучныя. Край сваім крылом ахінае лёсы, але і ён сам — пад белымі крыламі чагосьці высокага, яснага, боскага... Ды вярнуся непасрэдна да Гутава. У радках Міколы Федзюковіча — зімовы гутаўскі пейзаж:

Вёску Гутава ў снег захуталі
давідна свежакі-вятры.
Сустракае нас вёска Гутава
крыкам пеўняў, сталёвым
грукатам.
Вёска Гутава — тры вярсты!
Замятуха-завея сцелецца
за аўтобусам наўздагон...
Людна, гоманна за аселіцай —
хлебаробнае ўсё насельніцтва
ў прадчуванні адліжных дзён...

У васьмідзясятыя гады мне неаднойчы даводзілася з Міколам Федзюковічам выязджаць ад Бюро прапаганды мастацкай літаратуры ў камандзіроўкі, дзе выключна на ўсіх літаратурных сустрэчах ён абавязкова чытаў гэты верш. Магчыма, я памыляюся, але заўжды здавалася і здаецца, што ўсе нашы творцы, хто паходзіць з Берасцейшчыны, неяк па-асабліваму прывязаны да свайго краю... І вось гэтае «неяк»... яно па-асабліваму і лучыць, яднае. Гэта вельмі выразна адчувалася падчас нашага студэнцтва.

Так, у сярэдзіне шасцідзясятых гадоў мы разам вучыліся ў маскоўскім Літаратурным інстытуце. Ала Кабаковіч была маёй аднакурсніцай, Мікола Федзюковіч — на курс вышэй, ён на год раней паступіў у інстытут. Той час, як і многае ў маладосці, — незабыўны. Цяпер, праз адлегласць, мне нярэдка здаецца, што і Ала, і Мікола ў нечым былі для мяне нават як настаўнікі. Я — зялёная пачаткоўка, а яны ўжо больш вопытныя. У Алы Кабаковіч на той час ужо была журналісцкая практыка,

у Літінстытут яна паступіла, скончыўшы з чырвоным дыпломам факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. А Федзюковіч яшчэ перад службай у войску, зусім маладзенькім, паспеў папрацаваць літсупрацоўнікам у Драгічынскай раённай газеце і фотакарэспандэнтам лунінецкай газеты «Ленінскі шлях». Помню, аднойчы зайшла да яго ў інтэрнацкі пакой і над пісьмовым сталом пабачыла прымацаваны да сцяны аркуш паперы са слупкамі самых розных слоў. «Што гэта ў цябе? — пытаюся. — Для чаго?» «Звычайныя словы, — адказвае ён. — Але для мяне яны забароненыя. Я вельмі часта ўжываю іх у радках, і гэта збядняе мову вершаў. Вось і выпісаў, каб заўжды былі перад вачамі, каб іх пазбягаць». З гэтага выпадку бачна, як уважліва ён ставіўся да слова, і яго паэзія, сапраўды, надзвычай сакаўная. Ён умеў мастацкім словам намаляваць вельмі паэтычны пейзаж і праз слова перадаць самыя тонкія пачуцці, скажам, як вось у гэтым вершы «Аса»:



*Мікола Федзюковіч.*

На вуснах у цябе — аса!  
Такая тонкая і злая,  
што аж зыначылася ўся  
твая цнатлівая краса —  
наўздзіў і неспазнана.

Аса на вуснах у цябе.  
Яна бзумчыць так аднастайна,  
што кожны думае цяпер:  
«Ах, я, напэўна б, не сцярпеў!..»  
Аса на вуснах — тайна.

А як спеўна, гарманічна-крылата і, разам з тым, дакладна ён пераклаў вядомае васьмірадкоўе класіка рускай паэзіі Аляксандра Блока:

Я — Гамлет. Халадзее кроў,  
Пляце каварства павуціну...  
А ў сэрцы — першая любоў  
Да неспазнанай, да адзінай!

Мая Афелія, цябе  
Ахутаў змрок чужой краіны.  
З атрутнай ранаю цяпер  
Твой прынц у родным краі гіне.

Свой чарговы зборнік вершаў, (а перад гэтым былі «Зямля — магніт», «Мілавіца», «Птушыны грай», «Макаў цвет»), які рыхтаваў да друку, Мікола Федзюковіч назваў «Красадзён» — вельмі прыгожая назва, у якой чуецца глыбокі сэнс, хоць гэта проста назва шматгадовай расліны, але можна сказаць, напрыклад, так: «Краса тых дзён, якія я тады пражыў», і расліна адступае на другі план, застаецца адно — дні красуюць... І тут хочацца згадаць адно выказванне класіка французскай літаратуры Бальзака, што «Паляпшаць норавы свайго часу — вось мэта, да якой павінен імкнуцца кожны пісьменнік». Мікола Федзюковіч праз красу слова, праз прыгажосць пачуццяў — да Бацькаўшчыны, да той жа самай вёскі Гутава, да людзей, што жылі ў ёй, да роднай прыроды, да каханай — імкнуўся палепшыць норавы свайго часу, як, безумоўна ж, і Ала Кабаковіч, але гэта ўжо трошкі іншы расповед...

Да Алы Кабаковіч была прывязана мая душа, і я любіла Алу, як можна любіць блізкага чалавека, скажам, сястру. Яна была не проста аднакурсніца, не проста сяброўка маладых гадоў, мне да гэтага часу яе не стае... Як ніхто іншы, яна магла суцешыць, у нечым пераканаць, ад нечага засцерагчы — гэта па жыцці, а ў літаратуры, у паэзіі — калі ўжо Ала прайшлася па радках і потым выказалася літаральна па кожным, дык гэта ўжо як прысуд! Адно можаш адразу, нават не правіўшы, узяць і выкінуць, а другое... Калі раптам нехта і не ўспрымае гэта, дык проста не звяртаць увагі, усё праяўляе час... І я неаднойчы мела магчымасць пераканацца, які чуйны слых быў на радок у Алы Кабаковіч. Яна навучыла мяне прасейваць і без шкадавання (не правіць!), а проста адсейваць вершы.

Прырода падарыла ёй шмат талентаў, ды і ўвогуле — Ала па жыцці была выдатніцай. Школу скончыла з залатым медалём, журфак з адзнакай, у Літінстытуце ўсе сесіі — толькі на выдатна! Яна пісала таленавітыя вершы, выдатна перакладала... Як тут не згадаць «Рэквіем па кожным чацвёртым» Анатоля Вярцінскага, які ў канцы шасцідзясятых быў надрукаваны

ў часопісе «Дружба народов» у перакладзе Алы Кабаковіч. Я помню той шырокі розгалас, калі народы ўсяго Савецкага Саюза праз той пераклад, праз тую публікацыю дазналіся, якія ахвяры панесла Беларусь у гады мінулай вайны:

... Кожны чацвёрты быў мёртвы.
Мір і спакой ім вечны!
Кожны трэці быў зморaны,
скалечаны і знявечаны.

Кожны другі на целе
меў раны, апёкі ці шрамы.
І ўсе мы, усе мы мелі
на душы сваёй раны.

Зеўралі ямы, траншэі,
зеўралі печы ў друзе —
ранай адной страшэннай
на целе маёй Беларусі.

*(Анатоль ВЯРЦІНСКІ).*

Яна перакладала і вершы Уладзіміра Караткевіча, і ў той час летуценнага студэнцтва вельмі любіла вершы Анатоля Сербантовіча. І справай свайго жыцця, канечне ж, магла б зрабіць паэзію ці той жа самы пераклад, але яна неяк зусім нечакана, ва ўсялякім выпадку для мяне, абрала крытыку... Хаця, зрэшты на маю ўласную думку, крытыка — царыца ўсяго літаратурнага працэсу. Яна яго фарміруе і вядзе,.. і па гэтай магістральнай дарозе звяртаецца да творчасці таго ці іншага творцы, каб дапамагчы таму ў як мага лепшым выглядзе выйсці да чытача. Ала Кабаковіч многім дапамагала ў гэтым. Працуючы навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР, яна не толькі абараніла кандыдацкую дысертацыю, не толькі напісала і выдала кнігі «Паэзія Максіма Багдановіча», «Беларускі свабодны верш», выдатную навуковую працу «Фальклорныя і анталагічныя традыцыі ў беларускай паэзіі», якая пабачыла свет ужо пасля такой раптоўнай смерці яе аўтара (Ала Кабаковіч памерла ў сорак два гады, у 1985 годзе), але і паспела напісаць шмат самых розных артыкулаў і рэцэнзій, у якіх па-свойму раскрывала і даследавала творчасць Максіма Танка, Рыгора Барадуліна, Міхася Стральцова, Янкі Сіпакова, Петруся Макаля, Алеся Разанава і іншых нашых выдатных паэтаў, нярэдка да слёз захапляючыся іх творамі.

А ў адным са сваіх вершаў Ала Кабаковіч пісала:

...Паснулі дзеці давідна,
Прыснула маці.
А мне не спіцца дапазна
У роднай хаце.
Што доўжыць дзень,
Як баразну,
— Як пожня коле?
Калі я ведаю здавён,
Што мне за доля.
І немінучае маё
Мяне чакае.
Гайдае вецер палыны,
Жыты гайдае.

Яна, як калісьці рускі паэт Мікалай Рубцоў («Я умру в Крещенские морозы»), нібыта прадчувала гэтае сваё непапраўнае «немінучае» і спяшалася светла любіць жыццё, у якім самае галоўнае месца заўжды адводзіла айчыннай літаратуры. Мне дасюль помніцца адзін яе выраз, якім пры нейкіх расчараваннях ці няўдачах яна любіла супакойваць: «Ведаеш, пры вялікім жаданні можна стаць нават англійскай каралевай! Дык вазьмі і вельмі моцна пажадай!» У мяне ёсць гэтае моцнае жаданне...

***P. S.*** У берасцейскіх пісьменнікаў ладзіцца цудоўнае свята паэзіі «Лунінская восень», якое даўно ўжо стала традыцыяй. Дык чаму б не ўшанаваць, не прывітаць такім святам і вясну?! Калі ў стомленым ад зімы, ад цяжкіх снежных хмар небе пачынае разгарацца самая яркая, святлістая зорка... У вершах Алы Кабаковіч і Міколы Федзюковіча — Мілавіца, а ў вершы нашага класіка Максіма Багдановіча — зорка Венера. «Гутаўская Мілавіца» — свята, якое пачыналася б вершам Алы Кабаковіч, а заканчвалася б такім шчырым прызнаннем Міколы Федзюковіча:

...Благаслаўлёная вёска Гутава,
мне з табою спяваць і гутарыць,
і заўсёды цябе любіць.

Нашым вёскам даўно ўжо не стае такіх паэтычных святаў. А менавіта ж яны пераважнай большасці нашых творцаў давалі і даюць у жыццёвы шлях, у творчы лёс наша чыстае, мілагучнае, яснае, як Мілавіца, роднае беларускае слова... Дык, можа, і распачаць гэтае натхнёна-акрыленае шэсце прыўкрасных Музаў «Гутаўскай Мілавіцай»?!

***Раіса БАРАВІКОВА***

Святлана САЎКО

# КРАЙ ВАЯРОЎ І РАМАНТЫКАЎ…

## *Некалькі фрагментаў з гісторыі Брэстчыны*

***Назва абласнога цэнтра паходзіць ад слова «бяроста», ці бярозавая кара, на якой — па адной з версій — пісалі мясцовыя жыхары. Першапачаткова паселішча называлася Берасце, а пачынаючы з XVII стагоддзя, — Берасце-Літоўскае. У складзе Расійскай імперыі ператварылася ў Брэст-Літоўскі. Прычынай стала няправільная транслітарацыя з польскай мовы. Польскае «Brześć» пераклалі на рускую як «Бржесць», што пасля ператварылася ў Брэст.***

***Брэсцкая вобласць як адміністрацыйная адзінка ўтварылася неўзабаве пасля таго, як Заходняя Беларусь з'ядналася з БССР — 4 снежня 1939 года. Цікава, што ў гэты ж дзень з'явіліся Баранавіцкая і Пінская вобласці. І толькі праз 25 гадоў Пінская поўнасцю, а Баранавіцкая — часткова ўвайшлі ў склад Брэсцкай вобласці, з таго часу яе тэрытарыяльны склад застаецца нязменным.***

Брэсцкая зямля багатая і на легенды, і на падзеі, выключна важныя для ўсёй Беларусі. Погляд на іх з цягам часу змяняецца, узнікаюць новыя тлумачэнні, ацэнкі, версіі. Гісторыя — навука далёка не статычная, і роля яе не абмяжоўваецца простай фіксацыяй фактаў, лічбаў, імёнаў.

На Берасцейскай зямлі нарадзілася нямала славутых людзей. Дзейнасць многіх з іх сёння таксама ацэньваецца па-рознаму. Так, апошні польскі кароль і вялікі князь літоўскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, якому прыпісваюць адначасова росквіт і заняпад краю, па сведчаннях шматлікіх яго сучаснікаў, быў непрадказальны і легкадумны чалавек. Але ж якая цікавая асоба паўстае перад чытачом, што гартае старонкі мемуараў караля! Панятоўскі праводзіў рэформы, пры ім развіваліся навукі, мастацтва. Аднак у яго час Вялікае Княства і Рэч Паспалітая канчаткова былі падзеленыя паміж трыма імперыямі. Беларускія і літоўскія землі, у прыватнасці, былі далучаныя да Расіі.

Адам Міцкевіч нарадзіўся на хутары Завоссе, што на Наваградчыне. Не варта вышукваць асаблівы сэнс у выбары менавіта гэтых дзвюх асоб, якіх падарыла сусветнай гісторыі Брэстчына. Апошні кароль Рэчы Паспалітай, паэт — усё гэта толькі застылыя абалонкі, штампы, за якімі — проста людзі, што пакінулі след у гісторыі. Пра Міцкевіча часта кажуць, нібыта ён стаяў на памежжы некалькіх культур: беларускай, польскай рускай. А па вялікім рахунку, гэты творца зрабіў невымерны ўнёсак у культуру ўсяго свету. Лагічна было б пачаць сваю вандроўку па Брэстчыне з даўніны. Але мы найперш падыдзем да сцен Брэсцкай крэпасці, аддаўшы даніну павагі мужнасці яе абаронцаў.

### ТРЫ ЮБІЛЕІ ЛЕГЕНДАРНАЙ КРЭПАСЦІ

Тут 175 год таму, першага чэрвеня 1836 года, у падмурак быў закладзены першы камень. 40 год мінула з тае пары, як быў адчынены мемарыяльны комплекс «Брэсцкая крэпасць — герой». І 70 год споўнілася з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Зрэшты, першыя ўдары фашысцкіх захопнікаў Брэсцкая крэпасць адчула нават раней, чым прынята лічыць. Не ў 1941, а з пачаткам Другой сусветнай вайны, калі Германія напала на Польшчу, у складзе якой у адпаведнасці з Рыжскім мірным дагаворам знаходзілася і гэтая тэрыторыя. Так, у вера-

сні 1939 года была разбурана частка казармаў Цытадэлі, некаторыя іншыя збудаванні. На той момант Брэсцкая крэпасць страціла былое ваенна-абарончае значэнне, тут размяшчаліся «на кватэрах» часці Чырвонай Арміі. Але гэта не перашкодзіла гарнізону «ў цяжкіх умовах праявіць у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі воінскую доблесць, масавы гераізм і мужнасць, якія сталі сімвалам стойкасці ўсяго савецкага народа».

У першыя ж хвіліны вайны на горад і крэпасць абрынуўся шквал паветраных бамбардзіровак. У выніку масіраваных артабстрэлаў былі знішчаны большасць складоў з харчаваннем, перастаў дзейнічаць водаправод, знікла сувязь. На той момант у крэпасці знаходзіліся сем-восем тысяч салдат і каля 300 сем'яў ваеннаслужачых. Здавалася б, — нішто супраць добра падрыхтаванага праціўніка. Толькі ў адной з пяхотных дывізій — асноўнай 45-й — налічвалася каля 17 тысяч салдат. Абаронцы крэпасці амаль адразу ж былі падзелены на невялікія групы. Іх узначалілі камандзіры, палітработнікі, а часам і радавыя байцы. Нямецкае камандаванне меркавала заняць крэпасць у першы ж дзень да 12 гадзін. Але планам акупантаў не суджана было ажыццявіцца. Як сведчыць камандзір нямецкай 45-й пяхотнай дывізіі генерал Шліпер, «там, дзе рускія былі адкінуты або выкураны, праз кароткі прамежак часу з падвалаў, вадасцёкавых труб і іншых укрыццяў з'яўляліся новыя сілы, якія стралялі настолькі выдатна, што нашыя страты значна павялічваліся». Фашысты беспаспяхова заклікалі праз радыёўстаноўкі здавацца ў палон. Ні з чым вярталіся парламенцёры.

Абаронцы крэпасці змагаліся адчайна, часам ім нават удавалася адкінуць праціўніка назад. Але з-за недахопу боепрыпасаў, вялікіх людскіх страт утрымаць перавагу не ўдавалася. Большую частку Цярэспальскага ўмацавання вызвалілі воіны транспартнай роты 17-га пагранічнага атрада на чале са старшым лейтэнантам Чорным. Поруч з імі змагаліся навучэнцы курсаў шафёраў Беларускай прыгранічнай акругі, байцы сапёрнага ўзвода, слухачы кавалерыйскіх курсаў і курсаў кавалёў, збораў фізкультурнікаў, работнікі ветэрынарнага лазарэта.

На Валынскім умацаванні размяшчаліся шпіталі, медыка-санітарны батальён. Гэтую частку Брэсцкай крэпасці баранілі ўрачы і медсёстры. Захапіўшы 23 чэрвеня хворых, дзяцей, медперсанал, гітлераўцы выкарыстоўвалі іх як жывы шчыт, калі ішлі ў атаку на Холмскія вароты. «Страляце, не шкадуйце нас!» — крычалі палонныя.

Апошнія дні абароны авеяны легендамі. Менавіта тады на сценах з'явіліся вядомыя ўсяму свету словы: «Паміраю, але не здаюся. Бывай, Радзіма». Руіны працягвалі «страляць» і пасля таго, як баі ў крэпасці скончыліся. Нават праціўнік вымушаны быў адзначыць стойкасць і мужнасць савецкіх салдат. У ліпені камандзір 45-й нямецкай пяхотнай дывізіі генерал Шліпер паведамляў у адным з данясенняў: «Рускія ў Брэст-Літоўску змагаліся з выключнай упартасцю і настойлівасцю. Яны паказалі выдатную падрыхтоўку пяхоты і даказалі адметную волю да супраціўлення».

## УНІЯ, ЯКАЯ НЕ З'ЯДНАЛА

Брэсцкая крэпасць мелася стаць адным з дзевяці звёнаў абарончага ланцуга на захадзе Расійскай імперыі. Маштабная будоўля па сутнасці знішчыла старажытнае Берасце. Цэнтральнае ўмацаванне, вядомае як Цытадэль, размясцілася там, дзе быў гандлёва-рамесніцкі цэнтр горада. Валынскае (або Паўднёвае) умацаванне ўзводзілі на месцы Брэсцкага замка (на той час яго ўжо паспелі разабраць). Паўночнае — пацясніла Кобрынскае прадмесце, дзе жылі гараджане. На тэрыторыі будоўлі было шмат цэркваў, манастыроў і касцёлаў, якія выкарыстоўваліся для патрэб гарнізона, разбураліся. Калегіум езуітаў, пабудаваны на Цэнтральным востраве ў 18 стагоддзі, стаў канцылярыяй каменданта, Базыльянскі манастырператварыўся ў афіцэрскі сход. А ў манастыры бернардынцаў месціўся спачатку кадэцкі корпус, а пасля — вайсковы шпіталь.

Геаграфічна Брэст апынуўся на перакрыжаванні шляхоў з Усходу і Захаду. Гэта

спрыяла хуткаму эканамічнаму развіццю горада і рэгіёна. Горад набываў вялікае геапалітычнае значэнне. 15 жніўня 1390 года (першым у Беларусі) Брэст атрымаў Магдэбурскае права. Тут незадоўга да славутай Грунвальдскай бітвы адбылася гістарычная нарада паміж Вітаўтам і Ягайлам, на якой яны вырашылі супольна выступіць супраць рыцараў Тэўтонскга ордэна. У XVI стагоддзі ў Еўропе набірае сілу рэфармацыйны рух, які хутка распаўсюджваецца сярод мясцовых феадалаў. Берасцейскі стараста Мікалай Радзівіл Чорны выдае першую на Беларусі кальвінісцкую Біблію, вядомую як Берасцейская або Радзівілаўская. Гэта было адно з найлепшых выданняў у ВКЛ і Каралеўстве Польскім.

Такім чынам, геаграфічнае, палітычнае, культурнае становішча спрыялі таму, каб менавіта тут, у Берасці, адбылося падпісанне ўніі паміж каталіцкай і праваслаўнай цэрквамі Рэчы Паспалітай. Падзея значная ў кантэксце не толькі беларускай, але і еўрапейскай гісторыі. У кастрычніку 1596 года на царкоўным саборы ў Свята-Мікалаеўскай царкве адбылося падпісанне Берасцейскай уніі. Якую ролю яна адыграла ў развіцці і захаванні беларускай мовы і культуры? Спрэчкі вакол гэтага пытання вядуцца дагэтуль. Лічыцца, што ва ўмовах паланізацыі, якая распачалася на літоўска-беларускіх землях пасля ўтварэння Рэчы Паспалітай, менавіта ўніяцкая царква стала, бадай што, галоўнай захавальніцай беларускай мовы. У той час як вышэйшыя колы грамадства аддавалі перавагу польскай мове, а праваслаўнае духавенства ў процівагу спрабавала ўкараняць царкоўнаславянскую, большасць уніяцкіх святароў яе не ведалі і богаслужэнні праводзілі па-беларуску.

Фармальна ўнія была скіравана на тое, каб падтрымліваць баланс верацярпімасці ў грамадстве. Аднак пасля яе прыняцця супярэчнасці паміж рознымі канфесіямі толькі абвастрыліся. Усё гэта прывяло да дэстабілізацыі ўнутранай сітуацыі ў краіне, чым не маглі не скарыстацца дзяржавы-суседкі Рэчы Паспалітай. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе адбываўся паступовы заняпад уніяцкай царквы. Сваё існаванне яна скончыла ў 1839 годзе, калі на саборы ўніяцкіх біскупаў быў падпісаны акт аб далучэнні ўніятаў да праваслаўя.

## КАРОЛЬ З ВЁСКІ ВОЎЧЫН

Апошні кароль Польшчы і вялікі князь літоўскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі быў каталіком і... заўзятым вальтэр'янцам. Адзін з улюбёных заняткаў караля — доўгія вечаровыя гутаркі з прыхільнікамі Вальтэра, калі ён не шкадаваў кпінаў на адрас святароў. Аднак вельмі часта пасля такіх гутарак яго бачылі перад распяццем або іконай Божай Маці. Не прапускаў ніводнай святочнай і нядзельнай абедні. І гэта толькі адна рыса супярэчлівага характару Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Пры ім у Рэчы Паспалітай адбываліся значныя рэформы ў заканадаўчай сістэме, арміі, дзе ўводзіліся новыя віды ўзбраенняў, а кавалерыя замянялася пяхотай. Панятоўскі спрабаваў адмяніць права «liberum veto», паводле якога любы шляхціц мог паралізаваць работу Сейма, выказаўшы пратэст супраць таго ці іншага рашэння.

Разам з тым, і ў дзяржаўнай палітыцы караля праяўлялася непаслядоўнасць яго характару. «Першы яго погляд на справу звычайна быў знаходлівым і правільным, але ўсё наступнае было нікуды не вартым», — адзначае аўтар зборніка «Нарысы і расказы са старажытнага побыту Польшчы». У дзяржаве на той час панаваў разлад, узнікла рэальная пагроза інтэрвенцыі з боку суседніх краін. «Толькі гаспадар, цвёрды характарам, які б нагадваў сабой цень Баторыяў і Сабескіх, мог адвесці небяспеку ад Рэчы Паспалітай», — шапталіся прыдворныя. Але выбраны кароль быў іншым: свецкія размовы вабілі яго куды больш за вайсковыя справы. Ліставанне з паненкамі адбірала больш часу, чым дзяржаўная палітыка. Больш за тое, калі вызвалялася тая ці іншая пасада, то, разглядаючы кандыдатуры, Панятоўскі часцей прыслухоўваўся да меркаванняў прыгожай паловы двара, чым да грамадскай думкі. Дамы ведалі ягоную слабасць і напоўніцу ёй карысталіся.

Сентыментальны Панятоўскі не мог заставацца абыякавым да чужога няшчасця, але сам часам быў грозным ўладаром, ад жорсткасці якога іншым разам цярпелі нават невінаватыя. У той час як відавочных сваіх ворагаў кароль мог асыпаць бясконцымі міласцямі.

Нельга не адзначыць, што пры Панятоўскім добра развіваліся мастацтвы і навука. Аматар вытанчанай, разумнай гаворкі, ён акружыў сябе адукаванымі людзьмі. Вядомы гісторык Нарушэвіч стаў нязменным спадарожнікам караля ў вандроўках па краіне. Аднак добрых асабістых якасцей, якімі валодаў Панятоўскі-чалавек, было недастаткова для Панятоўскага-караля.

Памёр апошні гаспадар Рэчы Паспалітай у Санкт-Пецярбургу. Па іроніі лёсу фактычна на руках у... расійскага імператара Паўла. Прыкладна за месяц да гэтага яны сустрэліся — былы кароль і імператар. Размова была доўгай, пасля яе прыкметна павесялелы Панятоўскі абнадзеіў прыдворных: «Нарэшце лёс стаміўся нас пераследваць — хутка мы пабачым Варшаву!»

Аднак надзеям караля не суджана было спраўдзіцца. 12 лютага 1798 года апоўдні ён паскардзіўся на галаўны боль. Нягледзячы на намаганні доктара, стан пацыента хутка пагаршаўся. Імператар Павел паспяшаўся да яго, але Панятоўскі быў ужо ў непрытомнасці. Павел не адыходзіў ад хворага ні на хвіліну. Кароль памёр у той самы дзень каля 10 гадзін вечара. Ягоныя дзённікі, як пішуць некаторыя даследчыкі, перайшлі да імператара.

Павел сам усклаў на галаву памерлага караля карону. А ў дзень пахавання ехаў за труной да самага касцёла.

## ПАЭТ, РАМАНТЫК І ПАЛІТЫК

Адам Міцкевіч нарадзіўся на хутары Завоссе на Наваградчыне. Сям'я Міцкевічаў паходзіла з паланізаваных беларусаў. Сам сябе паэт называў ліцвінам, хаця вершы пісаў па-польску. У 1815 годзе паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Віленскага універсітэта. Але хутка зразумеў, што дакладныя навукі не яго прызванне, і праз год пераве́ўся на гісторыка-філалагічны факультэт. Тут неўзабаве ўтварылася тайнае студэнцкае таварыства філаматаў (сяброў навукі). Адным з кіраўнікоў гэтай суполкі стаў Адам Міцкевіч.

Першыя творы яго пісаліся пад уплывам філамацкіх ідэй. Вершы, паэма «Мешка, князь Навагрудскі», апавяданне «Жывіла», дзе малады паэт стварае вобраз рамантыка-барацьбіта за шчасце і волю свайго народа. Зразумела, прафесура такія творы палічыла крамольнымі, таму пасля заканчэння ўніверсітэта Міцкевічу прапанавалі сціплую пасаду настаўніка ў Ковенскай павятовай школе. Але і там ён знаходзіць прымяненне ўласным здольнасцям. З цягам часу таварыства філаматаў ператвараецца ў таварыства філарэтаў (сяброў дабрачыннасці). У гэты час паэт піша бунтарную «Оду да маладосці», з якой пазней будуць ісці ў бой паўстанцы 1830—1831 гг. Адначасова з вершамі-маніфестамі Міцкевіч стварае рамантычныя балады, натхнёныя сустрэчай з Марыляй Верашчакай. Гісторыя іх кахання вядомая не толькі аматарам паэзіі Міцкевіча. Марыля выйшла замуж за свайго нарачонага — графа Ваўжыца Путкамера. Боль ад страты каханай быў такі моцны, што Міцкевіч нават збіраўся выклікаць Путкамера на дуэль. Душэўная бура шукала выйсця — і знайшла яго ў паэме «Дзяды». У творы ёсць вялікая драматычная сцэна, калі ў хаце ксяндза з'яўляецца пустэльнік Густаў, звар'яцелы ад нешчаслівага кахання. Сябры адразу пазналі ў Густаве самога Адама Міцкевіча, які сапраўды быў блізкі да вар'яцтва. У дадатак да ўсіх няшчасцяў памерла маці паэта, якую ён вельмі любіў.

Дзейнасць па арганізацыі патрыятычнага руху моладзі не магла сысці паэту з рук. У кастрычніку 1823 года Міцкевіча арыштавалі і выслалі ў цэнтральныя раёны Расіі. Праз год Міцкевіч прыехаў у Пецярбург, дзе ў чаканні прысуду блізка сышоўся з дзекабрыстамі.

Справа з прызначэннем месца высылкі зацягвалася, і Міцкевіч спачатку выехаў у Крым, дзе стварыў славутыя «Крымскія санеты». Потым праз галоўнага рэдактара газеты «Маскоўскі тэлеграф» паэт пазнаёміўся з маскоўскім літаратурным асярод-

дзем, зблізіўся з Баратынскім, Жукоўскім, Вяземскім, Пушкіным, які ў гэты час працаваў над паэмай «Барыс Гадуноў» і вельмі цікавіўся парадамі Міцкевіча.

Расійскіх літаратараў уражвала адукаванасць і грунтоўная начытанасць паэта. Па ўспамінах Ксенафонта Палявога, Міцкевіч, здавалася, ведаў паэтаў і пісьменнікаў з усіх літаратур. Пра каго б ні заходзіла гаворка, ён мог працытаваць вершы і цэлыя старонкі. Гамераўскую «Іліяду» ведаў на грэчаскай мове. Калі хто-небудзь пачынаў чытаць той ці іншы радок, Міцкевіч падхопліваў наступны. Такое ўражанне, што ўся «Іліяда» змяшчалася ў яго галаве.

У 1829 годзе Адам Міцкевіч эміграваў. Пабываў у многіх еўрапейскіх краінах. Потым стала пасяліўся ў Парыжы. Чытаў у Калеж дэ Франс курс лекцый па славянскіх літаратурах, у якіх не забываў расказваць і пра культуру роднага краю, пра мову беларускага народа, называў яе «сама багатай і сама чыстай». На жаль, вершаў Міцкевіча на беларускай мове не захавалася. Яны нідзе не друкаваліся, а рукапісы да нашых дзён, па ўсім відаць, не дайшлі. Літаратурную мову Міцкевіча, густа перасыпаную беларусізмамі, варшаўскія крытыкі пагардліва называлі «смаргоншчынай». Асабліва злосныя нападкі пачаліся пасля публікацыі паэмы «Гражына» і першых частак «Дзядоў». А вось на радзіме ў паэта з'явілася шмат прыхільнікаў.

Позняя творчасць Адама Міцкевіча звязана з напісаннем «Гісторыі Польшчы», драм «Барскія канфедэраты» і «Якуб Ясінскі». Ён вельмі сумаваў па радзіме, куды не мог вярнуцца. Адчуваў, што страчвае паэтычнае натхненне, таму накіроўваў творчую энергію ў грамадска-палітычнае рэчышча. Калі рэвалюцыйная хваля ахапіла Францыю і Італію, прыклаў шмат намаганняў, каб стварыць Польскі легіён, які далучыўся да арміі Гарыбальдзі, каб змагацца з агульным прыгнятальнікам — Аўстрыйскай імперыяй. У 1854 годзе пачалася руска-турэцкая вайна, і польскія эмігранты вырашылі стварыць у Турцыі ваеннае фарміраванне, каб змагацца з Расійскай імперыяй.

На дапамогу польскім патрыётам у Стамбул накіраваўся і Міцкевіч. Але ён, у сваю чаргу, прапаноўваў, каб Польскі легіён дзейнічаў самастойна, а не пад уладай іншаземцаў. У самы разгар справы паэт нечакана памёр. Па адной версіі — ад халеры. Па другой — неафіцыйнай — Міцкевіча атруцілі...

* * *

На Брэстчыне беражліва ставяцца да сваёй гістарычнай спадчыны. Абноўлены і падтрымліваецца ў належным стане мемарыяльны комплекс «Брэсцкая крэпасць». Адбылася рэстаўрацыя сядзібы Адама Міцкевіча ў Баранавіцкім раёне і Тадэвуша Касцюшкі ў Івацэвіцкім. Многае робіцца для таго, каб імёны Рамуальда Траўгута, Напалеона Орды, Льва Сапегі і іншых выбітных ураджэнцаў Брэсцкай вобласці сталі яшчэ больш вядомымі і ў Беларусі, і за яе межамі.

Спіс гістарычных, культурных, архітэктурных помнікаў Брэстчыны складаецца з больш як дзвюх тысяч аб'ектаў. Гэта горад Пінск, які называюць перлінай беларускага Палесся, вёскі Моталь і Бездзеж, дзе дагэтуль захаваліся традыцыйныя рамёствы. У вобласці — шмат касцёлаў і цэркваў. Пабудаваныя ў розныя часы і ў розных стылях, яны дазваляюць вывучаць азбуку архітэктуры.

Сярод помнікаў прыроды, на якія таксама багатая брэсцкая зямля, — 22 паркі. Самы знакаміты — Белавежская пушча, унесеная ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

А найлепей, канечне, завітаць на Брэстчыну і пабачыць усё на ўласныя вочы!



Іван ЖДАНОВІЧ

# ХАДЖЭННЕ Ў ТРЫДЗЯСЯТАЕ ЦАРСТВА

## ПЕШШУ ПРАЗ БЕЛАВЕЖСКУЮ ПУШЧУ

***Спытай каго пра знакамітыя мясціны Брэстчыны — пэўна, у першую чаргу назавуць Брэсцкую крэпасць ды Белавежскую пушчу. Так сталася, што аўтобусныя экскурсіі па іх ладзяцца звычайна ў адным туры, з боку Брэста пушчу і паказваюць гасцям: там створана адпаведная інфраструктура. Таму многім падаецца, што пушча — на Брэстчыне. Хоць, вядома ж, тэрыторыя запаведных лясных масіваў сягае і на цяпер польскую Беласточчыну, і на Гродзеншчыну.***

***Менавіта ад Свіслачы, райцэнтра Гродзеншчыны, і яўна пушчанскай вёскі Дабраволя памкнуліся мы прайсці праз усю пушчу ў маі 1996 года, падчас пешага падарожжа ўздоўж дзяржаўнай мяжы Беларусі. Пачалося наша 120-дзённае «Хаджэнне ў трыдзясятае царства» 15 красавіка з Друі і там жа 13 жніўня завяршылася. Усяго за чатыры месяцы хады — мы ні разу нідзе не пад'ехалі! — спідометр на паходнай велакалясцы, на якой везлі падарожны скарб, накруціў 2810 кіламетраў. Ці многа гэта? Мяркуйце самі: для параўнання, ад Мінска да Парыжа — усяго каля 1830 кіламетраў...***

Ды пакінем развагі. Наблізімся да пушчы, пагартаўшы старонкі пульхных падарожных дзённікаў з багатага на сустрэчы, думкі, перажыванні і вершы «Хаджэння ў трыдзясятае царства». Між іншым, у тым царстве, як нам падаецца, паняцця часу не існуе. А таму лёгка ўявіць, што дзея адбываецца зусім не 15 гадоў таму, а «цяпер і зараз» (такімі двума знакавымі словамі і вызначыў, што такое шчасце, адзін з нашых брэсцкіх суразмоўцаў)...

## «КІТАЙСКІ» СЛЕД У ДАБРАВОЛІ

Набліжаючыся да пушчы, заўважылі, як усё бліжэй падступаюць да дарогі лясы, пералескі. Яна ж не паўстала сцяной перад намі адразу, а быццам давала магчымасць патроху звыкнуцца з яе сілай, уладай. 14 мая мы зайшлі ў прыпушчанскі гарадок Свіслач, папоўнілі на мясцовым рынку харчовыя запасы, прыкупілі з дзясятак спіц у велакаляску: невядома ж, што будзе з ёй на карчах лясных дарог. Дырэктар Свіслацкага раённага гісторыка-краязнаўчага музея Мікалай Пакутнік расказаў пра багатую гісторыю горада. Паселішча, дарэчы, згадваецца ў Іпацьеўскім летапісе яшчэ ў 1256 годзе. Сярод іншага, Мікалай Уладзіміравіч заўважыў, што і назвы некаторых мясцовых вёсак, накшталт Ціхаволя, Дабраволя ці Свабодная, сведчаць: там спрадвеку жылі вольныя, непрыгонныя людзі, якія займаліся пераважналяснымі промысламі. Была ў нас невялікая сустрэча і з вучнямі, настаўнікамі Свіслацкай васьмігадовай школы-інтэрната. Яны добра разумелі, як цікава, але часам і цяжкавата падарожнічаць пешшу, бо настаўнік Юрый Уладзіміравіч Галубовіч арганізаваў у інтэрнаце тургурток. Дзеці цікавіліся, як мы арганізуем побыт у вандроўцы, што бачылі па дарозе, здзіўляліся, што ідзём ужо амаль месяц. Не змаглі адмовіцца мы ад смачнай кашы, якой нас частавалі гасцінныя гаспадары, ведаючы з уласнага вопыту: падмацунак у вандроўцы лішнім не бывае.

Пайшлі далей, насустрач пушчы. Расчышчаючы паходнай лапаткай дзёран пад вогнішча на ўзлеску, — пад вечар мы зазвычай рабілі невялічкі прывал з гарбаткай — я заўважыў, які там тоўсты мох пад нагамі (каляску аж не павалачы!) і магутны пласт ляснога чарназёму. Шмат чарнічніку, хоць лес і невялікі: пэўна, то ўжо лапік самой пушчы. Цямнела, калі, распытаўшы дарогу, знайшлі дырэктарку сярэдняй школы вёскі Дабраволя, Зінаіду Іосіфаўну Смалей.

Растлумачылі, хто такія, паказалі нават артыкул пра наша Хаджэнне на першай старонцы «Настаўніцкай газеты» — ведалі, што давядзецца часам начаваць у школах, таму і папрасілі калег «аказаць інфармацыйную падтрымку». Нас правялі ў школу, дазволілі заначаваць у спартзале. Але спакойна адпачыць не ўдалося...

У дзённіку пазнакі таго вечара сціплыя, стома давала пра сябе знаць. Спачатку запісана, што за дзень прайшлі 33 кіламетры — немалая, дарэчы, адлегласць: звычайна па 20-25 выходзіла. А далей ідуць пункцірныя пазнакі Валінай рукой: «12-я пагранзастава Гродзенскага пагранатрада... Кітайцы... Горбач Яўген Іванавіч — народны дружыннік...» І яшчэ: «Федарук Дзмітрый Георгіевіч — старшы лейтэнант. Кацяк Віталь Віктаравіч — прапаршчык, мясцовыя жыхары». Вы зразумелі, пра што гаворка? Мы ж — у пагранзоне, а там усе навідавоку і прышлых адразу відаць. Нас, аказваецца, прынялі за... кітайцаў, якія збіраюцца ў пушчы ноччу перайсці мяжу! А чаму гэта раптам мы — і кітайцы? Бо, напорыста тлумачыў той самы пільны народны дружыннік, вы ж у вёску ўвайшлі ў вялікіх капелюшах. Мы гаварылі з ім і пагранічнікамі па-беларуску, ды дзядзьку, відаць, здавалася, што кітайцам, якія жадаюць прарвацца на Захад, вывучыць мову — не праблема. Тады паказалі недаверліваму, што брылі — беларускі эксклюзіў, яны з жытняй саломы, а не з рысавай, і куплены, дадалі, на Браслаўшчыне, у народных майстроў.

«Пры ўваходзе ў вёску Дабраволя стаяў слуп з буслянкаю наверсе, а ў ёй — 102-я бусліха». Гэта запіс Валі ў дзённіку ўжо раніцай, яна ад пачатку Хаджэння лічыла ўбачаных буслоў. І толькі недзе пасля чацвёртай сотні пакінула тую справу. Бо на Палессі яны лятаі дзясяткамі...

## СУСТРЭЧЫ НА ПУШЧАНСКАЙ МЯЖЫ

І вось мы ўжо ў «прадмесці» Белавежскай пушчы. Пры дарозе злева — прыгожы разны дамок-церам, гэта Броўскае лясніцтва. «А далей, як пойдзеце праз пушчу, у вас будзе Хвойніцкае лясніцтва», — ахвотна падказвае пажарны вартаўнік Мікіта Мышкавец, даведаўшыся пра нашы планы. Сам ён ужо 34 гады ў пушчы: пасля заканчэння Бранскага



*Іван і Валянціна — шчаслівыя вандроўнікі.*

тэхналагічнага інстытута доўгі час працаваў памочнікам ляснічага, а на пенсіі выбраў працу лягчэйшую. Без лесу, казаў, жыць не магу, таму і адкладваецца ўсё іх пераезд з жонкай у Жабінку, на яе радзіму. «А зубры ці які іншы звер можа ў пушчы на чалавека напасці?» — распытваем асцярожна. Ды не, супакойвае пушчанец, любы звер чалавека баіцца. Зубры звычайна ходзяць статкам, праўда, часам старыя пакідаюць «калектыў», і тады ўжо гэта — зубр-адзінец, яго нораў можа быць непрадказальным. Змеі таксама пры дарозе рэдкасць, хіба што вужы могуць сустрэцца.

А што такое шчасце? Мікіта Паўлавіч, было бачна, нікольки не здзівіўся, пачуўшы наша «традыцыйнае» хаджэнскае пытанне. «Шчасце — у любімай рабоце, у добрым здароўі, — падбірае словы. — У пушчы, як нідзе, добра відаць: усё-усё праходзіць, усё адыходзіць — такі закон жыцця. А значыць, трэба цаніць тое, што сёння маеш. Бо заўтра ўсё будзе інакш. Для мяне шчасце і тое, што з жонкай жывём ужо сорак гадоў у ладзе ды згодзе. Яна мой першы дарадца ва ўсім і першы памочнік...»

«Сонечна, горача. 13:25 — камароў практычна няма. Прыйшлі ў Ціхаволю», — дапамагае ўзнавіць атмасферу таго дня дзённік. Ёсць у ім і згадка пра сядзібу з буслянкай проста на хляве. Нам расказалі, што яе

гаспадары-пенсіянеры памерлі, а новы ўладальнік перакупіў «дом з бусламі». Цікава, ці давялося асобна прыплочваць за жывую экзотыку? Гэта ж, разважалі мы, як кавалак шчасця прыкупіць — павінен быць і асаблівы цэннік у такой «нерухомасці з лятаючай рухомасцю».

Перад пушчай, аднак, камароў ужо большае, і ў нас завязваецца цікавая размова пра камароў-крывасмокаў як... спараджэнне негарманічных думак. Ну кажуць жа, што думка — матэрыяльная сіла, вось і напладзілі людзі нечысці, якой камфортна ў атмасферы душна-сырой ды балоціста-гнілой. Камары актывізуюцца пасля захаду сонца і не любяць свежага ветру, яны — спараджэнне затхласці — гэтаксама, як і дрэнныя, «цёмныя» нашы думкі. І перад дажджом (а тады парыла, наспявала навальніца) ідзе нагняценне цяжкіх энергій, якія потым «змываюць» вада і маланкі. Камарам жа ў той гнятлівай духаце прывольна, як рыбам у вадзе. І далей мы вылучылі смелую гіпотэзу, якую пакуль не ўдалося праверыць: калі чалавеку духоўна ачысціцца, стварыць вакол сябе моцнае энергаполе, то ніводзін камар не зможа прычыніць табе шкоды, папіць тваёй крыві. У тым ліку, і ў духоўным плане. А ў некаторых філосафаў кроў, дарэчы, атаясамліваецца з душою. Яны яшчэ і кажуць: ўсе вампіры не проста кроў смокчуць — яны і душу забіраюць...

Такія вось містычныя думкі спараджае страх быць пакусанымі... Зрэшты, 84-гадовай вяскоўцы Соф'і Максімаўне Раманчук камары не надта назалялі, яна палола свае грады па суседстве з «буслінай сядзібай». І падзялілася цікавымі назіраннямі. Яна ў Ціхаволі з 1957 года, і, бывала, пара буслоў выседжвала — «а сядзяць яны на змену» — ажно пяцёра буслянят і ўсіх гадавала. А то, было адзін год, «вывелі трох ды ўсіх пазабівалі» — можа, разважала жанчына, нездаровыя якія ці самі птушкі былі, ці птушаняты? Шчасцем Соф'я Максімаўна лічыць стан, «як ёсць здароўе і сіла», а для гэтага штодзень уранні чытае малітву «Ойча наш» — яшчэ з таго часу, як яе ў 41-м вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. Мы ж падумалі: Божа, вось бы гэтую вясковую мудрасць ды ў галовы тых «маладых і здаровых», якія часам нэндзяцца ад свайго «нічоганеаробленне» і нават не ведаюць, што іх шчасце можа быць так блізка.

За Ціхаволяй недалёка і кантрольна-прапускны пункт на дарозе ў пушчу. Ад кантралёра КПП Язвінскага лясніцтва Валерыя Сухоцкага, які быў не супраць пагаварыць з журналістамі, мы даведаліся, што спецыялісты мясцовага калгаса «Пагранічнік» спрабуюць прыручыць аленяў. Мы нават бачылі іх у загоне праз падзорную трубу. Цікавая справа! А ў саміх леснікоў часу на гэта не хапае. На іх і без таго, расказваў Валерый Васільевіч, шмат абавязкаў «падвесілі»: нарыхтоўка бярозавага соку, грыбоў, сена для зімовых падкормак дзікіх жывёл, жалудоў і шышак... Наконт палявання ў пушчы патлумачыў, што ёсць гэтак званыя санітарныя і планавыя адстрэлы ў асобных зонах. Прыязджаюць немцы, скажам, якія плацяць за паляванне па 1000 і больш марак. Для іх прэстыжна здабыць пушчанскі трафей, таму замежныя паляўнічыя забіраюць не мяса, а, напрыклад, рогі аленя, іклы дзіка ці шкуру зубра. Мяса ж дзічыны ідзе на перапрацоўку ў каўбасны цэх.

Нас, прызнацца, шакіравалі тады падрабязнасці палявання ў пушчы. Гэта цяпер мы ведаем, што Белавежская пушча велізарная і ёсць у ёй асабліва ахоўныя зоны, а ёсць месцы, дзе вядзецца амаль звычайная лесагаспадарчая дзейнасць. У прыватнасці, нарыхтоўка высакаякаснай драўніны.

А ці магчыма мясцовым людзям у пушчы заблукаць, цікавіліся мы. Вядома ж! Але ж ёсць прасекі пакватральныя, пазнакі на ствалах — можна, калі што, зразумець, дзе ты аказаўся. Ведаюць пушчанцы і дрэвы адметныя, яны — таксама добрыя арыенціры. Скажам, цар-дуб «на сем чалавек у абхват».

Валерый Васільевіч папярэдзіў, што ў дзікоў ужо вывеліся маленькія парсюкі — нам лепш не спрабаваць іх лавіць, калі сустрэнуцца, бо непадалёк звычайна і статак. Казаў, у няволі яны амаль не выжываюць. Могуць у пушчы сустрэцца і алені, ды ўвесну яны спакойныя: самцы «скінулі рогі», гэта ўвосень жывёлы больш агрэсіўныя, равуць, калі ідзе гон.

Было для нас навіною, што на розных участках пушчы ўсталёўваецца розны мікраклімат. Прыкладам, у грабавым лесе і ў летнюю спякоту такая прахалода, быццам працуе вялізны кандыцыянер. Таму ў спёку лепш пабыць там, а калі холадна, то больш утульна ў парослым мохам сасновым бары. Зрэшты, сустракаюцца і такія дзікія зараснікі, праз якія чалавеку не прабрацца. Ды нам баяцца няма чаго — дарога праз пушчу пракладзена добрая, выведзе куды трэба.

Суседства з пушчай, як пераканаліся мы падчас размовы з Валерыем Сухоцкім, вядома ж, накладае адбітак і на лад жыцця мясцовага люду. «Вось мы цяпер начамі на сваіх агародах дзяжурым, ахоўваем іх ад дзікіх набегаў тых, каго вы, журналісты, называеце жыхарамі пушчы, — падзяліўся з намі сваімі надзёнымі клопатамі вартаўнік. — Як ноч не прыйдзеш — дзікі ўсю бульбу перарыюць. Алені, казулі топчуць і ядуць жыта. Так што барацьба ўвесь час ідзе паміж намі і імі».

Вядома ж, бараніць агароды жыхарам даводзіцца не з віламі ды косамі — тут усе мужчыны, патлумачыў Валерый Васільевіч, уваходзяць у таварыства паляўнічых і маюць агнястрэльную зброю. Палююць у сезон па ліцэнзіях — плацяць за права страляць. Бываюць тут і браканьеры, ды і на іх ёсць управа. Мы, на той час вегетарыянцы, пацікавіліся, ці не шкада яму забіваць жывое. А чаго шкадаваць, здзівіўся суразмоўца, прырода на тое і ёсць, каб было чалавеку што ўпаляваць. А як будзеш, казаў, біць і шкадаваць, то жывёліне цяжэй, яна доўга мучыцца. Ды і паляванне — справа тонкая, можна сказаць, асаблівае мастацтва: звер усё чуе і каб яго адолець, трэба мець добры спрыт і розум. «Юшка, шашлык — мы прыроднае ўсё любім, у выхадныя дома звычайна не сядзім, — пацяплеў голас Валерыя. — Любім сабрацца разам, каб было чым душу павесяліць, закусіць, пагаварыць за жыццё. А мне, паверце, ёсць чым падзяліцца...»

І тут адкрылася, што сам Валерый Сухоцкі — былы воін-інтэрнацыяналіст, два з паловай гады ваяваў у Афганістане. Згадаў, як цяжка было, калі везлі труны з месцаў баявых дзеянняў, «а на другі дзень — зноў абстрэл, і зноў труны вязуць...» Яго ж самога, верыць, аберагала іконка, якую дала ў армію маці. Бывала ж, што і паспаць выпадала толькі пару гадзін у суткі. Зрэшты, лічыць ён, «у кожнага ёсць свой лёс, ад яго нікуды не ўцячэш». Згадаў аднаго мясцовага хлопца, які Афган прайшоў, а загінуў ужо дома па неасцярожнасці, калі «палез у трансфарматар».

**ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ПУШЧА!**

Ох, і нагаварыліся ж мы, і намахаліся ад камароў, чакаючы дазволу на ўваход у пушчу! Вартаўнік нас гарбаткай папаіў. Дарэчы, дзівіліся мы, што ён — у светлай тонкай тэнісцы з кароткім рукавом, а з процьмы камароў рэдка які сядае яму на руку, усе да мяне ліпнуць. Можа, рэпелент які ў вас, запыталі. Ды не, адказаў з гумарам, проста камары «дурную кроў п’юць — а ў мяне яе мала засталося». І дадаў, што «пракамараны» чалавек «чыстым» становіцца, не хварэе. Мы з Валянцінай толькі пераглянуліся, бо і самі ж нядаўна разважалі пра таемную сувязь камарыных укусаў з чысцінёй душы і цела.

І вось ёсць дазвол, можна ісці далей! Валерый Сухоцкі адкрывае шлагбаум і жадае шчаслівай дарогі. Высозныя елкі і сосны, а таксама лісцёвыя дрэвы абступаюць нас з усіх бакоў. Хаваецца сонца, на вачах цямнее — можа, і таму, што блізка навальніца. Большае камарыная хмара, што гудзе вакол нас. Я ўзяўся майстраваць марлевую чатырохслойную маску з невялікімі прарэзамі для вачэй, заправіў яе на твар пад капюшон вятроўкі. Пракусваюць! Валя прапанавала «пчалярскі» варыянт «супрацькамарынай абароны»: цяпер з-пад капелюшоў спадаюць марлевыя вэлюмы аж на плечы. Піску многа, ды сцерпім. Чорная хмара круціцца і вакол далоняў рук, асабліва маёй нерухомай левай, якой прытрымліваю дышаль каляскі. Даводзіцца з кастровага рыштунку дастаць рукавіцы-спяцоўкі. Цікава, за каго палічылі б нас, вось такіх, сустрэчныя? Мы, дарэчы, рухаемся ўжо па тэрыторыі, якую ахоўвае 1-я Брэсцкая пагранзастава. Але ў пушчы любыя межы — рэч даволі ўмоўная: усюды цёмны лес.

Што ж, даводзіцца прызнаць — малавата рамантыкі ў хадзе па вузкім паўцёмным каньёне, метраў чатыры-шэсць у шырыню, без аніякага «святла ў канцы тунелю». Такой суровай пушчу мы раней не бачылі. Ды і тысячы экскурсантаў, што наведваюць яе з брэсцкага, «цывілізаванага» боку, пэўна, таксама. Мы ж ідзём па ёй, так бы мовіць, з чорнага ходу. На адным з невялічкіх прыпынкаў — так і хочацца адразу зашыцца пад цэлафан! — я пішу ў дзённік, што «чорныя буслы ці то жураўлі ўверсе праляцелі», заўважаю на ўзбочыне нейкіх чорных слімакоў. Далей бачым, як сухі асфальт становіцца мокрым: тут ужо прайшоў дождж, а на нас толькі трохі пакрапаў. На пераходзе пад шатамі вялізных вязаў адчулі, як зменшылася камарыная хмара: чысты лес. Вось пры дарозе лісты з асіны нападалі, на іх сабраліся празрыстыя кроплі вады — быццам пярліны ў цёмным царстве...

Але тое дэталі. Прайшоўшы ўжо гадзіны чатыры па глухой і беспрасветнай пушчы, хочацца адчуць і выявіць словамі, што ж гэта за стыхія, і ў дзённік запісваю: «Пушча — першахаос у свеце жывой прыроды. Нераздзельнасць пародаў дрэў, траў, жывёл і г. д. Агромністы масіў дзікага лесу».

Цікава было агледзець і «месца бою» дзвюх стыхій: неба і пушчы. Мы спецыяльна прыпыніліся ля разбітай стралой Перуна, велізарнай, у паўтара абхваты елкі — «метраў за пяцьдзясят ад шыльды “Хвойніцкае лясніцтва” пры дарозе». Запісваю дэталі: «Палова ствала разбіта ў шчапу. Драўніна садрана зверху ўніз, быццам вялізным рубанкам. Адзін з кавалкаў — частка ствала, таўшчынёй у добры будаўнічы брус — адкінуты ў кустоўе метраў за 10. Малыя елачкі побач зламаныя, як запалкі. Валокны драўніны разарваныя, на белых ашмоццях сачыцца смала». Дарэчы, з тае елкі я ўзяў крыху брускоў — як сувеніры. З аднаго пазней змайстраваў зручную драўляную лапатачку, і ёй, празванай «перуноўкай», мы пазней на Палессі з поспехам лупілі яшчэ адну нечысць: вялізных аваднёў. Неяк падлічыў — больш за паўсотні на адным прывале ўлажыў! У пушчы, дарэчы, тая напасць яшчэ нас не напаткала.

### КАЗКІ ПУШЧАНСКАЙ НОЧЫ

Апускалася на нас ноч. І неадольна падступала стома. А начаваць дзе? Мы вельмі ўзрадаваліся, калі пасвятлела: лес расступіўся, наперадзе паказаліся загоны, старая хата. «Тут у нас падсобная гаспадарка Нікар, а раней вёска была, людзі жылі», — распавялі даглядчыкі коней Аляксандр Разанка і Уладзімір Тарасевіч, да якіх мы зайшлі ў бытоўку. А загон, патлумачылі, гектараў пад 20, у ім пасецца сотня коней — «усялякіх, якіх паставілі, тых і даглядаем». Казалі, ёсць там і чыстакроўныя жывёлы: называлі Руслана латвійскай пароды, рысака Орліка, падобную да тарпана Тарпанку... Куды коням дарога далей, даглядчыкі не ведалі. Цікавы астравок пасярод пушчы: ад былой вёскі яшчэ засталіся кусты бэзу, старыя яблыні. А справа ад дарогі, ля хаты, бачылі зменшчыкі і зубрыны статак. Нашы субяседнікі заўважылі: грошы, вядома ж, патрэбны чалавеку, каб адчуваць сябе шчаслівым, а яшчэ — «каб цябе разумелі». Адзін дадаў: «Шчасце магчымае толькі ў шчырасці, а чалавек “з двайным дном” яго ніколі не адчуе».

А як мы пачуваліся пасля доўгага пераходу? У дзённіку на другі дзень ёсць характэрны запіс: «Я Валю назваў, прадстаўляючы яе конюхам: “Гэта Іван, — а на сябе паказаў: — а гэта — Валя...” Напэўна, быў вельмі стомлены». Той выпадак, што рассмяшыў не менш стомленую Валю аж да ікоты са слязьмі, мы згадваем часам і цяпер. А мая спадарожніца назаўтра запісала вось такія цікавыя думкі: «Блытанне з імёнамі, відаць, не толькі стома, а сведчанне энергетычнага нашага з Іванам падабенства, перацякання энергій. Гарманічнага, але неўсвядомленага намі ўзаемаабмену». Можа, так яно і ёсць: прайшоўшы Хаджэнне па-сяброўску, мы вярнуліся ў свае сем’і. А далей... усё ж сталі адным цэлым, пайшлі па жыцці разам, зарэгістраваўшы афіцыйны шлюб...

Яшчэ дэталі з дзённіка, цікавыя, пэўна, для тых, хто адважыцца рушыць пешшу праз пушчу ўслед за намі: «Дарога — тонкаю нітачкай, у асноўным роўная, без крутых пад’ёмаў і спускаў, шырынёй 4—5 метраў, пасля Нікара асфальт. Практычна бязлюдная: за паўдня нам сустрэўся адзін дзядзька на ровары ды праехала прыцемкамі машына з прычэпам у бок Нікара».

Сустракаліся ў пушчы і месцы для адпачынку. Адну прыгожую двух’ярусную хатку пры Нікары мы нават замалявалі. Наша ж уяўленне ахвотна гуляла ў... казку, вышуквала сімвалы і прыкметы чароўнасці. Нам здавалася, што мы ўрэшце ў чаканым Трыдзясятым царстве. Бо пабачылі хатку на курынай лапцы, дакладней — на вялізным карчы. Там востра пахла драўнінай, а сталом служыў верх карча, абабіты дошкамі. Пэўна ж, недзе непадалёк ад жытла Бабы-Ягі блукаў і Змей Гарыныч: то ж на яго паляваў Пярун ды патрапіў стралой у высокую елку. Ну і коні з конюхамі — штрых казачны: прыкладам, сюжэт беларускай народнай казкі «Тром-сын Безыменны» амаль увесь на верных конях і трымаецца.

Цікавая рэч: звычайна ў казках коні — гэта сімвал фізічнай сілы чалавека, а таксама Першасілы. І вось менавіта пасля сустрэчы з конюхамі ў Нікары да Валі, зусім здарожанай, зноў вярнуліся сілы. Гэта быў сапраўдны цуд таго дня! У дзённіку яе словы: «Я ішла, як у дзяцінстве, — лёгкасць, пругкасць была ў целе, і здавалася, вось-вось узля-

чу». Хочаце верце, хочаце не, але ўяўленне — вялікая сіла. Цікава, што тады падумалі конюхі, калі ўбачылі, як барадаты мужчына называе сябе жаночым імем.

У конюхаў, аднак, заначаваць нам не ўдалося, яны параілі ісці да лясніцтва. Лёгка сказаць: «тут недалёка», а кіламетры, мусіць, са тры яшчэ адолець давялося. А ўсяго, як высветлілася раніцай, прайшлі за дзень 29 з паловай. Разгледзець нешта ў цемры, што хутка згусцілася, не ўдавалася, і мы радаваліся хіба што роўнаму асфальту пад нагамі. А так — усё як у дзіцячай страшылцы: па цёмным-цёмным лесе ідзе цёмная-цёмная дарога, на ёй — два цёмныя-цёмныя падарожнікі...

## НАЧЛЕГ... У КАБІНЕЦЕ ЛЯСНІЧАГА

І вось наперадзе святло ў вокнах. Яшчэ адна выспа цывілізацыі ў пушчанскім моры. Ідзём у дом ляснічага, просім яго даць прытулак на ноч. Урэшце ён, Аляксандр Літвіновіч, і дазволіў размясціцца на начлег... у сваім службовым кабінеце. Папярэдне, праўда, хоць вочы ў нас і закрываліся ад стомы, Аляксандр Васільевіч даў грунтоўнае інтэрв'ю мне і Валянціне пра тамтэйшае жыццё-быццё.

Гаварыў ён пра сваю работу, ахову лесу ад розных напасцяў: пажараў, браканьераў, барацьбу з жукамі-караедамі, якія тым часам перамагалі векавыя ельнікі, а ўправы на іх не было. Зрэшты, моцнае і жывое ніколі проста так, без бою не здаецца, і жукі раскашуюць менавіта там, дзе дрэвы ўжо аслабленыя. Гэтак жа, як на чалавека з аслабленым імунітэтам наступаюць хваробы. Па спакойнай, удумлівай манеры весці размову бачна было, што сам Аляксандр Літвіновіч — чалавек глыбокі і нават крыху рамантык: з дзяцінства, прызнаўся, любіў прыгодніцкія кніжкі, лёг яму на сэрца і Караткевічаў раман «Каласы пад сярпом тваім». «Шчасце — у кожнага сваё, — разважаў Аляксандр Васільевіч. — Для добрага кіраўніка важны складнік яго, на мой погляд, — бачыць, што тваім падначаленым лепш жывецца. Гэта значыць: ты добра працуеш, ты правільна адладзіў зносіны з людзьмі "зверху" і "знізу", разумна арганізаваў справу». Да месца тут будзе дадаць, што і жонка Аляксандра Васільевіча, бухгалтар па спецыяльнасці, працавала з ім разам. Рыхтуючы нататкі, я пазваніў у пушчу і даведаўся: ужо гадоў пяць узначальвае Хвойніцкае лясніцтва менавіта яна, Валянціна Іванаўна, а муж цяпер па пасадзе — яе памочнік.

Эх, не з «параднага ўваходу» зайшлі мы ў Белавежскую пушчу — таму і дакрануліся, пэўна, да некаторых яе даўніх таямніц. І сёння ведаць, чым жылі яе нетры ў постсавецкі час, думаем, будзе цікава.

Тая ноч надоўга запомнілася. І адзін з самых парадаксальных запісаў у дзённіку з'явіўся на наступны дзень. Бо, пагаварыўшы з ляснічым, нам хапіла сіл толькі размясціцца ў ягоным кабінеце на начлег. Помніцца невялікі ўтульны пакой з камінам у будынку лясніцтва, увесь аздоблены дрэвам. Аднак, рассцілаючы на падлозе турыстскія дыванкі і спальнікі, мы зразумелі: нас тут ужо апярэдзілі іншыя начлежнікі. Камары. Яны таіліся на столі, сценах, пішчалі і гулі... Таму давялося мне нацягваць белы шоўк паходнай палаткі, зробленай з парашута, прама над дываном ля стала. Страшэнна хацелася гарбаткі выпіць ды перакусіць. Вада была з сабой. Паходны кацялок. Электракіпяцільнік. Днём я звярнуў увагу, што на елках адрастаюць новыя галінкі, «светла-зялёныя пальцы», як пісаў Пімен Панчанка. Наламаў іх, ведаючы, што там шмат карысных рэчываў. Вось і спатрэбіліся... Гэта кароткая перадгісторыя запісу. Калі ж ён заносіўся ў дзённік, я ўявіў, як мы расказваем пра падарожжа некаму з сяброў, і напісаў наступнае: «У кабінеце ляснічага начавалі ў палатцы. Некалі прыгадаем: ляжым, бывала, апоўначы ў кабінеце ляснічага на падлозе ля каміна, а ў палатцы — ніводнага камара. І п'ем сабе паціху гарбатку з яловых пальчыкаў». Ну, ці ж магчыма такое? Аказваецца — так, асабліва ў «Хаджэнні ў трыдзясятае царства», калі па дарозе не прамінуць Белавежскую пушчу.

Водар тае гарбаткі... Засмолены на вогнішчах амаль за месяц падарожжа літровы кацялок — з бляшанкі з-пад зялёнага гарошка — нечакана «выдыхнуў» пад кіпяцільнікам свае пахі ў кабінет ляснічага. Гарбата, прыпраўленая елкай, была незвычайнай. І хоць агортвала нас стома, мы былі абароненыя ад свету: пушчай, сценамі кабінета, палаткай... Нават тым падарожна-яловым водарам. Шкада толькі, што паабяцалі ляснічаму да васьмі гадзін, пачатку рабочага дня, згарнуць наш «табар» — інакш, можа, і з гарматы б нас не абудзілі. Зрэшты, да новай пушчанскай раніцы было яшчэ далёка...

ІРЫНА КЛІМКОВІЧ

# ЖОРСТКІ РАМАНС, або «...ЛЮБОЎ НЕ КАРТОШКА, А КРОЎ НЕ ВАДА...»



***Каханне можа мець розныя формы і абрысы, розны характар... Якім толькі мы яго ні ўяўляем, якія толькі эпітэты ні падбіраем для яго азначэння... Узаемнае і непадзеленае, з першага погляду, поўнае жарсці, ненажэрнае, нясцерпнае і ўрэшце — жорсткае, якое часта заканчваецца жахлівымі трагедыямі. Пра такія гісторыі спявалі некалі нашы продкі ў даўніх песнях — гарадскіх рамансах. Былі яны вельмі папулярнымі.***

***Але чаму былі? Алена Кукрэш, прафесійная піяністка, выкладчыца фартэпіяна ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка і аўтар нашумелай у апошнія часы кнігі «Жорсткі раманс», сцвярджае, што вяскоўцы, якія чулі гэтыя песні ад сваіх матуль і бабуль, з задавальненнем і пранікнёнасцю выконваюць іх і сёння, не пакідаючы абыякавым аніводнага слухача.***

*Малюнак, зроблены на гітары, якая знаходзіцца ў прыватнай калекцыі В. Бычкоўскага з в. Бабровічы Івацэвіцкага р-на.*

### УСЁ ПАЧЫНАЛАСЯ З «МАРУСЯ АТРАВІЛАСЬ...»

*«Ўжо вечар вечарае, ўсе з фабрыкі ідуць, //Маруся атравілась, в бальніцу павязуць. // Прывезлі у бальніцу, паклалі на краваць, //Два доктара й сястрыца старалісь жызнь спасаць. //— Спасайце, не спасайце, мне жызнь не дарага, //Любіла я мілова, такога падлеца. //Давалі ёй пілюлі, ана іх не піла, //Давалі ёй мікстуры, ана іх не піла. //Уваходзіт он в часовню і відзіт прэд сабой, //Лежыт его Маруся с распушэнай косой. //— Маруся ты, Маруся, адкрой сваі глаза, //Но еслі не адкроеш, памру з табою я.*»

Вось менавіта з гэтага тэкста, «надрыўна-перажывацельнага», усё і пачалося. Трэба сказаць, Алена Мікалаеўна, як і многія прафесійныя беларускія музыкі, спачатку вельмі скептычна паставілася да такога роду песень, а фалькларысты нашай краіны наогул дагэтуль не даследавалі такі жанр, як «жорсткі раманс», а да нядаўняга часу нават не прызнавалі яго. Не збіралася вывучаць яго і Алена Кукрэш: у аспірантуру яна паступіла зусім на іншую спецыяльнасць — культуралогію, каб займацца музыкай 1920—50-х гадоў XX ст. Але здарылася так, што яе навуковы кіраўнік сышоў з кафедры, за якой была замацавана Алена, і маладой даследчыцы давялося мяняць тэму дысертацыі. Спачатку Алена была ў разгубленасці, не ведала, у які бок кінуцца. На дапамогу прыйшоў сябар і былы калега, кандыдат філалагічных навук **Уладзімір Аляксандравіч Васілевіч**, загадчык кафедры этналогіі і фалькларыстыкі,

дзе яны разам некалі працавалі. Васілевіч і параіў ёй звярнуцца да фальклору. Каб зацікавіць, паказаў ёй тэкст «*Маруся атравілась...»,* сказаў, што падобных песень шмат і што гэта недаследаваны пласт беларускай фальклварыстыкі. Няма ніводнага зборніка песень. Алена жахнулася, яна думала, што з яе здзекуюцца. Але калі паехала ў восеньскую фальклорную экспедыцыю па вёсках са сваімі студэнтамі і пачала мэтанакіравана збіраць песні такога кшталту, пачула, з якой пяшчотай і эмацыянальнасцю іх выконваюць беларускія кабеты, яна зразумела: гэта яе лёс і ад яго нікуды не падзецца.

Прайшло чатыры гады, напоўненыя цікавымі фальклорнымі экспедыцыямі і руплівымі даследаваннямі, назбіралася шмат песенных тэкстаў і нотных запісаў. З гэтага багацця, плюс архіў факультэта народнай культуры БДПУ, і атрымалася кніга «Жорсткі раманс». Кніга, куды ўвайшлі каля 900 тэкстаў, выйшла ў выдавецтве «Кнігазбор» у 2010 годзе на сродкі аўтара. Але гэта не ўсё, сцвярджае А. Кукрэш, дома ў яе захоўваецца 4000 такіх запісаў, а колькі аўдыякасет і дыскаў — не пералічыць! І цяпер, дзякуючы Алене, якая з'яўляецца першым на Беларусі даследчыкам жорсткага раманса, гэтым цікавым і незвычайным жанрам зацікавіліся многія выкладчыкі і студэнты сталічных ВНУ. А Алена з распаведамі пра жорсткі раманс аб'ездзіла іншыя краіны, высветліла, што такая з'ява існуе не толькі ў нас, але і ў Балгарыі, Польшчы, Расіі, Славакіі, Украіне, Чэхіі... Толькі ў нашых суседзяў падобныя песні ніхто дагэтуль не даследаваў. Алена Мікалаеўна падняла тэму, якой зацікавіліся, пачалі вывучаць, і ўжо на леташняй канферэнцыі ў Кіеве з'явіліся першыя даклады пра «раманс на суржыку» — так украінцы называюць свой «жорсткі раманс».

## «...ПАМЕНЯЕМО ЖЫЗНЬ, ДЗЕРАВЕНСКУЮ НА ГАРАЦКУЮ...»

Да нас жорсткі раманс прыйшоў з Расіі, праз прадстаўнікоў розных прафесійных груп, перасяленцаў, салдат. Пасля падаўлення нацыянальна-вызваленчага руху 1863 года царскі ўрад прыняў сур'ёзныя меры па ўмацаванні ўсіх структур улады надзейнымі кадрамі і русіфікацыі «Паўночна-Заходняга краю», як у той час афіцыйна называлі Беларусь. Якраз тады ў грамадстве набіралі сілу новыя капіталістычныя адносіны, пашыралася будаўніцтва фабрык і заводаў. Туды і былі запрошаны спецыялісты з Расіі, якія займалі кіруючыя пасады і лічыліся перадавымі дасведчанымі людзьмі. Апроч іх, сюды прыехала мноства працоўнага люду: іх заваблівалі недарагім жытлом, высокім заробкам. Усе яны былі абсалютна далёкімі ад беларускай культуры, больш за тое, яны прывезлі ў Беларусь сваю культуру, у тым ліку — культуру рускага мяшчанскага раманса. Мяшчане — гэта тыя людзі, якія прыехалі з вёскі на працу ў горад, і чый гадавы заробак складаў да 500 тагачасных рублёў. Мяшчане пачалі ствараць своеасаблівую культуру з элементамі сялянскай і гарадской, якая ўвабрала ў сябе ўсё самае павярхоўнае і лёгкае для ўспрыняцця. Сярод мяшчан былі папулярнымі прыпеўкі і бытавыя рамансы, танцы накшталт кадрылі, лубачны жывапіс і г. д.

У той жа час у Беларусі ў сувязі з палітычнымі пераменамі — адменай прыгоннага права, ростам гарадоў — у людзей з'явілася магчымасць з'ехаць з вёскі. Сельскіх жыхароў горад прываблівае свабодай, няяснымі, але прыцягальнымі перспектывамі, магчымасцю змяніць лад жыцця: «*..Давай, Каця мая, паменяемо жызнь, //Дзеравенскую на гарацкую...».* Да таго ж, зрабілася модным мяняць свае звычкі, манеру апранацца. Лічылася недарэчным спяваць традыцыйныя вясковыя песні, што выглядала б як вяртанне да старога стылю жыцця і думак. Не ўсе новаспечаныя гараджане былі адукаванымі, мала хто з іх мог нават чытаць, затое было жаданне адпавядаць асяроддзю, быць як усе навокал. Так, у жорсткіх рамансах можна знайсці апісанне інтэр'ераў і самых модных гардэробаў таго часу, якія вельмі моцна адрозніваюцца ад традыцыйнага адзення сялян: «*Круглаліцая, губкі банцікам //Прыпудрана была слегка, //Шляпа чорная з кропным банцікам. //Так прылічна адзета была*». Або: «*Цыліндра от сонца сверкает. //Одзевшы свой белы касцюм, //Па летняму саду гуляя, //Я встреціл дзевчонку адну.*» Так, адмовіўшыся ад сваёй народнай традыцыйнай лірыкі, сяляне пачалі актыўна ўбіраць новае, моднае і гарадское, у тым ліку — гарадскі, мяшчанскі або жорсткі раманс.

Але не ўсе жыхары вёсак прыжыліся ў горадзе. Тут іх чакала цяжкая праца з



*Вышыванка, зробленая Надзеяй Мікалаеўнай Горбач, в. Бабровічы, Івацэвіцкі р-н.*

раніцы да ночы, дванаццацігадзінны працоўны дзень. Замест прыгожых вясковых краявідаў і спеваў птушак — задымленыя рабочыя ўскраіны, брудныя цесныя кватэры, з прусакамі і клапамі, бясконцыя хваробы... Жорсткае жыццё выклікала і жорсткія адносіны паміж людзьмі. Як, да прыкладу, у рамансе-калыханцы «*Спі ты, спі, мая ты крошка...*», дзе падманутая хлопцам дзяўчына сама гадуе дзіця: «*...Падрасцёш ты, мая крошка, //Будзе легче нам. //Я ж цебя, мая ты дзетка, //В стацыон атдам. //В стацыоне круг шырокій, //Ты там дажывёш. //Дактарей і санітарав //Зашчішчаць пайдзёш*». Шмат хто не вытрымліваў, вяртаўся назад у вёску і прывозіў з сабой гарадскія песні, якія спявалі зрусіфікаванай мовай — на трасянцы. Тым не менш, тыя песні знаходзілі водгук у сэрцах простых людзей, таму што ў іх апісвалася жыццё цяжкое і трагічнае. А магчыма, людзі («кампенсуючы» адсутнасць тэлевізара) так выказвалі свае пачуцці і самавызначаліся праз перажыванне чужых лёсаў. Як бы там ні было, гарадскі раманс пачаў пранікаць у вёску, сустрэў там сваіх прыхільнікаў, зрабіўся папулярным. Людзі перапісвалі тэксты песень ад рукі, перадавалі ад чалавека да чалавека. У выніку ён дажыў да нашага часу, і сёння яго можна пачуць з вуснаў вясковых бабуль.

## БУКЕТ ЖАХЛІВЫХ ГІСТОРЫЙ

Перадусім, жорсткі раманс — адметна фальклорны жанр, ён абавязкова мае ў аснове аўтарскі тэкст. Гэта рамансы А. С. Пушкіна «*Черная шаль*», М. А. Някрасава «*Огородник*», А. У. Кальцова «*Хуторок*» і г. д. Да прыкладу, раманс «*Сидел рыбак веселый*» быў напісаны М. Ю. Лермантавым яшчэ ў юнацтве (верш «*Тростник*») па матывах народных англійскіх балад, аднак ў XX стагоддзі ён перажыў пік папулярнасці, і пасля шматразовага перапісвання тэксту ніхто з выканаўцаў ужо не ведаў імя аўтара. Не менш хадавым стаў гэты раманс і ў нас. Яго беларускі варыянт «*Была я маладая у мачахі адна...*» распавядае пра тое, як брат-распуснік забівае сваю зводную сястру, бо яна адмаўляе яму ў каханні, і сястра ператвараецца ў трыснёг: «*...Тады жэ он, брадзяга, ударыл в грудзь нажом //І труп зарыў ў магілу на беразе крутом. //А на маёй магіле парос бальшой трасняк, //А ў трасняку таілась ўся маладасць мая...*»

Сярод даследчыкаў жорсткага рамансу існуе меркаванне, што сваім узнікненнем і папулярнасцю ён абавязаны народнай баладзе, пашыранай у фальклоры кожнага народа, у тым ліку і беларускага. Паміж баладай і жорсткім рамансам сапраўдны шмат агульнага. У баладах таксама распавядаецца гісторыя з асабістага або сямейнага жыцця, апісваюцца выключна трагічныя падзеі. Нават сюжэты і назвы твораў падобныя. Баладныя: «*Падманутая дзяўчына*», «*Брат прадае сястру»*, «*Муж прапівае жонку*», «*Мачаха загубіла падчарку*». Ім адпавядаюць назвы жорсткіх рамансаў: «*Сястра атруціла брата*», «*Брат спакусіў сястру*», «*Кара хлопца за забойства*», «*Адмова дзяцей ад бацькоў*»... Але ў баладах няма надрыву і смакавання жорсткасці, адсутнічае экзатызм. Дзеянне там адбываецца ў родным, знаёмым асяродку, ды і напісана балада традыцыйнай фальклорнай моваю.

Жорсткі раманс на Беларусі мае не вельмі шырокую і разнастайную тэматыку: можна

вызначыць трохі больш за дзесяць сюжэтаў. Яны адрозніваюцца адзін ад аднаго ў асноўным прычынай трагедыі. А выбар канцоўкі і зусім невялікі: забойства, самагубства, трагічная смерць героя або гераіні. І такі раманс нездарма завецца жорсткім. Жыццё сапраўды вельмі жорстка абыходзіцца з героямі. Фатальны збег акалічнасцей, фатальныя выпадкі нішчаць крохкі свет мяшчанскага шчасця, дзе асноўная каштоўнасць — каханне. Кветка кахання жыве нядоўга, яна марнее на вачах слухачоў. Жарсці герояў даведзены да мяжы, да надрыву, калі няма іншага выйсця, апроч смерці. Тут усё назаўсёды, раманс увогуле імкнецца спыніць імгненне і працягнуць яго навечна. Ніякіх кампрамісаў, ніякіх паўтонаў. Калі фарбы — то яскравыя, лубачныя. Як у нашых маляванках і вышыванках, дзе дакладна перададзены настрой і тэматыка жорсткага раманса. І не дзіва — адзін стыль, адна культура.

Самы ж распаўсюджаны і любімы сюжэт жорсткага раманса — падман дзяўчыны падступным спакуснікам. Падманутай нічога не застаецца, як звесці рахункі з жыццём: утапіцца, атруціцца, зарэзацца, легчы пад цягнік, або адпомсціць падманшчыку праз яго забойства ці забойства яго новай каханкі. Да прыкладу: «*...Любоў не картошка, а кроў не вада, //Любіў мяне мілы, а бросіў наўсегда. //Каб бросіў мяне ён адну, //А ён мне падбросіў дзіцятку малу. //Гэтую я дзіцятку сястрэ прыкажу, //Сваю я галоўку пад поезд палажу, //Поезд праедзе — я буду ляжаць, //А ты, ізменшчык, — з другою гулять*». Або другі выпадак: «*...Разгарэлася кроў у грудзі маладой, //Каця ножык у грудзі ванзіла: //— За ізмену тваю, што ты бросіл, падлец, //І за всё я цебе атамсціла*».

Але справа не заўсёды даходзіць да забойства. Часам усё ператвараецца ў фарс. Так, у рамансе «*Аднажды весенней парою...*» гісторыя распавядаецца ад імя аднаго спакусніка, які гуляў з жанчынай чатыры гады, а «*на пятый я ёй ізменіл*». Ён і застаўся б непакараным, калі б не застудзіў зуб: «*...От этой мучыцельнай болі //Всю ноч, как безумный, рыдал...*» Раніцай, не вытрываўшы болю, ён пабег да дантыста. А там: «*...скруціў мае рукі назад, //Четыре здоровые зуба, //Он выташчыл мне іх падрад...*» Наш герой зноў, «*...як безумный, рыдаў*», а «*жэншчына-врач хахатала*». Урачом аказалася тая самая жанчына, якую ён некалі кінуў. Напрыканцы яна яму кажа: «*Выходзь із майго кабінета, //Бері сваі зубы в карман, //Насі іх всегда пры жылеце //І помні пра подлы абман*». Заканчваецца раманс словамі: «*Цыліндр на сонцэ сіяет, //Дамой я іду без зубоў. //І как атамсціць, я не знаю //За эту Марусі любоў*».



*Вышыванка з в. Аброва Івацэвіцкага р-на.*

Героі жорсткага раманса маюць схільнасць да маралізатарства і павучання, любяць даваць парады: «*Асталась Олі две мінуты жыць, //Вот ана сказала: «Нельзя двух любіць!*»; «*Паслушайце падружкі, што буду гаварыць: //Любов'ю не займайцесь, любовь на смерць гразіт*»; «*Зачэм было крэпка ўлюбляцца? //Зачэм было крэпка любіць? //Любоў не ўмее смяяцца, //Любоў не ўмее шуціць. //Любоў усягда можа насмяяцца, //Любоў усягда можа пагубіць*».

***Такім чынам, нягледзячы на ўсю прастату, жорсткі раманс уражвае, пужае і смяшыць слухачоў, але гэтая яскравая праява кітчу ў беларускім фальклоры ніколі не пакідае абыякавым. Тое, што мы называем мяшчанскім або жорсткім рамансам, народныя выканаўцы называюць прыгожа, паэтычна і пяшчотна — «жалючымі, слязлівымі, разлучнымі, душэраздзірацельнымі, праўдзівымі, жаласлівымі, перажывацельнымі, даўнішнімі, мілымі, любезнымі, страдацельнымі, сардэчнымі, душэўнымі» песнямі. І з імі цяжка не пагадзіцца.***

# СУМЕСНЫ ПРАЕКТ ЧАСОПІСА «МАЛАДОСЦЬ» І ГАЗЕТЫ МУС БЕЛАРУСІ «НА СТРАЖЕ»

*На тэрыторыі абслугоўвання* ***ўчастковага інспектара ІСН Мінскага РУУС маёра Аляксандра Ігнатовіча*** *тры сельскія саветы: Сеніцкі, Самахвалавіцкі і Крупіцкі, чатыры школы, каледж харчовай прамысловасці, у якім дзесяць адсоткаў непаўналетніх першакурснікаў, пяць дзіцячых садкоў. Улетку на тэрыторыі Мачулішчанскага аддзялення міліцыі працуюць два летнія лагеры. Усю тэрыторыю абслугоўваюць чацвёра супрацоўнікаў ІСН.*

**— Аляксандр Аляксандравіч, у чым адметнасць вашай працы?**

— Складанасць работы на ўчастках залежыць ад блізкасці да горада. А гэта аграгарадок Сеніца, пасёлак Юбілейны. Тут шмат новабудоўляў, людзі атрымліваюць участкі, перавозяць сем'і. Адна справа, калі падлетак расце на вачах і можна імгненна адрэагаваць на змены ў яго паводзінах, іншая справа — навасельцы, з імі цяжэй працаваць. Некаторыя падлеткі ўжо ў 14—16 гадоў маюць праблемы з законам. На іх звяртаем увагу ў першую чаргу.

**— Якія злачынствы часцей за ўсё здзяйсняюць падлеткі?**

— Разнастайныя катэгорыі крадзяжоў, хуліганскія дзеянні. Асноўныя — адміністрацыйныя правапарушэнні, а гэта пераважна распіццё спіртных напояў. На тэрыторыі нашых рынкаў — аўтарынак «Малінаўка», рынак «Экспабел» — выяўлялі факты бадзяжніцтва і жабрацтва. Быў такі выпадак, калі трэцякласнік з пасёлка на спадарожным транспарце дабраўся да трасы, а потым — у Дзяржынск. І толькі трэці кіроўца адвёз малога ў аддзел міліцыі ў Дзяржынску.

**— Як бацькі ставяцца да вашага кантролю?**

— Успрымаюць па-рознаму, некаторыя — у штыкі. Пачынаецца з выяўлення адміністрацыйнага правапарушэння — распівання спіртных напояў або дробнага хуліганства. Тады ўзнікаюць канфліктныя сітуацыі: «Маё дзіця не такое. Гэтага не можа быць» і г. д. А калі пасля агляду бачаць лічбу ў праміле, то кажуць: «Як жа так? Гэта першы раз. Нашто адразу ставіць на ўлік? Мой дзіцёнак не п'яніца». Ёсць і такія, што лаюцца, калі прыходзім да іх: «Што вы ходзіце і кантралюеце! Ён аднойчы спатыкнуўся». Большасць, канечне, дзякуе.

**— Шмат праблем з абавязанымі асобамі?** *(**Ад рэд.**: такое найменне маюць бацькі, абавязаныя аплачваць выдаткі на ўтрыманне іх дзяцей на дзяржаўным забеспячэнні).*

— На ўліку стаяць чацвёра абавязаных. Усіх працаўладкавалі. Пасля лячэння ў нарколага большасць з іх прымаюць добраахвотнае рашэнне закадзіравацца. Аднак ёсць і такія, якія заяўляюць: «Адабралі дзяцей, ну і добра. Мне і без іх няблага». Іх накіроўваем у лячэбна-працоўны прафілакторый, сочым за далейшым лёсам. Сэрца баліць, калі прыязджаеш і бачыш, як выбягаюць брудныя дзеткі, а бацькам на ўсё гэта напляваць. Бывае, да некаторых прыязджаеш з рашэннем аб адабранні — яны хапаюць дзяцей і нажы да сябе прыстаўляюць, каб не забіралі. Даводзіцца размаўляць, згладжваць сітуацыю, каб упэўніцца, што яны з сабой ці з дзецьмі нічога не зробяць пасля нашага ад'езду. Большасць такіх выпадкаў паказушныя, хоць у практыцы быў адзін, калі жанчына паспрабавала пакончыць з сабой, але добра, што побач апынуліся сваякі. Сітуацыю можна было выправіць: чалавек закадзіраваўся, працаўладкаваўся. Мы ёй вярнулі дзяцей, і на працягу ўжо больш двух гадоў няма ніякіх праблем. Сустракаем у вёсцы, вітаемся. Прывяла дом у парадак, дзіця апранутае, накормленае. Зараз здзіўляецца, навошта раней піла. Ёсць сем'і, дзе вырашылі толькі пасля адабрання дзяцей закадзіравацца. Выправіліся, працуюць. Няма запазычанасці перад дзяржавай — дзяцей вярнулі ў сям'ю. Але кантроль усё ж такі застаецца.

***Гутарыў намеснік галоўнага рэдактара газеты «На страже» Аляксандр СЯРГЕЕЎ.***

# КОЛЬКІ КАШТУЕ ЦУД?



***З Эдуардам ЛІНКЕВІЧАМ, урачом-анколагам Мінскага гарадскога клінічнага анкалагічнага дыспансера, мы пра анкалагічныя захворванні не размаўлялі. Пра хваробы мы не гаварылі наогул: хапае іх і без размоў. Мы гаварылі пра здароўе. І — дзіўная рэч — нам удалося абмеркаваць пытанні аховы здароўя не толькі чалавека, але і грамадства, у якім ён жыве. Кажуць, нельга зрабіць шчаслівым чалавецтва, пакінуўшы няшчасным хаця б аднаго яго прадстаўніка. Але трэба добра ведаць, у чым яно, шчасце чалавека. Мне здаецца, гаворка наша была якраз пра гэта. А пачалі мы з парадаксальнага...***

— Там, дзе я працую, на ўваходзе вялікімі літарамі напісана: **«НЕ КУРЫЦЬ».** Я прыходжу на працу і штодня бачу гэту шыльду. А побач кожны раз бачу людзей, якія... паляць. І выглядаюць яны так, быццам выключна гэтаму занятку прысвяцілі ўсё сваё жыццё. Людзі, што ні для краіны сваёй, ні для горада нічога не зрабілі, палец аб палец, як кажуць, не ўдарылі. І вось яны трапілі у шпіталь. І карыстаюцца тымі ж самымі правамі, што і астатнія пацыенты — тыя, напрыклад, хто вёў здаровы лад жыцця, упершыню трапіў у шпіталь у 75-гадовым узросце. Я, канечне, буду аказваць медыцынскую дапамогу ўсім. Але няхай бы гэтая дапамога была як пакупка ў гіпермаркеце. Колькі ты зарабіў, на столькі і купляеш. Бо адзін набывае лыжы і гантэлі для гімнастыкі, а другі — піва і цыгарэты. Мая думка простая. Колькі жыву і назіраю за светам, прыходжу да высновы, што ў ідэале медыцына ўвогуле павінна быць страхавой. Яна дысцыплінуе ў першую чаргу самога пацыента і даводзіць да думкі, што лепш укладаць у здароўе, чым у хваробу, і тым больш у тое, каб страчанае здароўе вярнуць назад. Бо калі палічыць грошы, то пачак цыгарэт каштуе ад даляра і вышэй, за месяц чалавек аддае на іх сама меней 30 даляраў. А на лекі гэткую ж суму аддаць — у большасці рука не падымецца! Атрымліваецца, што губіць здароўе грошай не шкада, а вяртаць яго — шкада. Калі ж ты п’еш і курыш, ты не атрымаеш той дапамогі, якую мог бы атрымаць. Тое ж самае і з кампенсацыяй грошай пасля аварыі. Калі ты ехаў у аўтамабілі непрышпілены, твая кампенсацыя будзе меншай.

**— Добра, што вы загаварылі пра аўтамабілі. Гэта якраз да майго наступнага пытання. Здаецца, анкалагічныя захворванні не займаюць першае месца: смяротнасць ад іх стаіць ці не трэцяй па ліку пасля сардэчнай паталогіі і аўтамабільных аварый. Дык скажыце, чаму пры слове «рак» нават здаровага перасмыкае, а ўзровень халестэрыну і непрышпілены рэмень бяспекі практычна нікога не турбуюць?**

— Так сфарміравалася грамадская думка. Да таго ж, пра медыцынскія дасягненні ў гэтай галіне не надта часта згадваюць, хаця яны ёсць! Ды і выгляд чалавека пасля аперацыі па прычыне анкалагічнага захворвання звычайна выклікае жах. Такія аперацыі вяртаюць да жыцця, але робяць інвалідамі, кале-

чаць. На гэтым фоне чалавек пасля інфаркта, канечне, выглядае больш здаровым. Толькі бляску ў вачах няма і крок дробны. Але няхай людзі ведаюць, што і ў кардыялогіі, і ў анкалогіі апошнім часам адбываюцца вялікія зрухі. Канечне, нам хацелася б большага. Але калі зірнуць на дзесяць гадоў назад, то разумееш: зроблена нямала. Калі я быў маладым доктарам і нам расказвалі пра тое, што можа быць у хуткім часе, то... Рэчаіснасць перасягнула тое, што чакалася! У медыцыне адбылося тое ж, што ў паўсядзённым жыцці з мабільнай сувяззю. Ні ў адной казцы, самай чароўнай, не гаварылася пра такія цудоўныя магчымасці.

**— Згодна з вамі. Днямі, чытаючы «Чорны замак Альшанскі», так і хацелася параіць героям, замкнёным у сутарэннях, дастаць мабільны і патэлефанаваць...**

— Вось-вось. Мы прывыклі карыстацца цудам, і для нас ён цудам быць перастаў. Мы на яго ўжо не звяртаем увагі. Чаму сродкі масавай інфармацыі амаль не пішуць пра тое, якія аперацыі па выратаванні людзей адбыліся ў нашым горадзе, колькі дзяцей нарадзілася і як? Вось дзе цуд! А пішуць больш пра тое, дзе што выбухнула і пра курс — уніз ён ці не ўніз. Але ж не гэта ў жыцці галоўнае. На зямлі жывуць людзі, яны кахаюць адзін аднаго, у іх нараджаюцца дзеці...

**— У «Гродзенскай праўдзе» друкуецца, у якім раддоме якое дзіцятка нарадзілася, з якой вагой і якога росту. Я, убачыўшы гэта, парадавалася, што людзі, жывуць не толькі навінамі эканомікі і крымінальнымі зводкамі, а жыццём — у лепшым, поўным сэнсе гэтага слова.**

— Гэта сапраўды прыемна. Працягваючы думку пра дасягненні сучаснай медыцыны, хочацца дадаць і іншае. З сённяшняй медыцынай паняцці дабра і зла ўжо неяк размываюцца. У нас ёсць такая практыка. Калі чалавек рыхтуецца да хіміятэрапеўтычнага лячэння, у выніку якога ён страціць сваю фертыльную функцыю, гэта значыць — пасля не зможа мець дзяцей, то гэты чалавек, як мужчына, так і жанчына, можа здаць свой рэпрадукцыйны матэрыял у спецыяльны банк для захавання. Зусім нядаўна пісалі, што хлопец, які так зрабіў, доўга лячыўся, пасля памёр, а яго бацькі выкарысталі гэты генетычны матэрыял. Ад розных сурагатных маці ў іх нарадзілася чацвёра ўнукаў. Як да гэтага ставіцца? Добра гэта ці не? Хто будзе гадаваць гэтых дзяцей? Зусім нядаўна я сутыкнуўся вось яшчэ з якім пытаннем. Маладой маці на раннім этапе цяжарнасці абвясцілі, што яе дзіця будзе вельмі нездаровае, будзе мець сардэчную паталогію, і прапанавалі цяжарнасць перарваць. Жанчына доўга вагалася. У выніку не адважылася адмовіцца ад цяжарнасці. Немаўля не пражыло і пяці гадзін, як яго ўзялі на складаную працяглую аперацыю, але яно ўсё адно памерла пасля яе заканчэння, у тыя ж суткі, калі і нарадзілася. Урачам вядома, што ў лепшым выпадку пасля аперацыі пры такім дыягназе выжывае трыццаць адсоткаў. А ў пяцігадовым узросце абавязкова спатрэбіцца другая аперацыя, і зноў выжыве толькі трэцяя частка дзетак. У падлеткавым узросце — трэцяя аперацыя, і зноў толькі трыццаць адсоткаў гарантыі. І гэта не паўнацэннае жыццё, гэта цяжкая інваліднасць. І ўсё жыццё гэтая маці будзе падпарадкавана неабходнасці абслугоўваць сваё дзіця. Асабістага жыцця ў яе ўжо не будзе. Мужчына такую ахвяру з боку жанчыны і такі цяжар звычайна не вытрымлівае. Ды і любы чалавек. Праходзіць тэрмін — і людзі стамляюцца дапамагаць. Не стамляецца дапамагаць толькі Маці Божая. Таму я задаю пытанне самому сабе — і не знаходжу адказу: перарваць такую цяжарнасць ці не?

**— Не перарваць цяжарнасць — значыць не загубіць душу. Бог даў — Бог забраў, спрадвечная мудрасць. Закон жыцця тут выкананы, а чалавечы закон не парушаны. Ці не гэта адказ? Ці не простае ўсё тое, што здаецца складаным?**

— З аднаго толькі боку. Бо, па-першае, колькі людзей, столькі і суддзяў. Чалавек рэлігійны і не ад медыцыны, канечне, скажа: Бог даў, Бог забраў. Але, па-другое, жыццё — штука жорсткая. Што б ты ні рабіў, заўсёды будзе нейкае дзеянне супраць. Як у фізіцы: ёсць дзеянне — ёсць супрацьдзеянне, на кожную акцыю ёсць рэакцыя. Тая аперацыя каштавала вялікіх сродкаў. І сродкі пайшлі на выратаванне дзіцяці, якое ніколі не паправіцца, а верагоднасць таго, што яно памрэ, велізарная. У мяне няма адказу на гэтае пытанне, таму што я ўрач і мяне вучылі: калі я апынуся на полі бою і параненых будзе зашмат, я ў першую чаргу павінен ратаваць тых, каму

можна дапамагчы. Таму што сродкі і фізічныя сілы ўрача абмежаваныя. Яны абмежаваныя для канкрэтнай медыцынскай установы. І іх можна выкарыстаць па-рознаму — ці дапамагчы ўсім, ці толькі аднаму. Гэта як прыклад з маці, якая можа цэлы месяц варыць дзецям вермішэль, і яны цэлы месяц будуць накормленыя. А можна за тыдзень спусціць грошы на марцыпаны і іншую смакату, і дзеці тыдзень будуць ласавацца, а потым сядзець на хлебе ды вадзе. Так і ў медыцыне, і ў іншых сферах жыцця. Акрамя вельмі важных этычных момантаў, ёсць фінансавыя. Лячыць аднаго чалавека — гэта адна задача. Лячыць горад або краіну — тут патрэбныя зусім іншыя падыходы.

**— Але ж бываюць цуды...**

— Мы таксама верым у цуды. Таму і ратуем чалавека. Дапамагаем цуду здзейсніцца. Але і сам чалавек павінен цягнуцца да яго.

**— Я вось думаю, што наспеў час чалавеку абмяжоўваць самога сябе. Бо ежы, згадзіцеся, — колькі хочаш і якой хочаш, адзення — таксама, кніг — чытаць-не перачытаць, машын — больш, чым кіроўцаў... Калі не пачнём самі, нас будуць вымушаць гэта рабіць эканамічныя крызісы, дэфолты і іншыя падзеі такога кшталту. Што занадта, тое не на здароўе, так, доктар?**

— Колькі б ні было ў чалавека матэрыяльных скарбаў, гэта не дадае яму шчасця. Як бы банальна ні гучала, даражэй за ўсё — скарбы духоўныя. Але доўг чалавека, гаспадара — зарабіць для сваёй сям'і і матэрыяльныя даброты. Ежа, вопратка... Калі параўнаць з савецкім часам, то тое, што мы маем сёння, гэта, я згодзен, раскоша. З другога ж боку, калі зірнуць у бок нашых суседзяў...

**— Але ж нашых суседзяў апошнім часам калоцяць землятрусы, топяць цунамі, душаць вулканы. Мне здаецца, што калі нас нічога не загартоўвае, мы гінем ад дробязей. І недарэмна ж кажуць: тое, што нас не забівае, робіць нас мацнейшымі?**

— Я думаю, тое, што нас не забівае, хутчэй робіць нас інвалідамі. Гэта так, паверце. Калі штуршок невялікі, то чалавек азірнецца, калі больш-менш адчувальны, то ён або ўцячэ, або дасць здачы. А калі гэта тое, што завецца шок, то чалавек мацнейшым не робіцца. Я ўрач, я бачыў, да чаго гэта прыводзіць.

**— А, на вашу думку, навошта чалавек жыве?**

— На гэта пытанне я магу адказаць словамі амерыканскага прэзідэнта Джона Кенэдзі. Ён некалі сказаў: «Не пытайся, што табе дала Амерыка, спытайся, што ты зрабіў для Амерыкі». Кожны чалавек, калі ён прыйшоў у гэты свет, павінен працаваць. У першую чаргу — для сваёй сям'і. А дзеля гэтага ён абавязаны быць здаровым і мець адукацыю, каб выгадаваць дзяцей, выхаваць іх. Гэта першая задача, маленькая. А па-другое, у кожнага чалавека ёсць Радзіма. Як Скарына казаў, пчолы бароняць вуллі свае, рыбы ведаюць віры свае, а чалавек мае ласку да зямлі, якую ён павінен шанаваць, лекар ён ці кіраўнік, жыхар вялікага горада ці маленькай вёсачкі. І ўсё гэта не для таго, каб паказаць людзям: глядзіце, што я зрабіў. А каб людзі сказалі: глядзіце, што ён зрабіў! Жыццё па такім прынцыпе не толькі пакіне след, але і добра адаб'ецца на здароўі. І яшчэ вось што... Мы не лепшыя за нашых суседзяў. Але мы і не горшыя. Мы шмат у чым першыя, толькі вельмі сціплыя. Але ж нам ёсць, чым ганарыцца!

**— Што вы як доктар параіце маладым чытачам «Маладосці»?**

— Мой вопыт безапеляцыйна кажа: пакуль чалавеку баліць, ён самы ўдзячны пацыент, ён доктара слухае з захапленнем. А як трохі палепшае, вяртаецца да сваіх ранейшых звычак. Я вось не перастаю паўтараць сваім пацыентам: «Кідайце курыць». За дваццаць гадоў працы кінулі тры чалавекі. А ў дзень я кажу гэта тузіну людзей, калі не болей.

**— Але ж гэтыя трое кінулі!**

— Так, і я таксама лічу, што гэта надзвычай высокі вынік. Не кожны доктар можа гэтым пахваліцца. Чалавек — раб звычак. Але звычкі — гэта як адзенне: на іх існуе мода і можна выбіраць тыя, што табе пасуюць. Цяпер модна быць здаровым, трэба толькі даведацца пра гэта. Напрыклад, са старонак часопіса «Маладосць»!

*Гутарыла Святлана ВОЦІНАВА*

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## НЯСВІЖСКІ РАЁН

### г. Нясвіж

**Вул. Ленінская, 96**

**Нясвіжскі гісторыка-краязнаўчы музей**
Створаны 30.10.1989. Адкрыты ў 1995 г. Плошча экспазіцыі 256 м$^2$, каля 4,2 тыс. адзінак асноўнага фонду, 7 залаў, з іх 2 выставачныя (2000 г.). Сярод экспанатаў — біблії і малітоўнікі XIX ст., творы дзеячаў культуры, якія нарадзіліся ў Нясвіжскім р-не.

**Вул. Міцкевіча, 5**
У 1972 г. на будынку Нясвіжскай раённай друкарні імя Сымона Буднага ўстаноўлена мемарыяльная дошка з барэльефам і надпісам: «У 1562 г. у Нясвіжы выдатным дзеячам культуры, асветнікам і гуманістам Сымонам Будным былі выдадзены першыя на тэрыторыі Беларусі друкаваныя беларускія кнігі». У 1982 г. непадалёк ад друкарні ўсталяваны помнік Сымону Буднаму (скульптар С. Гарбунова).

**Вул. Савецкая, 2**

**Нясвіжская друкарня Сымона Буднага.** Будынак не існуе. Знаходзіўся на скрыжаванні вуліц Савецкай і Ленінскай.

Існавала ў XVI і XVIII ст. Заснавана ў XVI ст. Кавячынскім М. і Крышкоўскім Л. Ідэйным кіраўніком у першыя гады яе існавання быў Будны С. Першая на тэрыторыі Беларусі друкарня, якая карысталася кірыліцай. Друкар кірылічных выданняў невядомы. У 1562 г. выдадзены «Катэхізіс» Буднага — першая на Беларусі кніга на беларускай мове, а таксама яго твор «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам». Друкавала творы на польскай і лацінскай мовах (друкар Ланчыцкі Д.); усяго ў 1563—1571 гг. надрукавала 11 выданняў. Спыніла дзейнасць паводле загаду М. К. Радзівіла Сіроткі. Маёмасць друкарні ў 1572 г. купіў Я. Кішка, які ў 1574 г. заснаваў Лоскую друкарню.

У XVIII ст. паводле прывілея Аўгуста III ад 27.3.1750 г. Міхал Казімір Рыбанька Радзівіл аднавіў дзейнасць друкарні. У 1751 г. падаравана мясцоваму калегіуму езуітаў. Гравёрам быў Ляйбовіч Г. У ёй надрукавана каля 70 твораў на польскай і лацінскай мовах.

**Бібліятэка Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў**
Радзівілам польскім каралём і вялікім князем ВКЛ былі падараваны прывілеі, якія давалі права на захоўванне і размяшчэнне дзяржаўных і прыватных архіваў у Нясвіжы. У XVI ст. архіўныя матэрыялы былі прадстаўлены Радзівіламі трох сваяцкіх галін. Архіўныя і рукапісныя матэрыялы былі перададзены часткова ў Нясвіж, часткова ў Слуцк і іншыя радзівілаўскія маёнткі. З канца XVI да пачатку XVIII ст. большая частка архіўных дакументаў была сканцэнтравана ў нясвіжскім архіве. Вядомы найбольш ранні рэестр Нясвіжскай бібліятэкі



* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г. № 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7 за 2011 г.

1651 г., складзены членам нясвіжскага магістрату, саветнікам Янам (Іаанам) Ганевічам. Яму належыць таксама апісанне нясвіжскага архіва. У той час бібліятэка, якая належала Аляксандру Людвіку Радзівілу, налічвала больш за 700 тамоў, у тым ліку інкунабулаў. Да сярэдзіны XVII ст. бібліятэка налічвала больш 14 тыс. тамоў, да канца XVIII ст. — 24 тыс. на 18 мовах. У 1772 г. рускія войскі вывезлі кніжную калекцыю ў Санкт-Пецярбург. У сярэдзіне XIX ст. кнігі былі ўведзены ў фонд Акадэмічнай бібліятэкі. У 1880 г. Антоніем Радзівілам быў створаны новы кніжны збор. У яго ўвайшлі бібліятэкі бернардзінцаў і бенедыктынцаў, якія распаліся. У пачатку 1941 г. Нясвіжская бібліятэка была вывезена ў Мінск і па акту перададзена Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук Беларусі. Пасля вайны большая частка кніг трапіла ў кніжныя зборы Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і Урадавай бібліятэкі. Гісторыю фарміравання Нясвіжскай бібліятэкі можна прасачыць па імянных экслібрысах Радзівілаў Нясвіжскай ардынацыі.

**Радзівілаўскі (Кёнігсбергскі) летапіс**

Помнік старажытнарускага летапісання, летапісны звод пачатку XIII ст., зместам блізкі да Лаўрэнцьеўскага летапісу. Складаецца з «Аповесці мінулых гадоў» і летапісу за 1112—1206 гг., прысвечанага пераважна гісторыі Паўночна-Усходняй Русі; у канцы змешчана «Казанне Данііла ігумена...». Вядомы адзіны ілюстраваны спіс канца XV ст., зроблены, напэўна, у Смаленску. У XVI — першай палове XVII ст. рукапіс зберагаўся ў Беларусі. Апошні ўладальнік Радзівілаўскага летапісу Багуслаў Радзівіл завяшчаў яго Кёнігсбергскай бібліятэцы, куды рукапіс трапіў у 1671 г. У 1758 г. вывезены ў Расію. Рукапіс зберагаецца ў бібліятэцы Расійскай АН у Санкт-Пецярбургу.

**Нясвіжская настаўніцкая семінарыя**

Навучальная ўстанова, якая рыхтавала настаўнікаў для пачатковых школ. Утворана ў 1875 г. у Нясвіжы замест закрытага дамініканскага кляштара па ініцыятыве міністра асветы Расіі графа Д. Талстога і папячыцеля Віленскай навучальнай акругі М. Сергіеўскага. Пры семінарыі дзейнічала ўзорнае пачатковае вучылішча. У 1914 г. фундаментальная бібліятэка семінарыі мела 1850 найменняў кніг (3630 тамоў), вучнёўская бібліятэка — адпаведна 980 і 1710. Фінансавалася з дзяржаўнага бюджэту. Грашовую дапамогу навучэнцам аказвалі мясцовыя сельскія грамады. У час нямецкай акупацыі ў 1918 г. фінансавалася акупацыйнымі ўладамі і гарадскім самакіраваннем. Утворана беларуская бібліятэка-чытальня. У снежні 1919 г. гімназія закрыта з-за адмовы фінансавання польскімі акупацыйнымі ўладамі. У семінарыі вучыліся **Колас Якуб**, **Чорны Кузьма** і іншыя пісьменнікі.

**Нясвіжскі езуіцкі калегіум**

Узнік у 1586 г. У ім выкладалі пісьменнікі **Аляндрус Ян** (біёграф князя Мікалая Крыштафа Радзівіла), **Сміглецкі Марцін**, пісьменнік-палеміст, аўтар кнігі «Аб спрадвечнай боскасці Ісуса Хрыста» (1595), **Сарбеўскі Мацей** (1595—1640), паэт, філосаф, тэолаг, які жыў тут у 1625—1626 гг., **Лаўскмін Зыгмунд** (1595—1670), выкладчык паэтыкі, аўтар папулярнага падручніка, напісанага ў Нясвіжы, «Практычнае красамоўства, або Правілы рытарычнага мастацтва, якія трэба ведаць для складання прамовы» з прысвячэннем князю Мікалаю Радзівілу, сыну М. Сіроткі. Сярод навучэнцаў калегіума былі вядомыя вучоныя, літаратары: **Каяловіч Альберт** (1609—1677), гісторык, філосаф, тэолаг, літаратар; **Каяловіч Войцех** (1609—6.10.1677), пісьменнік, палеміст, гісторык, геральдыст, займаўся генеалогіяй роду Радзівілаў, аўтар «Летапісу Радзівілаў» (Вільня, 1656); **Князьнін Францішак** (1750—1807), паэт, драматург, перакладчык, адзін з пачынальнікаў польскага сентыменталізму, які атрымаў тут у 1770 г. ступень магістра вольных навук, а затым пераехаў на выкладчыцкую работу ў Варшаву. У 1604 г. студэнты Нясвіжскага калегіума, браты **Скарульскія — Ян, Захарый і Мікалай**, стварылі панегірык Радзівілу, які выйшаў у выглядзе плаката з гравюрамі Макоўскага і тэкстамі.

У сярэдзіне XVII ст. у Нясвіжы жылі вядомыя езуіты **Каяловіч Казімір**, аўтар дзвюх частак перакладу «Рыторыкі», **Розенвальд Андрэй**, аўтар лірычных паэм на лацінскай мове, **Бенедыкт дэ Сакса Іспанец**, аўтар асноваў права, пачаткаў польскай граматыкі, **Кужанецкі М.**, які зрабіў

тут вершаваны пераклад Бібліі, **Ляшчыцкі Мікалай**, прафесар Віленскай езуіцкай акадэміі, рэлігійны пісьменнік, які чытаў у Нясвіжы курс кананічнага права.

Пры езуіцкім калегіуме з канца XVI ст. дзейнічаў тэатр, у якім сіламі вучняў ставіліся драмы на біблейскія, антычныя тэмы, а таксама да святаў і да канца навучальнага года. У пач. XX ст., згодна з апісаннем У. Розанава, у Імператарскай публічнай бібліятэцы (Пецярбург) захоўваліся рукапісы тэкстаў дзвюх драм Нясвіжскага тэатра — «Вобраз Хрыста, распятага ў мучаніку Хрыстафоры» (1696) і «Млечны шлях Радзівілаўскага арла ў нованароджаным Мікалаі» (твор панегірычнага характару; год невядомы), а ў бібліятэцы Браунсбергскага ліцэя знаходзілася праграма п'есы «Вакх, які ўпіўся крывёю і забойствам» (1698). Пра рэпертуар нясвіжскага школьнага тэатра ў XVIII ст. сведчаць праграмы драм, што захаваліся ў бібліятэцы Вільнюскага ўніверсітэта: «Дух бураў...» (1730), «Відовішча свету» (1723), «Залатая свабода па-за вольнай уладай царства мудрых» (1732), «Шчаслівыя выгнаннікі Эдэзій і Фрументый» (1748).

* * *

З 2008 г. пры Нясвіжскай раённай бібліятэцы дзейнічае літаратурнае аб'яднанне «**Валошкі**».

* * *

**Багдановіч Адам,** этнограф, фальклярыст, бацька паэта Багдановіча Максіма, ураджэнец г. п. *Халапенічы* Крупскага р-на, у 1882 г. скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю.

**Барадзін Віталь,** паэт, ураджэнец Беласточчыны, працаваў літсупрацоўнікам раённай газеты «Чырвоны сцяг», інструктарам райвыканкама, намеснікам старшыні гарвыканкама ў Нясвіжы. Друкаваўся ў рэспубліканскім, абласным і замежным друку. Памёр у 1998 г. У 1999 г. у Нясвіжы выйшаў зборнік яго вершаў «Спадчына».

**Будны Беняш,** пісьменнік, перакладчык і каментатар антычных твораў, магчыма, ураджэнец в. *Лоск* Валожынскага р-на, з 1594 г. служыў эканомам пры двары М. Радзівіла Сіроткі. Рукапісы Б. Буднага захоўваліся ў нясвіжскім архіве, сярод іх — 4 лісты да Крыштофа Радзівіла за 1608—1620 гг.

**Будны Сымон**, дзеяч беларускай культуры, выдавец, перакладчык, філосаф, асветнік, ураджэнец в. Буды цяпер Падляскага ваяводства (Польшча). Адзін з ініцыятараў заснавання Нясвіжскай друкарні, дзе выдаў на беларускай мове «Катэхізіс» (1562), «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» і іншыя творы. У 1564 г. разам з Л. Крышкоўскім пераклаў на польскую мову і выдаў у Нясвіжы «Гутаркі святога Юсціна, філосафа і пакутніка, з Трыфанам іўдзеем». У 1982 г. непадалёку ад друкарні ўстаноўлены ***помнік Сымону Буднаму*** (скульптар С. Гарбунова, архітэктар Ю. Казакоў).

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***